

Гэта было ў Асіповічах пад канец чэрвеня на ўрачыстасці, прысвечанай расфарміраванню 5-й Корсунскай цяжкай танкавай дывізіі. З баявым сцягам развітваецца лейтэнант Алег Звездзін.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

8 (90)

Жнівень.

1960.

Год выдання VIII.

У НУМАРЫ:



Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

На вокладцы малюнак Г. Скамарохава.


Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Карла Маркса, д. 40. Тэлефон 93-8-54.

Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 7.400 экз. Цана 4 руб.

АТ 01442 Здадзена ў набор 1.VII.60. Падпісана да друку 2.VIII.60 г. Зак. 512.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 79.


**Да Тыдня малдаўскай літаратуры ў Беларусі**


Валянцін **РОШКА**


# ВЕЧНА МАЛАДЫМ



Цудоўна жыць!..
Няхай шалее вецер,—
Мы ў свята крэслы ссунем да стала!..
Сябры мае,
Не слухайце, не верце,
Што старасць вас адольваць пачала.

Мы жыць імкнемся
Горача і шчасна —
У клопатах, у працы, ў барацьбе.
І састарэе
Толькі той заўчасна,
Хто ўсё жыццё шкадуе сам сябе.

А той, хто стаў
На вахту ля мартэна,
Хто рассякае чорны пласт руды,
Хто рэжа сталь,
Хто ўзводзіць гмахаў сцены,—
Глядзіце,
Ён хіба не малады?

У хлебаробаў —
Шорсткія далоні...
Ды чуеце:
І гэтаю вясной
Іх маладосць зноў абуджае гоні,
Ажыўшы з маладою збажыной.

А час ляціць!
Упарта вецер вее.

Ды сонца зноў зганяе снег і лёд.
І не старэем мы,
Хаця сівеем,—
А багацеем розумам штогод!

Пераклад А. ВОЛЬСКАГА.

Лівіу **ДЗЯЛЯНУ**

## У КОЖНАЙ СТАНЦЫІ



У кожнай станцыі,
На ўсіх шляхах планеты
Сваё імя,
І толькі ў аднаго
Вакзала ціхага твайго, майго —
Імя няма
Ніякага дагэтуль.

Вакзалам шчасця мы завём яго,
Бо нашы думы, светлыя імкненні,
Нібы экспрэсы ў туманах вясенніх
Прагрукатаўшы, яваю ці ў сне,

На ўсіх парах
Любой парою года
Спяшаюцца, спяшаюцца заўсёды
На той вакзал, з заранкамі ў акне.

Праз буры, праз гады
Лятуць туды,
Дзе дзікі хмель на гонкі дах
пракраўся.
І ні крушэнняў, ні бяды
Ніколі не было на гэтай трасе.

Гэй, стрэлачнік!
Трымаем шлях да зор.
Для нашых мар — зялёны светафор!

Пераклад Р. БАРАДУЛІНА.

Анатоль **ГУЖЭЛЬ**

## ДОЙНА



Я стаю у парку на трыбуне,
Свет увесь сягоння на віду.
Вунь з Суматры лёгкія скакуні
У натоўпе з бубнамі ідуць.

З лукам хтосьці ў шапцы з пер'яў бурых,
Нібы з кнігі Купера герой.
Праўнукі паўстанцаў чарнаскурых
Устаюць на момант прада мной.

Песню незламанага Алжыра
Чую я... Вось цокат кастан'ет.
Ветрам прэрый сцэну закружыла,
Ціха заспяваў сівы Тыбет.

Навакол высокай балюстрады,
Дзе ў каменны бераг хвалі б'юць,
Дзе экватар гутарыць з Эладай,—
Чую дойну родную сваю.

Поўдзень свеціць сонцам з неба ярка.
І хутчэй пульсуе ў жылах кроў.
Заспявала дойну малдаванка
Пра каханне, пра маіх сяброў.

Я ўсім сэрцам гэтай песні рады.
Пасланцы праходзяць з розных месц.
Дуб шуміць і шэпчуцца левады,
Грае сіняй хваляй вольны Днестр...

Шырыцца напеў. Яго над светам
Ніякою сілай не спыніць.
І, здаецца, чуе ўся планета,
Як мой лес аргееўскі шуміць.

Пераклад П. ПРЫХОДЗЬКІ.

Петру **ЗАДНІПРУ**

## ЛІСТ У ІНСТЫТУТ



Як мне знайсці такое слова,—
Не зналі граматы мы тут,—
Каб скласці ліст свой адмысловы
Табе, таварыш інстытут.

Прымі маё ты блаславенне.
За сына шлю яго з сяла.
І к нам прыйшло цяпер збавенне,
Як праўда нашая ўзяла.

Сыходзяць з кніжак і плакатаў
На светлай яве дзень за днём...
Шчаслівай доляй мы багаты,
Вялікай праўдаю жывём.

Адна бяда мяне трывожыць,
За мной ступае след у след.
Аб ёй пісаць нявäрта, можа,
Каб ведаў цэлы белы свет.

Апошні раз на Прыднястроўе —
Ад сына ліст прыйшоў зімой...
Дзе ён і як яго здароўе?
Што робіць там саколік мой?

Дадому вернешся з работы,
Не мілы ў хаце белы свет,
А са сцяны глядзіць употай
Яго пабольшаны партрэт.

Святло суседзі затушылі,
А ты ўсё тупаеш, маўчыш.
Надломіць стомленасцю сілы,
А ляжаш спаць і зноў не спіш.

Сыны — як вырастуць плячыма —
О, каб не спраўдзіў мой прысуд!
Ім не да нас тады, магчыма
(Прабач, таварыш інстытут).

Я не даю табе даведку,
Бо інстытут на тое ж ты!
Сам навучы іх хоць бы зрэдку
І мацяркам пісаць лісты!

Пераклад У. ПАЎЛАВА.

Аурэліу **БУСУЁК**

# ОЙ, ЛЮБІЎ ДЗЯЎЧО ХЛАПЧЫНА



Напісаў я неяк шчыра
Ідылічны звонкі верш:
«Ой, любіў дзяўчо хлапчына» —
Думаў: нельга скласці лепш.

Ну, і раз такая справа —
У часопіс верш прынёс.
Кансультант сказаў: — Цікава!
Зараз вырашым твой лёс.

— Го, ды ты, брат, малайчына! —
Аб'явіў ён свой прысуд.—
Толькі вось, бадай, «хлапчына»
Не зусім дарэчы тут.

Крытык нават пакрывіўся,
— Сам падумай, як тут быць:
Каб хлапчына ды ўлюбіўся?
Малады яшчэ любіць!..

Жэніш ты яго заўчасна —
Хай пабегае, браток.
«Што ж,— кіўнуў я,— значыць, ясна:
Трэба выправіць радок».

І з улікам розных правіл
Дома верш перарабіў.
І радок вось так паправіў:
«Хлопец дзеўчыну любіў».

Кансультант быў рад удачы:
— «Хлопец дзеўчыну любіў!»
Верш гучыць зусім інача!
Крылле, сілу верш набыў!

Толькі вось што справу губіць:
Не паказана зусім —
Ці яна таксама любіць?
Ці заручана з другім?

«Мабыць, крытык кажа праўду,
Трэба мне прыняць параду»...

Верш я зноў перарабіў —
Выйшла хораша і міла:
«Хлопец дзеўчыну любіў,
І яна яго любіла...»

Кансультант руку мне трос,
Ён расчуліўся да слёз
(Я таксама ледзь не ўсхліпнуў):
— Што за талент! Дар выключны!
Верш цудоўны, звонкі, гучны.
Толькі... толькі... бесканфліктны...
Дзе канфлікт? На жаль, няма!
Праца зроблена дарма...

Сапраўды: канфліктнасць дзе?
Як па маслу ўсё ідзе!

І я зноў перарабіў —
Каб канфлікт увесці толькі:
«Хлопец дзеўчыну любіў,
А яна яго — ніколькі...»

Аж забегаў кансультант:
— Ганарыся, брат, па праву!
Бездакорны варыянт!
Проста зроблены на славу!

Толькі... знаеш, паважаны,
Ты у вершы зблытаў жанры:
Ні ідылія цяпер,
Ні трагедыя ў цябе...
Ці не знойдзеш, дарагі,
Які-небудзь верш другі,
Каб — *бадзёрасць цераз край?*
Я нагою ледзь не топнуў,
Я ад злосці ледзь не лопнуў,
Ды стрымаўся: «Ну, чакай!..»

Не на жарт мяне заела:
Хіба гэта не вар'ят?
І на стол кладу нясмела
Самы першы варыянт.

Прачытаў знаток — і грымнуў:
— Што ж раней не нёс яго!
Ой, любіў дзяўчо хлапчына...—
Чу, любіў... І што з таго?

Пераклад Н. ГІЛЕВІЧА.



Вера МАЛЕВА

# ВІЁРЫЧЫНА ПОМСТА

### Апавяданне

Мал. А. Бараноўскага.

Падумаць толькі: усё гэта з самага што ні ёсць звычайнага жарту пачалося! Ды толькі жарт гэты, вы самі ўбачыце, зусім нечаканым стаўся для Мітру Глэвача. Але, як ні цяжка Мітру давялося, не шкадуе ён аб гэтым. Затое колькі ён тады перажыў — хай бог крые! І каб хоць не ведаў ён раней гэтае чарцяня Віёрыку. А то ж змала яе ведаў. У адной з ёю вёсцы вырас. Ды толькі, мусіць, не вельмі ён яе ведаў, калі адважыўся ёй тыя самыя словы сказаць, праз якія гэтулькі начэй заснуць не мог.

Здарылася ўсё гэта ўвосень, калі збіралі вінаград. Мітру на вывазцы працаваў. У краму вінаград адвозіў. Прывязе ў Віёрычына звяно парожнія кошыкі, забярэ поўныя і зноў у краму. І гэтак цэлы дзень. Конікі, трэба сказаць, у Мітру не дужа каб жвавыя былі, не падварушы іх — самі не пабягуць. І Мітру не спяшаўся — усё болей паціхеньку ды палягеньку ездзіў, быццам на шпацыр. Ехаў сабе туды, ехаў назад, — і нічога, не надакучала. А дарога на Мэрашэшты якраз для шпацыру была. Старыя, магутныя дрэвы арэшніку вартавалі яе абапал. І гэтулькі ўвабралі яны ў сябе сонечных промняў, што цяпер самі сталі залаціста-жоўтымі. Стаяць сабе ціхія, разгалістыя — нібы старыя, мудрыя дзяды. То там, то тут аднекуль зверху зрываўся арэх і падаў з лёгкім цокатам, губляючы на ляту сваю яркую зялёную кашулю.

Як толькі Мітру заўважаў такое, ён адразу ж спыняўся, заміраў і напружана сачыў: куды пакоціцца? Вось арэх падскочыў на зямлі, пакаціўся трохі, заціх — і Мітру амаль з дзіцячым захапленнем кідаецца да яго, бярэ з травы, якая аж выцвіла ад гарачыні. І не таму радаваўся ён арэхам, што вельмі любіў іх. Не. Ён іх нават не еў. Проста падабалася яму слухаць, як пастукваюць яны ў кішэні; гладзіць іх цвёрдую шаўкавістую шкарлупку. Падабраўшы арэх, Мітру ехаў далей яшчэ ў лепшым настроі, моцна насвістваючы штосьці, а часам нават напяваючы.

А між тым кошыкі ў Віёрычыным звяне напаўняліся хутка. І гадзіны не пройдзе — а яны паўнюткія. Што ж рабіць тады загадаеце дзяўчатам? Ведама ж, моладзь, — на траўцы ляжаць, дурэюць ды з вазакамі, што міма праязджаюць, жартамі перакідваюцца. Вось і ўся праца. І адпачнуць ужо ўволю, і жартамі нацешацца, а Мітру ўсё няма ды няма.

Як толькі ўдалечыні чулася Мітрына песня, дзяўчаты наўзахапкі пачыналі клясці яго на чым свет стаіць: «і такі, і сякі...» абібок. Але варта было яму прыпыніць конікаў, як лапатухі адразу ж змаўкалі — ну, няйнакш ім рот хто завязваў — і з усіх ног кідаліся да каруцы. Ім бы хутчэй парожнія кошыкі захапіць ды спяшацца на вінаграднік. Але не, такое чамусьці нікому нават у галаву не прыходзіла: кожная спяшалася памагчы Мітру нагружаць вінаград. І хто тут ведае, у чым прычына!.. Словам, заўсёды атрымлівалася так, што ўсе яны хапалі поўныя кошыкі. Віёрыка таксама памагала Мітру кошыкі да каруцы падносіць. І злосць яе разбірала: як бы гэтага Мітру падварушыць хоць трохі. Яна ж як-ніяк, а звеннявой была, у пачатку лета абавязацельствы дала, а тут — калі ласка! Праз такога гультая ў хвасце будзеш плесціся!

Яна нават не глядзела на Мітру. Проста ішла з ім поплеч, стараючыся крочыць у нагу. І тут раптам разануў вуха задзірысты голас Нуцы Кырчэл:

— Ведаеце, дзяўчаты, што мне ў галаву прыйшло? А з Мітру і Віёрыкі добрая пара была б. Ох, і гаспадарку завялі б! Любата!

Не паспела яна дагаварыць, як Мітру і Віёрыка нават кошык з рук выпусцілі. Віёрыка хацела была нешта сказаць, ды Мітру апярэдзіў яе:

— Як хто, а мы гаспадарку цыганскую ды парадак іхні ведаем. Нічога не скажаш...

Мітру не скончыў — нават ледзь язык не прыкусіў. Як маланкаю яго працяў позірк засмучаных чорных вачэй.

Дзяўчаты, а з імі і Нуца, адразу ж змоўклі. Не, ці не занадта ўжо бярэ на сябе гэты хлопец! Мала таго, што ходзіць — нага за нагу, дык ён яшчэ і Віёрыку абсмяяць хоча. Знайшоў з чаго насміхацца! А што, цыганы не людзі? Цяпер нікому няма бяды, што Віёрыка цыганка. І потым, дай бог, каб усе так, як яна, працавалі.

Віёрыка хапянула да сябе кошык за почапку:

— А ну, бярыся, — сказала яна ціха, але ў голасе яе кіпела злосць. — Нагружай хутчэй і едзь. Ды памятай: калі не паспееш парожнія кошыкі прывезці, у нас у звяне табе рабіць болей няма чаго.

Гэтыя словы і ўзбунтавалі дзяўчат.

— Правільна! Хай у іншае звяно ідзе!

— Нам досыць! Намучыліся!

Мітру паехаў з вінаградніка як сам не свой. Ці ж бачылі вы такое? Было б каго палохацца, а то цыганкі! Ды не такі ўжо ён палахлівы! І тыя яшчэ, галоўнае... Але якія ў яе вочы, ліха на іх! І як гэта ён іх раней не заўважаў? Э, ды хіба толькі вочы? А твар? А валасы чорныя-чорныя, як смала, і кудзерыстыя... І шыя прыгожая. Роўненькая такая, далікатная. А спаднічка — што кветнік. Словам, асляпіла яго дзяўчына — і ўсё тут.

Так і стаіць яна ў яго перад вачыма. Цяпер ужо і дарогу Мітру



не бачыць. Куды зніклі і залацістыя дрэвы і арэхі, што падскоквалі пад імі. Няма іх... І шыпшыны з яе кволымі кветкамі, што так нязвыкла позна распусціліся, таксама няма. Едзе Мітру... Болей не прыпыняецца, не спявае песень. І коні, здзіўленыя ўсім гэтым, паслухмяна цягнуць цяжкую каруцу. Паслухмяна — гэта яшчэ, вядома, не значыць хутка. Ніколечкі. Ды, калі сказаць праўду, і самому Мітру нават у галаву не прыйдзе спяшацца. Ён зусім забыўся на Віёрычыну пагрозу, а калі ўспомніў, нават раззлаваўся: «Ты глядзі, яшчэ пагражае! Што я ёй — слуга?» І зусім уззлаваўшыся, Мітру цвёрда вырашыў не спяшацца. Больш таго, яму дужа захацелася зрабіць што-небудзь непрыемнае Віёрыцы. Каб у наступны раз і дзесятаму заказала!

Ды толькі ніхто Мітравай «стараннасці» не заўважыў. Віёрыка нават не паглядзела ў яго бок. Затое астатнія дзяўчаты гатовы былі яго на кавалкі разарваць.

— Глядзіце ж, глядзіце, прыехаў! — накінуліся яны на яго. — Ох, і сумленне ж у цябе, Мітру! Не звязваўся б ты лепей з намі, хлапчына. а то кепска табе будзе, ой як кепска. Зразумеў? Ты што, хочаш, каб мы вінаград так і не скончылі збіраць?

Куды ні зірне Мітру, адусюль на яго такія злосныя вочы глядзяць — нават мароз па скуры. «Э, не. З імі, мусіць, жарты кепскія. Заганялі чалавека: Мітру туды, Мітру сюды, Мітру паедзь, Мітру прыедзь. А цяпер ужо і зусім захацелі са свету звесці».

Злосць разбірае Мітру. Паглядзеў на Віёрыку: скідвае сабе з каруцы парожнія кошыкі і хоць бы што — спакойная, прыгожая. Быццам і не бачыць, што тут зачынаецца.

— Гэй, звеннявая, усціш ты сваіх гусей! Аглушылі, ліха на іх! — паспрабаваў быў пажартаваць Мітру і адразу ж адчуў, што даў маху: дзяўчаты яшчэ больш узбунтаваліся.

— Ідзі з нашага звяна! Ідзі, чуеш? Інакш я за сябе не ручаюся! — крычала Нуца.



— Дзе дзядзька Георге, дзе старшыня? Хай заменіць вазака, — падтрымалі яе астатнія. — Ідзі гной вазі, болей ні на што ў цябе і здольнасці няма.

— Што вы? — зноў умяшалася Нуца. — Ёсць яшчэ справа па ім. Паслаць яго, дзяўчаты, па смерць — га?

Тут Мітру не стрываў: кінуўся з кулакамі на Нуцу. Ды тут не тое — уцякла Нуца. Да другой кінуўся, да трэцяй — дзяўчаты, як вераб'і, разляцеліся па ўсім вінаградніку. Спыніўся Мітру — валасы раскудлачаныя, ледзь дыхае. Узняў вочы — зноў перад ім Віёрыка. Стаіць і паглядае на яго. А вочы спакойныя, ясныя...

Хацеў быў накінуцца на яе, ды замест таго запытаўся нейкім плаксівым голасам:

— Ну, чаго яны ад мяне хочуць?

— Дык ты ж сам вінаваты! Навошта прымушаеш іх па гэтулькі без работы сядзець?

Цяпер ужо апамятаўся Мітру.

— Не буду ж я праз вас коней ганяць! — зноў упёрся ён.

— А хто цябе просіць іх ганяць? Ты на іншых паглядзі: і коней не ганяюць, і паспяваюць усё роўна, — спакойна сказала Віёрыка.

— Дык ён жа па дарозе мух ловіць! — уставіў хтосьці.

Асмяяўшы, дзяўчаты зноў абступілі Мітру. Яшчэ хвілінка — і ўсё пачнецца спачатку. Ды Віёрыка загадала ім:

— А ну, дзяўчаты, за працу! Гэтак мы ўвесь дзень страцім.

— А куды нам спяшацца? Усё роўна добрую гадзіну бакі адлежваць прыдзецца.

— Увечары пагаворым, на праўленні, — супакоіла ўсіх Віёрыка. — А цяпер кажы не кажы — толку мала. — Яна павярнулася і пайшла на вінаграднік, але раптам спынілася: — Слухай ты, кавалер, давай спаборнічаць! Га?



Мітру зусім сумеўся. Спаборнічаць? Яму? З гэтымі лапатухамі? Яшчэ чаго захацела!

Не паспеў ён і рот раскрыць, як Нуца зноў захіхікала:

— Што-о? Спаборнічаць? Знайшла з кім! Ды ён засне па дарозе — вось табе і ўсё спаборніцтва!

Мітру змераў яе позіркам, моцна сціснуў у руках пугаўё, крыкнуў:

— Глядзіце, каб вы не заплакалі ад такога спаборніцтва. Ды я з вас душы павынімаю. Зразумелі?

У адказ пачуўся толькі звонкі смех. Звінеў гэты смех у Мітравых вушах, пакуль Мітру не даехаў да самай даліны.

...Здзівіліся конікі, калі раптам Мітру захацеў парушыць іх спакой, здзівіліся арэхі, якіх вазак болей не падымаў. Адзін за адным падскоквалі яны па дарозе. Але не, Мітру цяпер не спыняўся, не прыслухоўваўся, куды ўпадзе арэшак, не шукаў яго ў траве. Не да гэтага яму цяпер было. І як яны тыя праклятыя кошыкі так хутка напаўняюць? Па дзесяць рук у іх, ці што? Дарога да крамы стала здавацца Мітру проста бясконцай. Пакуль туды ды назад — глядзі, кошыкі паўнюткія ўжо, і дзяўча-

ты сядзяць сабе на сцяжынцы, яго чакаюць. Хто іх ведае, даўно ўжо яны сядзяць ці толькі што прыселі? Ды не прычэпішся: кошыкі ж паўнюткія.

Раней жыццё ў Мітру было, можна сказаць, зусім спакойнае: ні клопатаў асаблівых, ні засмучэння. Затое цяпер... Цяпер ён да таго дайшоў, што начамі не спіць, усё прыкідвае, як бы яму спаборніцтва выйграць. Коней ганяць, — нельга: Маноле Іванавіч за коней яму галаву скруціць. Як ты ні круці, як ні вярці, а прапаў Мітру. На ўсю вёску пасмешышчам стане. Эх, была б у яго машына — тады іншая справа. Машына? Вось гэта штука! Вырашана: узімку ён папросіцца на курсы шафёраў. Так, вырашана...

Ды толькі не праз адно прайгранае спаборніцтва мучыўся Мітру. Віёрыка яму цяпер спакою не давала, сэрца ўстрывожыла. Куды яна ні ідзе, усюды ён яе позіркам праводзіць. А якая яна ўсё ж харошая! І прыгожая, і вясёлая, звеннявая хоць куды! Яе і дзяўчаты і хлопцы вельмі паважаюць. І яна да ўсіх добрая! Адно — на Мітру глядзець не хоча. Калі напаткае па дарозе, убок адвернецца, быццам яго і зусім тут няма. Быццам перад ёй не Мітру — добры хлопец, а так, пустое месца. І ўсё праз тыя праклятыя словы, што тады ў яго на вінаградніку з языка сарваліся. І трэба ж было яму такое сказаць? Што ні кажы, а добра яна робіць, што на яго не глядзіць. Ну, чым цыганы не гаспадары? Вось, напрыклад, дзядзька Хынку, Віёрычын бацька. І хата ў яго новая, пад цынкам, і фіранкі на вокнах вышываныя, і кветак у гародчыку паўнютка. Тут ужо, вядома, без Віёрыкі на абышлося.

Адным словам, час ішоў, а справы Мітру з месца не зварухнуліся. Усякі ведаў, што прайграў Мітру спаборніцтва, з трэскам прайграў. Ну і што ж, ён цяпер у шафёры пойдзе. А не прымуць — і зусім з вёскі падасца.

Але, відаць, не суджана было Мэрашэштам без лепшага свайго хлопца застацца. Чаму? Ды таму, што ўрэшце ўсё ж па-ягонаму выйшла. Як гэта здарылася? Вось ужо чаго не ведаю, таго не ведаю. Ведаю толькі, што цяпер у клубе Віёрыка толькі з Мітру танцуе і толькі ён кожны вечар яе да хаты праводзіць. І ні на каго іншага не глядзяць так цёпла і ласкава Віёрычыны ясныя вочы, як на Мітру.

Пераклад з малдаўскай мовы.





Міхась Рудкоўскі нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Востраў Ганцавіцкага раёна ў сялянскай сям'і.
Закончыў Пінскае педвучылішча. Цяпер працуе настаўнікам і завочна вучыцца на факультэце мовы і літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута.

**Міхась РАДКОЎСКІ**

## ЮНАЦТВА



Ірадасць не міне,
І скруха, і трывогі:
Юнацтва у мяне
Такое ж, як у многіх.
Не песціў я яго...
У поце з мазалямі
Праходзіла яно
Лугамі і палямі.
Лятала ў стэп,
прывет
Цалінным несла вёскам,
І там ягоны след,
І там яго барозны.
Да працы неспакой
І ноччу нават будзіць,
Няўрымслівай такой,
Відаць, і сталасць будзе.

## СЛОВА ПРА МУЖНАСЦЬ



Бура раве і вые,
Неба, як каламуць.
Стогнуць векавыя
Сосны вакол, гудуць...

Ноч... Там — пад снегам доты.
Тут — ні душы нідзе...
Не, на сівых сумётах —
Цень... Чалавек ідзе.

Хістка, як быццам п'яны,—
Сілы — на крокаў сто,
Кроўю сцякае рана,
Ные, гарыць плячо.

«Жыць!.. Адступіся, смерць, ты!
Жыць — ну, хоць пяць мінут...
Я не магу памерці:
Лагер дзесь побач тут,

Тут яны, мсціўцы, недзе...»
Сілы адчуў ён прыліў...
Поўз чалавек па снезе —
Гнеў і любоў паўзлі.

«Я дацягну, асілю...»
Толькі ў вачах, бы ў сне,
Полымем — барвай, сінню —
Зырка успыхнуў снег.

«Прэч, смерць!.. Не ўдасца гадам...
Бура, прыляж на міг...
— Хлопцы, не спіце! Здрада!
Два батальёны іх»...

Крыкнуў — і зубы сціснуў,
Сціснуў апошні раз.
Стала на момант ціха...
— Чуем,— прыйшоў адказ.

Зноўку шпурнула ў бездань
Бура калючы снег.
... Бура сагне жалеза,
А чалавека — не!

## ЗАЛАТЫ БЕРАГ



Як чараты, стаяць жыты.
Згінаюцца магутныя.
Шырокі Бераг Залаты
Густы туман ахутвае.
І на мяжы
туман ляжыць,
На мурагах настоены,—
Хоць ты жывот распеража
І пі, бы сырадой, яго.
І п'юць магутныя жыты...
А з-за прыгорка роснага
Сюды,
на Бераг Залаты,
Прыйшла бярозка босая.
І перад ёю,
ну, нібы
Перад дзяўчынай-модніцай,
Жытамі волаты-дубы
На паядынкі сходзяцца.
Лісты дубовыя звіняць,



Як бы шчыты ў воінаў.
... Такому краю —
век стаяць:
Ён так трывала скроены.

## ПАМЯЦЬ



Бэз ломіцца ў вокны,
заліў усе вуліцы.
Мяцеліца сіняя
кружыцца, кружыцца.
І сэрца да сэрца,
трапечучы, туліцца.
Цалуецца горача,
хораша дружыцца.

... У бэзавы чэрвень
салдаты варожыя
Душу нам крывёю
людскою апырскалі,—
Успыхнула наша
дзяцінства трывожнае
Любові і гневу
калючымі іскрамі.

Аб тым, што яшчэ
не мужчыны, а дзеці,
Напэўна не знлі,
не ведалі самі мы,
Хоць нас выдавалі
суквецці ў букеце,
Дзе «шчасцяў» шукалі мы
перад экзаменам...

Крамністыя годы
у бэзавай замяці,
Не ўспомніў бы вас
дзеля слова прыгожага...
Не! Права не маю я
выкінуць з памяці
Маіх аднагодкаў
дзяцінства трывожнага.



Іван НОВІКАЎ

# СЭРЦА ІНАКШ НЕ МОЖА

## Дакументальная аповесць пра Веру Харужую

Мал. М. Савіцкага.

Заўсёды і ва ўсіх школах перапынкі пачынаюцца аднолькава. Як толькі празвініць званок, найбольш жвавыя вучні, не чакаючы, пакуль настаўнік выйдзе з класа, пачынаюць паціху гаманіць, паспешліва складваць сшыткі і падручнікі. Шуршыць папера, стукаюць парты, хлопчыкі першымі зрываюцца з месц.

І на гэты раз было тое ж. Класы і школьны калідор напоўніліся звонкімі крыкамі дзяцей. Але раптам у гэты віхор галасоў уварвалася нешта незвычайнае і дзіўнае для захалуснага беларускага гарадка — гукі духавога аркестра. Спачатку глуха, быццам з-пад зямлі, пачуліся рытмічныя ўдары барабана. Яны нарасталі, наплывалі грозна і няўмольна.

Школьнікі рынуліся да вокан. Вера ўстрывожана прынікла да шыбіны. У блакітна-шэрых вачах дзяўчынкі неяк адразу пагаслі іскрынкі нядаўняй весялосці.

Па вуліцы ішла калона салдат. Яны былі апрануты ў шэра-зялёную форму, на плячах — вінтоўкі.

За спіной у Веры прагучаў хрыплы, непазнавальны голас настаўніка:

— Гэта немцы...

Аглянуўшыся праз галовы сяброўак, Вера ўбачыла яго бледны твар і прыжмураныя вочы. Такім настаўнік бываў рэдка, толькі ў вялікім гневе.

Аркестр іграў аглушальна і несціхана. З кожным ударам барабана Веры здавалася, што нехта б'е яе па галаве, прыгаварваючы: «На́ табе, на́ табе, на́ табе!»



Яна адчувала, што сяброўкі, якія прытуліліся да яе і трывожна застылі ля акна, перажываюць тое ж самае. І гэты крыклівы аркестр, і гулкія крокі салдат у падкаваных ботах, — усё аглушала, гняло яе. Вялікая, зусім недзіцячая злосць захліснула Веру. Яна рванулася ад акна, кінулася на сваю парту і горка заплакала.

Дзяцінства асталося ззаду. Пачыналася суровае баявое юнацтва.

* * *

Што такое прыгажосць?

Пытанне гэтае ў тых суровых умовах лічылася дробязным. Гаварыць аб прыгажосці можна было толькі ў цёмную сцюдзёную асеннюю ноч.

Уначы цьмяна вырысоўваюцца сілуэты чатырох чалавек з вінтоўкамі. Трое хлопцаў і дзяўчына. Чутны маладыя, прыглушаныя галасы. Патруль часцей асобага назначэння (ЧОН) нясе каравульную службу.

— А я, хлопцы, так думаю, — гаворыць дзяўчына, — што прыгажосць чалавека — гэта паняцце вельмі складанае. Ёсць прыгажосць знешняя. Але ёсць і другая...

Яна з цяжкасцю шукала словы, пасля загаварыла з ранейшай пераконанасцю:

— Я кажу пра душэўную прыгажосць. Бывае ж так, што чалавек і не вельмі прыгожы, але ёсць у ім нешта такое, за што яго любяць. Добрая душа ўсялякую знешнасць упрыгожвае...

— Правільна, Вера, — падтрымаў яе хлапец. — Тут я з табой зусім згодзен. Вось, кажуць, у аднаго нэпмана з нашай вуліцы дачка — прыгажуня. Валасы ў яе, нібы ў авечкі, — кучаравыя, вочы, як тыя слівы пераспелыя, губкі, як вытачаныя. Гаворыць яна манерна, быццам бы нешта пазычае табе. І што ж вы думаеце! Знаходзяцца хлопцы, якія аж млеюць ад яе позірку. Нават камсамольцы. А для мяне яна — авечка кучаравая і ўсё. Бо пустая, як тая бочка, за душой нічога ж няма. Думаеце, яе рэвалюцыя цікавіць, камунізм ёй патрэбны? Не! Яна сваімі «слівамі» жаніха ловіць. Ды каб ён багацейшы быў, ды каб чын у яго высокі. Цьфу!

Вера не вытрымала і зарагатала. Нават пахіснулася ад смеху. І хлопец, які ішоў побач з ёю, падтрымаў яе пад руку. Разам з ёю рагаталі і астатнія патрульныя.

— Ну і нясмяшыў, Пятрусь... А я думала, што ў цябе толькі сур'ёзныя справы на ўме, а дзяўчат ты зусім і не заўважаеш. А вунь як раскрытыкаваў нашага брата...

— Не, ты не так мяне зразумела, Вера,— апраўдваўся Пятрусь.— Вашага брата, сапраўдных дзяўчат, камсамолак, я паважаю. Я ж не думаю так пра цябе. Ты вось з намі ходзіш, горад ад бандытаў сцеражэш, а давядзецца, то разам з намі і жыццё аддасі за рэвалюцыю. А тая цяпер дрыхне ці да жаніха свайго прыціскаецца.

Голас у Петруся задрыжаў. Але крыху супакоіўшыся, хлопец працягваў:

— Ходзіць да яе тут адзін... Сволач прадажная. На нэпманаўскае багацце цікуе. Нічога, я яшчэ дабяруся да яго, паляціць ён са сваёй пасады...

Вера ўзяла Петруся пад руку, запытала:

— А ці не лепш было б уцягнуць гэтую нэпманаву дачку ў нашу справу? Ёсць нямала выпадкаў, калі выхадцы з другіх класаў добра памагаюць пралетарыяту.

— Глупства прапануеш, Вера,— абурыўся хлопец, які ўвесь час да гэтага маўчаў.— Дзе ты бачыла, каб буржуі памагалі нам супраць саміх сябе? Буржуем нарадзіўся, буржуем і здохне.

— Няпраўда,— запярэчыла Вера.— А ці ведаеш ты, што ў Энгельса была свая фабрыка?

— Ну-у... Ты ўжо не загінай. Хоць я і вельмі паважаю цябе, але зневажаць сваіх правадыроў не дазволю!

У голасе хлопца чулася пагроза. Але Вера працягвала:

— Больш таго, Уладзімір Ільіч Ленін таксама не з рабочых...

— Калі ты не спыніш контррэвалюцыйную агітацыю...— пачаў было хлапец, але Пятрусь спыніў яго:

— Ты, брацe, не гарачыся, лепш паслухай Веру. Яна больш за цябе чытала і лепш ведае, што да чаго. Раскажы нам, Вера, падрабязней пра Уладзіміра Ільіча...

Ноччу далёка чуліся галасы, таму гутарылі ціха. Гаварыла Вера, хлопцы толькі слухалі. Яна расказвала пра сям'ю Ульянавых, пра турмы і ссылкі, якія прайшоў Уладзімір Ільіч, пра тое, як стварыў ён партыю, развіваў вучэнне Маркса.

Многае, вельмі многае было новым і цікавым для гэтых рабочых хлопцаў. Перад імі раскрываўся невядомы і цудоўны свет. Вера імкнулася гаварыць проста, зразумела, цікава.

Нездарма праведзены за кнігай бяссонныя ночы. Веды, якія яна атрымала самастойнай вучобай, памагалі ёй адкрываць вочы вось такім маладым людзям, якія вобмацкам шукалі сваё месца ў рэвалюцыі і цяпер прагна імкнуліся зразумець яе сэнс.

Вера маладзейшая за іх. Толькі васемнаццаць год было за яе плячыма. Але яна паспела ўдзельнічаць у разгроме банд Булак-Балаховіча, загадвала палітасветаддзелам Мазырскага павятовага камітэта камсамола, а цяпер яе прыслалі на такую ж работу ў Бабруйск.

Цёмная асенняя ноч закрыла ўсё ад чалавечага вока. Прыціхла, стаілася жыццё. У гэтай насцярожанай цішыні дзесьці хаваецца вораг. Банды шныраць вакол горада, шукаючы слабыя месцы абароны, каб нечакана нанесці ўдар і зноў схавацца. Камсамольцы павінны быць напагатове.

На золаку патрульныя вярнуліся ў штаб і паведамілі, што за сённяшнюю ноч ніякіх здарэнняў не адбылося. На стомленых тварах камсамольцаў свяціліся радасныя ўсмешкі. Начальнік штаба заўважыў гэта.

— Чаго, Пятрусь, такі вясёлы?
— Дзяжурства спадабалася...
Адпачыўшы пасля дзяжурства гадзіны са дзве, Вера хутка паснедала, апранула старэнькі кажушок, завязала шарсцяную хустку і пайшла ў павятовы камітэт камсамола.
Там яна нікога не знайшла. На стале ляжала запіска:
«Усе пайшлі на суботнік — чысціць чыгунку і выгружаць дровы з вагонаў». Не раздумваючы, накіравалася туды. Убачыўшы яе, таварышы загаманілі:
— Да нас, Вера, сюды!
— Не слухай іх, там адны гультаі, з намі весялей будзе! — крычалі з другога месца.
Вера думала, да каго ёй, сапраўды, прыстаць? Потым накіравалася да тых, каго назвалі гультаямі.
— З вамі лягчэй,— смяялася яна з хлопцаў,— пацець не давядзецца.
— Дык вось як ты... зашумелі хлопцы,— Трымайся ж цяпер!
— Трымаюся!
Чулася безупыннае шарахценне лапат па шпалах і рэйках, стукат жалеза, звінелі маладыя галасы:
— Гэй, чаго адсталі? Можа памагчы вам?
— Каб вас саміх цягнуць не давялося!
— Майце на ўвазе, Вера вас не выручыць!
Рукі нылі ад холаду і напружання. Вера імкнулася не зважаць на гэта.
І так увесь дзень. Праўда, увосень дні кароткія, аднак і васьмі гадзін даволі, каб стаміцца чалавеку, якому даводзіцца паесці толькі адзін-два разы ў суткі.
Увечары Веру чакалі на лесапільні. Там быў назначаны сход рабочай моладзі. Трэба было зрабіць даклад аб сусветнай пралетарскай рэвалюцыі і задачах маладых рабочых.
Пасля сходу неабходна яшчэ падрыхтавацца да заўтрашніх заняткаў у палітгуртку і ў школе па ліквідацыі непісьменнасці.
Чакаюць яе і ў далёкіх вёсках Бабруйскага павету. Вера чытае сялянам і тлумачыць кнігі Леніна, дэкрэты савецкай улады. Слухаюць барадатыя дзядзькі Веру і згодна ківаюць галовамі: павінна ж некалі змяніцца праклятае жыццё!
А па глухіх дарогах, якія ляжалі перад Верай, гаспадарылі кулацкія банды.
— Сцеражыся, Вера!— папярэджвалі яе сябры.
— Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць!— адмахвалася яна.
З мяшком газет, часопісаў, кніг ішла яна ў самыя далёкія, самыя цёмныя вёскі. Кожны яе прыход пакідаў яркі след у свядомасці сялян. Ствараліся камсамольскія ячэйкі, гурткі па ліквідацыі непісьменнасці, людней станавілася ў хатах-чытальнях.
З вёсак Вера заўсёды прыносіла кветкі і безліч-безліч навін, а прыйшоўшы дамоў, зноў пачынала збіраць літаратуру для новых хат-чытальняў, шукала буквары, спеўнікі, кароценькія п'ескі і ўсё гэта пасылала ў вёскі, сваім падшэфным.
І так з дня на дзень.
Пасля грамадзянскай вайны мужнела маладая савецкая краіна. Разам з ёю расла і мужнела Вера Харужая.

* * *

«Ці помніце вы, таварышы, Правіянцкую вуліцу ў нашым Мінску? Вядома, помніце. Вось яна — прамая і доўгая з невялікімі прыветлівымі домікамі, садамі і палісаднікамі, зялёная і вясёлая ад дзіцячага і птушынага шчэбету. Яна была ў нас небрукаваная, на далёкай ускраіне горада... Мілая Правіянцкая вуліца. Ёсць такія ў кожным нашым горадзе: у Магілёве і Барысаве, у Слуцку і Баранавічах, у Беластоку і Гомелі». Так пазней пісала Вера Харужая.



На ўсё жыццё засталася ў памяці Веры Харужай гэтая Правіянцкая вуліца. Тут, у доме № 10, арганізавалася Камсамольская камуна. Стварылася яна ў 1923 годзе, адгалінаваўшыся ад Дома юнацтва, які знаходзіўся на Загараднай вуліцы і дзе жылі былыя беспрытульныя.
Імперыялістычная і грамадзянская войны, а затым засуха на Паволжжы, выклікалі вялікі голад і жабрацтва. Асабліва адчувалі гэта дзеці. Беспрытульныя ў той час запоўнілі ўсе чыгуначныя станцыі і гарадскія трушчобы. Па ўказанню Уладзіміра Ільіча Леніна партыя і камсамол накіравалі на барацьбу з беспрытульнасцю лепшыя свае сілы. Сярод актывістаў, якія заняліся выхаваннем асірацелых падросткаў, была і слухач Цэнтральнай партыйнай школы Беларусі Вера Харужая. Гэтае новае даручэнне павятовага камітэта камсамола яна выконвала не толькі па абавязку, але і па закліку свайго сэрца.

* * *

Невысокая, стройная, вясёлая, Вера з першага ж дня заваявала сімпатыі выхаванцаў Дома юнацтва.
Калектыў тут быў дружны, з'яднаны агульнай працай і сумеснай вучобай на рабфаку. Загадваў домам вопытны педагог, валявы чалавек Аляксандр Антонавіч Сакалоўскі. Усе справы, і вялікія і малыя, ён вырашаў сам. У доме быў парадак, але Вера з першага ж дня адчула, што парадак гэты нетрывалы, што мае ён свае адмоўныя бакі. Воля кіраўніка глушыла ініцыятыву юнацкага калектыву. А што можа быць горш для выхавання сумленных грамадзян, чым сляпая пакорлівасць?— з такімі думкамі звярнулась Вера да Сакалоўскага.
— Аляксандр Антонавіч, трэба стварыць у калектыве самакіраўніцтва,— прапанавала Вера загадчыку.
— Кіньце гэтыя думкі,— запярэчыў ён.— Дзякуй богу, і без самакіраўніцтва абыходзімся нядрэнна. Навошта яно вам? Разводзіць дэмагогію?
— Вы вельмі памыляецеся, Аляксандр Антонавіч. Самакіраўніцтва зусім не закране ваш аўтарытэт. Трэба прывучаць членаў камуны самастойна вырашаць свае жыццёвыя пытанні. Што ж скажа пра вас партыя, калі вы выпусціце са свайго калектыву бездапаможных, нясмелых людзей, здольных дзейнічаць толькі па чужой указцы. Хіба такімі павінны быць будаўнікі камунізма?
Не, не адразу здаўся Аляксандр Антонавіч Сакалоўскі. Пакрысе адступаў ён з адной пазіцыі на другую. Вера бачыла, што за яго суровай знешнасцю і празмерна высокай патрабавальнасцю да выхаванцаў Дома юнацтва тоіцца вельмі чулая, добрая бацькоўская душа. Але ён ведаў, з якой страшэннай бездані яшчэ зусім нядаўна вырваны гэтыя хлапчукі і дзяўчынкі, які ўплыў зрабіла на іх вуліца. Таму загадчык Дома юнацтва сваёй строгасцю хацеў адгарадзіць выхаванцаў ад дрэннага ўплыву, прывучыць іх да дысцыпліны і паслушэнства.
І ўсё ж нарэшце быў склікаsuccessful агульны сход. Выбралі самакіраўніцтва. Размеркавалі абавязкі.
Гэта быў гістарычны момант у жыцці калектыву. Выхаванцы адчулі, як знікае дробязная апека старэйшых. Ажывілася грамадская работа,

юнакі і дзяўчаты сталі самастойна вырашаць гаспадарчыя і бытавыя пытанні. З'явіліся новыя, вялікія і цікавыя справы. І ўсё гэта звязвалася з прыходам да іх Веры Харужай.

Але не ўсе і не адразу ўключыліся ў баявое грамадскае жыццё.

У самым цэнтры Мінска ёсць вуліца Няміга. Некалі на тым месцы цякла рака Няміга. Паступова яна мяльчала, людзі загналі яе ў трубы і схавалі пад зямлю. Крывая, вузенькая, цесная, вуліца Няміга ў пачатку 20-х гадоў нашага стагоддзя была шэрая і змрочная.

У той час на Нямізе, на Ніжнім Рынку, адбываліся частыя сутычкі паміж гандлярамі і беспрытульнымі. Пераможцаў у гэтых сутычках вызначыць было цяжка.

На спекулянтак і перакупшчыц наганяў страх трынаццацігадовы хлапчына, выхаванец Дома юнацтва Яцюк. Перад тым, як яго падабралі чэкісты і перадалі Аляксандру Антонавічу Сакалоўскаму, Яцюк добра набіў сабе руку на крадзяжы. У Доме юнацтва ён не вызначаўся працоўнай актыўнасцю. Часта некуды знікаў, пасля з'яўляўся. Ніхто не мог ведаць, дзе ён бывае і што робіць.

Потым пайшлі чуткі, што Яцюк па-ранейшаму свавольнічае на рынку. Чуткі неўзабаве пацвердзіліся. Да Аляксандра Антонавіча з'явіліся гандляркі. Яны абяцалі адарваць Яцюку галаву, а то і пайсці ў ЦК партыі, каб паскардзіцца на самога загадчыка.

Аляксандр Антонавіч выклікаў да сябе Яцюка. Той моўчкі, як і заўжды, стаяў перад загадчыкам, а пасля зноў рабіў сваё.

Калі Вера ўпершыню прыйшла ў Дом юнацтва, яна адразу ж пачула пра Яцюка. Зацікавілася ім. Хлопчык, выявілася, вельмі любіў слухаць прыгодніцкія апавяданні. Неяк ёй давялося пайсці з ім у горад. Па дарозе яна пачала расказваць эпізоды з рамана «Авадзень». Яцюк слухаў, стаіўшы дыханне, стараўся не прапусціць ніводнага слова.

— А чым закончылася гэта кніга? — усхвалявана запытаў Яцюк.

— Пра гэта ў другі раз.

— Калі?

— Мабыць і хутка. Як будзе час, тады і раскажу.

На наступны дзень Вера знайшла прычыну зноў пайсці з Яцюком. Калі кончыла апавядаць, спытала:

— Падабаецца табе Авадзень?

— Вось гэта герой! Я хацеў бы стаць такім.

— І станеш. Абавязкова. Ты ж смелы, разумны хлопец. Толькі ў цябе няма пакуль што сапраўды вялікай справы, такой, якая была ў Авадня. Таму ты і займаешся глупствам, дражніш гандлярак. Праўда?

— Праўда, — згадзіўся хлопец.

— А калі зрабіць цябе сапраўдным рэвалюцыянерам, камуністам і даручыць рабіць сапраўдную рэвалюцыю, біць буржуяў, ты вунь якім героем стаў бы!

Доўга яны хадзілі па горадзе. Нарэшце, Яцюк прапанаваў Веры:

— Хадземце са мной...

Ён узяў яе за руку і павёў да яўрэйскіх могілак. Ішоў моўчкі, нечага хвалюючыся. Яго хваляванне перадалося і Веры. Але яна нават не запытала, куды ён вядзе яе.

— Толькі вы не бойцеся, — супакойваў Яцюк. — Гэта зусім не страшна. Я сам праверыў — мёртвыя ніколі не ўстаюць. Калі памёр, то ўжо ўсё, амба!

— А я і не баюся, — смеючыся, адказала Вера.



Гэта яшчэ больш узняло яе аўтарытэт у вачах хлопца. Ён лічыў, што ўсе дзяўчаты, нават калі яны і дарослыя, баязлівыя. Ён падвёў Веру да адной магілы і з цяжкасцю адсунуў каменную пліту. Пасля нырнуў у шчыліну, якая чарнела пад каменем. Недзе са склепа, пачуўся яго прыглушаны голас:

— Сігайце сюды!

Яна спусцілася ў склеп. Спачатку ўбачыла толькі цьмяны агеньчык свечкі ў куце. Каля свечкі блішчэлі брошкі, пярсцёнкі, бранзалеты, гузікі. У другім куце стаяла вялікае люстэрка. У ім адбівалася хісткае святло свечкі.

Тут была кладоўка, нагружаная трафеямі Яцюка.

— Золата, — не без гонару паказаў ён на пярсцёнкі і бранзалеты. — Вялізныя грошы. За іх мы закупім зброю для сусветнай рэвалюцыі... Добра?

— Добра, але не вельмі. Па-першае, ад такіх неарганізаваных і недысцыплінаваных людзей, як мы з табой, ніхто не возьме грошай на рэвалюцыю. Па-другое, здабыты гэтыя грошы не сваёй працай, а награблены. Так робяць толькі буржуі. А рэвалюцыя — справа пралетарская, чыстая. Па-трэцяе, калі ўжо так здарылася па тваёй несвядомасці, то скарыстаць тваю гаспадарку трэба разумна, для калектыву Дома юнацтва. Гэта таксама дапамога рэвалюцыі, таму што ў нас выхоўваюцца рэвалюцыянеры...

На працягу некалькіх дзён была ўшчэнт разбіта рамантыка злачынства. Вера, на якую Яцюк глядзеў цяпер зачараванымі вачыма, перавярнула свет яго ўяўленняў.

Мала хто звярнуў увагу на дружбу, якая ўзнікла паміж упаўнаважанай павятовага камітэта камсамола Верай Харужай і трынаццацігадовым няўрымслівым Яцюком. Здзіўляла толькі тое, што Яцюк перастаў самавольна адлучацца з Дому юнацтва, стаў працаваць, як і ўсе, нікому не пярэчыў і не напрошваўся на непрыемнасці.

Аднойчы ў пакоі інтэрната старэйшых хлопцаў за сталом сядзелі ўсе жыхары і рэзаліся ў карты. Яны так захапіліся, што не пачулі, як стукнулі дзверы.

— Стаўлю порцыю селядцоў...

— Порцыю цукру!..

З-за спіны аднаго хлопца пацягнулася дзявочая рука. Яна вырвала ў яго калоду карт. Толькі тады ўсе павярнуліся да Веры.

— Як вам не сорамна? — дакорліва загаварыла яна. — Няўжо няма іншага занятку, акрамя карцёжнай гульні?

Дробныя кавалкі карт паляцелі да парога.

— Я не буду дакладваць на вас Аляксандру Антонавічу. Але майце на ўвазе, што ў наступны раз не дарую.

Хлопцы сядзелі збянтэжаныя, не ведаючы, што казаць. Нарэшце адзін з іх насмешліва кінуў:

— А чым жа нам займацца? Можа зноў лекцыю слухаць?

— А чаму б і не паслухаць добрую лекцыю? Ці ты ўжо ўсяго дасягнуў і больш не засталося нічога невядомага?

— Абрыдла ўсё гэта, — скептык пазяхнуў і пацягнуўся. — Страшэнна сумна...

— Хочаш вясёлага? Давайце тады арганізуем свой драматычны гурток, танцавальную групу, харавы гурток. З цябе добры акцёр выйдзе...

Яна з усмешкай паглядзела на хлопца, які толькі што скардзіўся на сум. Той пакрыўдзіўся.

— Ты не злуйся, я сур'ёзна прапаную, — сказала Вера. — Хто згодзен удзельнічаць у драматычным гуртку?

З таго часу ў Доме юнацтва пачаў работу калектыў мастацкай самадзейнасці.

Але гульня ў карты не спынялася. Замест адной знішчанай калоды карт, з'явіліся дзве новыя. Было відаць, што змайстраваў іх нехта з выхаванцаў. Выконваў ён сваю работу нядрэнна.

Аб тым, што майстравалі карты самі выхаванцы, сведчыла віньетка на бубновым тузе. На ёй дробнымі літарамі было выгравіравана «Ф-ка ігральных карт Дома юнацтва».

Члены педагагічнага савета не маглі знайсці таямнічага майстра карт. За гэтую справу ўзялася Вера. Хлопцы па строгаму сакрэту паведамілі ёй, што робіць карты выхаванец Дома юнацтва Казлоўскі. З ім яна і пагутарыла шчыра. Казлоўскі прызнаўся, што выраб карт — яго работа і паабяцаў закрыць сваю падпольную майстэрню.

А на наступны дзень юнакі карысталіся ўжо новай калодай. Бубновы туз у ёй упрыгожвала віньетка, на якой выразна значылася: «Ф-ка ігральных карт Казлоўскага». Забраўшы яе ў хлопцаў, Вера пайшла да Казлоўскага:

— Гэтак ты трымаеш свае слова...

— Маё слова — крэмень! — усклікнуў юнак. — Толькі не мог жа я пайсці са сцэны незаўважана. Па-першае, ніхто не ведаў бы, хто валодае такім майстэрствам. Па-другое, мая асабістая слава перайшла б на ўвесь Дом юнацтва, а ён, па-мойму, зусім не прагне гэтага. А па-трэцяе, я выпусціў апошнюю калоду пад уласнай маркай у парадку, як кажуць, самакрытыкі... Няхай усе ведаюць, што я каюся...

Вера засмяялася, пачуўшы такія важкія довады.

— Бадай што ты маеш падставу. Дому юнацтва зусім не трэба такая слава. Пакінь яе сабе...

— Яна не доўга будзе ляжаць на мне... Фабрыка мая закрылася. І закрылася назаўсёды... Можаце верыць.

Поўны набор драўляных клішэ, чырвонае і чорнае чарніла ён паклаў перад Верай.

— Клішэ я аддаю аўтадафэ,— сказаў Казлоўскі і кінуў іх у печ,— а чарніла ад імя фірмы перадаецца ў бясплатнае карыстанне Дому юнацтва.

Так зніклі карты. Знайшліся справы больш цікавыя.

У Доме юнацтва выхоўваліся дзеці розных узростаў. Было немала і старэйшых хлопцаў і дзяўчат, камсамольцаў. Яны ўжо працавалі на прадпрыемствах, а ўвечары вучыліся на рабфаку.

Прыглядзеўшыся да іх, Вера заўважыла, што юнакоў і дзяўчат прыгнятае апека педагогаў. Самакіраўніцтва Дома юнацтва было частковым. Па ўласнаму вопыту Вера ведала, як хочацца маладому чалавеку хутчэй атрымаць незалежнасць, адчуць сябе зусім дарослым. Па яе ініцыятыве пачаўся паход за стварэнне Камсамольскай камуны, на чале якой павінны стаць не педсавет і загадчык, а камсамольская арганізацыя.

Штурм кіруючых інстанцый закончыўся паспяхова: органы народнай асветы дазволілі стварыць Камсамольскую камуну. Размясцілі яе ў драўляным аднапавярховым доме з садам і палісаднікам на Правіянцкай вуліцы.

Хоць фармальна Вера не лічылася ў камуне, аднак яна была душой маладога калектыву.



У клубе камуны арганізоўваліся вечары мастацкай самадзейнасці. Талентаў знайшлося многа. Былі свае драматычныя артысты, спевакі, гімнасты. Асабліва вылучалася Ліда Шынко, якая пазней стала заслужанай артысткай Беларускай ССР.

Перад спектаклем звычайна ў самым цэнтры глядзельнай залы Вера збірала вакол сябе галасістых хлопцаў і дзяўчат.

— Заспяваем?

— Заспяваем! — дружна падхоплівалі рабяты.

Смело, товарищи в ногу,
Духом окрепнем в борьбе!

Першы куплет Вера заўсёды запявала сама. Голас у яе быў чысты, звонкі. Ён вабіў не сілай, а глыбокай шчырасцю, задушэўнасцю.

Але бывалі хвіліны, калі маладое сэрца ахоплівау незразумелы сум. Цяжка было парой згадаць, што выклікала яго. Тады і песня рвалася вонкі трывожная, трапяткая: «Замучен тяжелой неволей...» Настрой запявалы передаваўся ўсім. Плаўная, цягучая мелодыя плыла ў вокны, ірвалася на вуліцу, каб знікнуць там у вячэрняй сіняве. Не закончыўшы, Вера абрывала:

— Хопіць! Бач, як раскіслі. Давай «Маладую гвардыю».

Сама таго не заўважаючы, Вера брала сяброў у палон прастатой, душэўнасцю, непасрэднасцю.

А бывала і так. У пакойчык дзяўчат-драмгуртკоўцаў імкліва ўлятала Вера:

— Рабяты! — гукала яна, хоць у пакоі не было ні аднаго хлопца, — слухайце прыемную навіну!

Сяброўкі ў адно імгненне падбягалі да яе. Усхвалявана яна гаварыла, падмяняючы гук «л» больш мяккім «в»:

— Рабяты, нас просяць выступіць у Самахвалавічах. Разумееце, як гэта добра? Як сапраўдных артыстаў запрашаюць! Разумееце?

— Паедзем! Абавязкова паедзем!— узрадаваліся дзяўчаты.

Як умовіліся, гурткоўцы, напакаваўшы рэчавыя мяшкі тэатральнай амуніцыяй, пешшу накіраваліся ў падшэфную вёску Самахвалавічы — за



22 кіламетры ад горада. Ішлі з песнямі, з жартамі. Вера крочыла наперадзе.

— Прыдзем, — марылі камунары, — а там ужо сцэна прыбрана, народ чакае... Не жартуй з намі, мінскія артысты ідуць!

Калі самадзейная трупа прыйшла ў сельскі клуб, там яшчэ нікога не было. Настрой гурткоўцаў адразу неяк упаў.

— Не вешаць насы! — скамандавала Вера. — За мной у лес!

Хлопцы без пярэчанняў слухаліся яе. Праз паўгадзіны ў клубе пахла хвояй. Дэкарацыю рабілі сваім калектывам. А надвячоркам глядзельная зала была поўнютка народу. Спектакль прайшоў з поспехам.

На клубнай сцэне Камсамольскай камуны выступаў не толькі самадзейны калектыў. Сяды-тады заглядвалі сюды і прафесіянальныя артысты. Праўда, у той час у Беларусі прафесіянальнае тэатральнае мастацтва толькі нараджалася. На вызваленай ад векавога нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту беларускай зямлі настойліва стваралася новая, сацыялістычная культура.

* * *

Аднойчы да Веры звярнуўся супрацоўнік газеты «Чырвоная змена»:

— Напішы нам што-небудзь...

— А што я магу напісаць? Не ведаю...

— Ну, для пачатку напішы, як ты чытала першы нумар «Чырвонай змены», як твае таварышы сустрэлі газету...

— Добра, падумаю, — паабяцала яна.

Увечары, калі ўсе ўлегліся спаць, яна села за артыкул. Села і задумалася. У памяці паўсталі падзеі, якія адбываліся два гады таму назад. Палескі гарадок, такі блізкі і дарагі... Родныя, мілыя камсамалята, якія гатовы ў любы момант рынуцца на самае небяспечнае заданне. Чонаўскі начны патруль, спрэчкі аб прыгажосці, аб маралі, суботнікі, бібліятэка, камандзіроўкі ў глухія вёскі. Такое не знікне з памяці.

Задумалася і забыла, што трэба ж пісаць. Рэдакцыя заўтра патрабуе артыкул. А што пісаць? Можа, расказаць усё, як было, нічога не прапускаючы? Няхай там у рэдакцыі выкрэсліваюць лішняе. Ім лепш відаць, што трэба газеце.

Загаловак артыкула ўзнік сам сабой. Ён выражаў галоўную думку: «Як мы прынялі першы нумар».

Але як пачаць? Цяжка падабраць першае слова... Першы сказ... Усё роўна, што прайсці па танюсенькай кладачцы праз глыбокую рэчку,— страшна зрабіць першы крок. Атрымалася само сабой: «Гэта было ў час другога Усебеларускага з'езда, вясною 1921 года...»

Калі чуць сутулаваты худы юнак у акулярах чытаў у рэдакцыі яе заметку, Вера ўсхвалявана глядзела на яго: усміхнецца ён ці не? Але пухлыя губы хлопца сціснуты. Спакойна дачытаў да канца і падняў на Веру светлыя, радасныя вочы.

— Дык ты ж — маладзец, Вера! Як выдатна перадала настрой! Пэўна, будзеш выдатнай журналісткай.

— Не жартуй, — запярэчыла яна.

— Зусім сур'ёзна. Вось убачыш, у наступным нумары дадзім гэтую тваю замалёўку.

Першы невялікі артыкул, надрукаваны ў «Чырвонай змене», запаліў у ёй агонь журналіста. Запаліў на ўсё жыццё.



* * *

У заходніх абласцях Беларусі, захопленых белапольскімі акупантамі, не сціхала барацьба беларускага народа супраць прыгнёту і бяспраўя. Газеты даносілі з-за кардона водгулле крывавых баёў. Даходзілі паведамленні аб жорсткай эксплуатацыі польскімі панамі і капіталістамі працоўных беларусаў, аб рэвалюцыйных выступленнях польскіх, беларускіх і ўкраінскіх пралетарыяў.

Вера не прапускала ніводнага паведамлення з Усходніх крэсаў, як называла польская буржуазія захопленую ёю Заходнюю Беларусь. Усё, што там рабілася, глыбока хвалявала яе. Паведамленні аб паспяховых дзеяннях партызан радавалі больш, чым асабістыя поспехі ў вучобе. Арышты і пакаранні смерцю рэвалюцыянераў выклікалі вялікае абурэнне.

«Няхай я іх асабіста не ведаю, — думала яна, — але гэта ўсе мае родныя, мае сябры, мае браты і сёстры. І маё месца там, дзе яны, у радах байцоў, на самым небяспечным фронце».

Уголас яна не выказвала тое, што так непакоіла і хвалявала яе. Але пакрысе рыхтавалася, каб перайсці ў Заходнюю Беларусь і заняць сваё месца ў страі рэвалюцыянераў. Вывучала польскую і яўрэйскую мовы, гісторыю і літаратуру Польшчы, старалася наладзіць знаёмства з людзьмі, якія хоць калі-небудзь жылі на тэрыторыі Польшчы і выпытвала ў іх аб норавах, звычаях, вопратцы карэнных палякаў.

Маладое, кіпучае камсамольскае жыццё ішло сваёй чаргой. Вера працягвала актыўна ўдзельнічаць у ім. Артыкулы за яе подпісам усё часцей і часцей з'яўляліся ў «Чырвонай змене». Яе заўважылі маладыя беларускія пісьменнікі, сталі запрашаць на свае сходы. Ім падабалася яе ўсхваляваная, жывая размова з чытачом.

Тэмп жыцця падказваў ёй словы, вызначаў рытм апавядання пра ўбачанае. Буйнымі, рэзкімі фарбамі кладліся на паперу малюнкі ўрачыстых провадаў камсамольцаў у малады Чырвоны Флот.

Гэта была вялікая кампанія. Вера з захапленнем ўключылася ў яе. Ужо не раз яна шкадавала, што нарадзілася дзяўчынай і не можа быць залічана на ваенны карабель. Аднак і цяпер сваім гарачым словам яна можа памагаць умацаванню марской магутнасці краіны Саветаў. І яна піша ў газеты адзін за другім артыкулы аб шэфстве камсамола над Чырвоным Флотам.

Вучоба закончана незаўважна. Веру прызначылі намеснікам загадчыка палітасветаддзела ЦК камсамола Беларусі. А ў хуткім часе ўлічылі яе літаратурныя здольнасці і накіравалі на пасаду рэдактара газеты «Малады араты».

З-за кардону паступалі тэлеграмы аб баявых дзеяннях партызан Заходняй Беларусі, аб рэвалюцыйнай рабоце кампартыі Польшчы, кампартыі і камсамола Заходняй Беларусі. Вера чытала іх не толькі як рэдактар газеты. Яна ўяўляла за кожным радком жывых людзей, палымяных барацьбітоў-рэвалюцыянераў, смелых, бязмежна адданых партыі баявых арганізатараў мас. Магутная сіла цягнула яе туды.

Што будзе з ёю, над гэтым яна не задумвалася. Загіне? Ну дык што ж... Бессмяротных няма. Затое яна адчуе радасць барацьбы за любімую справу, за запаветную мэту, за вызваленне сваіх братоў і сясцёр, прыгнечаных польскімі панамі і капіталістамі. Яна прынясе сваім братам запал маладой душы, бадзёрасць юнацтва, нястрачаную энергію.

Гэта ж шчасце — загінуць у бітве за справу працоўнага народа, за камунізм... Інакш сэрца не можа...

А між іншым, зусім не абавязкова загінуць. Мы павінны перамагаць, таму што наша справа справядлівая і гісторыя за нас.

Як бы ні круціліся гадзюкамі нашы ворагі, мы ўсё роўна пераможам іх.

У час гэтага роздуму над свежым аркушам газеты і застала яе Маруся. Абняўшы сяброўку за плечы, Маруся паглядзела ў яе шэрыя вочы і здзівілася:

— Я ніколі не бачыла цябе сумнай, Верка. Як гэта ты ўмееш?

— Я, Марусечка, нарадзілася для радасці. Які сэнс капціць свет, атручваючы ныццём сваё і чужое жыццё? Ныюць слабыя, а я дужая. Мне радасна жыць, працаваць, змагацца.

Калі Вера гаварыла гэта, Марусі здавалася, што яе сяброўка стала і вышэйшая, і больш моцная фізічна, нават памужнела.

Але падзеі, якія адбыліся ў хуткім часе, аднойчы за ўсе юнацкія гады засмуцілі Веру. Гэта была смерць Уладзіміра Ільіча Леніна. З трывогай чытала Вера тэлеграмы пра здароўе Леніна. Увесь час пераконвала сябе: не, Ільіч яшчэ паднімецца, пераадолее сваю хваробу. Ён жа такі магутны духам і так патрэбны народу! Смерць не павінна кранудь такога чалавека. Ды і дактароў, бадай, запрасілі да яго самых кваліфікаваных.

І вось яна быццам бы трапіла пад горны абвал. Прыйшла вестка: Ільіч памёр...

Надвячоркам яна пайшла ў гарадскі клуб. Там меўся адбыцца жалобны мітынг. У клубе былі ўсе знаёмыя — рабочыя мінскіх прадпрыемстваў. Моладзь з Камсамольскай камуны, партыйныя і камсамольскія работнікі.

Чырвоныя сцягі, акаймаваныя чорнымі стужкамі. Партрэты Леніна ў чорных рамках...

Незвычайна суровая, засяроджаная, гаварыла яна з сябрамі не сваім звонкім галаскам, а неяк глуха, з цяжкасцю.

Сакратар гаркома партыі падышоў, моўчкі пацісну яе руку, спытаў:

— Выступіш?

— Выступлю.

Ледзьве стрымліваючы слёзы, гаварылі з трыбуны прадстаўнікі гаркома партыі, гаркома камсамола, прадпрыемстваў горада. Потым далі слова ёй.

Узышла на трыбуну не як заўсёды — хутка, рэзка, патрэсваючы светлымі валасамі, а цяжка, быццам бы падымаючы непасільны груз. Баялася — сарвецца голас і яна расплачацца. Але голас паддаўся сіле волі:

— Сваё гора і няшчасце жанчына звычайна выражала ў слязах і рыданнях, — пачала яна. — У рыданнях жанчына выплаквала ўсё, што набалела ў яе, аб чым хацелася крычаць, аб чым хацелася многа і пра многае гаварыць.

А мы, жанчыны-бальшавічкі, сёння, нягледзячы на тое, што страцілі самае велізарнае, самае дарагое, нягледзячы на тое, што мы сёння страцілі Леніна, — мы не пральём ніводнай слязы.

... Калі першыя словы былі сказаны, гаварыць стала лягчэй. Галоўнае, не збіцца з тону, трымаць сябе ў руках. Гэта цяжка, вельмі цяжка, але трэба.

— І мы сёння, — працягвала яна, — гаворачы пра Леніна, не будзем уздыхаць, не будзем плакаць. Мы будзем гаварыць пра Леніна



гордыя словы, якія толькі зможам сказаць, нягледзячы на тое, што на душы ў нас цяжка.

...Проста, задушэўна гаварыла яна, быццам не заўважала, што слухае яе вялікая аўдыторыя, якая разам з ёю перажывае цяжкае гора.

— Калі мы, камсамольцы, сёння даведаліся пра смерць Леніна, нам раптам здалося, што адразу стала пуста. Ідзеш па вуліцы і здаецца, што гэта быццам бы ва ўсіх нейкія прыглушаныя галасы. Здаецца, быццам няма нечага, не хапае вялізнага, важнага...

Але мы, камсамольцы, ведаем, што ў нас вялікая і важная справа — увекавечыць імя Леніна не ў адным пакаленні, а ў шэрагу пакаленняў, увекавечыць гэтае імя так, каб людзі не толькі ведалі, хто такі быў Ленін, але каб яны жылі і змагаліся так, як вучыў нас Ленін.

Нам трэба яшчэ многа вучыцца. Дык будзем жа ўсе вучнямі Леніна! Мы навучым і нашых малых братоў і сясцёр — спартакаўцаў таксама ісці па той жа дарозе, якую паказаў нам Ленін.

Сёння мы асірацелі — памёр Ленін. Ні адзін чалавек не можа замяніць народу Ільіча. Толькі партыя, адзіная, маналітная партыя здольна запоўніць такую страту.

На ўсё жыццё запомніўся Веры той сцюдзёны, сумны, пакутлівы студзеньскі дзень 1924 года. Боль, перажыты тады, пакінуў след у яе гарачым сэрцы.

У хуткім часе яна знікла з Мінска. Нават самыя блізкія сябры не ведалі, куды.

* * *

Цягнікі прыходзілі ў Беласток двойчы на дзень. І двойчы, як было дамоўлена, на явачную кватэру паблізу ад Рыбнага рынка наведвалася партыйная сувязная Валя.

Звычайна, калі нікога не было, размаўляла дзве-тры хвіліны з гаспадыняй, а то і, нічога не кажучы, вярталася дамоў. На гэты ж раз здарылася не так. Гаспадыня сустрэла Валю з вялікай радасцю і шэптам паведаміла:

— Там дзяўчына...

Як толькі Валя адчыніла дзверы суседняга пакоя, светлая, шэравокая дзяўчына імкліва накіравалася ёй насустрач. На хаду паведаміла пароль. Валя адказала.

— Ах, як зачакалася я вас, гадзіны нібы гады цягнуліся.

Праніклівыя вочы дзяўчыны хутка і ўважліва агледзелі Валю з галавы да ног. І адразу ж засвяціліся задаволенай усмешкай. Відаць, сувязная ёй спадабалася.

— Але, на жаль, я магу пазнаёміць вас з патрэбнымі людзьмі толькі праз гадзіну.

— Хутчэй бы да справы... — мімаволі вырвалася ў дзяўчыны.

Сувязная таксама прыглядалася да яе. Было ў новай знаёмай нешта такое, што адразу ж вылучала яе ад іншых дзяўчат, якіх ведала Валя. Нават ад сяброўак-падпольшчыц. Не знешнасцю адрознівалася яна. Новая знаёмая была апранута надзвычай проста і сціпла, як усе маладыя работніцы або бедныя інтэлігенткі Беластока. А вось у словах, манеры выказваць свае думкі, трымаць сябе, глядзець, слухаць у яе было нешта асаблівае. Калі яна слухала, то трошкі схіляла галаву набок і ўважліва глядзела ў вочы, як бы стараючыся памагчы чалавеку больш дакладна выказаць думку.

— Мяне завуць Вера, а вас?

Калі пазнаёміліся бліжэй, Вера шчыра абняла Валю і ўважліва, цёпла паглядзела ў вочы. З гэтага моманту яны пасябравалі на ўсё жыццё — Вера Харужая і падпольная сувязная Валя, як называлі падпольшчыкі Фейгу Цыгяльніцкую.

— Ну, раскажы, Валя, як вы тут працуеце? Цяпер жа мы будзем разам...

Бадай нікому не адкрыла б сваю душу маладая падпольшчыца Валя вось гэтак адразу. Але тут не ўтрымалася і расказала пра сябе ўсё, што цікавіла новую сяброўку. А тая цікавілася ўсім-усім, прагна выпытвала ўсё да дробязей.

Праз некалькі дзён Валя стала сустракацца з Верай на кватэры тэкстыльшчыцы Ханы. Там звычайна вечарамі збіраліся дзяўчаты-падпольшчыцы. Гутарылі, вывучалі новыя песні, дзяліліся навінамі.

Навін заўсёды было многа. Камсамольская арганізацыя Беластока дзейнічала актыўна. Прыезд Веры яшчэ больш ажывіў яе. Рухавая, энергічная дзяўчына заражала моладзь сваім настроем. Рэгулярна праводзіліся падпольныя камсамольскія сходы, распаўсюджваліся лістоўкі, члены арганізацыі вялі растлумачальную работу сярод несаюзнай моладзі. Асабліва добра дзейнічалі швейнікі і тэкстыльшчыкі.

Але сцежка падпольшчыка ідзе па камяністай зямлі. Аднойчы Вера зайшла ўвечары да Ханы і ўбачыла там дзяўчат. Тыя сядзелі, звесіўшы насы, некаторыя выціралі слёзы.

— Што здарылася? — запытала Вера ў гаспадыні.

— Ды ёсць тут адна непрыемнасць. Камсамолец Ісер засыпаўся, трапіў у паліцыю. Праўда, у яго нічога не знайшлі: бляшанку з клеем і квачык ён паспеў выкінуць. Але ў дэфензіву ўсё роўна завялі. Сядзіць... Вось мы і засумавалі.

Яха Сідранская, маладая дзяўчына, тэкстыльшчыца, не магла ўтрымаць слёз. Вера звярнулася да яе:

— А калі б цябе арыштавалі ў час расклейкі лістовак, што б ты рабіла? Сядзела б у дэфа ды плакала? Думаю, што не. А цяпер, глядзіце на яе, распусціла нюні... Такое ж можа здарыцца з кожным з нас. Мы павінны быць гатовы ў любы момант да сутычкі з дэфензівай. На тое мы і рэвалюцыянеры, каб не гнуцца пад ударамі ворагаў.

Калі дзяўчаты крыху супакоіліся, Вера прапанавала:

— Давайце развучваць новыя песні... Савецкія.

* * *

— Пані Вераніка, да вас госці! — урачыста аб'явіла гаспадыня маладой настаўніцы, сваёй новай кватарантцы.

Вераніка Карчэўская прыехала ў Вільню зусім нядаўна, шукаючы работу. Так, прынамсі, яна растлумачыла сваёй гаспадыні. Амаль на ўвесь дзень яна некуды знікала і хоць, як яна казала, пастаяннай работы пакуль што не знаходзіла, але з'яўлялася дамоў заўсёды вясёлая, задаволеная. Яна ўмела гутарыць са сваёй гаспадыняй вельмі цікава, а то і памагала ёй у гаспадарцы. Гаспадыня ўпадабала новую кватарантку.

Пані Вераніка харчуецца і апранаецца вельмі сціпла, відаць, эканоміць кожны злоты. Яна не вельмі патрабавальная і даволі вынослівая, цярплівая. Характар у дзяўчыны добры. Такая павінна знайсці работу.



Вось і цяпер да яе зайшлі пажылы пан і малады юнак. Гаспадыня была задаволена, што Вераніка хутка завяла такое знаёмства.

«Ці не жаніх у пані Веранікі знайшоўся?» — думала гаспадыня.

Дзяўчына хутка выбегла са свайго пакойчыка вельмі вясёлая, узбуджаная, з бліскучымі вачыма і прашаптала на вуха гаспадыні:

— Калі ласка, чаю нам...

Гаспадыня накіравалася на кухню, а Вераніка, пераканаўшыся, што тая занялася сваёй справай, вярнулася ў цесны пакойчык.

Пажылы чалавек напаўголаса адрэкамендаваў ёй:

— Знаёмцеся, Вера, гэта Бульба...

Дужая, гарачая рука маладога хлопца сціснула яе руку.

— Сустрэнемся а палове шостай увечары, — ён паўшэптам назваў месца яўкі, — там пра ўсё пагутарым.

А потым яны пачалі абмяркоўваць, дзе яшчэ трэба паспрабаваць шукаць работу для Веранікі. Гаварыў галоўным чынам пажылы чалавек і пані Вераніка. Юнак маўчаў. Гаспадыня неўзабаве пастукала ў дзверы пакойчыка, прапанавала духмяны чай.

Госці не сядзелі доўга. Яны шляхетна развіталіся і пайшлі.

— Добрыя паны, — заўважыла гаспадыня і хітра паглядзела на сваю кватарантку. — Асабліва малады пан. Сімпатычны...

Пані Вераніка збянтэжана адвярнулася, і гэта таксама спадабалася гаспадыні.

Надвячоркам пані Вераніка пайшла. Аб сваіх справах яна звычайна не гаварыла гаспадыні.

Як было дамоўлена, Бульба чакаў яе. Дужы, чырванашчокі хлопец год дзевятнаццаці-дваццаці, ён нічым не вылучаўся сярод стракатай віленскай публікі. Хіба толькі цёмныя вочы глядзелі больш уважліва і задуменна, чым у другіх.

Бульба яшчэ здалёк заўважыў Веру. Ён ішоў ціхім, мерным крокам чалавека, які ўпэўнены ў сабе і абыякавы да навакольнага. Спаткаўшыся, яны прывіталіся, ішлі поплеч, зрэдку паглядвалі адзін на аднаго. Павярнулі з цэнтра на менш людныя вуліцы.



Вера ў той час ужо выдрэнна ведала польскую і яўрэйскую мовы. Цяпер, ідучы, яна прыслухоўвалася, пра што гавораць на вуліцы. Вось група рабочых абураецца паводзінамі свайго майстра. Следам ідуць гандляркі. Ад іх чуваць адно: «купіла», «прадала»... Махаючы лакіраванымі кіямі і пакручваючы вусы, прайшлі двое рускіх белагвардзейцаў. Тэма іх размовы — коні... Кволыя, чысценькія гімназістачкі хіхікаюць, расказваючы адна адной свае навіны...

— Я ўжо ведаю тое-сёе пра цябе, Вера, — пачаў Бульба напаўголаса. — Як ты адчуваеш сябе ў новых абставінах?

— Выдатна, — адказала яна, — я даўно рыхтавалася працаваць іменна ў такіх абставінах. Паездка сюды — маё гарачае жаданне.

— Цяжка было расставацца з сябрамі, роднымі?

Хвілінку памаўчаўшы, яна адказала з сумам у голасе:

— Вельмі цяжка. Калі б ты ведаў, якіх цудоўных сяброў я пакінула там. І як іх многа ў мяне!

Яна пачала гаварыць пра Мінск і мінчан. І хоць Бульба ні разу не быў у сталіцы Савецкай Беларусі, ён са слоў Веры ўявіў сабе вонкавы выгляд горада, і партыйную школу, дзе Вера вучылася, і Дом юнацтва, і Камсамольскую камуну на Правіянцкай вуліцы. Быццам сам пабываў на бурных камсамольскіх сходах.

Часам Вера пачынала гаварыць на ўвесь голас. Бульба ўстрывожана аглядаўся і кратаў яе за рукаў:

— Цішэй, не забывай, што ты ў Вільні.

Яна пераходзіла на шэпт, а потым зноў забывала і ўжо уголас чытала вершы маладых беларускіх паэтаў, сваіх добрых сяброў. Усё гэта было цікава, нечакана для Бульбы, але тэмперамент Веры трывожыў яго. «Як бы яна не засыпалася...» — непакоіла думка. Ён усё перапыняў яе, напамінаючы, што тут не Мінск, і забываць пра гэта яна не мае права.

— Нічога, прывыкну, — жартам адказала Вера.

Раніцай яна напакавала чамадан.

— Я еду, пані, — сказала гаспадыні. — Калі ласка, атрымайце за паслугі...

Гаспадыня расчаравана запытала:

— Куды ж вы?

— Паеду ў Варшаву. Гэта большы горад, можа там знайду сабе работу.

— І паны госці не памаглі... — паспачувала гаспадыня.

— Яны ўсё зрабілі, каб памагчы, але не ўсё ад іх залежыць.

Настаўніца Вераніка Карчэўская (а гэта была Вера Харужая) паехала не ў Варшаву, а ў Гродна. Ей, інструктару ЦК камсамола Заходняй Беларусі, даручалася правесці арганізацыйную работу сярод моладзі аднаго з буйнейшых гарадоў «усходніх крэсаў».

Незнаёмымі вулічкамі Вера ішла на явачную кватэру. Спрактыкаванае вока заўважала кожную дробязь. Домікі на ўскраіне горада драўляныя, старыя. На дахах цямнеюць карычневыя дываны моху. Акяніцы з выразанымі ўзорамі пафарбаваны ў зялёны ці сіні колер. Пад вокнамі садкі са слівамі, вішняй, кветкамі. Ціхія, непрыкметныя, але ўтульныя вуліцы падобныя на Правіянцкую вуліцу горада Мінска.

Вось і патрэбны дом. Зайшла, сказала пароль. Там ужо былі камсамольцы, з якімі яна папярэдне пазнаёмілася. У хаце, хоць тут былі толькі свае, надзейныя людзі, размаўлялі паўшэптам. Калі ўсе сабраліся, сакратар гркома камсамола Зіна ціха аб'явіла:



— Даклад аб бягучым моманце зробіць прадстаўнік ЦК камсамола Заходняй Беларусі таварыш Вера.

Пакуль яна аб'яўляла, Вера надзьмула шчокі, а потым не вытрымала і голасна засмяялася:

— Ой, як афіцыйна!

Усе, хто быў у пакоі, таксама не вытрымалі і, страціўшы ўсялякую саліднасць, рагаталі ад душы.

— Дык вось што, таварышы, — пачала Вера. — Мы, Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі, заклікаsuccessful выхоўваць працоўную моладзь баявымі рэвалюцыянерамі. Мы, памочнікі камуністаў, і на нас ускладзена вялікая адказнасць за лёс сусветнай рэвалюцыі, за вызваленне нашай роднай Заходняй Беларусі ад польскіх паноў і капіталістаў...

Нічога новага, асаблівага яна і не гаварыла, але тое, што словы яе гучалі неяк асабліва пераканаўча, і тое, што яна называла рэчы сваімі імёнамі, зачаравала слухачоў. Яна расказала аб тым, як у Савецкім Саюзе будуецца сацыялістычнае грамадства, як рабочыя і сяляне, узяўшы ўладу ў свае рукі, мяняюць воблік краіны.

— Мы, камсамольцы, пры кожнай магчымасці павінны растлумачваць несаюзнай моладзі і ўсім працоўным, што вызваленне ад капіталістаў само да нас не прыйдзе, што за яго трэба змагацца, не шкадуючы жыцця, без страху, без ваганняў. Палітычная свядомасць, з'яднанасць і яшчэ раз з'яднанасць, смеласць і яшчэ раз смеласць, уменне захоўваць канспірацыю — вось галоўныя якасці сапраўднага камсамольскага падпольшчыка.

Калі дакладчыца скончыла, адразу ж пасыпаліся дзесяткі пытанняў. Пасяджэнне ператварылася ў задушэўную гутарку. Пыталіся ўжо не толькі члены камітэта, Вера сама цікавілася жыццём моладзі, умовамі працы, станам агітацыі на прадпрыемствах, у майстэрнях, у школах. Давала парады, рабіла заўвагі. Усё гэта мела характар не інструктажу, а шчырай гутаркі вопытнага работніка з менш вопытнымі.

Разыходзіліся па адным. Сакратар камітэта Зіна павяла Веру на начлег. Ішлі яны пад руку, быццам бы старыя знаёмыя, і гутарылі пра дробязі: пра моды, пра новыя раманы. Адным словам, паводзілі сабе так, як павінны паводзіць на вуліцы дзяўчаты правінцыяльнага гарадка.

Усю дарогу Зіна непакоілася, ці зможа Вера правільна паставіцца да гаспадароў кватэры? Вельмі ўжо смелая яна і, здаецца неасцярожная.

Праўда, Зіна вяла яе ў надзейную сям'ю, але хто можа гарантаваць, што туды не зойдуць хоць бы суседзі. Хіба можна ручацца за незнаёмых людзей? А Вера раптам і скажа неасцярожнае слова... Сама ўліпне і гаспадары таксама...

Уголас свае сумненні Зіна не выказвала, але ўвесь час паглядала на Веру. А тая адчувала сябе, як дома: вольна, проста, гаварыла пра дробязі, толькі зрэдку кідала на Зіну цікаўны позірк. Па дарозе, азірнуўшыся, паведаміла:

— Я Вераніка Карчэўская, беспрацоўная настаўніца. Так і рэкамендуй мяне гаспадарам.

З першых жа слоў пані Вераніка вельмі спадабалася гаспадыні. Трымалася яна зусім не як пані. Здавалася, што яны ўжо даўным-даўно знаёмыя і дзяўчына толькі што вярнулася з кароткай разлукі. Распытвала гаспадыню пра здароўе, пра гаспадарку, між іншым выказала добрыя парады пра мыццё пажаўцелага шоўку, параіла, як заквашваць цеста для пірагоў, як выводзіць чарнільныя плямы.

Увечары з работы прыйшла дачка гаспадыні. І з ёю размова пачалася шчыра. Чаго толькі не гаварылі яны, гутарачы да паўночы. Нарэшце, гаспадыня даверыла новай знаёмай сваю тайну: у Савецкім Саюзе жыве яе другая дачка і яны вельмі ганарацца гэтым. Тады размова пачалася яшчэ больш адкрытая. Вера расказала аб жыцці савецкіх людзей па той бок кардона.

— Пані Вераніка, а адкуль вы так добра ведаеце ўсё гэта? — не ўтрымалася, запытала гаспадыня.

Вера засмяялася:

— Хто хоча ведаць, той даведаецца...

Прачнулася яна на досвітку і хацела паціху пайсці, але гаспадыня запярэчыла:

— А снедаць? Ад нас добрыя людзі так не ідуць...

— А я хіба добры чалавек? — смеючыся, запытала Вера.

— Калі б усе людзі былі такія, свет быў бы іншы.

Хуценька паснедаўшы, Вера распытала пра дарогу ў навакольныя вёскі, развіталася з гасціннай гаспадыняй і яе дачкой.

— Калі б вам ні давялося быць у Гродне, у любы час заходзьце да нас, будзеце дарагой госцяй, — сказалі ёй на развітанне.

Веру кранула цеплыня, з якой гаварылі ёй гэтыя словы. Яна абняла і моцна пацалавала жанчыну, голас якой так напамінаў голас яе маці.

Крочыла яна па шляху, абсаджаным старымі вербамі. Дарога была яшчэ бязлюдная, паветра чыстае, свежае, і дыхалася лёгка і вольна.

Але ні на хвіліну не знікала пачуццё насцярожанасці. Ішла ж яна па беларускай зямлі, часова захопленай ворагам. Сэрцам чула дзяўчына, як глуха стогне гэтая зямля. Боль за людзей, якім даводзілася пакутаваць тут, спалучаўся з нянавісцю да прыгнятальнікаў і глыбокай верай у непазбежную перамогу над акупантамі.

У вёсцы, куды Вера накіроўвалася, была вялікая камсамольская арганізацыя. Але вяла яна сабе пасіўна. Сакратар не меў дастатковага вопыту, а партыйнай арганізацыі тут яшчэ не было.

Пазнаёміўшыся са справамі, Вера парашыла склікаць сход. Увечары сабраліся на ўскрайку лесу. Была субота, і прагулка моладзі ў бліжэйшы лес не выклікала ні ў кога падазрэння.

Хлопцы і дзяўчаты падыходзілі вельмі асцярожна, аглядаючыся на кожным кроку, садзіліся гуртком і моўчкі чакалі, што будзе далей. Вера наглядала за імі. Калі сабралася ўжо больш дзесятка камсамольцаў, яна раптам засмяялася:

— Як жа вы пастарэлі за апошнія паўгадзіны! Здаецца, не толькі ў хлопцаў, а і ў дзяўчат сівыя бароды выраслі. А ну станавіцеся ў кола!

Куды дзелася афіцыйнасць! На палянцы пачаліся гульні. А калі ўсе сабраліся, Вера клікнула моладзь у цесны гуртох. Узбуджаныя гульнёй, хлопцы і дзяўчаты ўжо другімі вачыма глядзелі на прадстаўніка ЦК. Цяпер Вера распытвала іх пра настрой, пра парадкі ў вёсцы. Кожнаму паведамленню тут жа давала кароткую палітычную ацэнку, падказвала, як трэба весці агітацыю сярод сялян.



Гутарка спадабался ўсім. Раптам адзін хлапчук спахапіўся:

— Загаварыліся мы зусім... Калі ж даклад будзем слухаць?

— Даклада не будзе, — засмяялася Вера. — Ён ужо зроблены. Цяпер вы зразумелі, як трэба працаваць?

— Зразумелі. — у адзін голас адказалі камсамольцы.

У многіх вёсках, мястэчках і гарадах Заходняй Беларусі ўжо ведалі рашучую, смелую дзяўчыну, якая ўмее нечакана з'яўляцца, перакануча і палымяна выступаць перад простымі людзьмі і гэтак жа нечакана знікаць.

Аднойчы ў жнівеньскі вечар, прыехаўшы з чарговай паездкі ў Слонім, Вера зачынілася ў сваім пакойчыку і села пісаць ліст у Савецкую Беларусь.

Усхвалявана пачынала першыя фразы. Ведала, што гэта ўжо не яе асабістая перапіска, што за кожным словам сябры будуць бачыць жыццё камсамола Заходняй Беларусі, яго барацьбу, яго гераізм.

«Жыву па-ранейшаму... Па-ранейшаму вакол мяне разліта вялізная яркая радасць».

Так, так, гэта самае дакладнае слова «радасць». Як жа інакш назваць тое пачуццё, якое запоўніла яе сэрца.

Вера ніколі не крывадушнічала, не мірылася з няпраўдай. Яна павінна сказаць сваім сябрам усё чыста, паказаць ім жыццё камсамольца-падпольшчыка Заходняй Беларусі такім, якім яно ёсць на самай справе.

А жыццё гэта вельмі суровае. За кароткі час яна паспела пабываць у Гродне і Пінску, у Вільне і Слоніме, у Навагрудку і Брэсце, у Пружанах і Кобрыне. Цяпер вось даведалася, што ў засценкі дэфензівы трапіла шмат актывістаў, цэлыя арганізацыі правалены. Арышты, катаванні, турмы. Хлопцам і дзяўчатам, якія толькі што ўступаюць у жыццё, даводзіцца доўгія гады праводзіць за турэмнымі кратамі. Яна бачыць іх — маладых, дужых, прагных да жыцця і барацьбы. Не, не толькі радасць залівае сэрца Веры, а і глыбокае чалавечае гора. Аб гэтым таксама трэба расказаць сябрам з Савецкай Беларусі, каб яны добра зразумелі, у якіх умовах даводзіцца жыць і змагацца іх заходнім братам.

«Але, акрамя радасці, ёсць цяпер вельмі і вельмі многа гора. Абставіны, умовы жыцця такія жорсткія, такія суровыя, так не хочуць лічыцца з планамі, намерамі і жаданнямі асобных людзей. Жыць стала страшэнна цяжка: «Эміграцыя», заўсёды моцная, зараз прыняла незвычайныя памеры. «Ад'язджаюць» блізкія і далёкія, родныя і знаёмыя. «Ад'язджаюць» цэлымі групамі і паасобку. Больш за ўсё балюча бывае пры «ад'ездзе» цэлых груп. Тады становіцца яшчэ цяжэй жыць...

Асабліва шырока развіта «эміграцыя» сярод моладзі. Моладзі з яе шырокім размахам, з вялікім тэмпераментам асабліва цяжка сядзець і чакаць лепшых абставін. Таму «ад'язджаюць» і часта надоўга. Наш агульны знаёмы Барыс З. «паехаў» у другі раз і казаў, што, пэўна, ужо не вернецца ніколі...»

Нешта вельмі ўжо сумныя думкі апанавалі. Яшчэ, можа, сябры падумаюць, што Вера пачала ныць. Як гэта будзе далёка ад сапраўднасці. Яна гатова вынесці любыя выпрабаванні. А што таварышаў любімых шкада, дык гэта зусім натуральна...

«Я пакуль што «ад'язджаць» не збіраюся, — упэўнена пісала яна далей. — З усёй маёй энергіяй і з прагнасцю жыцця я хачу пераадолець дрэнныя абставіны, хачу жыць іменна там, дзе **я** хачу, рабіць тое, што **я** хачу. Але паглядзім...»

Доўга думала яна, як лепш абысці паліцыю, дэфензіву, прыцягнуць да падпольнай работы новых хлопцаў і дзяўчат на змену арыштаваным.

А назаўтра ёй даручылі прысутнічаць на партыйным сходзе, які павінен быў прымаць камсамольцаў у партыю.

Месцам для сходу выбралі лес кіламетраў за пяць ад горада. Грыбны сезон быў у разгары. У нядзелю многія гаражане з кошыкамі накіраваліся ў бліжэйшыя гаі за баравікамі.

Апрануўшы просценькую сукенку і накінуўшы на галаву па-вясковаму сіненькую хустачку, Вера ўзяла кошык і пайшла ва ўмоўленае месца.

Выбралі невялікую палянку ў густым маладым хвойніку. Толькі тры ледзь прыкметныя сцяжынкі праз зараснік вялі туды, дзе збіраліся на сход.

Як толькі Вера павярнула з дарогі, адразу ўбачыла «маяка». Малады хлопец сядзеў каля сцежкі і перабіраў грыбы. Вера сказала пароль. Ён даў адказ і ўсміхнуўся: маўляў, цябе я ведаю і без пароля...

Усёй сваёй істотай Вера адчувала, што сёння незвычайны дзень. Сярод імянінікаў будуць хлопцы і дзяўчаты, якіх яна асабіста ўцягнула ў камсамол і якім цяпер дае рэкамендацыю ў партыю. Палітычнае жыццё сваё яны пачалі пад яе кіраўніцтвам, а гэта ж вялікае шчасце—мець такіх цудоўных вучняў.

Па дарозе да паляны Вера яшчэ не раз сустракала «маякоў». Гэта былі мужчыны і жанчыны, людзі рознага ўзросту. Іх пільныя вочы сачылі за ўсімі, хто накіроўваўся да хвойніку. Сцежкі, якія вялі ў зараснік, на палянку, добра ахоўваліся.

На палянцы было многа людзей. Яны трымаліся невялікімі групамі і ажыўлена гутарылі. Калі падышла Вера, усе павярнуліся да яе. Пачуліся радасныя воклічы:

— Прывітанне, Вера!

— Ідзі сюды!

Абмяркоўвалі кожнага паасобку. Юнакі ў сваіх кароценькіх усхваляваных прамовах кляліся, што ўсё сваё жыццё аддадуць справе сусветнай пралетарскай рэвалюцыі, барацьбе з буржуазіяй, панамі і асаднікамі, вызваленню роднай Заходняй Беларусі ад белапольскіх захопнікаў.

Вярнуўшыся са сходу, Вера вырашыла напісаць аб усім перажытым сябрам у Савецкую Беларусь.

«Сёння паеду на некалькі дзён да маіх знаёмых у вёску. Яны ўжо даўно чакаюць мяне, будуць мне рады, а я буду рада яшчэ больш. Люблю бываць у іх і бываю даволі часта. Кола маіх вясковых знаёмых усё пашыраецца».

У той час Вера Харужая ўжо была сакратаром ЦК камсамола Заходняй Беларусі, членам ЦК кампартыі Заходняй Беларусі і членам ЦК камсамола Польшчы.

Аднойчы па даручэнню партыйнай арганізацыі Вера паехала ў адну з гмін (валасцей) недалёка ад Брэста. Зрабіўшы ўсе свае справы, запытала ў камуністаў:

— А як жа ў вас камсамол дзейнічае?

— Слаба, — адказалі ёй. — Моладзі ў нас шмат, а вось арганізаваць яе няма каму...

Так заўсёды бывае там, дзе моладзь траціць перспектыву, дзе няма рамантыкі рэвалюцыйнай барацьбы. Трэба скалыхнуць яе, паказаць, што яна здольна на вялікія справы.

Вера прапанавала склікаць маладзёжны сход пад выглядам вясковай вечарынкі. Запрасілі на вечарынку толькі надзейных хлопцаў і дзяўчат.



Вера сядзела ў кутку з дзяўчатамі і распытвала пра іх жыццё. Падышоў сакратар камсамольскай арганізацыі:

— Сабраліся ўсе.

— Тады пачынай сход, — прапанавала Вера.

— Сябры, — сказаў сакратар, — будзем лічыць наш сход адкрытым. Зараз таварыш з Беластока зробіць нам даклад пра бягучы момант.

Вера ўважліва агледзела прысутных і запытала:

— Ці ведаеце вы, таварышы, хто ўваходзіць у Камуністычны саюз моладзі?

Пачакаўшы хвіліну, працягвала:

— Той, хто гатовы ў барацьбе за справу рабочых і сялян не задумваючыся аддаць сваё жыццё, хто нічога не баіцца, хто не здрадзіць ні сваім ідэям, ні сябрам пры любым катаванні. А трапіць у засценкі дэфензівы, у рукі катаў для нас дробязь: зрабіў неасцярожны крок — і бывай воля! Але сапраўдны камсамолец не будзе купляць міласць ворага цаной здрады. Дык вось, сябры, давайце адкрыта паглядзім праўдзе ў вочы. Тут, на гэтым сходзе, няхай застануцца тыя, хто добра ўпэўнен у свае сілы. А ў каго няма такой упэўненасці, няхай пакіне нас. Так будзе лепш і для яго самога, і для нас, і для нашай справы.

У хаце наступіла такая цішыня, што было чуваць усхваляванае дыханне прысутных. Прайшла цэлая хвіліна. Вера ўважліва глядзела ў твары дзяўчат і хлопцаў. Усе былі засяроджаны.

Аднак, не! У куце сядзеў дужы, шыракаплечы чубаты хлопец. Ён нясмела глянуў на Веру і зараз жа апусціў вочы. Відаць было, ён хістаецца і, наморшчыўшы лоб, напружана думае.

Вера спыніла на ім свой позірк, і ўсе павярнуліся туды. Хлопец цяжка падняўся і накіраваўся да дзвярэй.

— Што ж, не будзем занадта строгія да яго, — сказала Вера, калі глуха бразнулі за хлопцам дзверы. — Ён больш сумленны, чым мог быць. Было б горш, калі б ён здрэйфіў не тут, а ў дэфензіве. Можа яшчэ хто сумняваецца?

Слабавольных больш не знайшлося. Тады Вера пачала свой даклад аб задачах камсамольцаў у барацьбе за вызваленне роднай Заходняй Беларусі ад паноў і капіталістаў.

Праз год пасля гэтага выпадку яна даведалася, што адбылося з хлопцам пасля. Да сакратара акруговага камітэта камсамола звярнуўся чубаты хлопец і запытаў:

— Вы Веру ўбачыце?

— Магчыма і ўбачу. Навошта яна табе?

— Тады скажыце ёй, што яна была ў нашай вёсцы і хлопец, якога яна забараніла прымаць у камсамол, ужо варты, каб яго прынялі. Няхай яна толькі дазволіць. Без яе згоды ячэйка не хоча прымаць мяне.

Сакратар ячэйкі пацвердзіў, што і сапраўды хлопец гэты — надзейны таварыш.

— У той вечар, калі Вера рабіла даклад, ён не быў упэўнены, што вытрымае катаванні дэфензівы, і рашыў праверыць сябе. Але, трапіўшы ў дэфу, вытрымаў самыя цяжкія катаванні і ні слова не сказаў. Цяпер ён упэўнены, што варты звання камсамольца і настойліва дабіваецца, каб яго прынялі. Толькі вось арганізацыя не ведае, як Вера паглядзіць на гэтую справу.

— Навошта ж нам адмаўляцца ад такога чалавека? — запытаў сакратар акружкома. — Вера ж сказала не прымаць маладушных, а ты сам кажаш, што ён герой. Іншай думкі ў Веры не будзе, можаш не сумнявацца. І, наогул, пытанне аб прыёме ў камсамол рашаеце вы самі, самастойна. Вам відней, хто варты, а хто не.

— Яно так, але Вера лепш за нас разбіраецца, — не згаджаўся сакратар камсамольскай ячэйкі.

Такая ацэнка яе работы радавымі камсамольцамі была для Веры даражэй самай высокай узнагароды. Значыць, яна знайшла дарогу да сэрцаў людзей.

Час ішоў хутка. Наладжваліся падпольныя сувязі, ствараліся новыя камсамольскія арганізацыі, пісаліся тэксты для лістовак, — усё гэта захлiствала з галавой, паглынала сілы, думкі і энергію.

Але час ад часу Вера задавала сабе пытанне: як гэта яе так доўга не схапіла дэфа? Колькі разоў выходзіла яна проста з-пад носу шпікоў.

Вось і нядаўна... На вечар быў назначаны камсамольскі сход. Там упершыню павінны былі прыстунічаць некалькі юнакоў і дзяўчат, з якімі Вера хацела бліжэй пазнаёміцца. Акрамя таго, трэба было растлумачыць камсамольцам адно з важных рашэнняў ЦК кампартыі Заходняй Беларусі па тактыцы барацьбы. Сарваць такі сход было немагчыма.

Калі сцямнела, выйшла з дому і накіравалася на ўскраіну горада. Наўмысна кружыла па вуліцах. Адчувала, што нехта сочыць за ёю. Асцярожна азірнулася. Так і ёсць: падчапіўся «хвост». Што рабіць? Пад пагрозай не толькі яна сама, але і ўся арганізацыя. Добра, што заўважыла. Блукаючы па вуліцах, яна думала і думала аб тым, як бы ашукаць шпіка.

— Ну, чакай жа, нягоднік, я цябе правучу...

Цемень гусцела, імжыў дробны дождж. Шпік ішоў ззаду, баяўся выпусціць ахвяру. Улучыўшы момант, Вера кінулася на двор невялікага драўлянага дома, потым агародамі перабегла на другую вуліцу — і да рэчкі. Шпік быў ззаду.

Апынуўшыся ля знаёмага броду, Вера кінулася ў рэчку. Праз крокаў дваццаць азірнулася. Шпік стаяў на беразе, нерашуча пераступаючы з нагі на нагу. Яна паказала яму «нос» і пакрочыла на другі бераг, амаль да шыі акунаючыся ў ваду.

Выйшла з ракі, адбегла, прыслухалася. Не, шпік не адважыўся разам з ёю прыняць такую ванну. Грошы — не ідэя, за іх рызыкаваць здароўем не варта.

А іншы раз ёй проста шанцавала.

Вясной 1925 года ў Гродна быў скліка765 пленум ЦК камсамола Заходняй Беларусі. Рыхтаваліся да яго загадзя. Гаркому камсамола было дадзена заданне знайсці кватэры, якія раней не скарыстоўваліся для падпольнай работы. Пасяджэнні праходзілі не ў адным месцы, а на розных кватэрах, у строгай тайне. Усё абышлося добра, і члены ЦК адразу ж пасля пленума раз'ехаліся.

Сабраўшы неабходны матэрыял, Вера на сваёй кватэры пісала адозву. З ёю працаваў яшчэ адзін член ЦК. Раптам адчыніліся дзверы і ў пакой зайшла ўстрывожаная сакратар гаркома камсамола Зіна. У Веры пахаладзела ў грудзях.

— Вялікая непрыемнасць, — сказала Зіна з ходу. — Паліцыя нешта пранюхала...

— Што пранюхала? — спакойна запытала Вера.

— Учора ўвечары быў налёт на кватэру, у якой вы раніцай засядалі...

— Ну і што?

— Нічога не знайшлі, але...

Вера задумалася.

— Дык, кажаш, былі? Учора? Ну і чорт з імі! Цудоўна!





— Што цудоўна?

— Яны былі ўчора вечарам, а мы сёння яшчэ засядалі. Значыць, знайшлі дулю. А ўсё ж даведайся, чаго яны прыходзілі.

Ужо не раз яна трапляла ў складаныя пераплёты, але ніколі не бянтэжылася. Можа таму, што даўно падрыхтавалася да самага горшага, яе не палохала тое, што можа здарыцца. Калі таварышы загаварвалі на гэтую тэму і прасілі трымацца асцярожней, яна рэзка абрывала іх:

— Ат, дробязь, цэлая буду!

А вось да лёсу сяброў Вера не магла адносіцца з такой абыякавасцю.

«Два дні таму назад, — пісала яна ў Мінск пра пакаранне смерцю аднаго партыйнага работніка, — «паехаў за граніцу» яшчэ адзін наш прыяцель, які многа зрабіў і вельмі заслужаны чалавек. Балюча і цяжка было расставацца з ім. Асабліва цяжкія былі апошнія два дні, калі мы ўсе напэўна ведалі, што ён «паедзе» і «паедзе» назаўсёды. Праводзілі мы яго з песнямі, з кветкамі, але асабліва ўражанне рабілі «хусткі» (так называла яна сцягі.— **І. Н.**), якімі многія з нас махалі яшчэ доўга пасля таго, як схаваўся поезд, што павёз яго. Гледзячы на нас, усе разумелі, што мы праводзім не толькі вельмі блізкага і роднага, але і добрага чалавека, які заслужыў павагу, што «ад'езд» яго незвычайны, што мы гэтага «ад'езду» не забудзем.

Не толькі болем, але і энтузіязмам усіх нас напоўніў яго «ад'езд». Многія, асабліва маладыя нашы сябры казалі: «Так «паехаць» і я б хацеў! Зрабіць столькі, колькі ён зрабіў, зрабіць іменна так, з беззаветнай любоўю да справы, самааддана і горда... Я гатоў так жа працаваць!» Прыемна і радасна было ўбачыць гэта захапленне і энтузіязм, і гэта згладжвала боль страты, яшчэ больш умацоўвала веру ў нашы сілы, напаўняла жаданнем працаваць, не шкадуючы сілы, усю сябе аддаваць рабоце...»

Слёзы — прыкмета слабых, імі ворага не адолееш. Дужыя не плачуць, а змагаюцца. На месца пакаранага смерцю станавіліся новыя байцы.

З-за кардона, з дарагой і любімай Савецкай Беларусі да Веры ішлі лісты. Складаны і доўгі быў іх шлях. Але, нягледзячы на шматлікія перашкоды, лісты даносілі да Веры гарачае дыханне родных і сяброў.

Кожны ліст выклікаў безліч успамінаў з маленства. І тады хацелася гарэзнічаць, выкінуць такую штуку, каб усе клаліся са смеху. Асабліва падмывала на гэта, калі на падпольных сходах дзе-небудзь на лясной палянцы або на лужку збяруцца гэтакія дваццацігадовыя «дзяды» і са смешнай сур'ёзнасцю чакаюць саліднага даклада. Чым жа развярушыць іх, як не вясёлым жартам.

Разам з тым Вера адчувала, што пражытае і перажытае ўжо лягло на плечы адчувальным цяжарам. Неяк у Вільні яна зайшла да сваёй сяброўкі-падпольшчыцы. Тая падала ёй абвінавальчае заключэнне па справе вялікай групы камсамольцаў. Вера ўзяла тоўстую папку і села ля акна. Абапёршыся на стол, засяроджана чытала, пасля прашаптала:

— Эх, каб убачыць іх!

Ёй хацелася не толькі ўбачыць, але і падбадзёрыць вязняў, сагрэць цяплом сваёй гарачай душы.

Потым нечакана запытала ў сяброўкі:

— А колькі табе год?

— Дзевятнаццаць. Няпоўных...

— Гм... Якая ты яшчэ...

Сяброўка пакрыўдзілася.

— А табе колькі?

— Ну, мне ўжо дваццаць другі!

Гэты «дваццаць другі» Вера гаварыла з гонарам, нібы гутарка ішла аб розніцы ў дваццаць год.

А між іншым год такога напружанага жыцця на самай справе роўны дзесятку звычайных год.

У ноч з 14 на 15 верасня 1925 года Вера заседзелася за работай на адной са сваіх кватэр у Беластоку. Нядаўна ЦК камсамола Заходняй Беларусі атрымаў яшчэ адзін ліст з ЦК камсамола Савецкай Беларусі. Там расказвалася аб тым, як савецкія людзі, ліквідуючь непісьменнасць, будуюць новыя прадпрыемствы і камуны, з якім захапленнем глядзяць у сваю будучыню. Трэба было данесці праўду пра краіну Саветаў да простых працаўнікоў.

Калі гаспадары ляглі спаць, Вера села пісаць лістоўку на польскай мове.

Вокны былі шчыльна зачынены акяніцамі. У кватэры і на вуліцы панавала мёртвая цішыня. У такі час лёгка думаецца, лёгка пішацца. Думкі плывуць і плывуць, чапляючыся адна за адну...

Грубыя, рэзкія, патрабавальныя ўдары ў дзверы і ў акно... Зразумела, сябры так не стукаюць. Першым рухам было — парваць у дробныя шматкі толькі што напісанае. Затым знішчыла пісьмо ЦК камсамола Савецкай Беларусі.

На стале стаяла фотакартка блізкага, дарагога чалавека-падпольшчыка. На імгненне Вера захісталася: парваць ці схаваць куды-небудзь? Але ў дзверы білі ўсё больш рашуча, і перапалоханыя гаспадары, хуценька апрануўшыся, спяшаліся адчыніць.

Шматкі фотакарткі пасыпаліся ў кошык. Калі паліцэйскія ўварваліся ў пакой, то ў кош ляцела парваная запіска таго ж падпольшчыка.

Сышчык кінуўся да каша, схапіў яго і асцярожна перадаў паліцэйскаму:

— Не растрасі. Трэба разабраць па парадку і склеіць...

Звярнуўшыся да Веры, строга гледзячы ёй у вочы, патрабаваў:

— Проша, пані, одовуд (пашпарт. — **І. Н.**)...

Яна падала пашпарт на імя Веранікі Карчэўскай.



— Вы арыштаваны, — заявіў сышчык. — Апранайцеся.

Акрамя парваных запісак і дакументаў, нічога больш паліцэйскія не знайшлі, але відаць было, што дэфензіва ўжо добра дасведчана пра Веру Харужую.

Апранаючыся, Вера ўявіла сабе засценкі дэфензівы, сырыя, змрочныя сцены турмы. Упершыню яе скаланула.

Смяртэльна перапалоханыя і разгубленыя, гаспадары са смуткам глядзелі ўслед сваёй кватарантцы.

Допыт вёў следчы дэфензівы, высокі афіцэр з чорнымі вусікамі і соннымі, мутнымі вачыма. Кожнае яго пытанне, якое ён задаваў з наўмыснай абыякавасцю, Вера лавіла насцярожана.

— Як вы сябе адчуваеце, пані Карчэўская?— з ледзь схаванай з'едлівасцю запытаў ён па-руску. Відаць было, што першае пытанне следчага прадумана даўно. Разлічана яно на тое, каб збянтэжыць арыштаваную, даказаць ёй, што ў дэфензіве добра вядомы справы, якімі тая займалася. Дарэмна, маўляў, адпірацца, выкладвай усё па парадку.

— Дзякую вам, пан афіцэр, за клопаты аб маім здароўі. — Такім жа тонам адказала Вера па-польску з чыста варшаўскім вымаўленнем.

— Ого, як цудоўна вы валодаеце польскай мовай! — здзівіўся афіцэр.

— А чым мова Міцкевіча і Ажэшка дрэнная, каб не валодаць ёю?

— Так,— пераходзячы на польскую мову, сказаў следчы.— Але Міцкевіч і Ажэшка, як мне вядома, былі палякі, а пані, зноў-такі як мне вядома, чыстакроўная беларуска...

— Вашы адносіны да польскай нацыянальнасці, дазволю сабе заўважыць, не перашкаджаюць вам валодаць і рускай мовай. Адказваючы кампліментам на камплімент, скажу, што вы ёю валодаеце нядрэнна. Для чаго б гэта? Я, напрыклад, жыву сярод палякаў і таму абавязана ведаць польскую мову, а вы, бадай што, у Расіі ні разу і не былі...

На момант следчы збянтэжыўся, пасля раззлаваўся. Санлівасць нібы рукой зняло. Вочы загарэліся злосным агнём, вусы натапырыліся.

— Ці не збіраецеся вы, шаноўная пані, учыніць мне допыт? Ці не здаецца вам, што вы пераблыталі нашы ролі?

— Зусім не. Проста вы дрэнна ведаеце сваю ролю. Крыўляецеся, як бяздарны акцёр на сцэне. Больш натуральнасці, пан следчы!

— Ну, ведаеце... Гэта нахабства! Не хочаце шляхетнай размовы,— не трэба...

— Пан следчы, не турбуйцеся дарэмна, адказваць я не буду. Гэта ўсё, што вы сёння пачулі ад мяне.

Яна дэманстратыўна адвярнулася. З паўгадзіны афіцэр спрабаваў вымусіць яе гаварыць: і ўпрошваў, і палохаў, і абяцаў дапамогу, падтрымку.

Вера думала пра сваіх сяброў. Каго з іх схапілі сёння? Хто застанецца працягваць баявыя справы? Як адновяцца парушаныя падпольныя сувязі?

Многа, многа цяжкіх, трывожных думак апаноўвала яе галаву. Яна старалася не слухаць следчага, які бубніў і бубніў сваё. Перад сабой яна бачыла сяброў, у думках раіла ім, што трэба цяпер зрабіць, каб не было далейшых правалаў.

Допыт нарэшце закончыўся. Пратакол так і застаўся незапоўнены.

Нудна, аднастайна праходзілі дні і ночы. Нічога не дабіўшыся, дэфензіва кінула Веру ў турму. Пачалося звычайнае доўгае следства. Невядома, чым яно закончыцца і калі...

Яшчэ да яе арышту цаной вялікіх намаганняў у няроўнай жорст-

кай барацьбе палітычным вязням давялося заваяваць права чытаць кнігі, пасылаць пісьмы родным і знаёмым, атрымліваць пасылкі, раз на тыдзень выходзіць на сустрэчы з роднымі. У такіх умовах можна было наладзіць сістэматычную вучобу ў камерах. Турма ператварылася ў камуністычны ўніверсітэт. Больш адукаваныя вязні не толькі павышалі свае веды, але вучылі сваіх малапісьменных таварышаў.

З першага ж дня Вера ўключылася ў напружаную палітычную работу. Яе выбралі старэйшай па камеры. Не адкладваючы на доўга, яна выявіла, хто мае якую адукацыю, склала праграму заняткаў, расклад. Для менш падрыхтаваных сваіх сяброўак увяла палітграмату, рускую мову, рускую літаратуру, польскую літаратуру, матэматыку. Тым, у каго быў нейкі запас ведаў, выкладала яшчэ гісторыю партыі і асновы палітычнай эканоміі.

Дзень быў заняты работай да апошняй хвіліны. Кожная лекцыя патрабавала добрай падрыхтоўкі. А слухачкі нецярпліва чакалі заняткаў і слухалі з вялікай удзячнасцю. З цёплым пачуццём успамінала цяпер Вера выкладчыкаў партыйнай школы, якія далі ёй веды, навучылі самастойна працаваць над кнігай.

Непакоіла толькі думка пра маці. У канцы сакавіка 1926 года Вера паведаміла дамоў, што яна арыштавана. Ведала, што атрымаўшы такі ліст, маці вельмі ўстрывожыцца і цяпер, відаць, бясконца плача. Яна ж так горача любіла сваю непаседлівую, неспакойную Веру.

Скарыстаўшы зручны выпадак, Вера напісала яшчэ адно пісьмо дадому. Супакойвала, суцяшала маці:

«...Па мне, мамачка, і не думай плакаць! У мяне не такі сумны лёс, каб яго трэба было аплакваць. Не, мамачка, я і цяпер такая ж бадзёрая, як і ў 1920—1921 годзе, калі мы жылі ўсе разам. Я ж добра ведала, што мяне чакае, і гэта ні на хвіліну не спыніла, не прымусіла мяне нават задумацца. Нічога, мамачка, я ж сяджу толькі восем месяцаў. Ну дык што ж гэта значыць — дваццаць два гады волі і восем месяцаў турмы? Глупства! Усё перажывём. А з моцнай верай у сваю справу і з надзеяй на лепшую будучыню і турма — не турма. Да таго ж я і ў турме не сяджу склаўшы рукі: многа чытаю, вучуся — на волі не было часу чытаць. Памагаю вучыцца і другім дзяўчатам, якія ведаюць менш за мяне, якія не маглі, як я, вучыцца ў школе.

...Нічога, мамачка, бо самае галоўнае — гэта маладосць і здароўе. А таго і другога ў мяне пакуль што даволі...»

Пятнаццаць месяцаў цягнулася следства. Нарэшце, былі ўручаны абвінаваўчыя заключэнні трыццаць аднаму палітычнаму вязню. Там пералічваліся шматлікія «злачынствы» Веры Харужай перад польскай буржуазнай дзяржавай.

Веру перавезлі ў брэсцкую турму. І вось нарэшце 10 студзеня 1927 года быў назначан працэс «трыццаць аднаго». Увесь дзень напярэдадні Вера ўжо не магла займацца. У кожным яе слове, у кожным руху адчувалася незвычайная ўзбуджанасць. Заўтра пачнецца бой, адкрытае выступленне супраць буржуазнага ладу, супраць буржуазных парадкаў, буржуазнай ідэалогіі. Гэта ўжо не абстрактная тэарэтычная спрэчка, а бітва пры няроўных умовах. І, тым не менш, яе трэба прыняць і атрымаць перамогу над ворагам, калі не фізічную, дык маральную.

Сакратар суда доўга і аднастайна чытаў абвінаваўчае заключэнне. Падсудныя не слухалі, ціха перагаварваліся паміж сабой.

Пачаўся допыт. Старшыня суда Рэут выклікаў у залу пасяджэння ка́та-эксперта Снарскага. Нехта з падсудных на задніх лаўках крыкнуў на ўсю залу:



— Вон ка́та Снарскага!

Гэты воклiч, як электрычны ток, прайшоў па радах. Падсудныя ўскочылі з сваіх месц і, падняўшы кулакі, закрычалі:

— Вон ка́та!

— Далоў гэтага звера!

— Далоў гадзюку!

Падсудных падтрымалі рабочыя, якія прысутнічалі ў зале. Узняўся шум, якога ні разу не чулі сцены гэтага памяшкання. Кат-эксперт, уцягнуўшы галаву ў плечы, баязліва лыпаў вачыма: як бы справа не закончылася бойкай...

Перапалоханы Рэут прапанаваў Снарскаму выйсці. Толькі калі дзверы за ім зачыніліся, падсудныя спынілі шум і селі на свае месцы.

Дружная дэманстрацыя акрыліла іх. Значыць, іх суддзі дрыжаць, калі бачаць перад сабой з'яднаную, маналітную баявую масу.

Дайшла чарга да Веры даваць паказанні. Яна ўстала і, горда падняўшы галаву, смела глядзела ў вочы суддзям. На пытанне старшыні суда адказала:

— Так, я маю гонар належаць да камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Але камуністычная партыя не з'яўляецца групай змоўшчыкаў. Яна — партыя сусветнага пралетарыята. Камуністычную партыю абвінавачваюць у тым, што яна вядзе агітацыю, заклікаючы да ўзброенага паўстання з мэтай выклікаць рэвалюцыю. Але рэвалюцыя з'яўляецца гістарычнай непазбежнасцю...

— Падсудная, гаварыце па сутнасці,— перапыніў яе Рэут.— Папярэджваю, я пазбаўлю вас слова, калі будзеце весці тут бальшавіцкую агітацыю...

— Я і гавару па сутнасці, — запярэчыла Вера. — Вы абвінавачваеце мяне як члена кампартыі, і я лічу сваім абавязкам і правам даказаць негрунтоўнасць вашых абвінавачванняў. Камуністычная партыя змагаецца супраць капіталізма і буржуазіі і ставіць сваёй мэтай падняць свядомасць рабочага класа і сялянства.

— З вашай заявы можна зразумець, што вы самі ўступілі ў камуністычную партыю, — рэзюміраваў старшыня суда.

— Так, я зусім сумленна працавала ў радах КПЗБ і запэўняю, што буду працаваць і далей, калі выйду з турмы. Ніхто не прымушаў мяне ўступаць у партыю. Я аддана камуністычнай ідэі і буду верна служыць ёй усё сваё жыццё. Мяне не спалохае і турэмнае зняволенне, якім бы доўгім яно не было і які б цяжкі не быў лёс, што чакае мяне. У адным толькі я глыбока ўпэўнена: што дачакаюся таго дня, калі мы будзем судзіць вас з усёй суровасцю пралетарскіх законаў...

— Я пазбаўляю вас слова! — ускіпеў Рэут.

— А я ўжо ўсё сказала,— Вера спакойна села на сваё месца.

Таварышы моцна пацiскалі ёй руку.

Праз тыдзень працэс закончыўся. Старшыня суда чытаў замагільным голасам свой прысуд:

«Імем Польскай рэспублікі Пінскі акруговы суд 10—17 студзеня 1927 года ў судовым пасяджэнні крымінальнай калегіі ў горадзе Брэсце... прызнае правільным прыгаварыць віноўных Яху Шэрцман, Абрама Рафа і Веру Харужую да шасці год строгага турэмнага зняволення»...

Калі закончылася нуднае гудзенне Рэута, вязні, як па камандзе, выхапілі з кішэняў чырвоныя стужкі, якія былі падрыхтаваны напярэдадні ў турме, і прычапілі іх да грудзей. Адзін з вязняў Каленік ускочыў на лаўку і зычным голасам крыкнуў:

— Далоў фашысцкі ўрад ка́та Пілсудскага! Няхай жыве дыктатура пралетарыята!

Разам з другімі членамі турэмнага парткома Вера распрацавала парадак паводзін падсудных у зале суда. Тады і прапанавалі Каленіку пачаць палітычную дэманстрацыю. Цяпер, падтрымліваючы свайго баявога таварыша, яна на ўсю моц заспявала «Інтэрнацыянал». Астатнія падсудныя дружна падтрымалі яе. Знямелыя ад нечаканасці паліцэйскія разгублена лыпалі вачыма, не ведаючы, што рабіць. Потым ачомаліся і сталі біць вязняў прыкладамі. Білі па галовах, хапалі за каўняры і выцягвалі з памяшкання суда.

А на вуліцы ўжо сабраўся вялізны натоўп. Ён гудзеў, абураўся:

— Вылюдкі! Каты! Забойцы!

— Далоў урад фашыста Пілсудскага!

— Смерць катам! Няхай жывуць камуністы!

— Мы вас падтрымаем!

Натоўп грозна насоўваўся на паліцэйскіх. Магутныя мазолістыя кулакі падняліся над галовамі. Вось з натоўпу вырвалася некалькі дужых хлопцаў. Яны прыціснулі паліцэйскіх да карэтак.

— Хутчэй, хутчэй!— хрыпатым ад страху голасам крычаў афіцэр.

Спешна загнаўшы вязняў у карэткі, паліцэйскія ледзь вырваліся з натоўпу.

З Брэста Веру накіравалі зноў у беластоцкую турму.

Аднойчы, як звычайна, у камеры ішлі заняткі. Раптам пачуўся шум. Усе кінуліся да акна. Па турэмным двары цягнулі пяць дзяўчат. Твары новых вязняў цяжка было пазнаць, так яны былі скрываўлены. Каты папрацавалі старанна, выкруцілі сваім ахвярам рукі і ногі.

Убачыўшы ўсё гэта, Вера крыкнула з абурэннем:

— Таварышы, трэба пратэставаць!

Палітычныя вязні пачалі «рабан»: шумелі, білі кулакамі ў сцены, грукалі нагамі аб падлогу. Іх падтрымалі ў другіх камерах. Турма гнеўна гудзела, грымела, кіпела. Турэмшчыкі ўрываліся ў камеры, затыкалі вязням раты, а самых актыўных цягнулі ў карцэр.

Пасля такога кароткага, але магутнага пратэсту палітычныя зняволеныя ўсёй турмы аб'явілі галадоўку. Яны патрабавалі ад адміністрацыі турмы паляпшэння свайго становішча.

Калі закончылася галадоўка, зноў пачалася вучоба. На невялікім аркушы паперы Вера па памяці намалявала карту Еўропы і пачала весці курс геаграфіі. Руская мова, арыфметыка, палітграмата — штодзённа.

Дэфензіва тым часам не пакідала Веру Харужую ў спакоі. Вялося следства па справе «ста трыццаці трох», рыхтаваўся працэс над кіруючымі дзеячамі кампартыі Заходняй Беларусі.

Камера беластоцкай турмы, у якой сядзела Вера, знаходзілася на другім паверсе жаночага корпуса. Пад вокнамі — двор турмы. У цэнтры яго — круглая дарожка, якая вытаптана нагамі зняволеных у час прагулак. Яна ўтварыла круг, пасярэдзіне якога было зроблена нешта накшталт клумбы і расла мізэрная трава. Нават раслінам было няўтульна тут у акружэнні высокіх каменных сцен.

Калі выводзілі на прагулку зняволеных мужчын, яны бачылі ў адным з вокнаў жаночага корпуса то светлыя валасы Веры, то чорную галаву «Алены», як усе звалі Раману Вольф, то задумлівую, заўсёды спакойную Любу Ковенскую.

Часта, сустрэўшы позірк старога знаёмага, хударлявага маладога чалавека, які ў падполлі насіў клічку «Пётр», Вера радасна і прыветліва махала рукой. Яна ведала яго яшчэ да таго, як яны сустрэліся тут, у беластоцкай турме. Разам яны працавалі ў камсамольскай арганізацыі Мінска. Тады ён быў і для яе, і для ўсіх астатніх Мікалаем Арэхвай. А потым іх дарогі сышліся на зямлі Заходняй Беларусі — радзіме Пятра. Пра сапраўднае яго імя і прозвішча і пра мінулае знаёмства Вера павінна была забыць. Цяпер ён толькі Пётр, баявы таварыш, прыцягнуты да працэса «ста трыццаці трох».



Калі іх позіркі сустрэліся, Вера жэстамі паказала, каб Пётр сачыў за ёю. Праз некалькі хвілін, як толькі наглядчык адвярнуўся, з яе акна да ног Пятра ўпаў чорны камячок. Раздумваць некалі. Пётр зрабіў выгляд, што аступіўся і спатыкнуўся на адно калена. Тым часам ён падхапіў з зямлі выкінуты Верай «грыпс». Чорны камячок незаўважна пераляцеў у рукі таго, што ішоў ззаду. А ён у сваю чаргу гэтак жа спрытна перакінуў яго наступнаму, і так да таго часу, пакуль «грыпс» не апынуўся недзе ў сярэдзіне ланцужка, які безупынна рухаўся па кругу. Усё гэта было зроблена на працягу некалькіх секунд. Наглядчыкі нічога не заўважылі.

Пасля прагулкі зняволеныя мужчынскага корпуса разламалі кавалачак чорнага хлеба, у якім знаходзілася тонкая паперка. Дробнымі, мікраскапічнымі літарамі Вера пісала пра новыя дырэктывы, якія толькі што былі атрыманы з волі ад Цэнтральнага Камітэта кампартыі Заходняй Беларусі. ЦК адобрыў прапанаваную партыйным камітэтам турмы лінію паводзін зняволеных на працэсе «ста трыццаці трох».

Большасці арыштаваных, а таксама тым, якія яшчэ заставаліся на волі, але прыцягваліся да суда па справе «ста трыццаці трох», было прапанавана адмаўляцца ад прыналежнасці да партыі і камсамола і настойваць на сваёй невіноўнасці. Але арганізатары працэса, як гэта было відаць з абвінаваўчага заключэння, парашылі прыкласці ўсе намаганні, каб абвінаваціць партыю і камсамол. Для таго, каб даць фашыстам сакрушальны адпор, партыйны камітэт прапанаваў групе падпольшчыкаў выступіць на судзе з прамовамі ў абарону партыі, камсамола, прафсаюзаў і іншых народных арганізацый. Гэта азначала, што трэба было прызнаць сваю прыналежнасць да партыі, а адсюль і самыя цяжкія меры пакарання.

Сямі камуністам, у тым ліку і Веры, прадстаяла ўзяць на сябе асноўны ўдар фашысцкага суда, супрацьпаставіць буржуазным законам, парадкам, усёй узброенай да зубоў фашысцкай дыктатуры адзіную сваю зброю — смела, адкрыта сказаную праўду. Гэта зброя не абараняла самога падсуднага ад праследавання, але яна служыла надзейнай абаронай партыі ад паклёпаў яе ворагаў.

На працэсе павінны былі прысутнічаць не толькі падсудныя, але і некаторая публіка, журналісты. Тое, што будзе там сказана зняволенымі, рэхам разыдзецца па ўсёй краіне. Працэс «ста трыццаці трох» трэба было ператварыць у суд над фашысцкай дыктатурай Пілсудскага.

Турма напружана рыхтавалася да суда. Тыя, каму трэба было выступаць у абарону партыі і камсамола, думалі над зместам сваіх прамоў.

А працэс з дня на дзень адкладваўся. Пракуратура з дапамогай дэфензівы падбірала новыя абвінавачванні.

Нарэшце было аб'яўлена, што суд пачынаецца ў красавіку 1928 года. І вось настаў гэты дзень, 17 красавіка. Уся турма праводзіла падсудных песняй «Смело, товарищи, в ногу».

Пасля шматмесячнага зняволення Вера ўпершыню апынулася за варотамі турмы. Да памяшкання суда было ўсяго каля трох кіламетраў. Але яны здаліся вялікімі для людзей, якія згаладаліся па волі. Над галавой свяціла сонца, ззяла ярка-блакітнае неба. Далёка на даляглядзе чарнеў густы лес. Там, напэўна, цяпер на ўсе галасы спявалі вольныя птушкі. На абочынах шашы прабівалася маладая зялёная трава. Ад лесу, які абступаў шашу, патыхала хвояй.

Картэж ад турмы да памяшкання суда рухаўся павольна, ціха, сурова. Спераду ішла машына з афіцэрамі паліцыі; заканчвала калону грузавая машына з паліцэйскімі, якія былі ўзброены кулямётам, а па баках амаль упрытык адзін да аднаго труханлі конныя паліцэйскія з карабінамі.

Калі Вера ўбачыла прастор, які адкрыўся перад ёю, у яе ад захаплення заняло дух. Толькі песня здольна выказаць тое, што перажывае чалавек у хвіліны такога вялікага душэўнага ўздыму.

— «Вихри враждебные веют над нами»...

Сяброўкі падхапілі песню. Паліцэйскія, што стаялі каля самых дзвярэй карэткі, закрычалі:

— Маўчаць! Спыніць песню! Забараняем!

Але іх крыкі патанулі ў магутных словах песні, якая лілася з глыбіні душы. Вось яна перакінулася ў другія карэткі, і ўвесь картэж ператварыўся ў гордае шэсце рэвалюцыянераў, смелых і непакораных, у шэсце тых, хто не схіляе галаву перад катамі.

У прыгарадзе Беластока за канвоем сабраўся вялікі натоўп, які спачувальна махаў рукамі вязням.

Суд пачаўся звычайнай нуднай працэдурай. Дні тры сакратар аднастайна бубніў сабе пад нос абвінаваўчае заключэнне, якое заняло важкі том машынапісу. Змест гэтага бяздарнага твора фашысцкіх юрыстаў зняволеныя ведалі даўно, таму сакратара ніхто не слухаў. Ды і самі суддзі толькі для формы рабілі выгляд, што слухаюць.

Пачаўся допыт падсудных.

— Што абвінавачваемы скажа ў сваё апраўданне? — пытае суддзя ў кожнага.

Калі чарга дайшла да Веры, яна гордым і рашучым крокам падышла да месца, з якога даюцца паказанні, і заявіла, што абвінавачванні, прад'яўленыя ёй, як сакратару ЦК камсамола Заходняй Беларусі, хлуслівыя. Камсамол — не шпіёнская арганізацыя ў польскай арміі. Камсамол — гэта палітычная арганізацыя рабоча-сялянскай моладзі. Яна выхоўвае моладзь і арганізуе яе на барацьбу за эканамічныя, палітычныя і нацыянальныя правы...

— Абвінавачваемая, я пазбаўляю вас слова...

Пратэстуючы, Вера села на сваё месца. Атмасфера ў судзе асабліва накалілася, калі пачалі дапытваць сведак. Вось у залу ўвайшоў высокі, здаровы, яшчэ малады чалавек. Не падымаючы вачэй, ён стаяў перад судом і, штохвілінна збіваючыся, пачаў паклёпнічаць на партыю. З лавак падсудных паляцелі злыя, рэзкія воклічы:

— Правакатар! Юда! Колькі табе заплацілі?

Зала была ўзбуджана. То з адной, то з другой лаўкі ляцелі з'едлівыя рэплікі. Кагосьці па загаду суддзі паліцэйскія пацягнулі вон. Камусьці суддзя пагразіў судзіць завочна. Але зала бурліла абурэннем, і здрадніка Гурскага вывелі за дзверы.

Яшчэ большы пратэст выклікаў допыт сведак абвінавачвання — афіцэраў дэфензівы Казлоўскага і Снарскага. Калі яны з'явіліся, абураныя падсудныя ўскочылі і грозна закрычалі:

— Вон адсюль катаў!

— Забойцы!

— Вашы рукі ў крыві! Прэч адсюль, гадзюкі!

Суддзя крычаў, тупаў нагамі, пагражаў. Калі ён убачыў, што не зможа суняць разгневаных арыштаваных, загадаў паліцыі сілай вывесці ўсіх з залы. Пасяджэнне было спынена.



Ішлі дні, тыдні, а працэс працягваўся, раз-пораз перапыняючыся з-за пратэсту падсудных. Цяжка было вызначыць, хто тут мацнейшы — суддзі, на чыім баку ўзброеная сіла, ці падсудныя, у якіх яшчэ больш магутная сіла — рэвалюцыйная з'яднанасць.

Нарэшце, настаў заключны момант — апошняе слова падсудных.

— Што абвінавачваемы просіць? — наўмысна падкрэсліваў суддзя слова «просіць».

Адзін за адным падымаліся падсудныя і коратка заяўлялі:

— Не вінаваты, нічога не прашу.

— Нічога не прашу.

— Ад апошняга слова адмаўляюся.

Затым паклікалі Раману Вольф.

— Што абвінавачваемая просіць?

— Я нічога не прашу,— рашуча заявіла яна.— Я патрабую спыніць паклёпы на камуністычную партыю, адзіную абаронцу працоўнага народа!

— Я пазбаўляю вас слова! — закрычаў суддзя.

— Не схаваеце праўды!.. Увесь свет цяпер бачыць, што камуністы — не тэрарысты і дыверсанты, а палітычная партыя рабочых і сялян.

Паліцэйскія ўжо набліжаліся да яе, каб выцягнуць з залы, а яна з яшчэ большай рашучасцю кідала палымяныя словы ў залу:

— Наша партыя народжана самім народам, і вам не знішчыць яе, як не знішчыць народ!

Потым павінен быў гаварыць Мікалай Арэхва — Пётр. Настала насцярожаная цішыня. Падсудны пачаў расказваць, як дэфензіва засылае ў кампартыю правакатараў, і каб адгарадзіць сябе ад іх, камуністы тады-сяды ў парадку самаабароны вымушаны знішчаць здраднікаў. Так, у прыватнасці быў знішчаны здраднік Гурын.

Суддзя спыніў Мікалая Арэхву і пагразіў вывесці з залы. Але падсудны працягваў выкладаць палітыку партыі па нацыянальнаму і сялянскаму пытаннях.

— Вывесці падсуднага!— загадаў суддзя.

Паліцэйскія схапілі Арэхву пад рукі і пацягнулі. Жанчыны па камандзе Веры Харужай у праходзе паміж лаўкамі самкнулі рады і стварылі пробку. Паліцэйскія штурхалі Арэхву наперад, а Вера, Люба і другія жанчыны ўчапіліся за яго і цягнулі да сябе з крыкамі:

— Не пусцім! Рукі прэч, паліцэйскія сабакі!

— Прэч!

Паліцэйскія ўсё ж пацягнулі яго з залы. Тады Вера ўскочыла на лаўку і крыкнула:

— Таварышы, мы павінны пратэставаць супраць гвалту! Прапаную ўсім выйсці адсюль.

Такога ніколі не чуў акруговы суд! Паліцэйскія наставілі штыкі, заняўшы пазіцыі каля вокан. Перапалоханыя суддзя і пракурор перашэптваліся. Пасля хвіліннай разгубленасці, калі ўсе падсудныя ўжо ўсталі са сваіх месц, суддзя аб'явіў:

— Хто згодзен з крыкунамі, няхай выйдзе. Астатнія астануцца.

Гэты хітры манёўр быў разлічаны на тое, каб адарваць кіруючае ядро зняволеных ад асноўнай масы, ізаляваць яго, а сам гэты факт скарыстаць для прапаганды: маўляў, камуністы не маюць падтрымкі ў народзе.

Але манёўр не ўдаўся. З залы суда пайшлі ўсе, нават тыя, хто спачатку быў вагаўся. Паліцэйскія ішлі вакол вялізнага натоўпу, і не зразумець было, хто каго вядзе: арыштаваныя іх ці яны арыштаваных. Ва ўсякім выпадку, арыштаваныя ішлі па сваёй волі.

Працэдура заключнага слова закончылася, і настаў доўгі перапынак у судовых пасяджэннях. Падсудныя сядзелі ў турме. Амаль кожны ведаў, што яго чакае. Толькі нямногім, якія ўжо адседзелі па паўтара-два гады, прадстаяла ў хуткім часе выйсці на волю. Большасць разлічвала на доўгае і суровае турэмнае зняволенне.

У пачатку чэрвеня ў апошні раз усіх павезлі ў памяшканне суда. Чыталі прыгавор.

Вера Харужая, Рамана Вольф атрымалі па восем год строгага турэмнага зняволення, Люба Ковенская — сем год. Такі ж суровы прыгавор быў вынесены і іншым рэвалюцыянерам.

Слухалі яго стоячы, у мёртвай цішыні.

Залу ахоўваў падвоены канвой.

Прачытана апошняе прозвішча... і цішыню прарэзаў вокліч:

— Далоў фашысцкі ўрад!

Следам грымнуў «Інтэрнацыянал». Пелі па-польску. Паліцэйскія ўрываліся ў рады, хапалі запявал, закрывалі ім раты, білі прыкладамі. А баявая песня грымела і грымела, прыглушаная ў адным месцы і падхопленая ў другім. Пачалася суцэльная валтузня. Трашчалі лаўкі.

Працэс «ста трыццаці трох» закончыўся вялікай маральнай перамогай камуністаў. Увесь свет ведаў аб іх мужных паводзінах на судзе, аб іх стойкасці і самаадданасці.

Вера рыхтавалася да разлукі з сваімі сяброўкамі. Хутка іх павінны развезці па розных турмах. Гэта і засмучала іх, і радавала. Цяжка было расставацца з таварышамі, з якімі так многа зроблена на волі і вытрымана вялікая барацьба супраць турэмшчыкаў і суддзяў. Але за тры гады абрыдла камера, хацелася памяняць месца.

Вучоба на час была закінута. Чыталі толькі мастацкую літаратуру, якую клапатліва перадавалі таварышы з волі. Ды яшчэ пісьмы. Вера не траціла ні адной магчымасці, каб напісаць усім-усім, каго ведала, каму магла даверыць свае думкі.

І вось выклікалі з рэчамі ў канцылярыю. Кароткі агляд і афармленне дакументаў. Ззаду бразнулі дзверы. Вера агледзелася. Прывялі Мікалая Арэхву. Яна рванулася насустрач яму, але паліцэйскі, які стаяў побач, не пусціў.

Да яго падышоў паліцэйскі з наручнымі кандаламі:

— Рукі!

Заклаўшы рукі за спіну, Мікалай Арэхва рэзка адказаў:

— Я пратэстую! Калі вы пасмееце надзець мне наручнікі сілай, я падыму скандал на вуліцы!

— Я таксама буду скандаліць на вуліцы, калі вы гэта зробіце! — падтрымала яго Вера.— Мы не крымінальныя злачынцы, каб трымаць нас у наручніках!

Паліцэйскія сумеліся. Потым адзін з іх, старэйшы, сказаў:

— Добра, наручнікі надзяваць не будзем. Але пры малейшай спробе бегчы, буду страляць без папярэджання...

Веру і Мікалая пасадзілі ў карэтку і павезлі на вакзал. Па дарозе яна запытала:

— У цябе ёсць прадукты і грошы?

Грошай у яго не было, а прадуктаў на дарогу не давалі.

— Давядзецца некаторы час быць на харчах святога Антонія, — пажартаваў ён.

На вакзале іх разлучылі. Веру пасадзілі ў жаночы арыштанцкі пакой, а Мікалая — у мужчынскі. Праз некаторы час дзяжурны паліцэйскі прынёс Мікалаю пакет з прадуктамі...





— Пані з жаночага арыштанцкага пакоя перадае,— паведаміў ён.

Якімі словамі аддзякаваць ёй за апошні кавалак хлеба, які яна ў цяжкую хвіліну падзяліла з ім? Ды і сказаць ёй гэта немагчыма. Яе павезлі на Памор'е, у жаночую турму Фардон, а яго — у Варшаву, у турму Макатоў.

Здаецца, на самым краі свету прытулілася захалуснае мястэчка Фардон. Цёмныя вуліцы з вострымі чарапічнымі дахамі дамоў, такія ж сонныя, набожныя абывацелі, вакол цішыня. Турма ды касцёл вылучаюцца на агульным шэрым фоне. Ціхая празрыстая рака павольна нясе свае воды недалёка ад турмы. Колькі сплыве вады ў халодную Балтыку, пакуль Вера будзе сядзець у фардонскай турме.

Пасадзілі ў адзіночку. Гэта самае цяжкае пакаранне, якое можна прыдумаць для чалавека з такім характарам, як у Веры. Мёртвая цішыня. Сядзі і думай. Думай і сядзі. Толькі ва ўстаноўлены час у акенца на дзвярах зазірае наглядчыца, каб перадаць баланду. Самае светлае і радаснае імгненне — дваццацімінутная прагулка па турэмным двары ў кругу такіх жа, як яна, вязняў. З прагнасцю, з радасцю ўглядаецца яна ў твары сваіх сяброўак па зняволенню.

Ахова не дазваляе размаўляць. Хадзі ды хадзі па кругу, нібы конь на таку за прыводам малатарні, і нікуды не зварочвай з пратаптанай дарожкі.

Але яны ўсё роўна размаўлялі. Паціху перадавалі адзін аднаму турэмныя навіны, «грыпсы». Тут сядзелі людзі, якія ўжо мелі стаж падпольнай работы і прайшлі другія турмы. Вопыт памагаў ім і ў такіх умовах устанаўліваць кантакт паміж сабой, сувязь з воляй.

Да чаго ж кароткія гэтыя дваццаць мінут прагулкі! З якім нецярпеннем чакаюць іх зняволеныя, а яны пралятаюць у адно імгненне, не паспееш ні надыхацца свежым паветрам, ні наглядзецца на людзей.

Турма знаходзілася на строгім рэжыме. Зняволеным дазвалялася адно спатканне ў два месяцы, адзін ліст у тыдзень. Здавалася, што жыццё спыніла свой бег.

Калі б Вера не ўмела трымаць сябе ў руках, яна захварэла б ад нуды. Але яе жалезная воля зрабіла і гэты рэжым ніштаватым. Яна прыстасавалася да яго.

Прачынаючыся, кожны раз радасна ўсміхалася сабе: вось і яшчэ адзін дзень пражыты, яшчэ на адзін дзень праблізілася воля. Займалася зарадкай, мылася і садзілася за кнігі. Многа ёй трэба яшчэ вучыцца. Колькі цудоўных кніг польскай, рускай і беларускай літаратуры яна яшчэ не прачытала! Гісторыя, эканоміка — ды ці мала яшчэ чаго. І веданне мовы трэба ўдасканальваць, асабліва польскай. На чарзе філасофія. Некалі сумаваць, трэба вучыцца. Выйдзеш на волю, тады не будзе часу для сістэматычнай вучобы.

На прагулцы Веры сказалі, што адна дзяўчына сядзіць апошнія дні зняволення. Скора яна выйдзе за вароты турмы. Перад вачыма Веры паўстаў родны Мінск, баявыя слаўныя камсамольцы, і яе нястрымна пацягнула напісаць ім. Пасля прагулкі разрэзала тонкую мяккую папяросную паперу на вузкія палоскі і, добра завастрыўшы аловак, села пісаць. Маленькія, але выразныя літаркі роўнымі радамі кладліся на паперу.

«Дарагія, родныя таварышы, любімыя браты мае!

З далёкага кутка фашысцкай Польшчы праз закрытае кратамі акенца катаржнай турмы палымяна вітаю вас у дзень радаснага свята — камсамольскай гадавіны».

Да Міжнароднага юнацкага дня яшчэ не скора, але пакуль дзяўчына выйдзе на волю, пакуль яна кружнымі шляхамі перашле Верын ліст камсамольцам Мінска, пройдзе нямала часу. І якраз гэта будзе пярэдадзень свята моладзі, самага яркага свята ў жыцці Веры.

«Пяць доўгіх год ужо аддзяляюць мяне ад вас. Але гэты дзень не згубіўся сярод другіх дат...

О, не! Што ні год,— усё роўна на волі ці ў турме,— у мяне ў гэты дзень было асаблівае свята.

Таварышы мае родныя, мілыя, як сказаць вам, што я адчуваю, што перажываю цяпер, калі пішу вам, і што буду перажываць у дзень гадавіны Саюза?!

Сяджу я ў сваёй адзіночцы, мне свеціць мігатлівая свечка, а вакол мяне сцены, зноў і зноў сцены, цішыня і ноч...

Пішу вам і грудзі разрываюцца ад болю бязмернага, ад вялікай радасці. З цяжкасцю я стрымліваю слёзы, а далёкія, незабыўныя вобразы адзін за адным праходзяць перад вачыма: камсамольская ячэйка, «Азбука камунізма», першыя гурткі, вучоба, магутны рост.

Камсамол, камсамол! Не пяць, а пятнаццаць, пяцьдзесят год не здольны вырваць з маёй памяці гэтыя ўспаміны, не здольны прымусіць мяне забыць таго, што камсамол зрабіў мяне бальшавічкай, выхаваў, загартаваў, навучыў не толькі змагацца, але і любіць рэвалюцыйную барацьбу больш за ўсё, больш за жыццё.

Таму дзень гадавіны — для мяне вялікае і радаснае свята. Усёй душой хачу я, каб мой голас прывітання і вялікай любві да вас прарваўся праз сцены і краты астрога, праз сотні вёрст, якія аддзяляюць мяне ад вас, праз граніцы, каб даляцець да вас і сказаць, што ніякія турмы, ніякія граніцы не могуць разлучыць камсамольцаў.

Прыміце ж, дарагія таварышы, маё прывітанне і ведайце, што і ў ланцугах фашызма я застаюся камсамолкай. Ды ці трэба гаварыць вам, што фашысцкі прыгавор, — многа год цяжкага зняволення, — я прыняла з горда паднятай галавой і з «Інтэрнацыяналам» на вуснах, што ўсе прыгаворы, пабоі, здзекі і прыгнёт не толькі не могуць зламаць мяне, але і з'яўляюцца новай, магутнай крыніцай рэвалюцыйнай энергіі. Ці трэба казаць вам, што гады зняволення — гэта гады нястомнай работы над выхаваннем, умацаваннем і падрыхтоўкай дзесяткаў членаў партыі і камсамола да новых баёў, да барацьбы на ўсё жыццё? Ці трэба запэўняць вас, што я адседжу свой тэрмін, ні на хвіліну не губляючы бадзёрасці, не забываючы, што я выхаванка Ленінскага камсамола, што выйду я з турмы на цэлую галаву вышэй, з акіянам энергіі, бадзёрасці, любві да рэвалюцыйнай барацьбы ў грудзях, што з усім гэтым багажом і новай, у сто разоў мацнейшай, энергіяй рынуся ў новую барацьбу, у барацьбу да перамогі.

Таварышы мае родныя! Якое вялікае шчасце — быць камсамольцам, быць часцінкай вялікага калектыву-пераможцы!



У гэты дзень замест турэмнай адзіночнай камеры, я буду бачыць вялікую слаўную камсамолію, шырокія вуліцы, да краёў запоўненыя сталёвымі шарэнгамі маладых дэманстрантаў, замест цішыні буду слухаць грамавыя раскаты «Маладой гвардыі», буду не адна, а сярод тысяч, дзесяткаў тысяч, нічым не аддзеленая, не адгароджаная, буду з вамі, сярод вас...

Ваша заўсёды камсамолка».

На наступнай прагулцы гэты ліст, акуратна складзены і мізэрны на выгляд, Вера перадала дзяўчыне, якая рыхтавалася выйсці на волю.

У пачатку лістапада 1928 года ў камеру зайшла старэйшая наглядчыца.

— Харужая, збірайце свае рэчы.

Ад нечаканасці закалацілася сэрца. «Куды?— мільганула пытанне. — Няўжо ў другую турму?»

Пытацца ў такіх выпадках не дазволена, ды і дарэмна — усё роўна не адкажуць. Моўчкі сабрала сваю невялікую гаспадарку.

— Я гатова.

Выйшлі з камеры. Накіраваліся не ўніз, у канцылярыю, а ўздоўж калідора, да агульных камер.

— Тут будзеце знаходзіцца. Папярэджваю, калі нарушыце парадак, то зноў пасаджу ў адзіночку. Чуеце?

Вера прагна прыглядалася да твараў сваіх новых сяброўак па зняволенню. Чатыры чалавекі — жанчыны. Шэрыя, хваравітыя твары. Значыць, сядзяць даўно. Але вочы ва ўсіх бадзёрыя, вясёлыя.

Праўда, калектыў невялікі — пяць чалавек, але з імі ўжо можна і пагутарыць, і песню ціхенька праспяваць, і радасцямі падзяліцца. Вядома, для вольнага чалавека турэмныя радасці здаліся б мізэрнымі, але ўсё залежыць ад ўмоў, месца і часу.

Аднойчы, глянуўшы ў акно, Вера ўбачыла, як з канцылярыі праз парог пераступіла дзяўчына. Хуткім позіркам прабегла па вокнах. Убачыўшы Веру, ірванулася да яе...

Прыгледзеўшыся, Вера пазнала Марусю Давідовіч, тую самую Марусю, з якой сябравала некалі ў Бабруйску і праводзіла цудоўныя вечары ў Мінску... І яе прывялі сюды шляхі-дарогі барацьбіта-рэвалюцыянера.

Вера зусім не здзівілася. Хіба магла Маруся зрабіць інакш? Яны ж прайшлі адну школу жыцця, школу Ленінскага камсамола.

У радасці Вера замахала рукамі. Маруся таксама падняла рукі, быццам бы збіраючыся ўзляцець да акна. Але наглядчыца груба пагнала яе ў турэмны корпус.

З вялікай нецярплівасцю чакала Вера наступнай прагулкі. Калі іх выводзілі, адчынілася і суседняя камера. З яе выйшла Маруся. Вера кінулася да сяброўкі на шыю і прагна цалавала яе, заглядваючы ў вочы:

— Ты здаровая? Адчуваеш сябе добра?

Спачатку не было слоў для размовы. Радасць камяком сядзела ў горле. Потым пасыпаліся пытанні. Безліч пытанняў. Хацелася адразу даведацца пра ўсё. І раптам нечаканы, недарэчны вокліч:

— У камеры!

І зноў на цэлыя суткі ў камеры. Пяць крокаў уперад, пяць крокаў назад.

Турэмны партыйны камітэт дзейнічаў. Вера была адным з найбольш ініцыятыўных яго членаў. Напярэдадні свята Кастрычніцкай

рэвалюцыі было вырашана 7-га лістапада зрабіць у турме дэманстрацыю: усім вязням у гэты дзень прышпіліць чырвоныя стужкі і спяваць «Інтэрнацыянал».

Дзень 7-га лістапада выдаўся пахмурны. У камерах — змрок. Але на тварах зняволеных — радасць. Чырвоныя стужкі кідалі лёгкі водбліск на запалыя, шэраватыя шчокі, згладжвалі стомленасць.

Вочы ва ўсіх гарэлі яркім агнём. Ні пахмурнае надвор'е, ні пакаранні, якія чакалі іх, не маглі пагасіць у грудзях урачыстасці.

У гэты дзень правяраць прагулку прыйшоў сам начальнік турмы Рынкевіч. Папярэдне ён абышоў камеры і, убачыўшы чырвоныя стужкі, злосна крычаў:

— Не пушчу на прагулку!

А следам яму з усіх камер неслася грозная магутная песня «Інтэрнацыянал». Рынкевіч топаў нагамі, махаў кулакамі:

— Не дазваляю! Гэта беспарадак у турме! На вуліцы ж пачуюць, у горадзе чутна!

Гарадок Фардон, скінуўшы з сябе дрымоту, прыслухоўваўся да песень зняволеных.

З турмы Вронкі дайшла вестка: пратэстуючы супраць новага турэмнага рэжыму, які ўрэзаў і без таго маленькія правы палітычных зняволеных, усе вязні аб'явілі галодную забастоўку. На прагулцы Вера прапанавала:

— Падтрымаем таварышаў...

Згадзіліся адзінадушна.

Да пахлёбкі ў той дзень ніхто не дакрануўся. Тады адміністрацыя турмы паспрабавала карміць вязняў сілай. Зноў пачаўся «рабан»: зняволеныя паднялі шум, білі табурэткамі ў дзверы і сцены, стукалі нагамі. Ахова кінулася ў камеры. Завязалася барацьба.

Ішлі месяцы, гады. Сувязь зняволеных з партыяй, з воляй не спынялася. Вера пасылала родным і знаёмым лісты.

Жыццё савецкай краіны, хоць і са спазненнем, станавілася вядомым і ў гэтым захалусным кутку Польшчы, за высокімі каменнымі сценамі і тоўстымі кратамі турмы. Весткі хвалявалі вязняў. Нават з буржуазнай прэсы скрозь радкі вопытным вокам Вера лавіла тое, што фашысты хавалі ад польскага народа.

«Тут жывеш двума думкамі, — пісала Вера сваёй сяброўцы. — Папершае, як там на волі, і, па-другое, як лепш скарыстаць гэты час. Ці можаш ты ўявіць сабе, што нам не хапае сутак? Амаль заўсёды, калі трэба лажыцца спаць, думаеш, шкадуючы: «Ужо дню канец. А трэба было яшчэ тое і сёе зрабіць».

У канцы 1929 года ў камеру для Веры прынеслі пасылку.

— Харужая, атрымлівай, — злосна кінула наглядчыца невялікі скрутак.

Беражліва, асцярожна раскрылі пакунак. У ім ляжала белая кофтачка, вышытая беларускім узорам. Фарбы нітак, здавалася, гарэлі рознакаляровым агнём. Асабліва яркі быў чырвоны колер.

Дзяўчаты з захапленнем глядзелі то на кофтачку, то на Веру. А яна стаяла бледная, усхваляваная і не ведала, што ёй рабіць. Потым абнімала сваіх сяброўак і горача цалавала іх, быццам бы яны паднеслі ёй такі нечаканы падарунак.

Праз дзень ужо іншым, падпольным шляхам Вера атрымала ліст ад калгасніц Смалявіцкага раёна. Далёкія, незнаёмыя сельскія жанчыны дзяліліся з польскай палітзняволенай Верай Харужай сваімі радасцямі. Яны расказвалі аб тым, што ў калгасе знайшлі доўгачаканае шчасце, што працуюць дружна і старанна, таму і ўраджай вырасцілі добры. Капусту іх хоць на выстаўку пасылай — па 24 фунты качан. А вечарамі дзяўчаты ходзяць у школу. Яны пасылаюць слаўнай камсамолцы Веры Харужай свой сціплы падарунак — кофтачку і жадаюць ёй цвёрдасці духу, бясстрашша і добрага здароўя.



Шмат разоў чытала і перачытвала Вера гэты ліст, завучыла яго напамяць. Столькі было ў ім цеплыні, высакароднага пачуцця, аптымізму...

Турэмны рэжым станавіўся ўсё больш жорсткі. Зняволеныя часта пачыналі «рабан» і траплялі за гэта ў карцэр. Заўсёды першай цягнулі ў карцэр Веру Харужую. Яна звычайна супраціўлялася і крычала на ўсю турму. Тады вязні мацней стукалі ў дзверы, у сцены, і турма дрыжала ад грукату.

У гэтай безупыннай бітве не вытрымала здароўе Веры. Яна захварэла на сухоты.

Смяртэльная небяспека насоўвалася на яе. Не хацелася гэтаму верыць... А рэзкі кашаль раздзіраў яе грудзі, і часта яна прачыналася ў халодным, ліпкім поце.

Таварышы паведамілі на волю: жыццё Веры Харужай у сур'ёзнай небяспецы. Сама яна не ведала, што турэмны партыйны камітэт клапоціцца пра яе. Аднойчы ў камеру прыйшоў начальнік турмы з наглядчыцай і загадаў:

— Харужая, з рэчамі... хутка!

Таропка склаўшы свой скарб і развітаўшыся з сяброўкамі, Вера пайшла ў канцылярыю. Там афармілі дакументы, вывелі за браму турмы і ў суправаджэнні строгай аховы павезлі да далёкай станцыі.

Зноў за спіной заскрыгаталі дзверы вагона для арыштаваных. Ехалі доўга. Ноччу прачыналася ад балючага кашлю. Чуўся стук колаў, размова вартавых з кандуктарамі, але нельга было зразумець, куды вязуць.

Вось і Варшава са стракатымі крыклівымі агнямі. Тут доўга не затрымалі — перасадзілі ў другі такі ж вагон і павезлі далей на ўсход.

Толькі ў Беластоку спыніліся. Прывялі ў нейкае памяшканне, дзе пад узмоцненай аховай стаялі, сядзелі і хадзілі дзесяткі знаёмых і незнаёмых людзей. Убачыўшы яе, насустрач кінуліся тыя, пра каго яна даўно ўжо не мела вестак. Абдымкі, пацалункі, прывітанні...

— З чым вы мяне віншуеце? — недаўменна спытала Вера.

— Нас перадаюць у Савецкі Саюз у абмен на злоўленых там польскіх шпіёнаў. Савецкі ўрад паклапаціўся аб вызваленні...

Вера ніколі не плакала ў турме. А тут не стрымалася. Слёзы радасці заслалі вочы:

— Мілыя вы мае, дарагія таварышы! Якое шчасце!

Усю дарогу ад Беластока да пагранічнай станцыі Коласава ехалі, згараючы ад нецярплівасці. Ні на хвіліну не заплюшчвалі вачэй. Колькі было перагаворана, колькі чаго ўспомнілі...

Бледны, хваравіты твар Веры пакрыўся вялікімі чырвонымі плямамі. Нос завастрыўся, запалыя шэрыя вочы блішчалі. Каля станцыі Стаўбцы не вытрымала, разгарнула запаветны пакуначак, дастала вышытую беларускім узорам кофтачку і з гонарам паказала таварышам:

— Вось калі абнаўлю падарунак беларускіх калгасніц!

Налюбаваўшыся, адзела кофтачку.

— Ды ты ў ёй зусім іншая, Вера!

Вось і Коласава. Фармальнасці абмену палітычных зняволеных

прайшлі, нібы ў сне. Уся калона з сарака чалавек накіравалася да савецкай граніцы. Нібы праз туман, глядзела Вера на пагранічніка, які стаяў перад ёю. Адзін з былых вязняў выхапіў з рукава паліто шырокую чырвоную стужку і высока падняў над галавой. Кумач затрапятаў на паветры. Вера звонкім голасам заспявала баявую песню польскіх вязняў «Чырвоны штандар». Усе спявалі ў самазабыцці, горда, з пачуццём поўнай перамогі над ворагамі. А тыя засталіся ззаду і ў бяссільнай злосці глядзелі ўслед калоне рэвалюцыянераў.

Ужо на першых метрах савецкай зямлі Вера і яе спадарожнікі трапілі ў гарачыя абдымкі сяброў, якія сустракалі на граніцы. Воклічы радасці, шматлікія пытанні, прывітанні зліліся ў агульны гоман.

Ішла восень 1932 года. Лісце на таполях у Негарэлым пажоўкла. Вецер зрываў яго і нёс на ўсход. Туды ж, на ўсход, спяшаўся і спецыяльны поезд, у якім пасля кароткага адпачынку ехала Вера са сваімі сябрамі.

Не даязджаючы да Мінска, яна выйшла ў тамбур і скрозь імглу асенняй ночы сілілася разгледзець вольную беларускую зямлю. Нарэшце ў далечыні замігалі агні вялікага горада. Як зачараваная, узіралася яна ў цемру, учапіўшыся ў поручні і нахіліўшыся далёка за дзверы вагона.



— Асцярожна, калі ласка... — прасіў праваднік.

— Нічога, цэлая буду... Цяпер ужо напэўна цэлая буду!

Набліжалася поўнач. Уявіўся родны, доўгачаканы Мінск, ахоплены салодкім сном пасля напружанага працоўнага дня. Думалася, што пойдзе яна зараз па ціхіх прыветных вуліцах і толькі рэдкія прахожыя трапяцца ёй насустрач.

З цемры вынырнуў вакзал. Ён зіхацеў агнямі. Шматтысячны натоўп, падняўшы факелы над галавой, рушыў насустрач поезду. А на плошчы за вакзалам відаць былі яшчэ тысячы людзей. На самым пероне можна ўжо было адрозніць твары юнакоў і дзяўчат. Яны ўбачылі Веру, і адразу тысячы рук пацягнуліся да яе.

— Вера! Вера! — грымела над перонам.

Ёй не далі ступіць на зямлю. Дзесяткі маладых, дужых рук падхапілі яе і панеслі над людскім патокам на прывакзальную плошчу. Натоўп расступаўся, каб прапусціць тых, хто нёс, і новыя рукі цягнуліся да яе, віталі, падтрымлівалі.

А яна, задыхаючыся ад захаплення, ад шчасця, ад радасці, гаварыла:

— Мілая, родная мая камсамолія! Сёння я самая шчаслівая на свеце!



* * *

З таго памятнага дня пачалася новая паласа ў жыцці Веры Харужай. Працавала яна спачатку рэферэнтам, потым рэдактарам у Камінтэрне. А калі на поўдні краіны, у голым, суровым стэпе каля возера Балхаш пачалося будаўніцтва буйнейшага ў Савецкім Саюзе медзеплавільнага камбіната, рамантыка працоўных будняў пацягнула яе ў гэты пустэльны, неабжыты край. І там гарачае слова прапагандыста было даражэй за самую дарагую ў гэтых месцах прэсную ваду.

Наступіў 1939 год. Ратуючы працоўных Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ад фашызма, савецкі народ працягнуў ім руку братняй дапамогі. Дзе было ўседзець у далёкай Сярэдняй Азіі, калі такія справы тварыліся ў Заходняй Беларусі!

* * *

І вось Вера зноў апынулася сярод дарагіх ёй людзей — уз'яднаных са сваімі братамі ў адзінай беларускай савецкай дзяржаве. У заходніх раёнах яна зноў-такі лічыла сябе шчаслівай. Прыйшло і асабістае шчасце: нарэшце ўладкавалася сямейнае жыццё. Яе сябрам стаў мужны, валявы, добры чалавек з цвёрдым характарам, з чулым, спагадлівым сэрцам. Толькі цяпер, калі Вера стаяла ўжо на парозе свайго саракагоддзя, яна пазнала паўнату жыцця, якое захліснула яе. Зноў здавалася, што за плячыма магутныя крылы, што сілы нарастаюць і нарастаюць. Увесь дзень яна — сярод людзей, у радаснай, прыемнай мітусні будняў. Пасля работы незвычайна ласкавая дачушка Аня абхоплівае яе за шыю, цалуе, лашчыцца, пабач стаіць ён, муж, таксама ласкавы, і любуецца на іх цёплым позіркам карых вачэй. А то возьме Аню на рукі, абніме Веру і запытае:

— Прагуляемся?

Хто адмовіцца ад такой уцехі? Ісці па ўтульнаму, чароўнаму Пінску, які тануў у зелені, і адчуваць сваім плячом цвёрдае плячо сябра, бачыць шчабятуху-дачку на яго дужых руках. Ці думала некалі падпольшчыца Вера, спешна праходзячы па Пінску, што яна пазнае не толькі радасць барацьбы, але і сямейнае шчасце.

Потым прыехала бабуля і павезла Аню да сябе. Яны засталіся ўдвох. Вера заўсёды адчувала, што дома не хапае маленькага чалавечка. Сяргей супакойваў:

— Не сумуй. Мне таксама хочацца бачыць яе, але трэба крыху пачакаць...

Аню ў хуткім часе павінны былі прывезці, аднак здарылася непрадбачанае.

Вайна!..

У небе на золку кружыліся варожыя самалёты...

Сяргей загадваў ваенным аддзелам гаркома. Як толькі ён пачуў гэтую страшную вестку, ні хвіліны не затрымліваючыся, накіраваўся ў абком партыі. Туды ж пайшла



і Вера. Яны сядзелі ў прыёмнай сакратара абкома і чакалі распараджэнняў. У кабінеце сакратара раіліся члены бюро.

«Як цяпер будзе?— думала Вера.— Адно ясна: што б ні здарылася, я буду з Сяргеем, разам з ім, як таварыш па зброі, як баец».

Толькі вось перашкода — яна ўжо на шостым месяцы цяжарнасці. Ці дазволяць ёй? А калі не дазволяць, яна сама стане, без дазволу! Гэта яе абавязак камуніста. Сэрца інакш не можа! У яе за плячыма багатае жыццё, вялікі вопыт, які спатрэбіцца ў цяжкі для радзімы час.

Дзверы адчыніліся, і ў прыёмную зайшоў чырванашчокі чалавек сярэдняга росту. Белаватыя, выцвілыя на сонцы бровы сурова ссунуты, шэрыя вочы дапытліва агледзелі прысутных. Паклаў плашч на стул, моўчкі пацiснуў рукі знаёмым і сеў побач з Верай.

— Ну, што думае рабіць стары партызан? — звярнулася яна да белабровага.

— Іду вось да сакратара, хачу прапанаваць свае паслугі. Трэба ўзбройваць людзей. Фашысты напалі на нас нечакана. Мы жывём недалёка ад граніцы. Магчыма, што вораг з'явіцца і тут. Трэба рыхтавацца да гэтага.

У Веры загарэліся вочы:

— Васіль Захаравіч, вазьміце і нас у свой атрад. Ручаюся, не падвядзем, шкадаваць не будзеце.

— А я ў гэтым і не сумняваюся, Вера Захараўна. Вось калі дазволяць стварыць атрад, вы будзеце першымі ў спісу.

Вера і Сяргей моўчкі, з удзячнасцю пацiснулі яму руку. Васіль Захаравіч Корж накіраваўся да сакратара абкома.

— Як добра, што мы сустрэлі яго... — выказала Вера свае думкі ўголас.

Яна даўно ведала Каржа, які партызаніў яшчэ ў пачатку 20-х гадоў у сваім родным краі, на Піншчыне. Польскія паны, як агню, баяліся няўлоўнага Камарова — пад такой клічкай ведалі тады Каржа. Потым ён перабраўся ў Савецкі Саюз і арганізаваў камуну, а калі ўспыхнула грамадзянская вайна ў Іспаніі — накіраваўся граміць фашызм на спякотных палях пад Мадрыдам. Гэты чалавек быў блізкі для Веры. Яна, не задумваючыся, пайшла б за ім хоць на край свету.

Хутка Корж выйшаў з кабінета.

— Ну, што ж, санкцыя ёсць. Хадзем.

Увесь дзень Вера падбірала людзей. Перш за ўсё яна звярнулася да тых, хто ўжо прайшоў школу падпольнай барацьбы. Але і сярод моладзі ведала многа смелых хлопцаў, якім можна было даверыцца ў цяжкую хвіліну.

Пераканаўшыся ў тым, што чалавек не падвядзе, Вера накіроўвала яго ў гарком партыі. Там яго чакаў Корж. У той жа дзень шэсцьдзесят партыйных і камсамольскіх работнікаў ужо склалі атрад. Яго раздзялілі на тры групы, адну з якіх узначаліў Сяргей Карнілаў — муж Харужай.

28 чэрвеня 1941 года Сяргей раніцай забег дадому. Быў ён цяпер увесь час у казарме. Зямля ўжо глуха гула ад гарматных стрэлаў, у небе шалелі фашысцкія самалёты. Можна было чакаць, што апоўдні перадавыя танкавыя падраздзяленні гітлераўцаў ужо дабяруцца да прыгарадаў Пінска.

Перад боем Сяргей зайшоў развітацца з жонкай. Пераступіў парог хутка, рашуча. У рухах мужа, у яго голасе Вера адчула вялікую маральную і фізічную сілу, спакойную ўпэўненасць у сабе. Калі ён перад адыходам пяшчотна абняў яе, яна сказала, гледзячы яму ў вочы:



— Калі ты станеш баязліўцам, я пакіну кахаць цябе, я цябе ўзненавіджу...

Яшчэ мацней абдымаючы яе і ўсміхаючыся, ён коратка адказаў:

— Паглядзіш!..

З вялікім нецярпеннем чакала яна яго ў той дзень! За горадам чулася гарматная і кулямётная страляніна. Там лілася кроў. І Сяргей быў дзесьці там, у першых радах байцоў. Яна сама так загадала. Ды і без яе ён не хаваўся б за чужую спіну.

Пад вечар ён зноў забег на хвілінку — запылены, прапахлы парахавым дымам, узбуджаны.

— Ну і далі мы ім жару! — гаварыў ён. — Нічога, яны яшчэ паспытаюць сілу нашых удараў.

Ён паказаў ёй трафеі, узятыя ў першым баі.

— Гэта — бранябойная куля, а гэта — трасіруючая. Ты такіх яшчэ не бачыла? На, схавай сабе на памяць. А гэтых гранат ты таксама не бачыла? А ну, павучыся, як карыстацца імі. Глядзі: раз, два, тры — і кідай, з усёй сілы кідай! Хопіць сілы?

Яна ўзяла гранату, прымерылася і адказала ўпэўнена:

— Хопіць!

Абняўшы яе за плечы, пахваліў:

— Ну, малайчына! Я так і ведаў...

І запеў любімую песню:

Штыком и гранатой пробились ребята,
Остался в степи Железняк.

— Сярожа, будзь смелы, але асцярожны, — папрасіла яго Вера на развітанне.

— Нічога, родная, мы яшчэ пажывём... Нас голымі рукамі не возьмеш...

На пяты дзень пасля гэтага атрад Каржа заняў абарону у трох кіламетрах на поўнач ад Пінска, у раёне былога маёнтка Заполле. Ноччу байцы акапаліся ўздоўж векавой ліпавай алеі. Група Карнілава размясцілася на ўсход ад маёнтка, на могільніку. Яна павінна была сустрэць праціўніка на дарозе. На світанні, у тумане паказаліся нямецкія коннікі. Яны ехалі з лесу не спяшаючыся, не чакаючы нападу. Прыпаўшы да прыкладаў вінтовак, байцы чакалі каманды. Корж чакаў. Трэба было бліжэй падпусціць праціўніка, каб кожны стрэл трапіў у цэль. Вось наблізіўся фашысцкі афіцэр. Грымнуў першы стрэл. Конь шарахнуўся ўбок, і афіцэр, як мяшок, асунуўся на зямлю. Залпам ударыў увесь атрад. Па шляху мітусіліся коні...

А з лесу выходзіў яшчэ адзін эскадрон. Перанеслі агонь на яго. Страляла і група Карнілава. Побач з камандзірам групы прылёг Іван Чуклай. Ён пільна сачыў за ўсімі рухамі Карнілава і дакладна рабіў тое ж, што і яго старэйшы таварыш. Варожыя кулі вішчэлі наўкола.

— Наперад! — скамандаваў Карнілаў, збіраючыся зрабіць кароткую перабежку.

Але куля ўдарыла ў левае плячо, і ён пахіснуўся. Давялося зноў легчы. Чуклай перабінтаваў яго. Раптам другая куля трапіла ў левую нагу.

— Брэшаце, гады, не прарвецеся! — скрозь зубы сказаў Карнілаў. — Усё роўна не прапусцім.

Яшчэ адна куля прабіла грудзі. Немцы насядалі з усіх бакоў. Ужо даўно сувязны перадаў каманду Каржа адступаць у яр да горада, а яны ўсё яшчэ трымаліся.

Узваліўшы свайго камандзіра на плечы, Чуклай папоўз. Байцы Нордман і Берковіч падтрымлівалі з бакоў, штохвілінна спыняючыся, каб адбіцца ад ворага.

Карнілаў ціха стагнаў. Задыхаючыся пад цяжарам, Чуклай поўз і поўз наперад, да сваіх, і толькі ў высокім зарасніку кукурузы, калі схаваліся ад вачэй праціўніка, апусціў Карнілава на зямлю. Той ужо не дыхаў.

Варожыя аўтаматы білі справа і злева. Кожная хвіліна пагражала немінучай смерцю. Трэба было выбірацца адсюль.

Забраўшы з кішэні забітага партыйны білет і адшпіліўшы кабуру з наганам, Чуклай, Нордман і Берковіч пабеглі да сваіх.

Корж нецярпліва чакаў іх. Ен ужо думаў, што загінула ўся група. Убачыўшы акрываўленага Чуклая, запытаў:

— Што, паранены?

— Не, — чуць не плачучы, адказаў хлопец. — Карнілаў забіты, таварыш камандзір. Неслі яго, але трапілі ў такі пераплёт, што давялося пакінуць цела там... Вось вазьміце... — І ён перадаў партбілет і наган.

— Веры Захараўне нічога не гаварыць, сам скажу,— папярэдзіў Корж.

Па гораду біла варожая артылерыя. Байцы хутка беглі па Першамайскай вуліцы да маста праз рэчку Піну. За мастом ад'язджалі машыны і фурманкі. На мосце стаялі сакратар абкома партыі Пётр Гапеевіч Шапавалаў і Вера Захараўна Харужая, а недалёка ад іх — невялікая група падрыўнікоў.

Вера ўся падалася насустрач байцам і нецярпліва шукала вачыма мужа. Корж спыніўся каля яе разгублены, прыгнечаны. Калі бег сюды падбіраў словы, каб сказаць праўду паступова, аблегчыць удар, суцешыць. А вось цяпер, убачыўшы перад сабой вочы цяжарнай жанчыны, якая толькі што страціла мужа, забыў пра ўсе раней падрыхтаваныя фразы. Вырвалася нешта нязграбнае, халоднае:

— Ты не хвалюйся... Не плач... Беражы сябе для будучага... Не трэба... — І сам не вытрымаў, пакацілася па шчацэ сляза.— Не хвалюйся, дарагая...

Густа пакрыты вяснушкамі курносы твар Веры збялеў. Рука мімаволі пацягнулася ўбок, шукаючы апоры.

— Кажы ўсё, я вытрымаю... Кажы!

— Біўся ён з ворагам, як сапраўдны герой, і загінуў, як герой... Ты можаш ганарыцца ім.... — больш нічога не мог вымавіць Корж.

Усе бачылі, як на момант Вера прыплюшчыла вочы і пахіснулася. Цвёрдыя мужчынскія рукі падтрымалі яе, павялі...

Спыніліся яны каля апошняй машыны, якая забірала тых, хто павінен ехаць у савецкі тыл. Толькі тут Вера зразумела, куды яе прывялі.

— Не, я не паеду ў тыл, я застануся з вамі!

Корж падышоў да яе, узяў пад руку, хацеў угаварыць. Але паглядзеў у вочы і, адышоўшы ўбок, скамандаваў:

— Пасадзіць у закрытую машыну!

Недзе, зусім побач, ірваліся снарады. Вера нават не чула гэтага. Не чула яна і як равуць самалёты, як ад бамбёжкі калоціцца зямля. Для яе цяпер нічога не існавала, акрамя гора, што разрывала сэрца.

Аднойчы, калі атрад дзейнічаў каля возера Чырвонага, Корж сабраў на ўскрайку лесу найбольш актыўных партызан: Рыгора Карасёва, Веру Харужую, Івана Чуклая, каб параіцца.



— Пакуль наш атрад быў маленькі,— сказаў ён,— мы яшчэ сяктак маглі абысціся сваімі сіламі. Цяпер нам вельмі патрэбна дапамога арміі. Жыць без сувязі з Масквой немагчыма. А ўстанавіць сувязь — справа цяжкая і небяспечная. Давайце падумаем, каму даручыць яе.

Усе маўчалі. Тады Корж звярнуўся да Харужай:

— Вера Захараўна, я ведаю, як табе гэта цяжка. Фізічна цяжка... У тваім становішчы... Але ты больш вопытная па падпольнай рабоце. Калі не адмовішся, то лепш за цябе ніхто не выканае такое даручэнне. Вядома, я не маю ніякага права загадваць табе. Але падумай сама...

Яна доўга не адказвала. Потым згадзілася:

— Калі гэта трэба для справы, я заўсёды гатова выканаць любое заданне.

— Дзякуй табе на добрым слове...

Сумна ўсміхнуўшыся, Вера дапоўніла:

— Але ўлічы, што я адразу ж вярнуся ў атрад.

— З радасцю прымем,— весела адказаў Корж.

З ёй пайшлі яшчэ трое з атрада — двое мужчын і адна жанчына. Яны суправаджалі яе, але не ведалі, што Вера ідзе з асобым заданнем. Думалі, што камандзір атрада рашыў перапрасіць праз фронт цяжарную жанчыну — і толькі.

Стаяла незвычайная сухмень. Нават каля векавых балот не адчувалася вільгаці. Ішлі глухімі ляснымі і балотнымі сцяжынкамі, абміналі вялікія населеныя пункты, дзе маглі быць фашысцкія гарнізоны. Па дарозе пры выпадку збіралі грыбы, ягады. Калі дарога выводзіла на адкрытую мясцовасць, то днём адпачывалі ў зарасніку і толькі вечарам ішлі далей.

Было пройдзена ўжо каля паўтараста кіламетраў. Яшчэ паўсотні заставалася да фронта. Ісці станавілася ўсё цяжэй. У прыфрантавой паласе ўсё часцей і часцей сталі сустракацца фашысцкія гарнізоны, калоны войск, асобныя падраздзяленні гітлераўцаў. Крочылі моўчкі, то паскараючы, то прыцішаючы крок.

Аднойчы на золку выйшлі на ўскрай лесу да бальшака і замерлі ад нечаканасці: уся дарога была занята калонай фашысцкіх аўтамашын. Падарожнікі ўпалі ў нізенькія кусцікі, якія раслі каля сцяжынкі, і заціхлі. Адзін неасцярожны шорах, і немцы выявяць іх.

Увесь дзень праляжалі ў здрантвенні. Калі астатнім было цяжка, то Веры яшчэ цяжэй. Востры боль праціnаў усё цела. Але трэба было цярпець — ад гэтага залежаў поспех задання, залежала само жыццё. І жанчына цярпела.

А час ішоў вельмі павольна. Фашысты хадзілі каля машын, абедалі, рагаталі. У любы момант маглі зазірнуць у кусты. Тады — усё.

Настаў змрок. Вера прашаптала:

— Перапаўзем на той бок дарогі пад машынамі...

— Як жа табе паўзці? — спачувальна запытала спадарожніца.

— Нічога, я вытрымаю...

Калі зусім сцямнела і хадзілі толькі вартавыя, партызаны папаўзлі. Вось ужо над самой галавой чарнелі велізарныя кузавы машын, вось па баках высяцца шырокія колы... Цяжка, вельмі цяжка паўзці жанчыне ў такім становішчы. Але трэба... Інакш смерць,



і таварышы застануцца адарваныя ад Вялікай зямлі. З усяго атрада толькі ёй даверыў камандзір такое адказнае заданне...

Машыны засталіся ззаду. Далей было поле, чыстае поле. Аднак уставаць яшчэ рана, могуць заўважыць. І зноў локці і калені ўпіраюцца ў цвёрды, сухі грунт.

Дзесяткі кіламетраў шляху не знясільвалі Веру так, як гэта пераправа праз бальшак. Доўга не магла аддыхацца, пераадолець стому.

А мэта была яшчэ далёка.

* * *

Лінію фронта жанчыны пераходзілі асобна ад мужчын. Доўга выбіралі больш зручнае месца на стыку двух часцей, дзе флангі былі крыху агаленыя. Калі трапілі ў акопы савецкіх войск, не верылі сваім вачам: няўжо ўсё засталося ззаду, а побач свае, родныя чырвонаармейцы, худыя, пачарнелыя ад няспынных баёў.

Не паспелі жанчыны паспаць і двух гадзін, як на дзвярах зямлянкі паднялася плашч-палатка, і Вера ўбачыла знаёмы прадаўгаваты твар, высокі лоб і вясёлыя шэрыя вочы.

— Глядзі, Сяргей! — усклікнула яна. — І ты тут?

Былы падпольшчык Заходняй Беларусі, чалавек, які пазнаў і кулі фашысцкіх катаў, і прыгавор да смерці, — Сяргей Прытыцкі стаяў у ваеннай форме і паціскаў руку Веры.

— Так, гэта я. Працую старшым інструктарам палітупраўлення Цэнтральнага фронта. Вось пачуў, што Вера Харужая тут з'явілася, і прымчаўся. Расказвай: як, дзе, што, чаму?..

Хацела Вера ўсміхацца, быць такой жа вясёлай, радавацца сустрэчы з добрым чалавекам, з баявым таварышам, якога некалі вучыла падпольнай рабоце, але не магла. Імя гэтага чалавека было так дорага ёй. Яно напамінала аб тым, хто ўжо не вернецца, не абніме, не скажа: «Нічога, родная, мы яшчэ пажывём... Нас голымі рукамі не возьмеш...»

Адразу пачала пра справу:

— Мне патрэбны штаб фронта і ЦК кампартыі Беларусі. Ты ж ведаеш Васіля Захаравіча Каржа. Я іду з яго атрада. Яму трэба зброя, боепрыпасы, медыкаменты і палітычная літаратура. За тры дні ўсё гэта я павінна адправіць у атрад і сама вярнуцца туды.

Устала, паправіла сукенку і цвёрда сказала:

— Хадзем у штаб...

Тут толькі Сяргей Прытыцкі заўважыў, які подзвіг зрабіла Вера, накіраваўшыся ў такі цяжкі шлях. Хіба можна думаць, каб паўтарыць тое, што яна ўжо толькі што перажыла? Не, яе нельга пускаць назад. Яшчэ, бадай, разродзіцца ў дарозе...

Не выказваючы сваіх меркаванняў, ён праводзіў Веру ў штаб фронта, а потым і ў Цэнтральны Камітэт кампартыі Беларусі, які знаходзіўся недалёка.

Справы з забеспячэннем атрада вырашыліся вельмі хутка. Да Каржа накіравалі радыста для сувязі з Вялікай зямлёй. Калі ўсё было гатова, Вера выйшла з ЦК. Сяргей Прытыцкі праводзіў яе да дома, дзе ёй прызначылі пакой. Ужо развітваючыся, яна не вытрымала, неяк мімаволі сказала:

— Сярожа, калі б ты ведаў, як мне цяпер цяжка... Я ж страціла мужа... Таксама Сяргея.

І, павярнуўшыся, спешна пайшла ў пакой.

А Прытыцкі стаяў разгублены, здзіўлены не столькі навіной пра смерць. яе мужа, колькі вытрымкай гэтай жанчыны.

На наступны дзень Вера пайшла ў ЦК кампартыі Беларусі, каб атрымаць дазвол на пераход фронта. Але там ёй сказалі, што і думаць аб гэтым не трэба. Адразу ж яе пасадзілі на машыну і накіравалі ў Маскву, адтуль — у горад Скопін, Разанскай вобласці, да сястры Любы, якая там працавала настаўніцай. Ад Любы Вера потым перабралася да другой сястры — Надзі, якая жыла ў Пермскай вобласці.

Яе прыезд сям'я Харужых адзначыла, як вялікае свята. Не часта Вера радавала родных сваёй прысутнасцю. Маці ўважліва прыглядвалася да яе. Заўважыла сівыя пасмы на скронях і паківала галавой: як хутка выматала жыццё яе няўрымслівую, неспакойную дачку.

Не магла Вера хаваць ад маці і няўтольны сум у вачах. На людзях трымалася так, што ніхто не заўважаў яе душэўных пакут. Але варта было хоць на хвілінку застацца адной, як наплывала нейкая гарачая хваля, паліла сэрца, грызла, не давала спакою. Перад вачыма паўставаў муж, якім бачыла яго за некалькі гадзін да смерці. У вушах звінелі яго бадзёрыя словы:

— Нічога, родная, мы яшчэ пажывём... Нас голымі рукамі не возьмеш...

...Рашэнне вярнуцца ў строй наспела не адразу. Кожную раніцу Вера прагна накідвалася на газеты. Яны даносілі рэха далёкіх баёў.

Асабліва нецярпліва шукала Вера паведамленняў з Беларусі. Адтуль даходзілі радасныя весткі: народ падняўся на партызанскую барацьбу. Партызаны ўтрымлівалі цэлыя раёны, і там жыла савецкая ўлада. Але фашысты лютавалі яшчэ больш.



Перамагаючы душэўны боль, Вера сказала аднойчы сястры і маці:

— Не магу больш, не магу... Сядзець тут, у тыле, калі там у крывавых муках мой народ змагаецца за сваю свабоду, я больш не магу. Я паеду на фронт або ў тыл фашыстаў. Я патрэбна там.

— Як жа ты паедзеш? — са здзіўленнем і смуткам запытала сястра.— Ты ж маці, ты ж маеш абавязкі перад сваімі дзецьмі! Ты ж так моцна любіш іх!

— Так, я іх люблю больш за сваё жыццё,— праз слёзы адказала Вера.— Але зразумей, сястра, я не толькі маці, я — камуністка. Хіба я маю абавязкі толькі перад маімі дзецьмі? А мільёны другіх — беларускіх, украінскіх, літоўскіх, эстонскіх дзяцей, якіх катуюць фашысты, кідаюць жывымі ў агонь, закапваюць у зямлю? Хто ж павінен іх ратаваць? Ці ж перад імі няма ў мяне абавязку? За ўсіх дзяцей на свеце адказвае камуністка. І нарэшце, што будзе з маімі, з тваімі дзецьмі, калі мы не пераможам, калі не прагонім фашысцкіх акупантаў?

Маці перапыніла спрэчку. Яна лепш за ўсіх ведала Веру, разумела яе. Ужо даўно адчувала, што не вытрымае яе неспакойная дачка, зноў рынецца ў самае пекла вайны, і падрыхтавалася да гэтага:

— Рабі, дачушка, як табе загадвае тваё сумленне. І не пакутуй так. Памятай, што ты пакідаеш дзяцей не ў полі на снезе, а са мною. Я думала ўжо трошкі адпачыць, мне ж шэсцьдзесят пяць год, але што ж, калі такі час і гора ўсяму народу... Павінна ж і я быць чым-небудзь карыснай. Я дагледжу тваіх дзяцей, каб ім было са мной не горш, чым з табой. Едзь, дачушка, дабівайце хутчэй ворага, вызваляйце народ з няволі. Толькі вяртайся жывая...

Падышла сястра, сказала:

— Твайму Сярожку яшчэ толькі чатыры месяцы, без грудзей ён не можа абысціся. Я буду карміць яго, маёй Наталцы ўжо дзесяць месяцаў, яна ўжо можа і кашку з'есці. Едзь, не бойся, выгадуем табе сына-партызана.

І вось зноў Масква. Не тая светлая, веснавая, зіхатлівая Масква, якой ведала яе Вера ў мірны час, а суровая, грозная.

Вера адшукала Цэнтральны Камітэт кампартыі Беларусі. Зайшла да аднаго сакратара, да другога. Яе ўважліва выслухалі, але катэгарычна заявілі:

— Вы маці двух маленькіх дзяцей. У тыл ворага мы не пашлём вас. Для гэтага ў нас хопіць дзяўчат, якія таксама, як і вы, хочуць працаваць у фашысцкім тыле.

— Але ў іх няма таго жыццёвага вопыту, які маю я. Назавіце хоць адну дзяўчыну, якая працавала б у падполлі. А я прайшла вялікую школу жыцця, ведаю, што такое фашысцкая турма...

— Цяпер умовы больш складаныя...

— Ведаю. Я сваімі вачыма бачыла нямецкі фашызм. Бачыла яго яшчэ, калі падпольна бывала ў Берліне. І нядаўна бачыла на маёй роднай зямлі. Таму лічу сваім абавязкам і сваім правам актыўна ўдзельнічаць у барацьбе з фашызмам, а не адседжвацца ў тыле.

— Не можам мы паслаць вас, не можам, зразумейце гэта. Дзеля вас, дзеля вашых дзяцей не можам. Яны ўжо асірацелі, і мы не маем права забіраць у іх яшчэ маці.

— Дазвольце мне самой вырашыць гэтае пытанне,— не здава-

лася Вера.— Дзеці мае ў надзейных руках. Да таго, я не збіраюся паміраць. Я хачу біць ворага...

— Але вы не ўяўляеце, якой небяспецы падвяргаеце сваё жыццё ў тыле ворага.

— Уяўляю. А ці не падвяргаюцца небяспецы штодзённа і штогадзінна мільёны воінаў на фронце і сотні тысяч у лясах Беларусі, Украіны, Прыбалтыкі, Смаленшчыны?.. Вы нікому з іх не задавалі такое пытанне?

— Але вы ж, нарэшце, жанчына!

— Жанчыне, ды калі яна мае вопыт падполля, лягчэй працаваць у тыле ворага.

— Не, з вамі, літаральна, немагчыма спрачацца...

Праз некалькі дзён Веры Харужай было даручана камплектаваць групу для падпольнай работы.

* * *

Па ўсёй краіне шукала яна людзей, з якімі некалі працавала ў польскім падполлі. З былых падпольшчыц першая адгукнулася яе сяброўка па камеры ў Фардоне Соф'я Сяргееўна Панкова.

Жыццё не песціла Панкову. Многа давялося ёй перажыць пасля іх апошняй сустрэчы. Пастарэла. Нязменнымі засталіся толькі Соніны ўважлівыя, добрыя вочы.

Сяброўкі ўзрадаваліся сустрэчы, і, калі Вера сказала, навошта яна шукае яе, Соня, не задумваючыся, адказала:

— З табой — хоць куды.

— Дзякуй, родная, — абдымаючы яе, расчулена сказала Вера.

Потым яны запрасілі Марыю Сцяпанаўну Яцко, Ганну Пятроўну Іванькову, Клаўдзію Балдачову і яшчэ некалькіх жанчын.

Пачалася напружаная вучоба майстэрству канспіратыўнай работы. Дзень і ноч Вера была занятая. Яна баялася вольных мінут, калі памяць міжволі вяртаецца да аднаго і таго ж — да дзяцей, пакінутых недзе там без бацькі і маці. Тады пачынала балець сэрца і нават дыхаць рабілася цяжка.

«Ці зразумеюць яны мяне, калі вырастуць? — трывожна думала яна.— Ці будуць ведаць, з якім няўтольным болем я адарвала ад сваёй шыі тоненькія ручкі дачкі, адняла грудзі з прагных губ сыночка? Ці даведаюцца яны, якія нечалавечыя пакуты перанесла я тады і перажываю цяпер кожную хвіліну, кожнае імгненне? Ніякія фізічныя катаванні не могуць параўнацца з гэтым душэўным болем. Ці даведаюцца яны аб гэтым?»

Калі выпадала вольная хвіліна, Вера брала шэры школьны сшытак і запісвала ў яго свае думкі і пачуцці. Ці мала што можа здарыцца, а гэтыя запіскі бадай што і захаваюцца. Тады яе дзеці праз многа год разлукі пачуюць яе голас, пачуюць яе душу, змардаваную пакутамі расстання. Яны не папракнуць яе, не асудзяць, а будуць ганарыцца сваёй маці...

Уважліва вывучала яна сваіх новых сяброўак, з якімі давядзецца працаваць у вельмі небяспечных умовах. Нішто не мінала яе вачэй. І ўменне трымацца на людзях, і акуратнасць у вопратцы, і здольнасць запамінаць, і схільнасць маўчаць,— усе якасці падпольшчыка яна брала ў разлік. Падабалася ёй глыбокая засяроджанасць Соф'і Панковай, вясёлы нораў Клавы Балдачовай, кемлівасць Ганны Іваньковай, задорнасць Дусі Суранавай.



Адна жанчына з яе групы ўвесь час нецярпліва пытала:

— Ці скора мы пачнём справу?

Неяк, выбраўшы момант, Вера запытала:

— У цябе нешта ёсць на душы цяжкае. Я па вачах бачу.

— Але ж, ёсць. Двое дзетак у мяне там засталіся,— аднаму тры, другому пяць год. У сваякоў, у Горках. Душа гарыць... Што з імі?

Не ўтрымалася жанчына і заплакала. Пяшчотна пагладзіўшы яе па плячах, Вера сказала:

— Супакойся. Я добра разумею цябе, сама пакінула двух дзяцей. І мне таксама вельмі-вельмі цяжка. А колькі яшчэ такіх, як мы? Колькі слёз льецца па ўсёй нашай зямлі! Колькі мацярынскіх сэрцаў абліваецца крывёй у гэтую хвіліну! Вось мы і адпомсцім фашыстам за гэтыя слёзы, за наша гора.

Сівізна ўсё гусцей і гусцей абсыпала Верыны пышныя валасы. Каля губ ляглі складкі. Усміхалася Вера мала, была заўсёды задумлівая, засяроджаная, ніколі не павышала голасу. Нават незадавальненне выказвала спакойна, быццам узважвала кожнае слова.

У групе прытрымліваліся строгага парадку, нават у самых нязначных дробязях.

— Звычайна ў падполлі людзей губяць дробязі,— папярэджвала Вера.— Не на месцы паставіў рэч, забыў знішчыць тое, што трэба, сказаў лішняе слова, развесяліўся ці засумаваў недарэчы,— ці мала можа быць такіх неабдуманых крокаў, на якія звернуць увагу фашысты. Не думайце, што агенты фашысцкай контрразведкі — дурні. Недаацэньваць іх хітрасць, пранырлівасць, значыць заведама асуджаць сябе на правал.

...Выехалі з Масквы на адкрытай грузавой машыне. Паліла сонца. Вера сядзела наперадзе і ўзіралася ў дарогу. Новыя клопаты паглынулі яе. Хутка данеслася водгулле фронта. Бухалі гарматы. У небе з прыкрым завываннем праносіліся варожыя самалёты.

Заехалі ў Таропец, дзе знаходзілася опергрупа Цэнтральнага Камітэта кампартыі Беларусі, а назаўтра накіраваліся бліжэй да фронта, у вёску Шэйно. Там трымаліся як быццам незнаёмыя паміж сабой. Разам збіраліся толькі ў лесе за вёскай. Вывучалі план горада Віцебска. Вера праводзіла палітгутаркі.

Потым перабраліся яшчэ бліжэй да фронта. Жылі ў пуні за вёскай. Насталі халады. Раніцай не хацелася ўставаць, выходзіць на сцюдзёнае паветра. А Вера быццам і не заўважала холаду. Яна распраналася да пояса, мылася, а потым да чырвані расціралася.

— А ну, дзяўчаткі, мыцца да пояса! — бадзёра пакрыквала яна.

Жанчыны фыркалі і смяяліся, абліваючы адна адну. Хутка вярталася бадзёрасць і працаздольнасць. Днём ішла старанная падрыхтоўка да паходу ў тыл ворага.

* * *

Гэты куток Віцебска быў ціхі. Сюды лягчэй за ўсё прабірацца з-за Заходняй Дзвіны. Недалёка — могілкі. Пры небяспецы можна часова схавацца там.

Два драўляныя домікі ў засені купчастых дрэў і палісаднікаў,

нічым не вылучаліся сярод іншых дамоў гарадской ускраіны. Адзін домік выходзіў фасадам на вуліцу, другі стаяў у глыбіні двара.

Дуся Суранава вырашыла пашукаць сховішча тут. У яе быў у Віцебску родны дзядзька, але заходзіць да яго цяпер было небяспечна.

Апранута яна была, як апраналіся ў той час усе жанчыны блізкіх да горада вёсак: сіняе асенняе паліто, хустка ў клетачку, цёмныя туфлі на нізкіх абцасах. Бабуля Маша, гаспадыня дома, які выходзіў вокнамі на вуліцу, уважліва і лагодна глядзела на Дусю. На прывітанне адказала цёпла:

— Добры дзень, маладзічка, праходзь, праходзь...— ёй неяк адразу спадабалася гэтая невысокая маладая жанчына з вясёлымі вачыма.— Сядай, калі ласка.

Дуся села і завяла гаворку пра недахопы і цяжкасці ваеннага часу, пра тое, што вось даводзіцца за кожнай дробяззю ісці ў горад, што прамысловыя тавары за грошы не купіш, а толькі ўзамен на прадукты. Бабуля слухала, згаджалася і займалася сваёй справай — прыбірала посуд. Потым запярэчыла:

— Цяпер не толькі вясковым цяжка. Гарадскім яшчэ горш. Хоць з голаду памірай. Я ўжо многа пражыла, рознае бачыла, а такое гора ўпершыню...

Так слова за словам вялася нетаропкая гутарка. Потым Дуся сказала:

— Ведаеце, якая ў мяне да вас просьба? Вось ужо вечар, а мы з сяброўкай так нічога і не прамянялі на рынку, а дамоў ісці позна. Ці не пусціце нас пераначаваць?

Бабуля задумалася. Потым запытала:

— Дзе ж твая сяброўка?

— Ды там, на вуліцы. Зачакалася, пэўна. Хоць бы не пайшла куды.

— Ну дык навошта ж на вуліцы? Няхай заходзіць.

Дуся пабегла і паклікала Веру.

— Ганна Карнілава, — назвала сябе Вера.

— Бабуля Маша, так усе клічуць мяне.

— Гэта вельмі добра, калі так ласкава клічуць. Значыць, вы добры чалавек.

— Ды якая ўжо ёсць. Вельмі мне гэта маладзіца спадабалася,— паказала яна на Дусю. — Гаворыць пра цяжкое, а ў самой вочы вясёлыя. Люблю такіх. Таму і рашыла пусціць вас нанач.

Увечары сабралася ўся сям'я: нявестка Агата Максімаўна з двума дзецьмі, сын Васіль Сямёнавіч, які працаваў на заводзе чорнарабочым. Размаўлялі асцярожна, выведваючы адзін аднаго. Але чым больш гаварылі, тым ясней станавілася Веры, што трапілі яны ў добрую, савецкую сям'ю. Гэта вельмі ўзрадавала яе. Дакументы, якімі іх забяспечылі перад адпраўкай у тыл, былі ненадзейныя. Нейкі час трэба было жыць нелегальна, без прапіскі. А для гэтага трэба мець вось такое сховішча.

Назаўтра раніцай Вера сказала бабулі Машы, што ім можа давядзецца яшчэ некалькі разоў пераначаваць у горадзе.

— Ці можам мы разлічваць на дапамогу вашай сям'і?

Яшчэ раз уважліва паглядзела на яе бабуля Маша, быццам бы ўпершыню ўбачыла.

— Што ж, калі ёсць у вас такая патрэба, то аставайцеся. Толькі вам лепш пакінуць рэчы свае тут. Навошта цягаць іх за сабой.



Так Вера і Дуся зачапіліся за ўскраіну Віцебска.

У доміку, які стаяў на двары, жыла дачка бабулі Машы—Зінаіда Сямёнаўна з мужам Сяргеем Данілавічам Антонавым і дачкой Валяй. Дуся перайшла да іх, Вера засталася ў Вераб'ёвых.

Пачалася цяжкая падпольная работа. Цэлы дзень Вера і Дуся хадзілі па горадзе. Да ўсяго прыглядаліся, прыслухоўваліся. Перад адыходам у Віцебск Вера атрымала звыш ста адрасоў. Трэба было праверыць, каго з віцяблян можна прыцягнуць да падпольнай работы, хто надзейны, а хто паддаўся ворагу.

Пад рознымі зачэпкамі заходзіла ў дамы, пачынала размовы здалёк, на агульныя тэмы, каб спакваля высветліць пазіцыю субяседніка і яго настрой. Патроху стваралася група надзейных людзей, якім можна ўжо даручыць і распаўсюджванне лістовак, і збор неабходных звестак пра ворага, і падбор людзей для адпраўкі ў партызанскія атрады.

Калі Вера крыху асвоілася ў горадзе, наладзіла сувязь з атрадам. Прыйшла сувязная Тоня. З ёю Вера перадала звесткі пра аэрадром праціўніка, а сама працягвала пошукі надзейных людзей. Праз тыдзень зноў прыйшла Тоня. І на гэты раз яна панесла з сабой звесткі пра ворага, якія сабралі Вера і Дуся.

Раніцай 11 кастрычніка Дуся, як звычайна, ціха ішла па горадзе. У яе быў выгляд заклапочанай, загнанай горам жанчыны, якая не цікавіцца нічым. Але пільныя вочы не прапускалі нічога істотнага.

Вось на ўвесь плот аб'ява аб тым, што на Смаленскім рынку склікаецца «вялікі адкрыты і вельмі важны сход». Фашысцкія прапагандысты запрашалі прысутнічаць усіх жыхароў Віцебска. Дуся накіравалася туды. Там было поўна народу. Ішоў вялікі гандаль. Спекулянты фдралі горла, расхвальваючы свае тавары. Натоўп гудзеў, крычаў на ўсе галасы.

На сярэдзіну рынку выехала грузавая аўтамашына. У кузаве ля мікрафона радыёўзмацняльніка стаялі нямецкі афіцэр і цывільны. Машына спынілася. На ўвесь рынак раўнуў картавы з акцэнтам голас:

— Віцябляне! Паны! Зараз перад вамі выступіць пан Казлоў. Бальшавіцкія агенты заманілі яго ў партызанскі атрад. Але пан Казлоў хутка разабраўся, што яму не па дарозе з камуністамі, і перайшоў на бок доблеснай германскай арміі. Мы даравалі яму яго памылку і далі магчымасць самому, уласнымі вачыма паглядзець, як жыве новая Германія. Аб усім гэтым вам зараз раскажа сам пан Казлоў. Даю яму слова.

Афіцэр саступіў месца ля мікрафона прылізанаму мізэрнаму чалавечку з мордачкай тхарка. Раз-пораз азіраючыся па баках, нібы чакаючы ўдару, ён пачаў апісваць шчадроты фашысцкага «раю».

Натоўп сціх, панура маўчаў. Раптам Дуся пачула каля сябе малады звычны голас:

— Брэша, сабака! Атрымаў ад немцаў сорак дзесяцін зямлі, дзве каровы, дом у Віцебску, вось і выслужваецца. Ведаю я яго...

Хлопца падтрымаў другі голас:

— Нічога, дабрэшацца!..

У натоўпе пачаўся шум.

— Ніякім партызанам ён не быў,— казала адна жанчына.— З нашага краю ён. У калгасе «Чырвоная Армія» да вайны лічыўся. Проста скура прадажная.

Народ адхлынуў ад машыны. Пачалася штурханіна. А чалавечак ля мікрафона надрываўся, імкнучыся заглушыць гоман. Калі ён

закончыў, то толькі тры-чатыры паліцаі, якія стаялі ў натоўпе, пачалі пляскаць у далоні. Натоўп маўчаў.

Да мікрафона зноў падышоў афіцэр. Ён хацеў неяк загладзіць нязручнасць, якая ўзнікла ў выніку празмернай стараннасці паліцаяў. І хто прасіў іх апладзіраваць? А над рынкам раздаўся голас:

— Аблава!

Натоўп імгненна разбегся.

Дуся, прыйшоўшы дадому, аб усім расказала Веры. У чарговым данясенні Вера расказала пра гэты эпізод.

Цяпер шыфраваныя пісьмы стала насіць у атрад Клава Балдачова. З Тоняй здарылася непрыемнасць. 16-га кастрычніка, калі яна чацвёрты раз ішла ў горад, каля вёскі Вярхоўе, недалёка ад пераправы праз Заходнюю Дзвіну яна ўбачыла хлопчыка ў кажуху. Ён сядзеў ля дарогі. Калі яна ўжо мінула хлопчыка, той свіснуў. На дарогу выйшлі двое ўзброеных.

— Адкуль? — запытаў адзін.— Чаму ідзеш з партызанскай зоны?

— Хадзіла мяняць рэчы на прадукты...— і паказала сумку з прадуктамі, падрыхтаванымі на такі выпадак.

Тоню абшукалі, нічога падазронага не знайшлі. Павялі ў горад. Аднак па дарозе змянілі свой намер: забралі пашпарт і загадалі заўтра прыйсці па яго ў паліцыю.

Вызваліўшыся, Тоня хутка вярнулася ў атрад. З'яўляцца ёй цяпер у горадзе было небяспечна. Яна нават не ведала, хто тыя ўзброеныя людзі, што забралі яе дакументы.

Трэба было замяніць сувязную.

Сувязной стала Клава.

А Вера працягвала арганізоўваць падполле. Яна ўжо наладзіла сувязь з некалькімі падпольнымі групамі. Самая большая з іх — група «Радзіма». У яе ўваходзілі трыццаць чалавек. Яны ўжо тое-сёе рабілі, але вельмі нясмела. Вера вучыла кіраўнікоў груп, як расстаўляць людзей на больш адказных участках, як скарыстоўваць мясцовыя факты для антыфашысцкай агітацыі і праводзіць дыверсійную работу.

26-га кастрычніка Вера па звычцы пайшла паглядзець, што робіцца ў горадзе. Больш за ўсё навін можна было пачуць ля калодзежа і на рынку. Там заўсёды быў народ і ў безупыннай мітусні можна хоць і ўрыўкамі, але сабраць звесткі пра настрой людзей.

Перад уваходам на Смаленскі рынак стаяў натоўп. Падышоўшы, Вера ўбачыла, што на шыбеніцы матляюцца тры чалавекі. Над іх галовамі было напісана на дошцы: «Мы кралі хлеб і бульбу, якія былі назначаны для нямецкага насельніцтва не таму, што былі галодныя, а таму, што хацелі спекуляваць, нажывацца».

Доўга Вера не магла адарваць вачэй ад павешаных. Падышлі яшчэ дзве жанчыны і застылі ў здрантвенні. Потым адна з іх чытала ўголас:

— Мы ўкралі хлеб і бульбу, якія былі назначаны для нямецкага насельніцтва, не таму, што былі галодныя...

Старэйшая жанчына цяжка ўздыхнула і сказала:

— А як яно было сапраўды, хто яго ведае...

— З усімі намі будзе тое ж,— прагаварыў барадаты стары.

— Ды хіба гэта самыя галоўныя зладзеі? — моцна сказаў малады чалавек.— Чаму не вешаюць тых, што заселі ва ўправе?

Гэтыя словы патанулі ў шуме. Хлапец хацеў сказаць яшчэ нешта, але жанчына ў хустачцы перапыніла яго:

— Ведаем мы гэтых паразітаў! Прыйдзеш да іх, а яны і глядзець не хочуць на чалавека!



Раптам натоўп сціх. Падышлі два гітлераўцы. Паволі дасталі з футляраў фотаапараты і пачалі здымаць павешаных і натоўп перад шыбеніцай. Да брамы на аўтамашыне пад'ехала група фашысцкіх афіцэраў. Злезлі, накіраваліся да шыбеніцы. Ішлі, не зважаючы, што перад імі натоўп. Людзі моўчкі расступаліся. Гітлераўцы пастаялі, шырока расставіўшы ногі, палюбаваліся работай сваіх галаварэзаў, абышлі павешаных.

Завыла сірэна.

— Савецкія самалёты! — весела крыкнуў нехта.

Куды дзелася напускная абыякавасць фашысцкіх афіцэраў! Яны мігам ускочылі на машыну, і яна сарвалася з месца. А натоўп так і застаўся стаяць, гледзячы на самалёты.

Вера стала паціху распытваць, каго павесілі. Ёй расказалі, што пакараны смерцю буфетчык, шафёр і грузчык. Данёс на іх у палявую камендатуру кладаўшчык. А ўзялі яны прадукты не таму, што хацелі спекуляваць, а каб накарміць галодных дзяцей.

Усхваляваная, Вера ішла дадому. Усе думкі яе былі цяпер пра сем'і тых, хто застыў на асеннім ветры пад перакладзінай шыбеніцы.

Па вуліцы верха трухалі два афіцэры, пагардліва памахваючы бізунамі. Яны раптам павярнулі на тратуар і паехалі на людзей. А калі жанчына ў падраных чаравіках, ратуючыся, кінулася ў вялікую лужыну, фашысты задаволена зарагаталі. Людзі, якія ішлі па тратуары, з лютай нянавісцю глядзелі на забавы фашысцкіх ваяк.

Ля афіцэрскага казіно стаяла маладая прыгожая дзяўчына ў белым фартуху ды горка плакала. Вера спынілася.

— Што з табой, мілая?

— Мы абіралі бульбу,— стрымліваючы слёзы, расказвала дзяўчына,— і раптам на кухню зайшлі гауптман, гэта капітан па-іхняму, і обер-лейтэнант. Убачыў нас гауптман і зароў: «У афіцэрскім казіно я не жадаю мець рускіх жанчын. Разлік!» А куды я дзенуся, у мяне дома хворыя і галодныя бацька і маці, і ні кавалачка хлеба, ні капейкі грошай...

Потым разгубленасць у яе голасе змянілася абурэннем:

— Я была стаханаўкай на фабрыцы, мяне цанілі, паважалі, у прыклад ставілі, колькі разоў прэміравалі! А калі я захварэла, то далі пуцёўку ў Крым, у санаторый. Я ведала, што я чалавек. А ў іх я не варта нават месці падлогу і скрэбсці іх бруд. Мяне выганяюць таму, што я беларуска. Дык згіньце ж вы, праклятыя, ненавісныя! Правільна робяць партызаны, што б'юць іх на кожным кроку. Я і сама сёння рвала б іх на кавалкі!

Вера моўчкі слухала споведзь абуранай дзяўчыны, зрэдку азіраючыся — ці не глядзіць на іх хто-небудзь. Потым узяла сваю новую знаёмую пад руку і прапанавала:

— Давай трошкі пройдземся. Раскажы пра сябе больш падрабязна...

Праз паўгадзіны яна ўжо ведала ўсю да дробязей небагатую падзеямі біяграфію дзяўчыны, яе адрас, з кім яна знаёма, з кім сябруе. Потым запытала:

— Ты вось сказала, што рвала б фашыстаў на кавалкі. Што гэта, вырвалася ў цябе знянацку, ці сапраўды ты гатова памагаць савецкім патрыётам?

— Чым толькі магу, буду памагаць,— горача адгукнулася дзяўчына. — Я так ненавіджу фашыстаў...

— Тады вось што, скора да цябе прыйдуць і запытаюць: «Ці не ведаеце, хто можа пакроіць кофтачку?» Адкажаш: «Гэта зраблю я». Запомніла? І той, хто прыйдзе, скажа, што трэба рабіць далей. Згодна?

— Дзякую. Усё зраблю...

Яны развіталіся. Вера пайшла дадому. Уперадзе яна ўгледзела двух жанчын. Адна з іх, пажылая, гаварыла на ўвесь голас:

— У горадзе ў нас цяпер прасторна... Дамы разбураны, фабрыкі не дымяць, чыстага паветра колькі хочаш, а дыхаць нечым. Задыхаешся і ў кватэры, і на вуліцы.

Звярнула на бакавую вуліцу. Заўважыла шыльду шаўца і ўспомніла, што парваліся туфлі. Зайшла, каб забіць хоць некалькі цвікоў. Не гледзячы на яе, шавец пакруціў туфель у руках, шчоўкнуў падэшвай, якая ўжо адарвалася, і запатрабаваў пяць марак.

— Што вы, паважаны, так дорага...

Шавец падняў злосныя вочы і рэзка адказаў:

— Я не хачу вашых марак, я іх век не ведаў і ведаць не хачу. Дайце мне адзін рубель, наш рубель, такі, за які я магу купіць кілаграм хлеба... Не ўмелі мы цаніць нашага ранейшага жыцця...

Выказаўшы набалелае, ён зноў падняў на Веру вочы, але ўжо не злосныя, а насцярожаныя: што яна адкажа? Заўважыў, што жанчына ў парваных туфлях недзе сама пакутуе не менш за яго.

— Добра ўжо, давайце я вам адрамантую, толькі без усялякіх марак...

— Дзякую вам, сябра...

— Таварыш...— вымаючы з роту драўляныя цвікі і ўжо ўсміхаючыся, адказаў шавец.

— Так, таварыш...

Адыходзячы, моцна пацiснула яму руку. Як выручыў ён! У яе ж не было гэтых пяці марак. І яшчэ трэба мець на ўвазе, у гэтай шавецкай майстэрні можна зрабіць добрую явачную кватэру.

Сустракала яна і такіх, што хвалілі фашыстаў, лізалі ім пяты. Гэтых гідліва абыходзіла.

Сувязі яе безупынна пашыраліся. Клава рэгулярна насіла партызанам свежыя і дакладныя разведданыя пра размяшчэнне фашысцкіх войск у Віцебску. А начамі прыляталі савецкія самалёты і наносілі ўдар за ўдарам па цэлях, якія давала Вера.

28-га кастрычніка яна паведаміла ў атрад пра чарговую бамбёжку фашыцкага логава савецкімі самалётамі:

«Сябры мае! Немагчыма перадаць вам нашы перажыванні ў гэтыя гадзіны. Радасць за тое, што яны прыляцелі, страшнае пажаданне ім поспеху, трывога за мірных жыхароў, шалёная злосць на зенiткi, якія адкрылі ўраганны агонь, пакутлівы непакой за лётчыкаў, за самалёты, жаданне прыкрыць іх, памагчы біць прама ў цэль, у праклятыя гнёзды, не прамахнуцца...

Мы стаім на двары, напружана ўглядваемся ў неба. Усёй істотай слухаем гул матораў.

— Ляціце, ляціце, мае родненькія, біце іх, праклятых, біце сотнямі,— усхвалявана марыць суседка.— Дай бог вам шчасця, удачы!

— Злавілі, родненькая! Злавілі!

На скрыжаванні некалькіх промняў пражэктараў ясна вырысоўваецца серабрыстая фігура самалёта. Нашага роднага самалёціка. Да яго з усіх бакоў імчацца струмені трасіруючых куль, вакол яго рвуцца снарады, а ён ляціць сабе роўна і быццам бы спакойна па паласе промня пражэктара.

— Паднімайся ўверх, хутчэй, хутчэй! — чуць не плача жанчына.— Золатца маё, саколік мой. Ну, паднімайся ж, паднімайся ж хутчэй! Божа, хоць ты паднімі яго, схавай ад вачэй д'ябальскіх!



Сэрца шалёна б'ецца, хочацца падбегчы да пражэктара, пагасіць яго.

— Знік, знік, саколік наш, цэлы!

Мы з палёгкай уздыхаем. Трошкі прыціх гул страляніны. У гэтую хвіліну з моцным і злым свістам над нашымі галовамі пранюсяцца бомбы. Аглушальны выбух сатрасае паветра. У дамах сыплецца шкло з вокан. Другі, трэці, пяты!..

— Дзякуй, міленькі! Добра! Яшчэ, яшчэ! У фельдкамендатуру, ва ўправу, у клінічны гарадок, на аэрадром! Бі іх сотнямі, іх саміх, іх машыны, іх гарматы!

Я слухаю гэтае страснае маленне і ведаю, што на многіх дварах вось так, як і на нашым, тоўпяцца і хвалююцца гэтыя цудоўныя савецкія людзі, якія пазналі бездань гора і пакут і засталіся вернымі сваёй радзіме.

Выбухі чуюцца адзін за адным. У трох месцах палыхае полымя...»

А ў канцы дапісала:

«Вы, мабыць, лаеце мяне за тое, што да гэтага часу я яшчэ не забрала і не скарыстала маю групу, але гэта не па маёй віне. З нашымі дакументамі нельга ні прыпісацца, ні ўладкавацца на работу. Можна толькі жыць у вельмі добрых людзей, якія гатовы за цябе ахвяраваць жыццём і сям'ёй. Сама таксама рызыкуеш кожную хвіліну правалiцца не з-за справы, а з-за прапіскі і пашпарту.

Такое становішча. Групу зараз сюды забраць нельга. Нам тут жыць таксама немагчыма. Патрэбны сапраўдныя дакументы. Прымаю меры. Не ведаю, ці атрымаецца. Пакуль працуем удваіх, марудна, асцярожна ствараем арганізацыю з мясцовых людзей. Справа вельмі цяжкая, асабліва спачатку. Людзі напалоханы шыбеніцамі.

...Але першы дзесятак ужо ёсць. Цяпер справа пойдзе хутчэй. Галоўнае — ўладкавацца самім. Добрых людзей многа. Праўда, рэжым, абставіны д'ябальскі цяжкія, але мы іх усё ж ашукаем. Наогул я поўна самых лепшых надзей і зусім не баюся, што мяне павесяць. Дзяўчат маіх яшчэ спадзяюся скарыстаць».

Вельмі спатрэбілася Веры ў гэты цяжкі час веданне нямецкай мовы. Колькі разоў у крытычны момант фашысты даверлі ёй толькі таму, што яна ўмела свабодна размаўляць з імі па-нямецку.



Адзін эсэсавец палічыў Веру за немку з Рыгі і пачаў выкладаць ёй свае трывогі і сумненні. Ён трыумфальным маршам прайшоў па Францыі, Бельгіі, Польшчы. Бачыў многа перамог фашысцкай арміі, а вось у канчатковую перамогу не верыў.

— Ці скора закончыцца вайна?—запытала аднойчы ў яго Харужая.

— Не, не, не скора!.. — замахаў ён рукамі. — Гэтыя рускія вельмі моцныя, іх супраціўленне—жудасная рэч. Мы не прывыклі да такога супраціўлення...

Сярод нямецкіх афіцэраў у Веры з'явіліся патрэбныя і карысныя знаёмствы. Многа каштоўных звестак яна перадавала ў партызанскі атрад. Самалёты рэгулярна прыляталі бамбіць па яе дадзеных.

Клава пайшла з чарговым данясеннем. Чакалі яе Вера і Дуся ў вялікай трывозе. У горадзе ішлі масавыя аблавы. Шпікі службы бяспекі (СД) шнырылі ўсюды і хапалі ўсіх падазроных. Некалькі падпольшчыкаў трапіла ў іх лапы. На дарогах стаялі патрулі і строга, прыдзірліва правяралі прахожых. Ці ўдасца Клаве прабрацца туды і назад?

Але яна прабралася. З атрада на дапамогу Веры прыняла Соф'ю Панкову. Прыйшлі яны апоўдні, вясёлыя і задаволеныя. Убачыўшы сваю старую сяброўку Соню, Вера вельмі ўзрадавалася, але адразу ж устрывожылася.

— Дарэмна ты прыйшла, Соня. Тут так небяспечна цяпер...

— А табе хіба бяспечна?

— Я ўжо неяк прыжылася.

— Дык і я прыжывуся. Хіба нам упершыню разам з табой пераносіць цяжкасці?

Не паспелі жанчыны ўладкавацца і падзяліцца навінамі, як ля дома спыніліся дзве чорныя прысадзістыя крытыя машыны. З іх выскачылі паліцаі і акружылі сядзібу. Афіцэры-немцы зайшлі ў дом.

— Прад'явіце дакументы!

Усе аддалі свае пашпарты. Вера Харужая падала пашпарт на імя Анны Сяргееўны Карнілавай.

— Вы ўсе арыштаваны! Апранайцеся!

Арыштаваныя стаялі на вуліцы ў шчыльным коле паліцэйскіх. Побач былі перапалоханыя Віця і Коля Вераб'ёвы і суседчын хлопчык Шура Гайліхін. Яны здзіўленымі вачыма глядзелі на паліцаяў і арыштаваных. Агата Вераб'ёва крыкнула ім:

— Дзеці, бяжыце да бацькі, скажыце, што ўсе арыштаваны!

Хлопчыкі сарваліся з месца і памчаліся, што было сілы. Але яны спазніліся. Васіль Сямёнавіч Вераб'ёў быў ужо схоплены на рабоце.

Веру і бабулю Машу пасадзілі ў першую машыну, а астатніх у другую. Дзверцы зачыніліся, назаўсёды адрэзаўшы вязням шлях да волі і жыцця.

Толькі адна з арыштаваных — кватарантка бабулі Машы Ганна Васільева праз два тыдні вярнулася дадому. Яна здрадзіла, выратавалася.

Астатніх доўга катавалі. Вера Харужая і яе баявыя сябры Соф'я Панкова, Дуся Суранава, Клаўдзія Балдачова, Марыя Вераб'ёва, Васіль Вераб'ёў і Агата Вераб'ёва загінулі, не схіліўшы свае галовы перад ворагам. У фашысцкіх засценках было многа розных сродкаў, каб прымусіць чалавека гаварыць, але ўсе яны аказаліся непрыгоднымі там, дзе людзі да апошняга дыхання жылі верай у справядлівасць справы Камуністычнай партыі.





Барыс Сачанка

## МІНІЯТУРЫ

### КОШЫК МАЛІН

Мал. А. Плаксіна.

Навальніца дагнала мяне, калі я не ад'ехаў яшчэ і кіламетра ад лесу. Я націскаў, як толькі мог, на педалі, чуючы, што за спіною вуркоча гром, але ўсё роўна ўцячы ад дажджу не ўдалося, — дарога скрозь лясная, каранiстая і шмат дзе трэ' было каціць веласіпед.

Бліснула маланка, і з грукатлівым абвалам грому секануў лівень. Я спыніўся і хуценька пачаў адвязваць ад багажніка плашч, які, выязджаючы з дому, захапіў на ўсякі выпадак, бо пякло і парыла.

Палявая дарога ў момант раскісла, усюды пабеглі ручайкі, і ў калдобінах заблішчэлі мутныя лужыны. Чорт ведае што рабілася ў небе! Бы там нябачны хто мяшаў вялізнай мешалкаю незвычайнае варыва,— хмары дыбіліся, лезлі адна на адну...

Плашч мала ратаваў ад дажджу, і я, пастаяўшы, пакаціў памаленьку веласіпед да вёскі, што відаць была кіламетры за тры ад лесу. Раптам бачу: расплёскваючы лужыны, у падкасаных вышэй калена штоніках, бяжыць з поля, прыкрыўшы рукамі галаву, напярэймы мне хлапчук. Яшчэ здалёку крычыць:

— Дзядзечка, дайце плашча!.. Маліны мокнуць... Цэлы кошык малін!..

Я глянуў, куды паказваў рукою хлопчык. Скрозь сівую сетку дажджу я ўгледзеў у полі, ля куста вербалозу, жанчыну... Не доўга думаючы, я кінуў на абочыну дарогі веласіпед, а сам сігануў цераз поле проста да жанчыны. Яшчэ на бягу падаў плашч, і тая прыкрыла ім паўнюткі кошык спелых і буйных, апырсканых дажджом малін і, выпрастаўшыся, сказала неяк ціха, гледзячы ў вочы:

— Хай вас бог беражэ. А то я ўжо думала, прападуць маліны... Мы ж цэлы дзень крукам гнуліся, каб варэнне зварыць. Сын у мяне ў горадзе. На заводзе ён. Яму ж варэнне ў самы б раз...

Дождж ліў, як з вядра, а жанчына і хлапчук стаялі і моклі, непрыкрытыя нічым, і радаваліся, што не прападуць маліны. За кампанію мок і я, думаючы пра маці, родную, бясконца дарагую маці, якая гатова аддаць усё, абы толькі прынесці хоць трошкі радасці дзецям...



## ГОРАД

Калі вы хоць раз праязджалі лясны паўстанак Грыбкі,— пэўна бачылі гэтую дзяўчынку. Босая, у квяцістай сукенцы, яна заўсёды стаіць на невялічкім грудку ля маладзенькай бярозкі і кожнаму цягніку, што грукоча па рэйках, махае рукою. Вочы яе тады пільна ўзіраюцца ў вокны вагонаў, і, каб вы толькі ведалі, як зайздросціць яна тым, хто сядзіць там... Дзіва што! Гэтыя ж людзі едуць у горад, у тое дзівосна-прыгожае селішча, адкуль яе бацька, ляснік, заўсёды пасля палучкі прывозіць такія смачныя пернікі.

Дзяўчынцы ўжо сем гадоў, і завуць яе Людка. Час бы і ў школу, ды школа знаходзіцца аж за сем кіламетраў, у вёсцы. Зімою — мяцеліцы, завірухі, а вясною — разводдзе, бездараж. Куды ты пусціш адно дзіця! І, параіўшыся, бацькі парашылі — хай пачакае які гадок.

Людчын бацька, рослы мужчына, дзень пры дні ў лесе, маці корпаецца ў градах, а Людцы што хочаш рабі. Вось і знайшла яна сабе занятак — сустракае і праводзіць цягнікі ды слухае, як звіняць рэйкі і гудуць паабапал чыгункі правады. І думае, думае пра той горад: які ён?

Калі хаваецца за лес сонца і моўкнуць птушкі, Людка бяжыць дахаты. Бацька яе к таму часу ўжо вяртаецца з абходу, але, стомлены, ён вячэрае і тут жа кладзецца спаць. А Людка яшчэ доўга сядзіць з маці. Распытвае, куды і чаго гэта кожны дзень едзе гэтулькі людзей. Маці расказвае ўсё, што толькі ведае пра горад, у якім і сама была ўсяго разы са тры; расказвае, і ніколі не забудзе абнадзеіць:

— Вось і ты некалі вырасцеш і паедзеш у горад. Паедзеш не так сабе, а вучыцца. Сама ўсё паглядзіш. І будзеш ведаць, што такое трамвай і тралейбус, што такое парк і тэатр... І пра ўсё нам некалі будзеш расказваць. Мы ўжо старэнькія тады будзем, без кіёчка і хаты не пярэйдзем...

Людцы смешна, як гэта такая рухавая маці ды будзе старэнькая і без кіёчка не пярэйдзе хаты. Яна не верыць, смяецца. Ёй радасна, што недзе там, за лесам, ёсць вялікае селішча, якое завецца горадам, што там інакш, як тут, на паўстанку, жывуць людзі і што там, у горадзе, праз нейкі час, калі падрасце і скончыць школу, будзе жыць і яна сама. Ах, хутчэй бы той час!..

Яна засынае і цэлую ноч сніць горад.

А раніцай, паснедаўшы, зноў бяжыць на грудок і стаіць, махае рукою кожнаму цягніку...





## *Уладзіміру Корбану пяцьдзесят год*

Уладзімір Корбан нарадзіўся ў 1910 годзе ў пасёлку Барань Аршанскага раёна ў сям'і рабочага. Ён вучыўся ў вячэрняй школе рабочай моладзі і працаваў спачатку токарам, пазней механікам і начальнікам цэха на заводзе «Чырвоны Кастрычнік» у Оршы, дырэктарам завода цвікоў у Лідзе.

У гады Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у баях пад Бранскам, Арлом, Барысавам і ва Ўсходняй Прусіі.

Цяпер працуе намеснікам рэдактара часопіса «Вожык».

Першыя творы У. Корбана з'явіліся ў друку ў 1945 годзе.

У Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшлі кнігі яго вершаў і баек: «Мы іх ведаем», «Байкі», «З вецярком», «Дакладныя прыкметы», «Гарачая прыпарка». У 1957 годзе ў выдавецтве «Савецкі пісьменнік» выйшаў у перакладзе на рускую мову зборнік яго выбраных твораў.

У дзень пяцідзесяцігоддзя жадаем Уладзіміру Корбану доўгіх год жыцця і плённых поспехаў у яго творчасці.

**Уладзімір КОРБАН**

## СЯБРУКІ



У клубе запрасіў Ільля на танец Нату,
А потым танцаваў цалюткі вечар з ёй.
Счарнела ўсё ў сярэдзіне Ігната,—
Дзяўчыну ён лічыў сваёй,
Хаця ў каханні да яе яшчэ не прызнаваўся.
Затросся ён, захваляваўся,
У хлопца закіпела ў жылах кроў,
Паклікаў да сябе сяброў,
Тараса, Ясюка і Мікалая,
І кажа ім: «Я гэтага Ільлю
Па вушы заганю ў зямлю,—
Няхай маёй дзяўчыны не чапае!»
«Давай, давай! — згадзіўся з ім Тарас,—
У блін ён ператворыцца у нас».
«І я,— дадаў Мікола,— падтрымаю
У гэтай справе вас.
Распішам мы яму аблічча,
Як кажуць маляры часамі, пад арэх,
Вось будзе смех!»
«А я дружыннікаў паклічу,—

Сказаў Ясюк,— і біцца вам
Не дам».
«І мы былі з табою сябрукамі! —
Абурыўся Ігнат на Яся.—Здраднік ты!
Тарас і Мікалай — сапраўдныя браты!»
«Каханне не даводзяць кулакамі».
«Сябрук павінен сябруку дапамагчы!»
«Ігнаце, памаўчы.
Усякая бывае дапамога.
Калі сябрук у горы, у бядзе,—
Яму дапамагай і не шкадуй сябе самога.
А ў вас аб чым размова тут ідзе? —
Аб хуліганстве.
Не, браце, ў гэтакім паганстве
Я ўдзелу не прыму, вядома. Мардабой
І сам не падтрымаю я ніколі
Ды і табе скандаліць не дазволю».

---

Сябрук сапраўдны той,
Хто за табой
У бруд скакаць не будзе.
Не дасць ён і табе цялепкацца у брудзе,
Бо ён шануе гонар свой
І твой.

## СВІНЯЧАЯ АЦЭНКА



Кароўнік тыпавы пабудаваў калгас,—
Прасторны, светлы, з электрадаілкай,
З дарогай падвяснол, з аўтапаілкай.
Выдатна будаваць умеюць у наш час!
І вось туды свіння з візітам завітала.
«Ну, як у нас?—
Рагуля запытала,—
Палац, а не кароўнік, сапраўды!»
«Ат,— рохкнула свіння,— дарэмна ты
Прыходзіш у такое захапленне.
Ну што тут добрага? Якое тут здзіўленне?
Клянуся,— хоць смалі мяне, хоць рэж,—
Хваліць кароўнік ваш не маю я ахвоты.
Ні гною пад нагамі, ні балота.
І капыты ў карыта не ўкладзеш...»

---

А ёсць яшчэ дзялкі свінячай масці.
Парадкі нашы розная шпана
Не любіць, крывіцца яна,
Бо нельга капыты на стол пакласці.

## МЫШЫНАЯ ДУША



Шумелі кроны ў вышыні над галавой.
Смяльчак між дрэвамі кудысьці прабіраўся,
І — трэба ж так — з зубром спаткаўся
Якраз пад ліпай векавой.
Вы думаеце, ён спужаўся?
Ды дзе там! — Храбрасць праявіў!
Ён камень у руку схапіў,
Прыцэліўся і рог зубру адбіў.
У выніку такой вялізнай перамогі,
Здавалася б, крычы «ура!» —
Адолеў жа зубра!
Але смяльчак наш — дай бог ногі!
Што здарылася з ім? Чаго пабег ён шпарка?
Сапраўднага ж зубра, асілка перамог!
Ды не. У статуі адбіў ён рог
У парку,
Таму й баяўся атрымаць па карку.

---

Не, смеласці ў такога — ні шыша.
Смяльчак не зробіць шкоды.
На гэта здольна толькі дробная парода —
Мышыная душа.



У жніўні спаўняецца 180 год з дня нараджэння вялікага французскага паэта П'ера-Жана Беранжэ, якога В. Бялінскі назваў царом французскай паэзіі. «У яго,— пісаў Бялінскі,— палітыка — паэзія, а паэзія — палітыка, у яго жыццё — паэзія, а паэзія — жыццё».

**П'ер-Жан БЕРАНЖЭ**

# ПАД САМЫМ ДАХАМ



Я зноў наведаў кут майго юнацтва:
Мне дваццаць год, і я шчаслівы зноў...
Усё тут меў: і горкае жабрацтва,
І мілую каханую, сяброў.
І славай пагарджаў я, хлопец просты,
Я меў багацце — дзён маіх усход;
Імчаўся, лёгкі, на паверх свой шосты.
Пад самым дахам добра ў дваццаць год!

Вось тут стаяў мой ложак халасцяцкі,
І гэты стол служыў калісьці мне!
Яшчэ знайшоў свой першы верш юнацкі,
Што вугалем пісаў я на сцяне.
Бурліце зноў, пачуцці маладыя,
Вярніце час — цудоўны час нягод!
Здаваў гадзіннік у заклад тады я...
Пад самым дахам добра ў дваццаць год!

Чакай, Лізэта! Я спаткаўся з мілай —
Прыбранаю, прыгожай, маладой.
Ужо яна акенца засланіла —
Замест фіранкі хусткаю сваёй.
На ложак мой сукенка ўпала ценем...
І пачынаўся шчасця веснаход!
Я ведаў, як здабыла ты адзенне.
Пад самым дахам добра ў дваццаць год!



Я помню стол сяброўскі, гоман, жарты
І хор вясёлых, юных галасоў.
Хтось славіў перамогу Банапарта,
Але па-свойму песню я завёў.
Грымелі несціханыя гарматы,
І мы пілі за іншых дзён прыход —
За Францыю без каралёў, магнатаў!
Пад самым дахам добра ў дваццаць год!

Бывай, мой кут! Зноў ап'яніў ты розум!
Ох, як далёка час шчаслівы той!..
Аддаў бы я астатак дзён цвярозых
За дзень адзін пад гэтаю страхой.
Аб славе марыць, марыць аб каханні!
Адчуць жыцця кароткі, бурны ўзлёт.
Вярнуць бы мне жаданні, спадзяванні!
Пад самым дахам добра ў дваццаць год!

# НЕ, ГЭТА — НЕ ЛІЗЭТА



Як? Лізэта, гэта ты?
Перлы і пярсцёнкі,
Локан модны, твар пусты...
Дзе твой голас звонкі?

Не, не, не,
Гэта — не Лізэта.
Не, не, не!
Імя забудзем гэта.

Аксаміт, атлас і шоўк,
Панская карэта...
Фарба куплена для шчок,
Хіба ты — Лізэта?

Не, не, не,
Гэта — не Лізэта.
Не, не, не!
Імя забудзем гэта!

Ах, як дом прыбраны твой,
Прыгажосць якая!
Нават ложак, дык і той
Пазалотай ззяе.

Не, не, не,
Гэта — не Лізэта.
Не, не, не!
Імя забудзем гэта.

І павагу, і давер
Золатам купляеш.
Кажуць, розумам цяпер
Свет увесь здзіўляеш?

Не, не, не,
Гэта — не Лізэта!
Не, не, не!
Імя забудзем гэта!

Ах, была пара, была —
Палымянай страсці!
Швачка бедная цвіла
Каралевай шчасця.

Не, не, не,
Гэта — не Лізэта!
Не, не, не!
Імя забудзем гэта.

Ласкай, шчырасцю мяне
Ты запаланіла.
Ты была какеткай? Не!
Проста — шчасцем мілым!

Не, не, не,
Гэта — не Лізэта!
Не, не, не!
Імя забудзем гэта.

Ды стары любоў купіў
І красу Лізэты,
За знявагу заплаціў..
Хіба шчасце гэта?

Не, не, не,
Гэта — не Лізэта!
Не, не, не!
Імя забудзем гэта.

Ад мінулай прастаты —
Ні сляда, ні звання!
Герцагіняй стала ты?..
Што ж! Бывайце, пані!

Не, не, не,
Гэта — не Лізэта!
Не, не, не!
Імя забудзем гэта.

Пераклад з французскай мовы
Эдзі АГНЯЦВЕТ.








Добры пастух Міхась Астроўскі. Кожнае цяля ў яго статку прыбывае за суткі на 800—900 грамаў.

# ЮНАЦТВА СПЯШАЕЦЦА

**Рэпартаж**

У добрай справы дужыя крыллі.

Яшчэ зімою ў саўгасе «Нясята» на ўвесь голас загаварылі пра тое, што сёлетні год — другі год сямігодкі — будзе рашаючым у змаганні за багацце прадуктаў. Саўгасаўцы дружным калектывам абмеркавалі свае планы, узважылі сілы і магчымасці, каб вясною рушыць у вялікае наступленне. Збіраючыся ў паход, кожны чалавек, дзе б ён ні працаваў, вызначыў сабе задачы, за якія павінен змагацца.

Жывёлагадоўля — вось тое шырокае поле, на якім разгарнулася дружнае і ўпартае змаганне. 1 150 тон малака і 630 тон мяса — вышыні, якія належыць узяць сёлета. «Два планы малака і мяса!» — гэты заклік лунае над людзьмі, што сёння ў паходзе.

На пярэдні край, як заўсёды, выступілі камуністы і камсамольцы, якім належыць актыўная роля запявалаў у гэтым вялікім наступе.



**Нясяцкія камсамолкі выпраўляюцца нарыхтоўваць торф. Разам з імі шафёр-камсамолец Хведар Чайка.**

Запявалы. Людзі з гарачымі, неспакойнымі сэрцамі. Лепш не скажаш пра ўсіх тых, хто ў напружаныя летнія дні нясе ўдарную вахту на фермах, на полі, — на галоўным напрамку працоўнага фронта.



***Саўгаскія механізатары самі сканструявалі торфапагрузчык. На ім працуе Хведар Салтановіч.***

— У нас сёння 328 камсамольцаў, — гаворыць сакратар камсамольскай арганізацыі саўгаса Рыгор Астроўскі. — І ўсе яны лічаць сябе байцамі слаўнай сямігодкі!..

...Нам давялося бачыць, як нясяцкія камсамольцы сапраўды па-баявому, з агеньком працуюць, з уласцівай юнацтву заўзятасцю і задорам змагаюцца за права стаць ударнікамі камуністычнай працы.

Каго ні стрэнеш, з кім ні загаворыш, усе ў саўгасе называюць імёны людзей, што змагаюцца за малако і мяса, — гэта даяркі і пастухі. У канторы вывешаны свежы нумар насценнай газеты; здалёк відаць вялікімі літарамі напісаны загаловак: «Бярыце прыклад з Галі Харлап і Ліды Зінкавец, яны надайваюць па пуду малака ад каровы». На кароўніку — вялікі плакат, з якога ўсміхаецца прыгожая сціплая дзяўчына: «Вывучайце вопыт маладой даяркі Марыі Петрукевіч». У чырвоным кутку на стале свежыя газеты. Разгортваеш «Магілёўскую праўду» — на ўсю старонку надпіс: «6 300 кілаграмаў малака атрымлівае ў суткі саўгас «Нясяты» Клічаўскага раёна». У адной з заметак пастухі-адкормачнікі Казімір Умецкі і Міхась Астроўскі паведамляюць, што ў іх статку жывёла прыбывае па 800—900 грамаў за суткі. Тут жа на сцяне — спіс новых даярак, якія сталі перадавікамі. Па пуду малака ад каровы пачалі надойваць і Надзя Жукоўская, і Паша Рабянок, і Марыя Гарэлік, і многія іншыя... Напэўна, цяпер ужо большасць даярак усіх чатырох ферм змагаюцца за пачэснае права мець званне калектываў камуністычнай працы.



***Спрытна працуе на жніве камбайнер Аляксандр Лапіла.***

Сярод даярак ходзіць добрая слава пра камсамолак Марыю Петрукевіч і Галіну Харлап. Гэта дзяўчаты, якія задаюць тон у працы, паказваюць прыклад новых, камуністычных адносін да грамадскага абавязку. Яны абедзве прыйшлі на ферму пасля заканчэння дзесяцігодкі з гарачым жаданнем аддаць свае сілы і здольнасці выбранай справе. Ім, як гэта часта бывае, на першым часе было нялёгка, з іх кпілі і насміхаліся асобныя жанчыны-зайздросніцы, але дарэмна. Дзяўчаты перамаглі ўсё: і насміханні, і прычэпкі. Перамагла камсамольская настойлівасць, вера ў свае маладыя сілы. Марыя Петрукевіч, гэтая кволая на выгляд і ціхмаavая дзяўчына, у першы год сваёй працы зрабіла подзвіг: раздаіла пятнаццаць кароў, якіх збіраліся здаваць на мяса, і атрымала ад іх па 2 470 кілаграмаў малака. Сёлета ў пачатку года Марыя падмелася надаіць ад сваіх першацёлак па 2 600 літраў. Потым, прыгледзеўшыся і падсумаваўшы вынікі першых вясновых месяцаў, заявіла на камсамольскім сходзе: «Бяруся надаіць па 3 200 кілаграмаў. Такі мой падарунак у гонар 40-годдзя ЛКСМБ». Па прыкладу Марыі Петрукевіч пераглядзелі свае ранейшыя абавязацельствы і іншыя даяркі-камсамолкі.



**Сакратар камітэта камсамола Рыгор Астроўскі** (злева) **раіцца з Валодзем Гушчай і Галяй Харлап, як лепш скарыстаць грошы, якія дырэкцыя адпусціла на набыццё спортінвентару.**

Напрадвесні працаваць у жывёлагадоўлю прыйшло новае, надзейнае папаўненне — 56 членаў ВЛКСМ. І важна, што яшчэ ніхто з навічкоў не спалохаўся цяжкасцей і вялікай адказнасці, якая ўскладалася на іх плечы.

Моладзь, якая ідзе працаваць на фермы праяўляе зацікаўленасць да ўдзелу ў грамадскім жыцці.



Даярка Ліда Зінкавец надойвае кожны дзень па пуду малака ад каровы.

Хлопцы і дзяўчаты стараюцца ўліцца ў камсамольскую сям'ю. «Лічыце нас камсамольцамі!» — заяўляюць яны.

Пастухоў звычайна называюць першымі памочнікамі даярак. Малако, як кажуць, у каровы на языку: як пастух накорміць карову, так яна дасць і малака. Доўга хваляваліся нясятаўцы, пакуль падабралі добрых, старанных пастухоў. І ў гэтай, здавалася б, не маладзёжнай справе кіраўніцтву саўгаса дапамаглі камсамольцы, вылучыўшы са сваёй кагорты лепшых.

З адным з хлопцаў, якія працуюць пастухамі, адбылася наша сустрэча парным летнім надвячоркам на муражным узрэччы за вёскай Нясята.

— Знаёмцеся, — сказаў сакратар камсамольскага камітэта, кіўнуўшы ў бок загарэлага да чарнаты, жвавага хлопца, які ішоў насустрач і зычліва ўсміхаўся. — Гэта наш лепшы пастух, даглядае статак адкормачнікаў...

— Міхась Астроўскі, — назваў сябе хлопец і з гонарам дадаў: — Паглядзіце, якія нашы цялятКі... Праўда, не благія?

Цяляты ў Міхася такі сапраўды добрыя, хоць ты іх вязі на выстаўку: тлустыя, аж блішчаць. Відно адразу, што яны ў ласцы і даглядзе. Міхась за пастуха не першы год, але сёлета ён з напарнікам Казікам Умецкім далі слова дамагчыся па кілаграму прыбаўкі кожнага адкормачніка за дзень.

— І даб'емся! — узмахвае загарэлай рукой Міхась. Потым адразу, нібы штосьці ўспомніўшы, падступае да камсорга: — Скажы ты ім, Рыгорка, каб зяленіва вазілі не ўвечары, а днём, у поўдзень, калі горача. Увечары, бачыш, яны самі добра скубуць... А ў спякоту — добра зяленівам паласавацца...

— Добра, Міша, зяленіва будзе своечасова, — паабяцаў камсорг і ўжо дарогай, калі мы вярталіся з пашы, дадаў: — Добры гэты хлопец Міхась, вельмі любіць жывёлу. Між іншым, у яго і брат Грыша такі, таксама ў пастухах, кароў пасе на першай ферме, а сястра Марыя — даярка. Можна сказаць, уся сям'я на самым ударным участку. І заўважце, усе трое — камсамольцы. Актыўныя таварышы: Грыша — добры спартсмен, а Марыя спявае ў хоры.



Першаму нясяцкаму камунару Фаме Міхайлавічу Гушчу за семдзесят год. І радасна на сэрцы, што падрасла такая дружная змена.



— Дык можа камсамол саўгаса абмежаваўся толькі сваім удзелам у жывёлагадоўлі?

— Дзе вы бачылі, — нахмурыўся Рыгор Астроўскі і адразу загаварыў пра сваіх дэмабілізаваных сяброўсалдат, якія толькі што паздымалі пагоны і цяпер завіхаюцца ў родным саўгасе. Нядаўнія вясковыя хлопцы вярнуліся з вайсковай службы рослыя, дужыя, прынеслі з сабой тую ці іншую спецыяльнасць. Дэмабілізаваныя салдаты Гушча Павел, Іван Тумiловiч і Чайка Хведар водзяць аўтамашыны, Мікола Зінкавец і Аляксандр Скрыпка — трактарысты, Аляксандр Лапіла і Сцяпан Зорын — камбайнеры. Загартоўка, вытрымка, набытыя на вайсковай службе, дапамагаюць маладым энтузіястам стаць майстрамі сваёй справы, перадавымі людзьмі, якімі ўжо ганарыцца калектыў.

Калі Хведар Салтановіч зволіўся з войска і вярнуўся ў бацькаву хату, маці з трывогай спытала ў сына, што ён думае рабіць, калі адпачне.

— Пайду ў кантору да дырэктара і папрашуся, каб куды прыкамандзіравалі, — не вагаючыся, сказаў сын-салдат і тут жа сам сябе падахвоціў: — А што мне: дзве ж спецыяльнасці маю — і шафёра, і трактарыста...

— Вось добра, сынку, — прасвятлела маці. — Хоць мне на старасці ўцеха...



Перад 40-годдзем ЛКСМБ у партыю прыняты лепшыя з лепшых камсамольцаў — тэхнік-будаўнік Раман Мігдасёў і рахункавод Марыя Астроўская.

Хведар Салтановіч, як і ўсе яго сябры-камсамольцы, сёння на ўдарнай вахце, аб'яўленай у саўгасе ў гонар 40-годдзя ЛКСМБ. Дзень пры дні яго агрэгат — сканструяваны мясцовымі канструктарамі самадзельны торфапагрузчык — на балоце. За змену Хведар на гэтай машыне падбірае і грузіць па 200 тон торфакрошкі. Шафёры ледзь паспяваюць яе адвозіць. Моладзь падмелася за летнія месяцы нарыхтаваць 115 тысяч тон тарфяного ўгнаення пры планавым заданні 55 тысяч тон.

— Зробім, дадзім два планы! — упэўнена заяўляе Хведар Салтановіч.

— Жывёлаводы за два планы, — далучае свой голас і шафёр Хведар Чайка, — дык і мы не горшыя, мы таксама змагаемся за два планы!..

«Не пашкадуем сіл», «папрацуем на сямігодку ад душы», — так гавораць усе камсамольцы, усе маладыя працаўнікі саўгаса, з якімі нам давялося спаткацца ў гарачыя летнія дні.

Трактарыст Мікола Дубінін — адзін з тых энтузіястаў саўгаса, якія не шкадуючы сіл змагаюцца, каб сямігодка была выканана датэрмінова, за пяць год. Мікола са сваім напарнікам Аляксандрам Скрыпкам у гэтым годзе вырошчваюць 100 гектараў кукурузы і 100 гектараў бульбы. Удваіх

яны спраўляюцца на полі, дзе яшчэ нядаўна было занята паўбрыгады людзей. Хіба гэта не прыклад таго, як трэба ставіцца да свайго абавязку ў калектыве!

У нясяцкіх камсамольцаў багатыя традыцыі, якія ідуць ад тых далёкіх і незабыўных часоў, калі ў гэтыя лясныя мясціны даляцеў свежы вецер Кастрычніка. І цяпер яшчэ жывуць многія з тых, хто пракладаў сцежкі ў новае жыццё. Першаму нясяцкаму камунару Фаме Міхайлавічу Гушчу ўжо за семдзесят год; людзьмі пажылога веку сталі былыя арганізатары першай камсамольскай ячэйкі ў Нясяце Трахім Мінчанка і Сцяпан Кавалёнак. З іх расказаў моладзь чэрпае шмат цікавага і карыснага для сябе, вучыцца яшчэ лепш берагчы заваёвы, якія дасталіся ў нялёгкім змаганні.

Камсамольцы часта запрашаюць на свае вечары дзеда Гушчу, скрыпача і дасціпнага апавядальніка, які і ў свае семдзесят год выступае на сцэне. Ужо даўно старому дзяржава забяспечыла заслужаны адпачынак, але ён не сядзіць склаўшы рукі, турбуецца пра тое, каб памагчы саўгасу.

— Бульбу буртаваць — гэта ўжо мая справа, — гаворыць Фама Міхайлавіч. — Кожны год на мне гэтая работа. Не ведаю ўжо сёлета, як яно будзе, ці запросяць мяне?..

Працоўнае жыццё такіх людзей, як Гушча, добры ўзор для моладзі, для сённяшніх камсамольцаў, якія сваімі рукамі будуюць светлую будучыню.



А пасля работы — на валейбольную пляцоўку...

У працы, у кіпучых буднях гартуецца камсамольская сталасць. Кожны дзень расце і дужэе камсамольская сям'я. А тыя, хто набыў належную загартоўку, лепшыя з лепшых, — становяцца пад сцяг роднай партыі, каб усё жыццё прайсці ў яе слаўных радах.

Напярэдадні 40-годдзя камсамола Беларусі ў рады КПСС прынята дзевяць лепшых камсамольцаў саўгаса. Сярод іх сакратар камсамольскага камітэта Рыгор Астроўскі, тэхнік-будаўнік Раман Мігдасёў, даярка Марыя Петрукевіч, рахункавод Марыя Астроўская і іншыя.

Няўрымслівае юнацтва спяшаецца. Камсамольцы ўпэўнена крочаць да сваёй сталасці.

Тэкст С. **КУХАРАВА**.

Фота **А. ДЗІТЛАВА**.



Беларускія чырвонагвардзейцы на маршы.

# ВЫРАСЛІ МЫ Ў ПОЛЫМІ

Гэты своеасаблівы нарыс складаецца з архіўных дакументаў, звязаных паміж сабой кароткімі каментарыямі. Дакументы не пісаліся для гісторыі. Але з гэтых суровых і скупых, як і сам час, успамінаў, пісем, рэзалюцый і справаздач, газетных паведамленняў і фотадакументаў, народжаных у баях, у героіцы камсамольскіх будняў, паўстаюць жывыя людзі, і мы нібы бачым твары, чуем галасы, адчуваем гарачы, неспакойны вецер першых камсамольскіх гадоў.

* * *

Камсамол нараджаўся, ішоў радасным веснавым шумам па абноўленай рэвалюцыяй зямлі, якая вольна ўздыхнула. Ён, гэты шум, ахапіў усё юнацтва, гатовае служыць рэвалюцыі. Моладзь збіралася, гаманіла, спрачалася, разыходзілася і сыходзілася зноў і нястрымана, часам падсвядома імкнулася да аб'яднання. Аб камсамоле марылі ў самай глухой закінутай вёсачцы.

Вельмі многа расказваюць аб тых часах скупыя факты і лічбы. У іх, як у суровых байцоў, мужны і стрыманы голас. І магчыма таму яны гавораць больш за самыя прыгожыя і пышныя словы.

У Мінску камсамольская арганізацыя ўзнікла 15 снежня 1918 года, у Бабруйску — 18, у Мазыры — 28 снежня.

Гэтыя даты, месяцы і дні камсамольцы нашага пакалення павінны помніць і шанаваць, як шануем мы дні свайго нараджэння.

У лютым 1920 года ў Мсціслаўскім павеце было ўжо дзевяць вясковых арганізацый КСМ, якія налічвалі 500 членаў. У Чаускім павеце камсамольскія арганізацыі былі ў вёсках Сухары, Расно, Дрыбін, Чарнёўцы і многіх іншых.

У першыя дні жніўня ў Докшыцах пры ўдзеле супрацоўніцы палітаддзела Лебедзевай была створана арганізацыя КСМ, якая ахапіла адразу 40 чалавек. Арганізавалі клуб, пры якім працавалі гурткі — палітычны, музыкальна-харавы і драматычны. Адкрылі школу лікбеза *. Саюз правёў некалькі суботнікаў.

Ідэя камуністычнага саюза ішла з гушчы самой моладзі, біла з глыбінь народных.

У Ленінскай сельскагаспадарчай камуне Мсціслаўскага павета ўзнікла арганізацыя КСМ, куды ўвайшла ўся моладзь камуны, усе 16 чалавек. Пры саюзе была створана бібліятэка. Штодзённа праводзіліся чыткі і гутаркі.




Першыя камсамольскія выданні.

Мястэчка Хіславічы. Саюз арганізаваўся стыхійна. З масы рабочай моладзі вылучылася ініцыятыўная група, якая склікала 30 ліпеня 1919 года сход моладзі мястэчка. Гэты дзень быў пачаткам камсамольскага руху ў павеце. Сход з вялікай увагай праслухаў даклад аб задачах камсамола і пазнаёміў моладзь з праграмай і статутам КСМ. У саюз тут жа ўступіла 30 маладых рабочых і работніц. Члены саюза выбралі камітэт. Праз некаторы час звязаліся з губкомам, атрымалі інструкцыі і літаратуру.

* Школа па ліквідацыі непісьменнасці. — Рэд.



Як стваралася камсамольская арганізацыя ў вёсцы Карнілаўка Бабруйскага павета, расказвае ў сваіх успамінах камсамолец Адынец:



Домік на Гандлёвай вуліцы — месца падпольных сходаў мінскіх камсамольцаў у 1918—20 гг.

У 1920 годзе праз некалькі месяцаў пасля адступлення белапалякаў я прачытаў брашуру «Пад чырвоны сцяг саюза», з якой я ўпершыню даведаўся пра камсамол.

З вясковымі хлопцамі часта гаварыў аб тым, што добра было б і ў нас арганізаваць саюз моладзі...

І вось 20 жніўня ў доме вартаўніка рэўкома мы сабраліся на першы сход. Я адкрыў сход такімі словамі: «Таварышы, мы павінны арганізаваць свой саюз». Але якім ён павінен быць, я і сам толкам не ведаў.

Потым я прачытаў уголас некалькі вытрымак з кніжкі. Што саюз патрэбен — згадзіліся ўсе, і саюз быў арганізаваны.

Вечарамі збіраліся ў доме, дзе раней была манаполька *. Чыталі газеты, спявалі рэвалюцыйныя песні. Пазней даведаліся пра Бабруйскі угарком **, наладзілі сувязь з ім.

Адразу мы павялі барацьбу з бандытызмам. А бандытаў у той час было многа: Балаховіч, Кісель, Караткевіч. Бывала, тыднямі ганяліся за імі, не заходзячы ў сваю вёску. Вядома, у такі час нельга было думаць аб асветрабоце. Толькі па святах моладзь збіралася ў школе, дзе камсамольцы ставілі спектаклі, выступалі ў хоры, вучыліся грамаце...

Гэтыя ўспаміны дапаўняе камсамолец з 1918 года, падпалкоўнік у адстаўцы Барыс Аляксандравіч Ачасаў:

Я ўспамінаю першых камсамольцаў Ваню Сакалова, Пецю Міронава, Кузняцовых, Віцю Карэтнікава, Барыса Жаброва і Шуру Праабражэнскую. Яны толькі і жылі камсамольскай работай. Знясіленыя, галодныя, з вачамі, якія ўваліліся ад малакроўя, яны працавалі з песнямі, жартамі, арганізоўвалі канцэрты, збіралі сродкі ў дапамогу фронту, выконвалі любую работу. І ніколі ніхто не скардзіўся на цяжкасці. А нашы камсамольскія суботнікі! Іх тады праводзілі амаль праз дзень. Людзей не трэба было ні агітаваць, ні ўпрошваць. Дастаткова было аб'явіць: «Суботнік!» і ішлі ўсе: рабочыя, падлеткі, старыя, хатнія гаспадыні, жанчыны з дзецьмі, а наперадзе — камуністы і камсамольцы. На рэўкомаўскім двары чуцён голас: «Запявала, заводзь «Смело, товарищи, в ногу».

Рэвалюцыйная песня! Яна замяняла нам хлеб і давала сілы, калі ад змораннасці не ішлі ногі і не падымаліся рукі. Мы рамантавалі гарадскі мост, ачышчалі рыначную плошчу, прыводзілі ў парадак горад, карчавалі пні, нарыхтоўвалі дровы. І ніхто ніколі не спытаў, ці заплацяць за гэта.

І так па ўсёй рэспубліцы, у кожнай камсамольскай арганізацыі Беларусі.

9 жніўня 1919 года моладзь Віцебска, усяго 500 чалавек, выйшла на камуністычны суботнік. За чатыры гадзіны работы яны адрамантавалі 6 чыгуначных вагонаў, прыбралі з пляцовак вагоннай майстэрні і пагрузілі ў вагоны 1000 пудоў жалезнага лому, разгрузілі 7 вагонаў дроў і дзве платформы дошак.

* Крама, у якой прадавалі гарэлку. — Рэд.
** Павятова-гарадскі камітэт камсамола. — Рэд.

Камсамольцы рэвалюцыйных гадоў! Яны шчодра жылі, горача дружылі, радаваліся і гаравалі, працавалі на ўсё плячо, на поўны ўзмах, дыхалі на ўсю глыбіню лёгкіх, захліпаючыся ад радасці новага жыцця, быццам кожнаму з іх жыццё было дадзена на дзесяцярых. І на сцежках, па якіх прайшлі камсамольцы, яны пакінулі добры след, які не сатрэ нават час.



**Прэзідыум 1-га з'езда камсамола Заходняга краю.** Злева направа: **Цэйтлін, Вараб'ёў, Ахманаў, Грэйфенбергер, Прокшыц, Флакс.**

Кожнае рашэнне камсамольскага сходу дыхала незвычайным энтузіязмам і запалам. Бобрская валасная арганізацыя КСМ на Віцебшчыне ў сваёй пастанове пісала:

> Нястомна працаваць, штотыднёва наладжваць суботнікі, арганізоўваць чыткі лекцый, дакладаў і наогул накіраваць усе свае сілы, каб як мага хутчэй знішчыць контррэвалюцыю і перайсці да мірнага будаўніцтва светлага камуністычнага жыцця.

> «... Аб сабе, аб сваёй выгадзе камсамольцам нават і ў галаву не прыходзіла падумаць. Над краінай навісла кашчавая рука голаду. Мы атрымоўвалі тады адзін раз у дзень талерку прасянай кашы, 50 грамаў хлеба, чайную лыжку цукру. Цукар і хлеб адносілі дзецям. Аднойчы камусьці пашчасціла дастаць бохан аўсянага хлеба. Гэта было сапраўднае свята»... Так успамінае Барыс Аляксандравіч Ачасаў аб гэтых цяжкіх гадах.

...І тым не менш, камсамольцы магілёўскай арганізацыі КСМ пастанавілі адлічыць заробак аднаго дня ў фонд КІМа, апроч таго, сіламі камсамола правесці суботнік, грошы ад якога аддаць на патрэбы юнацкіх арганізацый Захаду. Курсанты Магілёўскага інстытута па падрыхтоўцы савецкіх работнікаў таксама пастанавілі адлічыць трохдзённы заробак на дапамогу КІМу.

Гарачы вецер б'е ў твар, навальнічныя хмары над галавою, грудзі расхінуты насустрач жыццю, і рэвалюцыя ў сэрцы! А з-за вугла падпольноўвае кожны крок камсамольскага актывіста злое вочка кулацкага абрэза. Смерць ходзіць побач. Але камсамольцы да небяспек прывыклі. Усё пераносяць: холад, голад, цяжкасці. Крыўдна толькі рана развітвацца з жыццём. Рэвалюцыі дарагія кожная пара надзейных рук, кожны чырвонаармеец у страі. Вельмі патрэбны людзі. Не страшна памерці. Але як хацелася б хоць краем вока паглядзець на будучыню. Якая яна? Якія, напэўна, будуць тады прыгожыя, моцныя і сардэчныя людзі.

> ... У Зачысцкай валасной камсамольскай арганізацыі Барысаўскага павета іх было ўсяго 15. Але ўсе яны па-геройску працавалі і змагаліся. Палова членаў мабілізавана на правядзенне тыдню нарыхтоўкі прадуктаў.

> Прадуктовы фронт быў самы цяжкі. На вайне ўсё ясна — перад табою вораг, і яго трэба знішчыць. А тут фронт — вакол, вораг здрадлівы, невядома, за якім плотам падпільноўвае цябе смерць.

> У вёсцы спачатку і прызнаваць не хацелі нейкіх там камсамольцаў, што прыехалі па збору прадуктаў.

> — Хлеб прыехаў забіраць? А ты мне яго даў? Матчына малако з вуснаў абатры, потым ужо камандуй. Бач, актывіст мне знайшоўся. Добры гаспадар такому смаркачу і кароў пасвіць не даверыць. Што ты тут мітынгуеш... Я даўно забыў тое, што ты цяпер мелеш. А хлеба не дам, і ўсё! Ды і што гэта мы, мужыкі, доўга цацкацца будзем. Калом яго сустракаць трэба.

> Так працягвалася дзень, другі, трэці. Не хацелі сяляне аддаваць хлеб. Але і камсамольцы не адступалі. І вось аднойчы селянін, у якога камсамольцы стаялі на кватэры, расказваў на выгане аднавяскоўцам:

> — Не разумею я іх, чумавыя нейкія. Учора таго чарнявага, што болей за ўсіх крычаў, тыфус схапіў. Усю ноч непрытомны кідаўся, а ўсё роўна шэпча, праклятыя: «Нельга нам, хлопцы, вяртацца, калі не прывязем шэсць падвод хлеба!» Я дык ведаю, ад галадоўкі гэта. Выпаліў я ўчора лазню, пазваў іх памыцца. У адзежы — не відно, а раздзеліся, паверце, людцы, сэрца крывёю аблілося. Худыя, скура мяшком вісіць. Нішчымныя сухары грызуць, а з фонду прадразвёрсткі, што сабралі за гэтыя дні, ані жменькі не ўзялі. Выходзіць, свае гэта хлопцы. І жартуюць яшчэ: «Мы ведаем, бацька, ты ж за савецкую ўладу, толькі вельмі ўжо скупы». Не вытрымала сэрца, адкапаў яму і адмераў дзесяць пудоў.

> Селянін разумеў, што калі такія юнакі, голыя, галодныя, з слязьмі на вачах ідуць у цемень ночы, пад абрэз, пераконваюць, упрошваюць, — калі не ўдаецца за адзін раз, пачынаюць усё спачатку, — значыць, за імі стаіць праўда большая, чым яго.

> — І такія возьмуць верх. Іх, праклятых, не здужаеш, — шапталіся між сабою багацеі.

Але не трэба ўяўляць сабе першых камсамольцаў панурымі, з перакрыўленымі ад злосці тварамі аскетаў. Яны любілі жыццё, і яно плаціла ім гэтым жа — любоўю. Жылі весела, шчодра адкрываючы свае душы насустрач зямным радасцям. Новыя гаспадары прыйшлі на абноўленую зямлю. Яны павінны былі абараніць яе і пабудаваць на ёй новае, светлае жыццё, аднолькавае для ўсіх. А для гэтага патрэбна было многа сіл — фізічных і духоўных.




**Група ўдзельнікаў I краёвага з'езда камсамола Заходняга краю, які адбыўся ў Смаленску 20 снежня 1918 года.**

> Таварышы! Ідзе вясна, ажывае прырода. Усюды крыніцай б'е жыццё, яно кліча нас. Прэч слабасць і абыякавасць, нявер'е ў свае сілы. Наша шчасце, наша моц у нашых руках. Шырэй дарогу духоўнаму і фізічнаму абнаўленню, гарманічнаму развіццю

здаровага, паўнацэннага жыцця. Развівайце свае фізічныя сілы, гартуйце сваю духоўную моц.

Ідзіце працаваць у расаднік фізічнай культуры, запісвайцеся ў Сенненскі спартыўны клуб.

Так звярталася да моладзі аб'яднанае пасяджэнне па пытаннях фізічнай культуры.

Праграма першай Віцебскай губернскай спартыўнай алімпіяды 1920 года мала чым адрозніваецца па складанасці ад сучаснай. А гэта ж было пасля белапольскай інтэрвенцыі, у самы цяжкі год для камсамольскіх арганізацый Беларусі. У праграму былі ўключаны: лёгкая атлетыка (бег на 100, 200, 300, 500 метраў і г. д., бар'ерны, эстафета, скачкі ў вышыню і даўжыню, з шастом, кіданне кап'я, дыска, штурханне ядра), гімнастыка (вольныя практыкаванні, практыкаванні на турніку, бруссях, кані, выступленні з індывідуальнай праграмай), фехтаванне (бой на рапірах і эспадронах), цяжкая атлетыка (падняцце цяжараў), барацьба (французская, каўказская, амерыканская, швейцарская), бокс, футбол (ад кожнага павета па адной камандзе), стральба (павет выстаўляе па адной камандзе) і г. д. Спаборніцтвы праходзілі ў кастрычніку 1920 года ў Віцебску.

Хутка раслі, мацнелі камсамольскія арганізацыі. Камсамольцы думалі, шукалі новых форм работы, каб дапамагчы партыі ва ўсіх яе справах па перабудове старога жыцця.

Магілёў. Адкрыліся заняткі на двухтыднёвых курсах для 30 камсамольцаў, накіраваных у школьныя саветы. На курсах чыталіся: «Рэвалюцыя і асвета», «Асновы працоўнай школы», «Школьнае самакіраўніцтва», «Настаўнік і школа», «Пазашкольная адукацыя», «Царква і школа». Курсы ставілі мэтай падрыхтаваць членаў камсамола для правядзення рэформы старой школы.

*Аб кожнай новай, няхай нават другараднай і для нас цяпер звычайнай* форме камсамольскай работы ў той час газеты гаварылі, як аб надзвычайным здарэнні.

Камсамольцы першых паслярэвалюцыйных год часам гарачыліся, рабілі памылкі, але іх нельга папракнуць у адным: у бяздзейнасці. Гэты ліст, пад якім стаяць тры прозвішчы: Е. Рыўлін, В. Шыдарс, І. Баркін, магчыма, хоць крыху раскажа аб высокім энтузіязме і нястомнай працаздольнасці камсамола тых год.

Дарагія таварышы! Па рашэнню ЦК мы адкліканы з Віцебска і павінны ехаць працаваць у іншыя мясцовасці. На развітанне хацелася б сказаць некалькі слоў.

Віцебская арганізацыя за апошні год многа зрабіла. З маленькага гуртка, з якім ніхто не лічыўся, яна ператварылася ў магутную камуністычную арганізацыю віцебскай рабочай моладзі і не толькі рабочай, а і сялянскай. Мы пакідаем свае месцы зусім спакойна, бо ведаем, што іх зоймуць дзесяткі другіх, добра падрыхтаваных работнікаў.

Але зроблена яшчэ не ўсё. Не ўсе 400 членаў саюза атрымалі ў нас камуністычнае выхаванне, не ўсе яшчэ навучыліся добра працаваць. Выхаваць усіх членаў саюза, навучыць іх працаваць — вось чарговая задача нашай арганізацыі. Няхай ведаюць таварышы, што гэтага яны даб'юцца толькі ўпартай працай.

... Становішча ў рэспубліцы вельмі сур'ёзнае, і, магчыма, хутка нам прыйдзецца аддаць нашых лепшых работнікаў фронту. У заключэнне пасылаем вам свае пажаданні, як мага больш і лепш працаваць.





Група віцебскіх камсамольцаў, мабілізаваных у 1919 г. на фронт барацьбы з Калчаком.

Камсамольцы аддавалі фронту ўсё, памагалі маладой Чырвонай Арміі ўсім, чым толькі маглі. Мсціслаўскі камітэт КСМ заклікаў:

Надыходзіць зіма. Тыл яе не баіцца, ёсць у яго цёплая вопратка, цёплы кут.

Грозным прывідам паўстае яна для нашага фронта. У чырвоных герояў, якія абараняюць нас, няма ні цёплага прыстанішча, ні зімовай вопраткі. У лютую сцюжу, у траскучыя маразы прыйдзецца ім ляжаць у акопах, быць у паходах і баях.

*Наш першы* абавязак — зрабіць усё для палёгкі становішча байцоў на фронце. Чым больш будзе клопату з нашага боку, чым больш адчуе Чырвоная Армія дапамогу тылу, тым цвярдзейшай будзе рука чырвонаармейца, тым хутчэй мы дасягнем перамогі.



Бабруйскі падпольны камітэт камсамола.

Моладзь вельмі чула адклікаецца на ўсе жыццёвыя з'явы. І цяпер, калі паўстае пытанне аб забеспячэнні чырвоных байцоў адзеннем і абуткам, моладзь павінна быць наперадзе. Так, як і раней, яна павінна быць ініцыятарам, падымаць на гэтую справу арганізацыі і грамадзян... Усё лепшае, што ў нас ёсць, аддаецца Чырвонай Арміі. Фронт — вось куды трэба скіраваць цяпер нашу ўвагу і энергію. Чырвоная Армія — наш гонар, дзецішча пралетарскай рэвалюцыі — павінна быць абута і адзета. Моладзь, нашы абаронцы чакаюць дапамогі!

Весткі з фронта прыходзілі трывожныя. Белапольская конніца рвалася на Мінск.

І зноў жа факты, лічбы, дакументы найлепшым чынам расказваюць аб вогненных гадах грамадзянскай вайны на Беларусі. Скупыя радкі спраўздач пахнуць порахам і дымам, абпалены ваенным агнём, заліты крывёю герояў.

... Усе члены КСМ мужчынскага полу, якім мінула 15 год, абавязаны навучыцца ваеннай справе. Тыя, хто не жадае і ўхіляецца ад ваеннага навучання, выключаюцца з камсамола.

...У цяжкі для рэспублікі момант камсамол павінен мабі-

лізаваць усе свае сілы і аб'явіць свае арганізацыі на ваенным становішчы з пераводам усіх членаў на казарменнае становішча.

...2 чэрвеня 1919 года мінскія камсамольцы пераведзены ў казарменнае памяшканне на агульнае становішча з чырвонаармейцамі.

Камсамол Беларусі правёў чатыры мабілізацыі. Ужо ў маі 1919 года мінская арганізацыя паслала на фронт 37 чалавек, бабруйская — 40. На польскі фронт пасылаюцца атрады полацкай, аршанскай, ігуменскай (чэрвеньскай), чэрыкаўскай арганізацый КСМ, на паўднёвы фронт — віцебскай, аршанскай і многіх іншых.


Такі знак выдаваўся мінскім камсамольцам у час белапольскай акупацыі замест камсамольскага білета.

У адзін з майскіх дзён мазырскія камсамольцы забілі дзверы пакоя, дзе змяшчалася ячэйка, прымацавалі запіску: «Усе пайшлі на фронт, ячэйка не працуе да поўнага разгрому белапалякаў», — і ўсім складам адправіліся ў Чырвоную Армію.

Камсамольцы 20-х гадоў выконвалі не даручэнні, а ваенныя загады, і членскія ўзносы яны плацілі сваім жыццём і крывёю.

Невялікі атрад віленскіх камсамольцаў імя Розы Люксембург (Вільна ўваходзіла тады ў склад Беларусі) на працягу доўгага часу, пакуль не падышлі чырвонаармейскія часці, стрымліваў напор рэгулярных войск ворага. Такі гераізм і стойкасць праяўлялі неабучаныя хлопцы і дзяўчаты.

Не паспеўшы як след адпачыць пасля жорсткіх баёў, віленскі камсамольскі атрад звяртаецца ў ЦК КП(б) Літвы і Беларусі з просьбай перавесці яго на абарончыя рубяжы Мінска.

Пра подзвігі 4-й Мінскай роты камсамольцаў захаваліся ўспаміны арганізатара і байца гэтай роты Зайдэнвара.

... У мінскіх газетах апошніх дзён красавіка 1919 года быў абвешчаны загад № 1: «Усе камсамольцы мінскай арганізацыі абавязаны прыйсці а пятай гадзіне вечара ў клуб камсамола, дзе адбудуцца заняткі. За няяўку камсамольцы будуць прыцягнуты да суровай адказнасці».

Зусім зразумела, што да «суровай адказнасці» ніхто не быў прыцягнуты. Роўна а пятай гадзіне ўсе члены мінскай арганізацыі былі ў клубе.

«Да зброі, да зброі, вораг ля варот», — гэта лозунг барацьбы. Клуб ператварыўся ў ваенны лагер. Многія камсамольцы прасілі камітэт накіраваць іх на фронт і, не дачакаўшыся пастановы камітэта, дабравольцамі з'явіліся ў ваенкамат.

10-га мая мінскі камітэт пастанавіў: «35 чалавек арганізацыі мабілізаваць у Чырвоную Армію. А з астатніх членаў стварыць атрад для асобых даручэнняў». Атрад меў задачу весці барацьбу з дэзерцірствам, контррэвалюцыяй, бандытызмам, у той час асабліва пашыранымі на Беларусі.

З мабілізаваных была створана 4-я рота, якая ўлілася ў мінскі вартавы батальён.

Любоў і павага да 4-й роты сярод нас былі настолькі вялікія, што ўзнікалі нават легенды. Расказвалі, што польскае камандаванне пасылала шпікоў, каб узарваць памяшканне,



у якім размяшчалася рота. Яе хацелі завабіць у акружэнне і знішчыць.

Каля вёскі Гарадок польскія салдаты ў часе атакі фарпоста 4-й роты са злосцю крычалі: «Пся крэў, бальшавіцкая рота». Палонныя гаварылі, што ў польскага камандавання 4-я рота выклікала сур'ёзную трывогу.

16-га ліпеня 4-я рота была накіравана на фронт. Вялікая маса народу выйшла праводзіць нас. На вакзале адбыўся мітынг, і калі цягнік крануўся, з вагонаў данесліся магутныя гукі «Інтэрнацыянала», які быў падхоплен натоўпам.

Назаўтра рота заняла баявыя пазіцыі. Яна атрымала адказную задачу — прыкрыць адступленне Чырвонай Арміі, якая пераходзіла на новыя рубяжы. Вораг, узброены да зубоў, наступае суцэльнымі калонамі. Ён значна мацнейшы па колькасці і ўзброенасці. Першая гадзіна бою — і ўжо ахвяры. Па ланцугу перадаюцца прозвішчы забітых таварышаў. Рыўлін, Андрэйчык, Каждан і яшчэ і яшчэ. Мацней сціскаем зубы. Вось перадаюць, што на левым флангу адна з рот ганебна адступіла і пакінула фланг адкрытым. Усе абураны здрадай. Але мы пастанаўляем не адступаць. Перагрупаваліся, запоўнілі аголены ўчастак і працягваем бой.

Чатыры дні без адпачынку рота была ў баі. Галодныя, стомленыя і абадраныя пасля доўгіх баёў, мы з гонарам, з бальшавіцкім энтузіязмам выконвалі свой абавязак чырвонага байца. Лепшыя таварышы... злажылі свае галовы на подступах да Мінска, але абавязак свой выканалі.

... Мінскі вартавы батальён, куды ўваходзіла і 4-я камсамольская рота, з баёў выйшаў амаль поўнасцю разбіты. Тыя, што засталіся жывымі, уліліся ў 72-інтэрнацыянальны полк, які потым ужо ў 1920 годзе прайшоў гераічны шлях ад Бабруйска да Варшавы.

Камсамольцы на фронце не хаваліся і не дрыжалі за сваё жыццё. Яны заўсёды былі ў першых радах.

На калчакоўскім фронце загінуў арганізатар віцебскага камсамола Гайдук, віцябляне Цялятнікаў, Краскін; на врангелеўскім — Славін, Шып і іншыя. Пры падаўленні Кранштадскага мецяжу ў ланцугу дэлегатаў X з'езда РКП(б) загінуў Гарасім Фейгін, член ЦК камсамола Беларусі і Заходняга бюро ЦК РКСМ.

Вось як аб гэтым подзвігу гаворыць армейская зводка.

Фейгін ішоў у ланцугу першы. Сярэдняга росту, энергічны позірк, рука падвязана. Бадзёры, смелы, упэўнены, ён сімвалізаваў сабой маладую камуністычную змену, якая паднялася на аднаўленне Расіі. Так паміраюць героі!

Зусім яшчэ падросткам пайшоў Гарасім у 1919 годзе даб-


Зайдэнвар (Цукер) — адзін з арганізатараў камсамола ў Мінску.

равольцам на дзянікінскі фронт, дзе вырас да намесніка ваенкома палка. Пазней быў перакінуты на Заходні фронт камісарам палка.

... Хлапчуком пачаў рэвалюцыйную дзейнасць у 1917 годзе камсамолец Флакс. А ўжо ў 1919 годзе — ён палітработнік буйных падраздзяленняў Чырвонай Арміі. Работа палiткома займала ўвесь час, але ён не забываў камсамольскай сям'і, з якой выйшаў і сам. Будучы ў Мінску, ён да позняй ночы вывучае з камсамольцамі курс палітэканоміі і гісторыі партыі. Не было таго дня, каб ён не забег у камсамольскі клуб памагчы правесці якое-небудзь мерапрыемства ці проста паспяваць з камсамольцамі.

Флакс быў вельмі добрым прамоўцам. Ён неяк асабліва пранікнёна ўмеў даносіць да людзей словы ленінскай праўды.

Суровы з выгляду, ён заўсёды з'яўляўся там, дзе было асабліва цяжка. У час атакі бег першы ў чырвонаармейскім ланцугу, сваёй вытрымкай, сваім прыкладам натхняючы на подзвігі байцоў.

У пачатку жніўня 1920 года ў мястэчку Янаў, у Польшчы, у час мітынгу, на якім Флакс выступаў з прамовай перад вызваленым насельніцтвам, белапольскія драгуны з тылу ўварваліся ў мястэчка. Завязаўся няроўны бой, у якім ад драгунскай саблі загінуў Флакс. Ён быў пахаваны ў ціхім гарадку Бяла. Пасля труну з прахам чырвонага героя перавезлі ў Мінск.

На высокім узгорку ў парку імя Горкага ў вечным спакоі ляжаць камандзір 10-й дывізіі 16-й арміі Дауман і бясстрашны камісар Флакс. Іх імёнамі названы вуліцы ў Мінску.

Камсамольскае падполле з яго законамі канспірацыі пакінула яшчэ менш слядоў. А між тым у гады белапольскай акупацыі яно склала адну з самых вогненных і гераічных старонак беларускага камсамола.

Кожную мінуту, на кожным кроку ў акружэнні ворагаў падпольноўвала маладога падпольшчыка небяспека. Мінская падпольная арганізацыя КСМ была разбіта на групы па 5—6 чалавек у кожнай. Адна група не павінна была ведаць аб рабоце другіх, каб у выпадку арышту не было правалу ўсёй арганізацыі.

Моладзь не мела належнага вопыту, якім валодалі камуністы, і таму часта правальвалася і пападала ў рукі ворага. У мінскай камсамольскай арганізацыі правакатар гімназіст Кантаровіч выдаў увесь састаў падпольнага камітэта і іншых таварышаў, якіх ён ведаў. Як потым выявілася, у горадзе дзейнічала цэлая група правакатараў: Газоўскі, Онбрайт, Розенштэйн, Плоткін, Гіршгорн.

Каб пазбегнуць масавых арыштаў, партыйны камітэт стварыў штаб падпольнай камсамольскай арганізацыі. Арганізавалі і так званую «Біржу камсамольцаў» для сустрэч і перадачы даручэнняў. «Біржа» спачатку знаходзілася ў гасцініцы «Еўропа», потым перавялі яе ў губернатарскі сад (цяпер парк імя Горкага), далей ад вачэй шпікоў і правакатараў.

Трацячы сваіх людзей, явачныя кватэры, ратуючыся ад праследаванняў і арыштаў, камсамольцы Мінска не спынялі барацьбы. Камсамольскае падполле рыхтавала зброю, друкавала і распаўсюджвала лістоўкі і адозвы, высочвала, куды легіянеры адвозілі арыштаваных камуністаў, здабывала звесткі аб дыслакацыі і сілах польскага гарнізона ў горадзе.

Такую ж гераічную работу праводзілі і іншыя камсамольскія арганізацыі Беларусі, афяруючы жыццём дзесяткаў юнакоў і дзяўчат.

Быў веснавы дзень, сонечны і ціхі. Распускаліся дрэвы. А яны, 14 юнакоў, ішлі на развітанне з жыццём. Звязаныя ланцугамі, змучаныя, падтрымліваючы адзін аднаго, яны горда глядзелі ў вочы смерці.

Была нядзеля. Але не пагуляць і адпачыць выйшлі людзі ў гэты дзень. Агромністы натоўп запоўніў не толькі ўсе вуліцы,



але двары і агароды. Родныя і блізкія асуджаных плакалі і крычалі, а яны заспявалі пралетарскі гімн міжнароднай салідарнасці. Кожнае слова іх песні назаўсёды ўразалася ў памяць людзей. Гэты спеў адкрываў усю глыбіню вялікай барацьбы.

Калі набліжаліся да могілак, асуджаныя заспявалі «Мы жертвою пали...» Ціхі плач натоўпу перайшоў у рыданне.

— Вы забіваеце нас, але не ідэю. На змену нам прыйдуць сотні тысяч новых герояў. Яны вынесуць над вамі прысуд. «Узнімецца мсціўца суровы і будзе за нас ён мацней. Няхай жыве ўлада Саветаў! Няхай жыве сусветны камунізм!» — гэта былі апошнія словы герояў. Яны памерлі. Кожны камсамолец павінен іх ведаць і, калі трэба будзе, гэтак жа, пакамсамольску, памерці.


Пролетарии всех стран, соединяйтесь!

Коммунистический Союз Молодежи Белоруссии.

ЦЕНТРАЛЬНЫЙ КОМИТЕТ.

I Всебелорусский С'езд

ДЕЛЕГАТСКИЙ БИЛЕТ № 81.

Фамилия

Имя, отчество

от Минской

организации с правом решающего голоса

Ответственный Секретарь Центрального Комитета

Минск Сентября 24 дня 1920 г.

Такі выгляд меў дэлегацкі білет на I Усебеларускі з'езд камсамола, які адкрыўся 24 верасня 1920 г. у Мінску.

Цяжка было паміраць у 16 юнацкіх год. Завяяванае рэвалюцыяй жыццё было такім прамяністым і сонечным. Будучыня ўяўлялася такой чыстай і яснай. І так хацелася жыць... А колькі іх, невядомых герояў, чыёй крывёю афарбаваны наш камсамольскі сцяг, загінула ў барацьбе. Аб іх толькі песні засталіся.

«Мы не ведаем, колькі брацкіх магіл пакінула грамадзянская вайна і падполле на палях Беларусі, і ў кожнай з іх, безумоўна, ляжыць адзін камсамолец», — гаворыцца ў артыкуле тых год.

Горача біліся камсамольскія сэрцы, гарэлі за справу народа. Камсамольцы першага пакалення мужна перанеслі ўсё, што патрабавала рэвалюцыя, прайшлі там, дзе прайсці, здавалася, было немагчыма. І калі паміралі, дык хавалі іх на вышынях, якія яны ўсё ж такі бралі. Турбавала гэтых самаадданых юных змагароў толькі адно, каб у надзейныя рукі перадаць справу пралетарыята, каб, не азіраючыся, без адступленняў, не падаючы духам і не палохаючыся цяжкасцей (а яны ведалі — уперадзе іх будзе яшчэ многа), данесці да шчаслівай эпохі камунізма наш пераможны ленінскі сцяг.

**А. ЯСКЕВІЧ,**
**А. ВАРАБ'ЁЎ.**



# ГОД ЗА ГОДАМ

### З ГІСТОРЫІ КАМСАМОЛА БЕЛАРУСІ

### ЮНАЦТВА У АГНІ

**1942**

☆

4 чэрвеня група маладых партызан і падпольшчыкаў пад кіраўніцтвам камсамольца Станіслава Ракіцкага ўзарвала ў Калінкавічах электрастанцыю.

13 ліпеня гэтая ж група арганізавала буйнае крушэнне на чыгунцы Калінкавічы — Васілевічы.

☆

З ліку камсамольцаў-падпольшчыкаў у Мірскім раёне Гродзенскай вобласці створаны партызанскі атрад «Камсамолец», які пазней вырас у партызанскую брыгаду «Камсамольская» Баранавіцкага злучэння.

З першых дзён вайны ў вёсках Сіняўская Слабада, Пагарэлка, Беражная былі створаны падпольныя камсамольскія арганізацыі. Іх узначальвалі камсамольцы Іван Мацко і Яўген Крэмко.

☆

У Налібоцкай пушчы пад Баранавічамі ў жніўні створаны Асоба-Казацкі партызанскі атрад пад камандаваннем

Мікола ХВЕДАРОВІЧ

## ТАК ПАЧЫНАЛАСЯ МАЛАДОСЦЬ

Лета 1919 года. Войскі Пілсудскага, выкарыстаўшы велізарныя цяжкасці, што былі на шляху маладой Савецкай дзяржавы, спрабуюць захапіць Беларусь. Чырвоная Армія пачынае часовае адступленне.

Рыхтаваўся да эвакуацыі і Капыльскі рэўком, якому належала тады ўся мясцовая ўлада. Старэйшыя з нас — камсамольцы Багдановіч Міхась, Шкадарэвіч Есіп, Зарамбоўскі Кастусь, Марцулянчык Мікола — таксама сабраліся ў дарогу. Цішком, каб не ведалі бацькі, пачаў збірацца і я. У гумне ляжаў мяшок з неабходнымі рэчамі. Па агародзе хадзіць заплаканая маці. Яна ўжо са мною не размаўляе, але шкадуе мяне, я адчуваю, яшчэ больш.

На тэрміновым сходзе партячэйкі вырашана, што я, як самы малодшы з камсамольцаў, застаюся дома. Застаюцца таксама Алесь Камінскі і Мікола Марцулянчык. Старшыня рэўкома Язерскі сказаў:

— Куды табе ехаць, Чарнушэвіч? Ты яшчэ зусім малы. Заставайся, браце, дома. Толькі трымайся асцярожна, а ты нам і тут будзеш спадручны. Мы хутка вернемся, далёка адступаць не будзем!

Ад'язджаюць мае прыяцелі Бабарэкі — сын і бацька. Яны дабравольцамі паступілі ў адну кавалерыйскую часць Чырвонай Арміі. Як я зайздрошчу сябру-камсамольцу!

Я стаю і гляджу ім услед. З рыначнага пляцу рушылі фурманкі з рэўкомаўскай маёмасцю. За фурманкамі, уніз з гары, адыходзяць часці асобага прызначэння (ЧОН). Ідуць з вінтоўкамі за плячамі мае сябры. Далёка пралягла дарога на Слуцк. З гары толькі відны невыразныя цені, але яны губляюцца ў хмурнай далечыні.



Назаўтра пад вечар у Капыль уступілі польскія ўланы. Шляхта, гандляры сустрэлі іх хлебам і соллю. Каб непрыкметна знікнуць з людскіх вачэй, я наймаюся пастухом у Карычы і цэлымі днямі знаходжуся ў лесе. Неўзабаве да мяне прыйшоў Алесь Камінскі, які ведаў, дзе я жыву, і перадаў сумную вестку: арыштаваны камсамолец Быка — былы сакратар валрэўкома — і расстраляны.

Мінула восень, прайшла зіма, якую мы з бацькам правялі аж за Грэскам, у глухой вёсцы Маразы, дзе шылі кажухі. За зіму абышлі амаль усю Случчыну, а вясну сустрэлі ў вёсцы Паўстынь.

Чуткі аб тым, што Чырвоная Армія дала добрага штурханца акупантам пад Барысавам, узнімалі надзею і акрылялі нас. Я пайшоў у Трайчаны, каб сустрэцца там з Алесем Камінскім, які па заданню падпольнай арганізацыі ўступіў у польскую армію. Ужо некалькі разоў я праходзіў каля польскіх казармаў.

Неяк вясною, выганяючы каровы, я страўся з Алесевым братам. Ён мне расказаў жахлівую навіну. Падпольная камсамольская арганізацыя ў польскім войску правалілася. Выдаў яе правакатар, салдат-добраахвотнік. Арыштавана чатырнаццаць чалавек, а сярод іх і Алесь Камінскі.

Усіх арыштаваных прыгаварылі да пакарання смерцю, нібы за здраду прысязе. Каб запалохаць насельніцтва Слуцка, жандары абвясцілі аб прысудзе спецыяльнымі аб'явамі, якія былі расклеены па ўсім горадзе. У нядзелю ў Слуцку па абодва бакі вуліцы шпалерамі стаялі жандары. Камсамольцаў вывелі з турмы, звязаных па два калючым дротам. Іх, пабітых і акрываўленых, вялі пад канвоем конных жандараў па галоўнай вуліцы да могілак. Камсамольцы ішлі на смерць з горда ўзнятымі галовамі. На плошчы, дзе сабраўся вялікі натоўп, яны заспявалі:

Здэх Пілсудскі, здэх Пілсудскі,
Здэх, здэх...

Жандары замітусіліся і, выхапіўшы з ножан доўгія палашы, пачалі гразіць вязням. Але гэта не памагло. На гэты раз загучаў «Інтэрнацыянал». Жандары злаваліся, білі вязняў па галовах, але спеў не змаўкаў.

На могілках ужо была загадзя выкапана глыбокая яма. Вязняў паставілі ўскрай магілы, а яны не пакідалі спяваць, і гукі «Інтэрнацыянала» луналі над перапалоханым горадам. Пачуліся залпы. Песня змоўкла, але толькі на момант — яе падхапілі сотні галасоў. Спявалі тыя, хто сабраўся тут, каб праводзіць у апошнюю дарогу сваіх родных братоў — самаадданых змагароў.

Весткі, як вольныя птушкі, неслі радасць працоўным — Чырвоная Армія гнала бела-

Д. А. Дзенісенкі,ператвораны ў студзені 1944 года ў 1-ю Беларускую кавалерыйскую брыгаду Баранавіцкага злучэння. Асноўную частку атрада, а затым і брыгады, складалі камсамольцы і моладзь Карэліцкага, Мірскага, Любчанскага і Стаўбцоўскага раёнаў былой Баранавіцкай вобласці.

☆

У вёсцы Боланаў Сялец Быхаўскага раёна смерцю храбрых загінула 13 маладых партызан з 61-га атрада Магілёўскай вобласці. Акружаныя з усіх бакоў, яны змагаліся да апошняга патрона. Гітлераўцы страцілі ў гэтым баі забітымі 73 чалавекі.

☆

У Скідзелі створана падпольная маладзёжная антыфашысцкая арганізацыя. Камсамольцы праводзілі агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі, зрабілі шэраг буйных дыверсій, у тым ліку спалілі вялікі прадуктовы склад, перадалі партызанам адзін станковы, тры ручныя кулямёты, 5 вінтовак, больш 1 000 патронаў.

☆

Праведзена 1-я брыгадная камсамольская канферэнцыя ў партызанскай брыгадзе, якой камандаваў Аляксей Данукалаў. Канферэнцыя адзначыла мужнасць і смеласць, праяўленыя ў баях з фашыстамі, многіх камсамольцаў, у тым ліку Міхаіла Навумава, Мікалая Раманава, Вечаслава Багданава, Аксаны Шумскай, Дзмітрыя Марчанкі, Аляксандра Салдатава, Нюры Аўсянікавай, Соні Шапутавай, Фелікса Крыжэвіча, Анатоля Цукарава.

☆

У баі па разгрому паліцэйскага ўчастка ў вёсцы Ломавічы Акцябрскага раёна, выратоўваючы параненага камандзіра, загінула аўтаматчыца атрада імя Гастэлы камсамолка Рыма Шаршнёва.

**1943**

☆

Пастановай бюро ЦК ЛКСМБ вырашана аднавіць з 1 лютага 1943 года выхад газеты «Чыр-

воная змена». Выдаваць яе вырашана ў тыле ворага. Зацверджана рэдкалегія ў складзе М. В. Зіміяніна, К. Т. Мазурава, М. Т. Барашкава.

☆

У Кіраўскім раёне Магілёўскай вобласці 10 лютага праведзена першая раённая камсамольская канферэнцыя з парадкам дня: «Роля і чарговыя задачы камсамольскай арганізацыі ў партызанскім руху». Дакладчыкам быў упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ тав. Анішчанка.

☆

У вёсцы Клебанцы пад Мінскам 22 мая загінула ў баі з карнікамі член Мінскага міжрайцэнтра ЛКСМБ Любоў Гайдучонак. Накіраваная ў тыл ворага ў 1941 годзе Цэнтральным Камітэтам камсамола, Л. Гайдучонак працавала па арганізацыі камсамольскага падполля ў Чэрвеньскім, Пухавіцкім і Мінскім раёнах. Трапіўшы ў засаду і параненая, яна прыкрывала адступленне таварышаў. Апошняй куляй застрэліла сябе.

☆

Партызаны Пінскага злучэння вывелі са строю Днепра-Бугскі канал на ўчастку Пінск — Кобрын. Кіраваў баявымі аперацыямі камандзір брыгады камсамолец Міхаіл Герасімаў.

☆

Згодна пастанове ЦК ЛКСМБ на Беласточчыне 29 чэрвеня пачала выдавацца маладзёжная антыфашысцкая газета Беластоцкай вобласці «Малады партызан».

Газета выходзіла адзін раз на тыдзень.

☆

Група партызан на чале з сакратаром Лунінецкага падпольнага РК ЛКСМБ Аляксандрам Святцавым ноччу прабралася ў варожы гарнізон, вызваліла больш 600 зняволеных савецкіх грамадзян і памагла ім дайсці ў партызанскую зону.

☆

Член обальскай падпольнай камсамольскай арганізацыі Ні-

польскіх ваяк на захад. Гэтыя весткі надавалі сілы і ўпэўненасці ў перамогу. Яны дапамагалі пераносіць цяжкі боль па таварышах, якія загінулі ў змаганні за волю, за маладую савецкую рэспубліку.

Неяк увечары я забег да Міколы Марцулянчыка.

— У нас арганізаваўся партызанскі атрад, — сказаў ён мне, — і я ўступаю ў яго. Кіруюць атрадам нашы хлопцы Хмялеўскі і Мікалай Туркаў. У атрадзе шмат капыльскіх хлопцаў. У нас ёсць ужо зброя. Мы ставім мэтай дапамагчы Чырвонай Арміі, якая рушыла ў наступленне.

— Дык ты павядзі і мяне да таго Туркавага Мікалая, няхай і мяне прымуць у атрад, — папрасіў я Марцулянчыка.

Ён паабяцаў зрабіць гэта заўтра ж.

Ледзь дачакаўшыся світання, я пабег агародамі да свайго сябра. Ён ужо быў на нагах, і мы накіраваліся на ўскраіну горада, да каталіцкіх могілак. Там былі Міхась Багдановіч, Дзямідовіч, Зарамбоўскі, Хмялеўскі і іншыя, якія прыйшлі ў атрад з суседніх вёсак. Ляжалі ў густой траве і корпаліся ў сваіх вінтоўках. Вінтоўкі былі розных сістэм, здабытыя яшчэ ў часы імперыялістычнай вайны. Некаторыя хлопцы былі ўзброены рэвальверамі і нават шаблямі.

Мяне завялі да камандзіра партызанскага атрада. Гэта быў статны малады чалавек у афіцэрскай гімнасцёрцы, але без пагонаў. Ён служыў у царскай арміі прапаршчыкам, а пасля Кастрычніка вярнуўся дадому і спачуваў бальшавікам. Яшчэ з дзіцячых гадоў я не адзін раз быў у іх хаце. Акінуўшы скептычным позіркам маю нядэшлую постаць, камандзір усміхнуўся і сказаў:

— Ну, здарова, ваяка! Табе яшчэ ў самы раз суслу смактаць!

Усе гучна зарагаталі. Некаторым прыйшоўся да спадобы такі жарт. Яны пачалі кпіць з мяне і проста насміхацца. Але камандзір, убачыўшы маю збянтэжанасць, парашыў спыніць кпіны:

— Чаго вы ўсхадзіліся! Вы, мусіць, не ведаеце таго, што хлопец гэты нам вельмі патрэбны!..

— Міша, ты яго добра ведаеш? — звярнуўся ён да Міхася Багдановіча.

Міхась добра ведаў мяне, і я ўпэўнены быў, што слова яго будзе рашаючым. І ён сказаў:

— Гэтага хлопца я добра ведаю, ён наш камсамолец!..

Кепікі адразу спыніліся, бо Міхась Багдановіч быў за камісара ў атрадзе. Падбадзёраны, я, здавалася, аж падрос і неяк мімаволі і паспешліва выпаліў:



— Таварыш камандзір! Давай мне любое даручэнне, але прымі ў свой атрад...

Усе зноў зарагаталі, але, убачыўшы, што я вось-вось расплачуся, змоўклі. Пачулася некалькі галасоў:

— Возьмем яго, прымем! Прыгадзіцца!..

Тады камандзір атрада падышоў бліжэй, востра і пранікліва глянуўшы ў вочы, сказаў:

— Вось што, хлопча, пойдзеш да Тараса Шамчука. Скажаш, што Мікалай Туркаў прыслаў цябе па грушы. Не здзіўляйся! Так і скажаш: па грушы! І тыя грушы, што ён табе дасць, прынясеш сюды. Толькі глядзі, нікому іх не паказвай і нікому не кажы, што я цябе пасылаю...

Пераскочыўшы цераз мураваны паркан, я пабег па вузкім зарослым узмежку. Спатыкаючыся і падаючы, я перабег замкавы роў і, падняўшыся на высокі пагорак, агародамі падаўся адразу дадому. Перакусіўшы трохі, памчаўся да Тараса Шамчука, які жыў насупраць нашай хаты.

Тарас быў не такі, як усе іншыя суседзі. Трымаўся ён незалежна, неяк умеў паважаць і сябе, і людзей. Будучы небагатым чалавекам, ён, як кажуць, умеў жыць. Калі ўдакладніць сказанае, дык атрымаецца прыблізна вось што: вялікая сям'я яго заўсёды мела кавалак хлеба і нават да хлеба. Умеў Тарас быць у кампаніі вясёлым і здатным на добры жарт. Хадзілі чуткі, што калі згарэла яго гумно, то там загінула і яго сакрэтная бібліятэка. Казалі яшчэ, што Тарас прымаў удзел у рэвалюцыйным руху 1905 года.

Я знайшоў яго ў агародзе, за прыгрэбкаю, дзе ён складаў наколатыя дровы. Ён нават не заўважыў мяне. Пастаяўшы з хвіліну, я набраўся смеласці і сказаў:

— Добры вечар, дзядзька Тарас. Пазнавата, трэба ўжо канчаць работу. Час ужо і на начлег выязджаць...

Тарас паглядзеў на мяне здзіўлена.

Я парашыў раскрыць усе сакрэты, бо часу на размовы не хапала, трэба было спяшацца да партызан. Адразу выпаліўшы ўсё, што мне даручыў начальнік атрада, я чакаў, што скажа мне Тарас. Ён паглядзеў на мяне дапытліва, і я зразумеў, што тлумачэнняў не трэба.

— Ну, то пойдзем у садок, — зусім спакойна сказаў Тарас, — я пачастую цябе грушамі!..

Я падумаў, што сапраўды ён мае перадаць партызанам грушы. Але калі мы прыйшлі ў садок, то ён адчыніў барачок, дзе захоўвалася зімою бульба. Сагнуўшыся, мы пралезлі праз вузкія дзверцы, і Тарас, запаліўшы сернік, пачаў спускацца ў яму.

Я стаяў, як зачараваны, і чакаў, што з гэтага ўсяго будзе. Праз некаторы час з чор-

на Азоліна ўзарвала 19 жніўня вадакачку на станцыі Обаль. У выніку водазабеспячэнне нямецкіх паравозаў на чыгунцы Полацк — Віцебск было перапынена на працяглы час.

☆

Падпольшчыкі станцыі Калінкавічы В. Отчык, А. Булатоўскі і А. Лоеўская мініравалі бочкі з бензінам. Узнік пажар, які цягнуўся каля двух сутак. На станцыі згарэлі ўсе склады з ваеннай маёмасцю, у тым ліку апаратура і сродкі сувязі, пантоны, абмундзіраванне, інструменты, прадукты.

☆

13 кастрычніка пасяджэнне падпольнага бюро Пінскага абкома ЛКСМБ абмеркавала пытанне аб ходзе падрыхтоўкі да святкавання 25-годдзя ВЛКСМ. Адзначана, што камсамольцы брыгады імя Леніна ў гонар 25-годдзя ВЛКСМ узарвалі 2214 чыгуначных рэек. Толькі за адзін масавы выхад камсамольцаў на чале з сакратаром Ганцэвіцкага падпольнага райкома ЛКСМБ т. Узянюк узарвана 500 рэек.

☆

У Мінску на Магілёўскай вуліцы загінулі ў баі з фашыстамі члены штаба найбольш актыўнай падпольнай камсамольскай арганізацыі «Андруша» на чале з сакратаром Мікалаем Кядышкам. Гэтая арганізацыя аб'ядноўвала 30 падпольных груп, мела 8 явачных кватэр, падпольную друкарню, чатыры пішучыя машынкі, радыёпрыёмнік, склад боепрыпасаў і зброі. Падпольшчыкі зрабілі шмат буйных дыверсій, перадалі партызанам шмат зброі, боепрыпасаў, медыкаментаў.

Трапіўшы ў засаду, члены штаба па-геройску змагаліся да апошніх сіл.

**1944**

☆

Камсамольцы-падпольшчыкі і партызаны Давыд-Гарадоцкага і Столінскага раёнаў перапраўвілі праз лінію фронта больш 1 000 чалавек прызыўнога

ўзросту, якія ўліліся ў рады Савецкай Арміі.

☆

20-гадовы камсамолец-партызан з атрада «Кастрычнік» Першамайскай брыгады Баранавіцкага злучэння Міхаіл Белуш 2 ліпеня ў баі пры разгроме фашысцкага гарнізона ў вёсцы Купіцк Навагрудскага раёна паўтарыў подзвіг Аляксандра Матросава — закрыў сваім целам амбразуру варожага дота.

Міхаіл Белуш удзельнічаў у многіх баях, узарваў 5 варожых эшалонаў.

### 1945

☆

22 верасня. За мужнасць, самаадданасць і геройства, праяўленыя камсамолам і моладдзю Беларусі ў радах Савецкай Арміі і партызанскіх атрадах у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, камсамол Беларусі ўзнагароджан ордэнам Чырвонага Сцяга.

## У ЗМАГАННІ ЗА КАМУНІЗМ

### 1946

☆

Маладзечанскія камсамольцы кінулі баявы кліч: «У Мінск, на новабудоўлі!» Заклік маладых патрыётаў быў падхоплены моладдзю ўсёй рэспублікі.

Цэнтральны Камітэт камсамола Беларусі адобрыў гэты патрыятычны пачын і прыняў пастанову аб добраахвотным прызыве пяці тысяч юнакоў і дзяўчат на ўдарныя новабудоўлі.

У чэрвені ў Мінск на будаўніцтва трактарнага і аўтамабільнага заводаў пачалі прыбываць першыя пасланцы камсамола.

### 1947

☆

Пленум ЦК кампартыі Беларусі аб'явіў месячнік па завяршэнню будаўніцтва дамоў на

най дзіры паказалася галава майго суседа. Ён цягнуў з ямы велізарную аброчную торбу.

— На, трымай, толькі не ўпусці, барані божа...

Я ўхапіўся за гэты падарунак і, адчуўшы незвычайны цяжар, зразумеў, якія грушы падрыхтаваў Тарас. У торбе былі патроны.

— Не затрымлівайся, браце, — сказаў сусед, адсопваючыся, — хутчэй бяжы агародамі праз школьны двор, а там нізам па Татарскай вуліцы!..

— Добра, дзядзька Тарас!

Памогшы мне прасунуцца з торбай праз вузкую шчыліну дзвярэй, дзядзька сапраўды падняў з долу некалькі жоўтых ранніх грушспасавак і палажыў мне ў кішэню...

А ноч выдалася цёмная. На вуліцы ні душы. Увесь мокры ад стомы, я ледзь дапаў да паркана могілак і адразу быў сустрэты вартавым атрада. Вядома, ён пазнаў мяне і дапамог тыя «грушы» перакінуць на той бок. Ровам, па густых зараслях, я ледзь дапоўз да драўлянай каплічкі. У цемры сям-там паблісквалі агеньчыкі цыгарак, але было ціха. Навакол стаяла сапраўды магільная цішыня. Начальніка атрада не было. Торбу з «грушамі» прыняў яго намеснік камяняр Уладзік Камінскі — брат Алеся. Ён пахваліў мяне:

— Вось малайчына. Тут, напэўна, будзе пудоў са два...

Потым Камінскі наказаў, каб я заўтра схадзіў да Траяка ці да Мандзіка і перадаў загад падкінуць хлопцам «фузяў» — вінтовак.

Была ўжо поўнач, калі я вярнуўся дахаты. Вуліца спала пад ціхія шолахі шыракалістых клёнаў. Толькі на пагорку ў крайняй хаце пабліcквала адно акно. Я прыйшоў дамоў і, цішком распрануўшыся, заснуў. Раніцай мяне разбудзіла маці. І неяк асабліва цёпла, ласкава папярэдзіла:

— Бач, сынок, які цяпер неспакойны час. Ходзяць чуткі, што не сёння, дык заўтра маюць прыйсці чырвоныя. Паны ўжо ўцякаюць без аглядкі. Дык глядзі ж, гані каровы ў лес і асцерагайся... Ну, ідзі, сынок!..

Я пагнаў каровы якраз паўз Мандзікаву хату і, забегшы ў двор, пастукаў у акно. Высунулася праз разбітую шыбу галава гаспадыні.

— Павел, Павел! — закрычаў я. — Свінні ўсе грады на вашым агародзе пераварнулі!..

Павел ведаў ужо, што я знарок крычу. Ён выйшаў, і я перадаў яму, што атрад чакае «фузяў». Мы трохі пастаялі каля плоту, і ён паведаміў мне, што заўтра ноччу чырвонае войска павінна быць у нас. Насустрач паехаў партызан Чарнушэвіч, які хоча дапамагчы ім хутчэй прабрацца. Мне Павел даручыў наглядаць за дарогай на Цімкавічы:

— З табою разам будзе пасвіць каровы



Іванёк Бабіцкі, дык ты яму можаш даручыць сваіх кароў, а сам як мага хутчэй бяжы ў атрад, калі што якое...

Мы з Іваньком сагналі каровы ў адзін статак. Было ўжо за поўдзень, калі на дарозе за шастакоўскім маёнткам з'явілася адна падвода, потым другая, трэцяя, чацвёртая. Праз некалькі хвілін доўгая стужка абозу выехала з-за лесу і асцярожна рухалася ў напрамку да Капыля. Абоз ехаў павольна, асцярожна. Наперадзе — верхавы. Выехаўшы на шырокі прагалак, верхавы махнуў рукою, і падводы з'ехалі з дарогі на паплавец, спыніўшыся на папаску.

Я парашыў неадкладна аб гэтым паведаміць атраду і, колькі меў сілы, пусціўся бягом праз палеткі. Задыхаючыся, я бег праз аўсы і ячмяні, падаў у густой канюшыне, узнімаўся і зноў бег. Каля знаёмага паркана мяне стрэў паставы і павёў да камандзіра.

— Ну, якія навіны прынёс, кажы? А за «грушы» дзякую. Яны нам вельмі прыгадзіліся... — загаварыў першы камандзір.

— Ну, што «грушы», — адказаў я. — З Цімкавіч ідзе вялікі абоз, можа падвод з пяцьдзесят ці больш. На падводах легіянеры. Я сам бачыў...

— А колькі легіянераў?

Тут я і змоўк, не маючы што сказаць.

— На вазах сядзяць жаўнеры, а колькі іх там, дакладна сказаць не магу. Халера іх ведае. Можа будзе з пяцьдзесят...

— Што ж ты, браце, не пацікавіўся? Трэба больш дакладна. А можа там іх цэлы полк? — папракнуў камандзір.

Сорамна мне стала перад партызанамі. Я міргаў ад няёмкасці вачыма. Камандзір атрада паклікаў да сябе маладога хлапца і аддаў нейкі загад. Тым часам увесь атрад заварушыўся. Першыя групы пакідалі могілкі і выходзілі на ўскраіну горада, каб заняць баявыя пазіцыі. Адно толькі я падслухаў, калі камандзір гаварыў:

— Пры сустрэчы з праціўнікам адкрыць вінтовачны агонь, абкружыць і ўзяць у палон. Па падводчыках не страляйце. Гэта сяляне, і яны павінны вярнуцца дадому!..

Потым ён глянуў на мяне і заўважыў, што я хвалююся. Неяк па-сяброўску крануў за плячо:

— Дзякую, цёзка! Цяпер бяжы ў пасеку зноў і пільна сачы за дарогай. Калі што якое, дык адразу давай знак...

Я памчаўся, не чуючы ног. Мяне цікавіла тое, як будзе ісці бой партызан з жаўнерамі. Прабегшы па сцежцы між густога ячменю, я падаўся бліжэй да дарогі і залёг за высокім узмежкам, чакаючы рашучага моманту.

Навокал стаяла цішыня. Духмянасць ішла ад высокіх жытоў, якія ўжо наліваліся.

вёсцы. Ударнай сілай гэтага месячніка былі камсамольцы і моладзь. Удзельнічала 2 700 камсамольска-маладзёжных будаўнічых брыгад і 1100 брыгад па нарыхтоўцы і вывазцы лесу. У дапамогу вёсцы было накіравана з гарадоў 454 камсамольска-маладзёжныя брыгады. За час месячніка пабудавана 9356 дамоў.

☆

Пры актыўнай дапамозе камсамольскіх арганізацый у рэспубліцы ўведзена ў строй больш 90 буйных прадпрыемстваў, у тым ліку Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, Магілёўскі металакамбінат, інструментальны завод імя Чкалава ў Мінску.

☆

Адноўлены і пачалі даваць прадукцыю швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі» ў Віцебску, абутковая фабрыка імя Калініна ў Мінску, часткова ўступіў ў строй мінскі і гродзенскі суконныя камбінаты, Віцебскі дывавова-плюшавы камбінат і іншыя прадпрыемствы.

☆

Дзейсны ўдзел у аднаўленні і развіцці сельскай гаспадаркі прымалі камсамольцы горада. Сіламі маладых рабочых зроблена і перададзена ў вёску 1 500 камплектаў слясарнага інструменту, 18 металарэжучых станкоў, 5 электразварачных агрэгатаў, 4 электратурбіны, больш 18 тысяч дэталей да сельскагаспадарчых машын, аказана дапамога ў будаўніцтве 30 калгасных кузняў.

Камсамольцы Мінскага аўтамабільнага завода пабудавалі і абсталявалі электрастанцыю ў калгасе імя Горкага Бягомльскага раёна.

### 1948

☆

За атрыманне высокіх ураджаяў 126 маладых калгаснікаў рэспублікі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі. Камсамольцы Тамары Шкурко з калгаса «Чырвоная ніва» Брагінскага раёна, якая са сваім камсамольска-маладзёжным звяном

атрымала па 30 цэнтнераў жыта з гектара на плошчы 8 гектараў, прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы.

К пачатку года ў калгасах рэспублікі было створана і працавала 1200 агратэхнічных гурткоў, у якіх навучалася 25 тысяч маладых хлебаробаў.

☆

У гонар 30-годдзя ВЛКСМ моладзь вёскі датэрмінова здала ў эксплуатацыю 25 калгасных электрастанцый.

☆

Сіламі камсамольцаў і моладзі ў рэспубліцы пабудавана 550 новых калгасных клубаў і хат-чытальняў, накіравана з горада ў вёску 10 тысяч тамоў розных кніг. Больш тысячы камсамольскіх актывістаў па рэкамендацыі камітэтаў камсамола пайшлі працаваць загадчыкамі хат-чытальняў.

**1949**

☆

На рыштаваннях будоўляў спаборнічала 730 камсамольска-маладзёжных брыгад. Сваімі сіламі камсамольцы і моладзь Беларусі пабудавалі больш 20 тысяч дамоў для сем'яў, што жылі пасля вайны ў зямлянках; дзве з палавінай тысячы грамадскіх памяшканняў.

☆

Паход камсамольцаў за ліквідацыю малапісьменнасці і непісьменнасці ў заходніх абласцях Беларусі насіў сапраўды масавы характар. Толькі ў Брэсцкай вобласці ў ім прыняло ўдзел больш 2 тысяч культармейцаў.

**1950**

☆

К канцу года ў заходніх абласцях Беларусі было арганізавана больш 6 тысяч калгасаў, якія аб'ядналі 83,7 працэнта ўсіх сялянскіх гаспадарак. Камсамольцы прынялі актыўны ўдзел у перабудове вёскі на сацыялістычны лад.

Высока ў небе плавалі лёгкія аблокі і заводзіў кароткую песню жаўрук.

Трымцела сэрца, аж, здавалася, выскачыць з грудзей. Я пільна ўзіраўся ў вузкую стужку дарогі, якая адным сваім канцом гублялася за густымі кустамі арэшніку, і ўсё чакаў, што вось-вось з-за кустоў нехта пакажацца.

— Дзе ж яны падзеліся? — шаптаў я сам сабе, прыпаўшы нічком да цёплай зямлі.

І раптам ад кустоў аддзялілася нейкая кропка, за ёй — другая, трэцяя. Вось ужо выразна відаць, як абоз запыліў па дарозе, расцягнуўшыся аж да самага пагорка. На вазах сядзяць жаўнеры. Той, што на другой фурманцы, напэўна, нейкі старшы. Ён дрэмле, і ногі яго целяпаюцца, як нежывыя. На задніх падводах нехта спявае:

Забілі, забілі
Русы-бальшаві-іц-ы-ы-ы...

Але што гэта ніхто не страляе? Чаму?

І раптам: «Бах, бах, бах!..» — спачатку адзіночныя стрэлы, а пасля — частая страляніна. Легіянеры, паўскокваўшы з вазоў, таксама пачалі страляць, але, убачыўшы, што яны абкружаны, хутчэй пусціліся наўцёкі ў бок Цімкавіч. Партызаны імчаліся ім наперарэз. З акружэння паспела вырвацца толькі пяць фурманак. Перапалоханыя жаўнеры паднялі рукі ўгару. Хлопцы забіралі зброю.

Я сядзеў на адным возе з Уладзікам Камінскім. Падводчыкі прасіліся адпусціць іх дадому, але камандзір атрада загадаў усім ехаць у горад. Вярталіся мы з багатай здабычай.

І вось мы зноў з сябрам Бабіцкім сядзім ля вогнішча. Пячэм на ражэнчыках сала. У нас ужо цвёрдая згода — заўтра абавязкова пайсці да камандзіра і папрасіць яго, каб дазволіў нам застацца ў атрадзе. Не дачакаўшыся заўтра, мы вечарам пабеглі да камандзіра. Але ён пасмяяўся толькі і сказаў:

— Вось гэтак, пасучы каровы, вы можаце большую карысць зрабіць — сачыць за дарогамі і папярэджваць нас. Мы ж лічым вас сваімі...

Назаўтра мы пагналі кароў па Грозаўскай дарозе аж пад скабінскі маёнтак. Адтуль, стаўшы на высокі курган, можна далёка бачыць дарогу. Мы глядзелі па чарзе з высокага кургана, але нікога і нічога відаць не было.

У той трывожны дзень нібыта ўсё вымерла. На полі амаль ніхто не працаваў. Мы бачылі, як за рачулкай на грудзе акапаліся партызаны. Недалёка пасвіліся тыя коні, якіх учора захапілі ў жаўнераў. Па дарозе вецер круціў сухі пыл і нёс на пустыя палеткі.

Пасля паўдня з-за скабінскіх гумнаў паказалася фурманка. Неўзабаве выехалі два кон-



нікі, а праз некаторы час пачалі выязджаць новыя фурманкі і верхавыя. Доўга не чакаючы, я сказаў Івану адагнаць каровы глыбей у лагчыну, а сам бягом кінуўся да партызанскіх акопаў.

— Абоз ідзе па дарозе ад Скабіна, — дабегшы да пярэдняга дазору, толькі і вымавіў я ад хвалявання.

Неўзабаве ўсчалася бойка. Страляніна цягнулася доўга, аж да вечара. Пад Уладзікам Камінскім забіла каня, але камандзір застаўся жывы, схапіў свой карабін і пусціўся за жаўнерамі. Як потым выявілася, гэта былі перадавыя разведвальныя часці белапалякаў, якія пад націскам Чырвонай Арміі спешна адступалі ад Слуцка.

Я парашыў начаваць у атрадзе і дадому ўжо не вяртацца.

На світанні прыехаў пасыльны Чарнушэвіч. Ён прывёз радасную вестку. Чырвоная Армія, мінуўшы Вялешын, ідзе да нашага мястэчка. Чуліся радасныя воклічы. Партызаны цалаваліся і ад усяго сэрца віталі адзін другога з вызваленнем. Запісваліся дабравольцамі ў Чырвоную Армію.

А калі развіднелася, нашы перадавыя часці ўжо былі на плошчы Капыля. Бясконцым патокам ішлі і ішлі чырвоныя палкі.

Старэйшыя з камсамольцаў уступалі ў шэрагі Чырвонай Арміі, але вось гора: нас, падлеткаў, у армію не бралі.

Назаўтра раніцаю мы хавалі тых нашых чырвонаармейцаў, што загінулі пад Шастакамі ў баі з белапалякамі. Мы беражна перанеслі іх з вохкага балота і палажылі ў брацкую магілу пры дарозе каля вёскі Шастакі. На драўляным помніку і сёння палымнее чырвоная пяцікутная зорка, пасярэдзіне якой выразна відзён камсамольскі значок.

Над будынкам рэўкома ў Капылі зноў лунаў чырвоны сцяг. Вайна пакацілася далёка на захад. І дапамога ў наладжванні мірнага жыцця стала нашай першачарговай задачай.

Хутка наладзілася сувязь са слуцкім павятовым камітэтам. Першы прыехаў да нас інструктар павяткома Пятліцкі. Прасцей кажучы, не прыехаў, а прыйшоў са Слуцка за трыццаць пяць вёрст. Ён быў у старым чырвонаармейскім шынялі і ў чаравіках з абмоткамі, на галаве — суконны чырвонаармейскі шлем з вялізнай пяцікутнай зоркай. Пятліцкі заўважыў нам, што ў камсамольскай ячэйцы няма ніводнай дзяўчыны. І сапраўды яно так і было. Дзяўчаты баяліся ячэйкі, бо камсамольцаў лічылі бязбожнікамі. З дапамогай чырвонаармейцаў мы правялі некалькі вечароў у клубе, запрасілі дзяўчат. Выступалі і камсамольцы з канцэртнай «Буфана-

**1954**

☆

Больш 5 тысяч камсамольцаў было накіравана для работы ў вёсцы ў якасці будаўнікоў, рамонтных рабочых, рахунковых работнікаў, работнікаў культасветустаноў і гандлю. Тысячы камсамольцаў і моладзі, якія раней пайшлі ў гарады, вярнуліся ў родныя месцы і актыўна ўключыліся ў работу калгасаў, МТС і саўгасаў.

☆

Камсамольскія арганізацыі рэспублікі стварылі больш 4 тысяч маладзёжных ільнаводчых звенняў.

За атрыманне высокіх ураджаяў тэхнічных культур многія камсамольцы ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі.

☆

7 сакавіка 1954 года дэлегаты XVIII з'езда ЛКСМ Беларусі праводзілі на цаліну першы атрад пасланцоў камсамола рэспублікі. Гэта былі 150 лепшых камсамольцаў, якія паехалі на новыя землі з беларускай сталіцы. У камітэты камсамола тады паступіла больш 100 тысяч заяў ад добраахвотнікаў.

**1955**

☆

Усведамляючы вялікую важнасць паспяховага будаўніцтва новых прадпрыемстваў, а таксама ўлічваючы прапановы камсамольцаў і моладзі, ЦК ЛКСМ Беларусі абвясціў 19 заводаў і 25 палігонаў зборнага жалезабетону ўдарнымі камсамольскімі будоўлямі.

У першыя дні на будаўнічыя пляцоўкі па камсамольскіх пуцёўках прыйшло больш трох тысяч юнакоў і дзяўчат рэспублікі.

☆

Сцяг сацыялістычнага спаборніцтва за тэхнічны прагрэс у рэспубліцы ўзнялі больш 132 тысяч членаў ВЛКСМ, аб'яднаных у 15 тысяч камсамольска-маладзёжных брыгад.

Больш 40 тысяч камсамольцаў рэспублікі ўжо да жніўня выканалі свае пяцігадовыя

**планы, а 8 тысяч — закончылі па 2 пяцігодкі.**

☆

**На мінскім трактарным і аўтамабільным заводах створаны камсамольскія штабы і пасты па барацьбе за рытмічную работу. Па іх прыкладу штабы і пасты камсамольскага кантролю пачалі стварацца на ўсіх прадпрыемствах, будоўлях і транспарце. Яны былі пачаткам масавага стварэння камсамольскіх атрадаў «лёгкай кавалерыі».**

☆

**У рэспубліцы было 7196 камсамольска-маладзёжных звенняў, якія ўключыліся ў спаборніцтва за атрыманне высокіх ураджаяў новай каштоўнай кармавой культуры — кукурузы.**

**Пераможцы — 92 маладзёжных звяны і 150 лепшых кукурузаводаў — узнагароджаны Ганаровымі граматамі Цэнтральнага Камітэта ВЛКСМ.**

## 1956

☆

**18 мая ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР звярнуліся да моладзі з заклікам паехаць на будоўлі ўсходніх і паўночных раёнаў краіны і ў Данбас.**

**Менш чым за паўмесяца ў камітэты камсамола Беларусі паступіла амаль 13 тысяч заяў.**

☆

**Больш 700 юнакоў выехала з Беларусі ў Новашахцінск Растоўскай вобласці на будаўніцтва шахты «Сакалоўская-2», якая пазней была перайменавана ў «Беларускую-камсамольскую-1».**

**Назва «Беларуская-камсамольская» была прысвоена таксама тром шахтам Карагандзінскага вугальнага басейна, дзе па камсамольскіх пуцёўках працавалі камсамольцы-беларусы.**

☆

**11—12 жніўня ў Мінску адбыўся першы рэспубліканскі злёт маладых будаўнікоў, які супаў з «Днём будаўніка», што ўпершыню святкаваўся ў нашай краіне.**

дай». І мяне апранулі ў стары лапсардак, а на галаве прымайстравалі нешта накшталт цыліндра. Пасля таго, як адзін з вядучых спяваў:

О чем толкует нам эссер,
О чем толкуем нам эссер,

выходзіў я і працягваў:

Не признаю РСФСР, не признаю
РСФСР.
Только плохо вот я,
Стал эссер без руля...

І «эссер» атрымліваў добрага штурханца ад узброенага чырвонаармейца, які выходзіў з-за куліс са словамі:

Так к чорту всех эссеров,
Пусть гремит гром борьбы!..

Канцэрт усім вельмі спадабаўся. Цэлы тыдзень моладзь толькі і гаварыла пра гэты вечар. Праз некаторы час у нашу ячэйку ўступіла першая камсамолка. Яна была адзінокая батрачка, і мы яе не давалі ў крыўду. Яна загадвала нашым клубам і там жа мела сабе пакойчык для жыцця.

... Аднойчы нас з сябрам Міколам Марцулянчыкам прыкамандзіравалі да прадатрада, які дзейнічаў на ўчастку Пацейкі — Траянава — Талядавічы. Атрад, узброены вінтоўкамі, прыбыў у засценак недалёка ад Кацельнікаў. Засцянкоўцы мелі шмат добрай зямлі і жылі вельмі заможна. Але прадкамісару Зрылаву яны заявілі, што хлеба ў іх няма і што яны даўно абрабаваны польскімі легіянерамі і пацейкаўскімі камісарамі. Пасля нядоўгіх размоў прадармейцы пачалі самі шукаць хлеб. Але гэта нічога не дало, хоць усе ведалі, што хлеб схаваны, і камісар меў аб гэтым сякія-такія звесткі.

Выручыў пастушок, які пасвіў кулацкія каровы. Ён-то ведаў, дзе схаваны хлеб, але баяўся гаспадара. Камісар даручыў мне пагутарыць з пастушком.

Спачатку хлапчук толькі пазіраў скоса, як ваўчанё, і, мне здавалася, нават варожа. Загаварылі пра яго бацькоў, якія некалі служылі ў пана. Гады два, як яго маці памёрла, а бацька служыў парабкам у маёнтку Квецяны. Усё гэта мне хлопчык расказаў, а пасля нечакана запытаўся:

— А ты адкуль узяўся такі асэсар?

— Я зусім ніякі не асэсар, — сказаў я яму. — Нядаўна сам быў парабкам.

Я расказаў хлопчыку, што ў Чырвонай Арміі нашы бацькі і браты змагаюцца за лепшую долю сялян і рабочых. Але яны галадаюць на фронце, бо заможныя засцянкоўцы хаваюць хлеб. Пастушок глянуў мне ў вочы і баязліва запытаўся:

— А калі даведаецца гаспадар, дык што тады?



— Гаспадар аб гэтым нічога ведаць не будзе, а калі б і даведаўся, дык таксама яго баяцца не трэба. Напэўна і табе доўга служыць у яго не давядзецца, — сказаў я. — Вось падзелім зямлю і твой бацька атрымае дапамогу ад улады, купіць каня, карову і будзеце самі сабе гаспадарамі...

Хлопчык трохі пачмыхаў носам, а потым патаемна прагаварыў:

— За агародамі стаіць невялічкая адрынка. Насупраць яе, на пагорачку, дубовы пяньчук. Вось ад таго пеньчука крокаў праз дзесяць направа і паспрабуйце капянуць зямлю...

Улучыўшы зручны момант, я перадаў Зрылаву вынікі разведкі. Ён адразу паклікаў гаспадыню. Тая нехаця падышла да яго, і я заўважыў, якім сярдзітым позіркам яна памерала яго з ног да галавы.

— Ці не знойдзецца ў вас, гаспадыня, некалькі рыдлёвак? Хачу байцам накапаць трохі бульбы. Яна ж у вас усё роўна прападае на полі. Няхай хлопцы падсілкуюцца...

Гаспадыня ўся збялела, рукі яе трэсліся. Але рыдлёўкі неўзабаве ўсё-такі стаялі ля парога. Адшукаўшы патаемнае месца на пагорку, пачалі капаць. І адчулі, што напалі на след. Дакапаліся да жоўтага пяску, пад якім ляжаў насціл з дошчак. Пад ім быў досыць вялікі падземны склад збожжа.

Прадармейцы неўзабаве прывялі да ямы і гаспадара.

— Запрагай коней, — загадаў яму камісар, — ды сам збірайся, паедзеш з намі!..

Мы бясконца радаваліся, што нам удалося выканаць заданне і прывезці хлеб для чырвонаармейцаў, якія ўсё ішлі ды ішлі на захад.

У 1921 годзе ўстанавілася ўжо граніца з Польшчай. Яна праходзіла недалёка ад Капыля. Пагранічная варта ў той час яшчэ толькі арганізоўвалася, а ўсялякі белагвардзейскі зброд нахабна лез праз нашы заставы. Заклік партыі да камсамола аб ахове савецкіх граніц мы ўспрынялі як баявы загад. Многія камсамольцы пайшлі добраахвотнікамі на службу ў пагранічнікі, некаторыя паступілі на курсы чырвоных камандзіраў.

Неўзабаве мы атрымалі першыя камсамольскія білеты. Гэта была маленькая кніжачка з шэрай паперы. Яна пачыналася праграмай і статутам камсамола. На мяккай вокладцы карычневай фарбай быў аддрукаваны зямны шар, перавіты стужкай. На стужцы выразнымі літарамі было напісана: «Камуністычны Інтэрнацыянал Моладзі» і «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся».

Наша ячэйка папоўнілася хлопцамі з суседніх вёсак і налічвала ў сваіх шэрагах

## 1957

☆

**Больш двух з палавінай тысяч маладых рабочых выканалі свае пяцігадовыя планы за тры — тры з палавінай гады. За датэрміновае завяршэнне пятай пяцігодкі на прамысловых прадпрыемствах рэспублікі змагалася каля 3 тысяч камсамольска-маладзёжных брыгад, якія аб'ядноўвалі больш 44 тысяч маладых рабочых.**

☆

**11 — 12 снежня ў Мінску адбыўся рэспубліканскі злёт маладых пераможцаў працоўнай вахты ў гонар 40-годдзя Кастрычніка. На злёт прыехала 867 дэлегатаў. Вялікай групе ўдзельнікаў злёту былі ўручаны нагрудныя значкі ЦК ВЛКСМ «Маладому перадавіку вытворчасці».**

☆

**Паспяхова выступіла беларуская дэлегацыя на VI Сусветным фестывалі ў Маскве. Прадстаўнікі Беларусі, што ўдзельнічалі ў міжнародных конкурсах выканаўцаў, заваявалі два залатыя, адзін срэбраны і бронзавы медалі.**

☆

**У дні абмеркавання пісьма ЦК ВЛКСМ «Дагонім ЗША па вытворчасці мяса, малака і масла на душу насельніцтва» нарадзілася выдатная ініцыятыва камсамольцаў і моладзі калгаса «Камсамол Гомельшчыны», якія вырашылі вырасціць у сваіх гаспадарках і прадаць калгасу 225 цялят, накіраваць на работу ў жывёлагадоўлю лепшых камсамольцаў, поўнасцю забяспечыць жывёлу сакавітымі кармамі. Гэтая ініцыятыва была адобрана бюро ЦК КП Беларусі.**

**У калгасах рэспублікі сіламі камсамольцаў закантрактавана за год больш 500 тысяч цялят.**

☆

**Армія маладых кукурузаводаў склала ўжо больш 60 тысяч чалавек. На палях калгасаў і саўгасаў працавала 8654 кам-**

самольска-маладзёжныя кукурузаводчыя звяны. Звеннявыя камсамолкі Клаўдзія Заяц з калгаса імя Калініна Мастоўскага раёна і Марыя Мажака з калгаса імя Жданава Тураўскага раёна за атрыманне высокіх ураджаяў кукурузы былі ўзнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга.

**1958**

☆

Рыхтуючыся да 40-годдзя Савецкай улады і 40-годдзя ВЛКСМ, камсамол краіны абвясціў паход за эканомію і беражлівасць. Удзельнічаючы ў гэтым паходзе, маладыя рабочыя прамысловасці, транспарту, будаўніцтва Беларусі за паўтара года ўнеслі ва «Усесаюзную камсамольскую скарбонку» больш за 236 мільёнаў рублёў.

☆

За дасягненне высокіх паказчыкаў па вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі 259 чалавек узнагароджаны значком ЦК ЛКСМБ «Лепшаму маладому жывёлаводу».

☆

Вясной на палі калгасаў выйшла 19 тысяч камсамольска-маладзёжных і вучнёўскіх кукурузаводчых звенняў, якія аб'ядноўвалі больш 150 тысяч юнакоў і дзяўчат.

**1959**

☆

К пачатку сакавіка ў спаборніцтва за ганаровае званне брыгад камуністычнай працы ў рэспубліцы ўступіла 2 237 маладзёжных калектываў прадпрыемстваў, будоўляў, транспарту, РТС, калгасаў і саўгасаў.

☆

Беларускія юнакі і дзяўчаты горача падтрымалі пачын Героя Сацыялістычнай Працы Валянціны Гаганавай. Больш 500 кам-

больш трыццаці чалавек. Камсамольцы працавалі ў камбедах, удзельнічалі ў суботніках, былі, як тады казалі, застрэльшчыкамі ўсіх мерапрыемстваў партыі і ўрада.

Ячэйка атрымала добрае памяшканне для камсамольскага клуба. Кожны дзень мы збіраліся ў сваім клубе на занятні палітграматы, развучвалі п'есы, займаліся ў гуртках. Рэгулярна ішлі заняткі ў ЧОНе.

Неўзабаве наш камсамольскі атрад ЧОНа атрымаў накіраванне ў Слуцк для ўдзелу ў барацьбе з рэшткамі балахоўскай банды. Гэта было цяжкае і небяспечнае заданне, але камсамольцы выканалі яго з гонарам і атрымалі ад угаркома падзяку.

У пачатку 1922 года мы зноў вярнуліся ў роднае мястэчка. Неяк вясною нас тэрмінова паклікалі ў рэўком. На пошту, якая ішла з Грозава ў Капыль, напала банда. У той жа вечар сабраўся актыў. З Цімкавіч паведамілі, што банда, хоць і невялікая, але добра ўзброеная, будзе на досвітку ў Шастаках, у багатага шляхціца Гідрыновіча. Нам, партыйцам і камсамольцам, даручалася аблажыць маёнтак, каб не даць бандытам магчымасці прарвацца ў шастакоўскія лясы. Глыбокай ноччу атрад накіраваўся на вызначанае месца.

Вось мы з Юлікам Дземідовічам ляжым на ўзгорку за велізарным дубовым пнём і сочым за вузкай дарожкай, якая выбягае з маёнтка і губляецца ў густым вербалозніку. Атрад заняў усе падыходы з боку шастакоўскіх лясоў, а пагранічнікі і чонаўцы залеглі з боку цімкавіцкай дарогі і ў маёнтку.

Як толькі развіднелася, наша падраздзяленне заўважыла ў балоце, у густым алешніку, нейкія постаці. Гэта і былі бандыты, якія сабраліся снедаць. Загрукацелі стрэлы. Але бандыты не разгубіліся, хоць і ўзяты былі ў жалезнае кальцо. Яны закідалі пярэдніх байцоў гранатамі, і некаторыя з бандытаў пачалі перапаўзаць праз паплавец у густое жыта. Мы адкрылі па іх страляніну, і, як відаць, аднаго моцна паранілі. Ён ужо поўз з перадышкамі, а другі няспынна бег у напрамку густога хмызняку. Мы кінуліся на пярэсцігі і нечакана з-за кустоў крыкнулі:

— Здавайся!..

Бандыт кінуў на зямлю два пісталеты і, падняўшы ўгару рукі, стаў, нібы ўкапаны. Аглядзеўшы кішэні, мы знайшлі дзве гранаты, патроны і грошы. Перапалоханы, бандыт толькі ўсё пытаўся:

— Скажыце, а што са мною будзе?

Мы павялі яго ў маёнтак. Там у акружэнні чонаўцаў сядзелі яшчэ тры бандыты.

Усім атрадам мы рушылі тады ў Капыль. На падводзе везлі параненага бандыта, якога людзі апазналі — гэта быў багаты хутаранін Шпакоўскі.



Часта ў той час мы праводзілі камсамольскія суботнікі.

Самы вялікі суботнік, памятаю, быў прысвечаны сустрэчы свята Кастрычніцкай рэвалюцыі. Камсамольцы парашылі разбурыць старую папоўскую хату, якая стаяла побач з царквою, а на месцы яе зрабіць сабе фізкультурную пляцоўку. У нядзелю, калі папыляне стаялі на абедні, мы ўзяліся за работу. У момант страха была сцягнута. Старыя бярвенні краткалі і свіргаталі заржавелымі цвікамі. Стаяў смех і вясёлыя жарты.

Затое дома чакалі нас непрыемнасці. Некаторых маіх сяброў мацяркі па тыдню не пускалі ў хату і не давалі есці.

Мне было куды лягчэй. Бацька мой ужо даўно не верыў у бога і толькі для выгляду хадзіў у царкву. Ён і абараняў мяне, але маці плакала і праклінала.

Нішто не магло спыніць наш юнацкі запал. Мы ўсё ж камсамольскую пляцоўку пабудавалі. Паставілі «гіганцкія шагі», качэлі, збудавалі спартыўны гарадок. На гэтай пляцоўцы ў святочныя дні заўсёды было людна. Моладзь ішла да нас на пляцоўку, а не ў царкву.

Праз некаторы час у ячэйку ўступілі яшчэ дзве дзяўчыны: Аня Татур і Вера Гурыновіч. Мы ўзрадаваліся, што будзе весялей працаваць. Праўда, нялёгка было нашым першым камсамолкам, але яны смела адстойвалі свае правы на ўдзел у будаўніцтве новага жыцця.

Краіна залечвала свае раны. Наладжвалася гаспадарка — гэта мы адчувалі і ў Капылі. Хутка адкрыўся Нардом, дзе праводзілася вялікая культурная работа.

І вось, як гром з яснага неба, страшная вестка аб смерці нашага правадыра і настаўніка Уладзіміра Ільіча Леніна. Быў склікаБы жалобны сход. Пасля таго, як сакратар партыйнай ячэйкі зрабіў паведамленне, сход праспяваў: «Мы жертвою пали в борьбе роковой». Я бачыў, як заплакалі нашы камсамолкі. Не стрымаўшыся ад слёз, плакаў і я. У дзень пахавання Леніна мы выйшлі на мітынг, які адбыўся на плошчы. Ніколі яшчэ не было гэтулькі народу на вуліцах, як у гэты жалобны дзень.

Роўна праз год, на партыйным сходзе, прысвечаным гадавіне з дня смерці Леніна, па рэкамендацыі паветовага камітэта камсамола мяне перадалі ў шэрагі роднай камуністычнай партыі. Стоячы на сцэне, я пакляўся перад сходам быць верным сынам вялікай партыі Леніна. Гэтую маю клятву я не забываю ніколі.

Многа прайшло часу з тых незабыўных дзён, калі мы закладалі падмуркі сонечнага камуністычнага юнацтва. Ужо сівізна пасерабрыла нашы галовы. А вечна юнае, дарагое слова «Камсамол» носім у сваіх сэрцах.

самольцаў пайшлі працаваць на адстаючыя ўчасткі.

☆

На прадпрыемствах рэспублікі па пачыну камітэтаў камсамола Мінскага трактарнага завода і завода аўтаматычных ліній шырока распаўсюдзілася новая форма тэхнічнага навучання маладых рабочых, якая атрымала ўмоўную назву «адзін плюс адзін», а таксама тэхнічныя школы, кіналекторыі, школы і ўніверсітэты перадавых метадаў працы. Школы перадавога вопыту ствараюцца і ў калгасах і саўгасах.

☆

За год сіламі камсамольцаў і моладзі сабрана і здадзена на прыёмныя пункты 66 тысяч тон металічнага лому.

**1960**

☆

На II Пленуме ЦК ЛКСМБ 24 лютага беларускай камсамольскай арганізацыі ўручан Чырвоны Сцяг ЦК ВЛКСМ і Дзяржаўнага Камітэта пры Савеце Міністраў СССР па хіміі.

☆

Беларускія шахтапраходчыкі Старобінскага калійнага камбіната дасягнулі першага гарызонту залежаў калійнай солі. Заданне першага года сямігодкі — прайсці 400 метраў на двух вертыкальных ствалах — паспяхова выканана. Вызначыліся ў працы камсамольска-маладзёжныя брыгады А. Селіванава, М. Волкава, І. Пракудзіна, Д. Бухарына і І. Тоўсцікава.

☆

Пасля снежаньскага Пленума ЦК КПСС па прыкладу камсамольскай арганізацыі калгаса «Авангард» Магілёўскай вобласці, якая ў поўным складзе пайшла працаваць на фермы, 14 тысяч юнакоў і дзяўчат рэспублікі сталі жывёлаводамі. Змаганне ідзе за тое, каб у жывёлагадоўлю прыйшлі працаваць яшчэ 25 тысяч камсамольцаў і маладых працаўнікоў вёскі.

# Людзі, падзеі, дакументы

## СЭРЦА ПАТРЫЁТКІ

У гродзенскім парку ёсць брацкая магіла. У ёй пахаваны героі, што загінулі ў змаганні за вызваленне горада. На камені сярод іншых імён золатам адліваецца і імя камсамолкі-падпольшчыцы Вольгі Соламавай. Сюды часта прыходзяць сваякі, сябры, таварышы па змаганню, каб аддаць даніну павагі гэтай мужнай, юнай гераіні.

... Вользе ў маленстве давялося паспытаць горкага батрацкага лёсу. І хто ведае, як склалася б яе жыццё, калі б не верасень трыццаць дзевятага года. Зашумела тады наваколле, узнялася моладзь. Вольга ўступіла ў камсамол. Неўзабаве яна закончыла педагагічныя курсы і паехала настаўнічаць у вёску, там актыўна ўдзельнічала ў грамадскім жыцці. Яе выбралі дэпутатам абласнога Савета.

Калі на Савецкі Саюз напалі фашысты, Вольга пайшла ўслед за часцямі Чырвонай Арміі, эвакуіравалася ў тыл, але ненадоўга. У хуткім часе ў групе беларускіх партызан на знявечаную ворагам родную Гродзеншчыну прылятае самалётам стройная цёмнавалосая дзяўчына. Гэта была Вольга Соламава.

Трывожная ноч плыве над Ліпічанскай пушчай. Абмінаючы варожыя заставы, асцярожна прабіраюцца падрыўнікі да «жалезкі».

— Хутчэй, хутчэй, — непакоіцца Вольга. — Чуеце, як гудуць рэйкі. Вось-вось павінен ісці поезд...

Не паспелі адскочыць ад чыгуначнага насыпу, як гулкі выбух скалануў наваколле. Загрымелі вагоны, наскокваючы адзін на другі, енк і крыкі пачуліся з-пад абломкаў. Карнікі заўважылі падрыўнікоў і кінуліся за імі. Добра ведаючы тыя мясціны, Вольга з сябрамі ўцякла ад пагоні ды яшчэ па дарозе зрабіла



налёт на станцыю Рось. Партызаны захапілі каштоўныя дакументы, перарэзалі сувязь.

Цяжкі шлях падпольшчыка! Не адзін раз Вользе даводзілася хавацца днём на хутарах, на явачнай кватэры, каб ноччу ствараць падпольныя камсамольскія групы, рыхтаваць моладзь да рашучага бою з акупантамі.

Маладая патрыётка заўсёды паказвала прыклад мужнасці і адвагі. Нездарма яе вылучылі сакратаром Гродзенскага падпольнага гаркома камсамола.

Няшчасце падкралася знянацку. Гестапаўцы акружылі хутар. Вольга з таварышам рашыла прабіцца к лесу. Прыгінаючыся перасеклі лагчыну. Застаецца пераскочыць адзін узгорак, другі, а там стары хлеў, роў і лес. Бегчы цяжка, ногі грузнуць у глыбокім снезе. Толькі падняліся на ўзгорак, як дзынкнулі над галавой кулі. Падпольшчыкі адчулі, што яны ў варожым кальцы.

Куля трапіла прама ў сэрца таварышу. Вольга падхапіла яго аўтамат і стаілася за вялікім каменем. Ловіць на «мушку» фашыстаў і страляе. Вось схапіўся за горла камендант, упалі адзін за другім некалькі салдат. Вольга знішчае сакрэтныя паперы, больш важныя з іх — глытае, заядаючы снегам.

Вораг зноў узмацняе націск, і Вольга зноў бярэцца за аўтамат. Колькі яна ўжо трымаецца? Гадзіну, другую? Карнікі пазналі, што гэта... дзяўчына. Адна дзяўчына ўжо вось паўтары гадзіны стрымлівае больш сотні карнікаў!

*Не страляць! Захапіць жывую!* Фашысты бліжэй і бліжэй падбіраюцца да Вольгі. Яна б'е кароткай чаргой. Вось курчыцца на снезе яшчэ адзін гітлеравец, заенчыў ад болю другі. Раптам скончыліся патроны. Вольга паднялася. У адной руцэ граната, у другой — пісталет. І як толькі фашысты наблізіліся, яна рыўком кінула ім пад ногі гранату, а сабе выстраліла ў сэрца...

На чырвоным абрусе пад шклом — вышыты дзівоснымі ўзорамі ручнік, сіняя кофтачка і цемнаваты берэт. Побач — ордэн Айчыннай вайны першай ступені, партызанскі медаль. Вышэй — фотакартка гераіні, яе пісьмы, дакументы, выразкі з партызанскіх газет. Гэта — асабістыя рэчы Вольгі Соламавай. Яны экспануюцца на спецыяльным стэндзе ў Гродзенскім абласным музеі.

Ля стэнда часта тоўпіцца моладзь. Тут праводзяцца камсамольскія сходы, піянерскія зборы. І здаецца тады, што позірк вачэй Вольгі на партрэце цяплее, дзявочыя вусны кранае ўсмешка. Здаецца, яна вось-вось скажа:

— Дарагія мае хлопчыкі і дзяўчынкі. Я ведаю, вы любіце мяне. І веру, што, калі спатрэбіцца, вы зробіце для роднага краю, для яго шчасця тое ж, што і я...

**А. ТОЎСЦІК.**

Антон КАВАЛЬЧУК

# З ЦЕМРЫВА НОЧЫ

## Нарыс

Нетаропка, любуючыся харастве́м наваколля, Рогаў крочыў да вакзала. У яго заставалася яшчэ хвілін дзесяць вольнага часу, а ўсё ўжо было ўладкавана — білет у кішэні, падарункі жонцы і дзецям куплены.

Увайшоўшы ў вагон цягніка Масква — Брэст, Рогаў адчыніў шостае купэ і здзівіўся. Ля століка, схіліўшыся над кнігай, сядзеў Буран. Той самы Буран, які запамятаўся Рогаву пасля першай сустрэчы ў папраўча-працоўнай калоніі.

— Гэта ты, Буран?

Рослы хлапчына, увесь заззяўшы, кінуўся ў абдымкі Рогава.

— Таварыш падпалкоўнік! — радасна выдыхнуў ён.

— А я думаў, што заганарышся, не прыедзеш, — распранаючыся, прагаварыў Рогаў.

— Як можна, таварыш падпалкоўнік, хіба я магу забыць тых, хто жыццю навучыў, — дапамагаючы Рогаву павесіць шынель і паставіць наверх чамаданчык, гаварыў Буран. — Я ж не ў жарт, а сапраўды лічу вас другім бацькам!..

— Сядай, хлопча, ды расказвай, як жывеш, як справы шахцёрскія?..

— Пётр Ціханавіч, а што ж мне расказваць, быццам вы самі не ведаеце?.. У кожным жа пісьме я падрабязна аб усім пісаў...

— Пісьмы гэта адно, а вось цяпер сам усё раскажы, — цёпла ўсміхнуўся Рогаў і дадаў: — Як кажуць, адчытайся начальству.

— Што ж тут адчытвацца, — спакойна пачаў Буран. — Жыву добра, работа цікавая. Узначальваю маладзёжную брыгаду, якая спаборнічае за права называцца камуністычнай. Магу дадаць — ажаніўся, чакаю сына. Цяпер вось атрымаў адпачынак, еду на курорт у Кемеры і па вашай просьбе рашыў завітаць у калонію, выступіць там, бо і сапраўды іншы раз не верыць, як гэткае бывае!..

Выхавацель і былы злодзей-рэцыдывіст ямчэй уселіся ля століка. Пад рытмічнае пастукванне колаў доўга лілася іх сяброўская гутарка. А пагаварыць было аб чым...

Халодны асенні вечар. Цьмяна мігцяць ліхтары, гойдаюцца палахлівыя цені на пранізлівым ветры. Накрапвае імжысты дождж. Ужо дадзены адбой. Пётр Ціханавіч Рогаў, абышоўшы ўсе пакоі, выслухаў рапарт дзяжурнага.

Раніцою за адмову ад работы і карцёжную гульню быў пасаджаны на дзесяць сутак у ізалятар зняволены Аляксандр Буран, які нядаўна прыбыў этапам з Брэста, з турмы. Рогаў ужо двойчы выклікаў Бурана да сябе, але той адмовіўся прыйсці.

Дзяжурны далажыў, што Буран паводзіць сябе нахабна. Ён парваў усю вопратку, лаецца, пагражае выдзерці вочы кожнаму, хто адважыцца ўвайсці да яго ў камеру. Ён жа зубамі ўскрыў сабе вену на руцэ і накінуўся на дзяжурнага, калі той хацеў адвесці яго ў санпакой.

Разгарнуўшы асабістую справу Бурана, Пётр Ціханавіч доўга і ўважліва вывучаў кожную яе старонку... Буран Аляксандр 1936 года нараджэння ў пяць год застаўся без бацькоў... Асуджаны чацвёрты раз за пакражу. Чатыры гады знаходзіўся ў дзіцячых калоніях, мае тры ўцёкі. Апошні прыгавор: за аграбленне касы сельпо — шэсць год турэмнага зняволення.

У дзіцячай калоніі Буран скончыў шэсць класаў, але не набыў ніякай спецыяльнасці, не жадае працаваць.

«Так, цяжкі арэшак», — падумаў Рогаў і, накінуўшы на плечы шынель, накіраваўся ў ізалятар. Наглядчык адчыніў камеру. Увайшоўшы ў камеру, Рогаў прысеў на край тапчана, сказаў:

— Ну, Сашык, давай будзем знаёміцца!

Нібы віхрам падхапіла Бурана. Ён саскочыў з тапчана, выцягнуўся па камандзе смірна і ўпіўся позіркам у Рогава. Так стаяў з хвіліну, а можа дзве. Потым разгублена сказаў:

— Здраствуйце, грамадзянін начальнік, — і буйныя, як боб, слёзы пакаціліся з яго вачэй.

— Ты чаму ж стаіш? Сядай. Пагаворым. Мяне завуць Пётр Ціханавіч, — пачаў Рогаў.

Відаць, да ўсяго быў падрыхтаваны Буран, але не да такой сустрэчы з начальнікам, якога лічыў сваім самым злосным ворагам. Ласкавае, цёплае слова «Сашык» вярнула яго да тых далёкіх, ужо забытых дзіцячых год, калі бацька, вяртаючыся з заставы, звычайна пытаўся: «Ну, Сашык, дакладвай, як справы?» І хлапчук станавіўся па камандзе «смірна», узнімаў ручку да галавы і рапартаваў пра тое, што бабуля зварыла на абед, як ён памагаў абіраць бульбу і парэзаў палец, але не плакаў...

Схіліўшы галаву, не выціраючы затуманеныя слязамі вочы, Сашка сядзеў побач з Рогавым і ўсё расказваў. У гэты вечар доўга цягнулася гутарка. Яна нагадвала вогнішча, якое то патухала, то зноў разгаралася.

Гэта была не мірная гутарка, якой яна здавалася ў пачатку. То было змаганне святла з цемрывам, у якім блукаў малады, здаровы і ўпарты, але маральна пакалечаны чалавек. Выйграць змаганне, значыць выратаваць чалавека, які часта бяздумна адхіляе працягнутую яму руку. Але Буран у гэты вечар заўважыў сяброўскую руку і не адхіліў яе.

...Усю ноч праляжаў на тапчане Сашка Буран, не заплюшчваючы вачэй. Ён сотні разоў абдумваў тое, што пачуў ад Рогава, узважваў мінулае жыццё, імкнуўся знайсці ў ім нешта добрае, светлае, для чаго варта было жыць, і не знаходзіў. Ад гэтага было яшчэ цяжэй, і нейкі камяк падступаў да горла, душыў, і слёзы самі каціліся з вачэй. Ён ведаў, што нялёгка парваць са зладзейскай шайкай, з яе дзікімі законамі, але рваць трэба. А што скажа «Пахан» і хэўра, калі дазнаюцца?

Перабіраючы ў думках усё, што пачуў ад Рогава, Сашка ўсё больш і больш пераконваўся, што Пётр Ціханавіч хоча яму памагчы. Сашка ўжо ўяўляў сябе выпускніком сярэдняй школы, які атрымлівае атэстат сталасці, трактарыстам у бяскрайніх стэпах Казахстана, як аб гэтым хораша расказваў Рогаў.

«Хіба я горшы за тых, што скончылі курсы трактарыстаў і працуюць на цаліне? — Буран саскочыў з тапчана і ў думках прагаварыў: — Пачакайце, я яшчэ пакажу сябе!».

Прайшло тры гады. Аляксандр Буран закончыў вячэрнюю сярэднюю школу. Разам з атэстатам ста-

ласці атрымаў пасведчанне на права ваджэння трактара. Апрача таго, набыў спецыяльнасць электраманцёра. Яго партрэт — на Дошцы перадавікоў калоніі. Дзве граматы ў чамадане — за высокія вытворчыя паказчыкі, прыкладныя паводзіны і актыўны ўдзел у мастацкай самадзейнасці.

Нялёгка ішло выздараўленне. Не раз біла хлапца ліхаманка мінуўшчыны, не раз даводзілася Рогаву і іншым выхавацелям уступаць у рашучую схватку. Былі ў хлопца моманты, калі яму хацелася махнуць на ўсё рукой і зноў падацца на знаёмую сцежку, але падтрымка калектыву, гутаркі, парады выхавацеляў і, нарэшце, свая воля — перамагалі, і ён зноў энергічна браўся за працу і вучобу.

Аднойчы ў хвіліны такога адчаю Бурана выклікалі да начальніка. Адчыніўшы дзверы кабінета, ён убачыў за сталом цывільнага чалавека. На грудзях у яго блішчэў значок дэпутата. Гэта быў старшыня назіральнай камісіі райсавета, чалавек з пасівелай галавой і з бацькоўскай усмешкай на адкрытым твары. Буран не адзін раз бачыў яго ў інтэрнаце, на працы.

Старшыня не пытаў аб мінулым, а больш гаварыў пра будучыню. Выйшаўшы ад яго, Буран адчуў новы прыліў сілы і ўпэўненасці. Ён зразумеў, што пры добрых паводзінах і рабоце камісія зможа паставіць пытанне перад судом аб яго дачасным вызваленні. Гэта быў яшчэ адзін напамінак аб тым, што яго лёс — у яго ўласных руках.

Неяк у калоніі ажыўлена абмяркоўвалася прамова М. С. Хрушчова на Трэцім з'ездзе пісьменнікаў. Прамову слухалі па радыё. Па тварах слухачоў бачна было: яны хочуць верыць у тое, што гэта было так, і не могуць паверыць. Уся змена з нецярпеннем чакала агітатара. Калі той прыйшоў, кожны імкнуўся сесці бліжэй, каб не прапусціць ніводнага слова.

Сашка Буран сядзеў у першым радзе і ўважліва слухаў агітатара. Гэта было нешта новае, невядомае дагэтуль яму. Гэта ж не пра каго другога, а пра яго, Сашку Бурана гаварыў Мікіта Сяргеевіч. Гаварыў пра тое, што яму, Бурану, трэба верыць, трэба дапамагаць. У душу западала кожнае слова. Хацелася падхапіцца і на ўсю моц крыкнуць: «Дзякуй, дарагі Мікіта Сяргеевіч! Я апраўдаю ваш давер, апраўдаю давер народа!»

Як толькі агітатар закончыў гутарку, Буран пашыбаваў у бібліятэку. Папрасіў газету і з вялікай прагай прачытаў усю прамову. Потым яшчэ і яшчэ раз перачытваў тыя месцы, дзе гаварылася аб дапамозе, якую аказаў Мікіта Сяргеевіч былому злодзею, які толькі што выйшаў на волю.

І з таго часу Сашка Буран пачаў чытаць газеты, часопісы і кожны раз знаходзіў для сябе нешта новае і цікавае. Цяпер ён усё больш упэўніваўся, што яго цікавіць і захапляе навакольнае жыццё. Яно даносілася сюды то абрыўкамі далёкіх дзявочых песень, то зусім блізкім вясёлым смехам і жартамі. Гэта міма зоны праходзілі хлопцы і дзяўчаты, спяшаючыся ў Дом культуры, на пагулянкі...

Не раз, седзячы ўвечары на лавачцы ля адкрытай эстрады, Сашка Буран слухаў, як за парканам грымелі і заціхалі паязды. Хацелася, каб адзін з гэтых паяздоў павёз і яго адсюль, да новага, вялікага жыцця. І хоць не было ў хлопца на волі ні родных, ні блізкіх, ён верыў, што яго сустрэнуць людзі і прымуць у сваю вялікую працоўную сям'ю.

У калонію прыязджалі шэфы з суседняга калгаса, а таксама з мэблевай фабрыкі. Сашка вельмі любіў слухаць і гутарыць з гэтымі хлопцамі і дзяўчатамі, якія прыходзілі ў цэхі, а іншы раз прысутнічалі на ўроках у школе і на курсах прафтэхнавучання, у інтэрнаце і сталовай.

У адзін з першамайскіх дзён у цэх зайшла група камсамольцаў-шэфаў з фабрыкі. З імі быў нейкі незнаёмы хлопец у форме шахцёра. Камсамольцы, як старыя знаёмыя, падыходзілі да каланістаў, перакідваліся з імі сяброўскімі словамі, аглядалі дэталі і ўжо сабраную мэблю, назіралі, як ідзе работа. Калі прагудзеў гудок, тут жа, у цэху, адбыўся незвычайны сход, на якім шэфы выказалі свае заўвагі, а затым, стаўшы да станкоў, практычна паказалі, як лепш арганізаваць зборку мэблі. Потым была вячэра, а пасля зноў сход. Той самы малады шахцёр з Кузнецка Мікола Вярбіцкі, які прыехаў з шэфамі, расказваў аб жыцці і працоўных буднях камсамольцаў і моладзі на шахтах-новабудоўлях. Два гады таму назад пасля заканчэння сярэдняй школы па камсамольскай пуцёўцы паехаў Мікола на будаўніцтва новых шахт. Цяпер, адпачываючы ў родным гарадку, ён разам з шэфамі завітаў у калонію.

Міколаў расказ захапіў усіх, хто быў на гэтым сходзе.

Сашка Буран прагна лавіў кожнае слова маладога шахцёра.

— Святло і цеплыню здабываць народу — вось дзе сапраўдная рамантыка, вось да чаго заклікаюць нас партыя і камсамол! — звяртаючыся да прысутных, закончыў свой расказ Мікола Вярбіцкі.

«Святло і цеплыню людзям», — у думках паўтарыў Сашка Міколавы словы, пляскаючы ў далоні разам з усімі.

Пасля сходу шэфаў абступілі каланісты. Пасыпаліся пытанні, завязваліся задушэўныя гутаркі. Сашка стаяў побач з маладым шахцёрам. Ён пытаў у яго пра ўсё з такой цікавасцю, нібы яму сёння трэба будзе спусціцца ў забой.

Яшчэ доўга пасля адбою ў інтэрнаце не сціхалі размовы. Можа ў гэты вечар многа хто ў думках уяўляў сябе такім, як гэты хлопец у шахцёрскай форме!

Ішоў час. Спрактыкаванае вока Пятра Ціханавіча даўно прыкмеціла, што ў душы Сашы Бурана нарадзілася нешта добрае. Хлопец цвёрда стаў на шлях выпраўлення. Ён добрасумленна працуе, на пасадзе брыгадзіра паказаў сябе патрабавальным, умелым арганізатарам. Асвоіў тры прафесіі, паспяхова закончыў сярэднюю школу і выявіў добрыя здольнасці ў вучобе.

У той час, калі хлопец здаваў апошні экзамен, назіральная камісія, згодная з думкай адміністрацыі калоніі, звярнулася ў народны суд з прапановай аб датэрміновым вызваленні Аляксандра Бурана з няволі. А крыху раней Рогаў напісаў пісьмы на шахту і ў цалінны саўгас, каб уладкаваць хлопца на працу. Пісьмы былі падмацаваны грунтоўнымі характарыстыкамі. Рогаў прыкмеціў, што ў той перадмайскі вечар малады шахцёр пасеяў у душы Сашкі здаровыя зярняты.

...Іншы раз вечарам Сашка Буран з кнігай знікаў куды-небудзь у зацішак. Раскрываў кнігу і нібы чытаў, але гэта было не чытанне. Ён глядзеў у кнігу, і ніхто не ведаў, якія думкі хвалявалі яго ў гэты час.

Аднойчы ў нядзелю, калі хлопец вось ужо другую гадзіну сядзеў над раскрытай кнігай, яго паклікалі да Рогава, які быў на спортпляцоўцы, дзе ішло спаборніцтва па валейболу. Хлопец падышоў, паздароўкаўся.

— Што, Саша, зноў марыш? — замест адказу на прывітанне сказаў Пётр Ціханавіч. — А я думаў, што ты тут змагаешся...

— Не, наша змена будзе гуляць пасля абеду, — адказаў Буран.

— Тады зойдзем да мяне, ёсць адна справа.

У кабінеце Пётр Ціханавіч прапанаваў Бурану сесці. Потым выбраў з папкі адно пісьмо і падаў хлопцу:

— Вось пачытай.

Канверт быў ускрыты, а на ім надпіс: «Рогаву». Дастаўшы з канверта аддрукаваны на машынцы ліст, Буран разгубіўся. Такіх пісем атрымліваць яму не даводзілася.

— Чытай, чытай. Чаго так глядзіш на мяне? Гэта табе напісана.

І Буран прачытаў: «Упраўленне шахты № 10 згодна прыняць на работу Аляксандра Бурана на першы ўчастак новазбудаванай шахты. Навічок будзе забяспечан жыллём і спецвопраткай. Начальнік аддзела кадраў шахты Кірайчук».

Гэтыя простыя словы так усхвалявалі хлопца, што той доўга маўчаў, не ведаючы, як выказаць сваю ўдзячнасць.

— Пётр Ціханавіч, як гэта...

Я ж тут,— пасля доўгай паўзы разгублена прамовіў Сашка.

— Вядома, Саша, я бачу, што ты тут, і бачу, што ты разгубіўся, — усміхнуўся Рогаў і весела дадаў: — Павінен парадаваць цябе яшчэ адной навіною. Кіраўніцтва калоніі і назіральная камісія просяць народны суд, каб цябе датэрмінова вызвалілі. Думаю, мы не памыліліся. Што ты на гэта скажаш?

Што мог адказаць Сашка Буран? Ад радасці ён слова не мог сказаць.

Калі Сашка выйшаў з кабінета, душа яго спявала. Здавалася, сонца паласкавела, а цёплы сустрэчны ветрык прыносіў нейкую невыказна прыемную свежасць. Хацелася ўсім сказаць, які ён шчаслівы, якія добрыя гэтыя людзі ў форме, каторых некалі ён праклінаў.

Ідучы па алеі, Сашка спыніў свой позірк на той бярозцы, якую ён сам пасадзіў у тую восень, калі прыбыў у калонію. Бярозка ўжо выцягнулася за гэтыя гады, пахарашэла, весела зіхаціць на сонцы сваёй узорчатай лістотай. І тут прыгадалася Бурану, як ён неахвотна садзіў тады ў неглыбокую ямінку тую бярозку, абы-як прыкрыўшы карэнне зямлёй. І цяпер яму стала няёмка. Чырвань апякла яго шчокі. Бярозка, выходзіць, не засохла, а разраслася, яе зялёнае ўбранне цешыць вока кожнага, хто глядзіць на яе.

Сашка прытуліўся да бярозкі. І так у задуменні стаяў колькі хвілін, а потым рашуча, размашыстым крокам пашыбаваў па алеі.

І вось Сашка Буран у поездзе. Ён едзе ў тую калонію, дзе некалі адбываў пакаранне. Мінула ноч. А цягнік усё імчыць і імчыць, паспешліва адлічваючы кіламетры. Ззаду засталіся беларускія лясы і пералескі, за вокнамі вагона шырока раскінуліся багатыя стэпавыя прасторы, разлінееныя зялёнымі паясамі лесапасадак.

У вагоне стаяла перадсвітальная цішыня. З верхняй полкі было добра назіраць праз акно, як нараджаўся новы дзень. Толькі ўзышло сонца, а ў полі ўжо працавалі камбайны. Ад іх адыходзілі нагружаныя зернем грузавікі. А там далей на гарызонце ў ранішняй смузе ўзмахвалі драўлянымі крыламі жняяркі.

«А ў нас у Беларусі толькі яшчэ зажынкі»,— чамусьці падумалася хлопцу, і ён прыгадаў словы Пятра Ціханавіча Рогава, які сказаў некалі на развітанне: «Пускай глыбока карэнні на шахцёрскай зямлі, каб ніякія вятры цябе не змаглі вырваць!»

Добрыя словы!

Апранаючыся, Сашка намацаў ва ўнутранай кішэні гарнітура свой пашпарт. Узяў у рукі акуратненькую цвёрдую кніжачку, разгарнуў, прачытаў скупыя запісы на яе старонках і зноў беражна згарнуў і паклаў у кішэню. Яму хацелася, каб хоць хто-небудзь убачыў, што ў яго ёсць пашпарт. І яшчэ хацелася расказаць пра сябе, пра ўсё, што было і што сталася. Сашка расказаў бы ўсё гэта не дзеля пахвальбы, а проста, каб людзі ведалі і не рабілі ў жыцці такіх памылак, якую некалі зрабіў ён.

## З блакнота падарожніка



**Па-над Нёманам.** Фота аўтара.

**Аляксей СІНІЛАЎ**

# СЦЕЖКАМІ ПРЫНЯМОННЯ

Кажуць, падарожжа траціць палову свайго сэнсу і прывабнасці, калі пра яго потым не расказаць. Відаць, гэта сапраўды так. Можа, таму і мне захацелася расказаць пра тое, што я пабачыў, вандруючы сцежкамі роднай Гродзеншчыны. Але ці будзе гэта цікава? Людзі прагнуць экзотыкі. Вось калі б...

Уяўленне малюе высокія горы і бяскрайнія акіяны, дрэвы, на якіх растуць лімоны і апельсіны — не роўня нашым яблыкам, і яшчэ — казачную пальму...

Калі гаварыць шчыра, дык сапраўдная цана экзотыкі адкрылася мне неяк нечакана, калі я чытаў аднаго пісьменніка. У амерыканскіх прэрыях, расказвае ён, водзіцца звярок, мяса якога такое смачнае, што багатыя еўрапейцы пераплываюць акіян толькі дзеля таго, каб здабыць

гэтага звярка. Мудры даследчык прыроды Брэм так распальвае наш апетыт: «Абсмажанае на вуголлях ці ў духоўцы, мяса гэта несумненна з'яўляецца ласункам і, па сцверджанню асабліва тонкіх гастраномаў, смакам сваім, духмянасцю і сытнасцю не ўступае нават цяляціне».

Дык вось у чым справа!.. Патрэбна было гэта распісваць той смак, каб потым прыраўняць яго да звычайнай цяляціны... нашай цяляціны.

Відаць, не менш будзе логікі, калі сказаць: пальма такая прыгожая, што не саступае нават бярозе...

Паспрабуйце прылегчы на мурагу пад бярозай улетку — толькі рэдкія промні сонца прасочваюцца скрозь лісце. Чаго-чаго не нашэпча вам бяроза, якіх не нашапаціць пяшчотных слоў, цудоўных казак, якіх не навее светлых пачуццяў!

А што пальма?.. Здалёку — прыгожае дрэва, а наблізішся: нібы бляшанае, грыміць на ветры лісцем, і не адчуеце вы ў той грымоце ні душы, ні пяшчоты...

А можа ўся прыгажосць тых заморскіх краёў якраз ў тым, што яна не саступае ціхай прывабнасці нашых родных краявідаў...

## 1

Маё падарожжа і на гэты раз пачалося з Нёмана. Адплыўшы на параходзе недалёка ад Гродна, я сышоў на бераг. З дарожным рукзаком за плячыма стаю і азіраюся, ацэньваючы сваё новае становішча. У адзін і ў другі бок бяжыць звілістая лінія берага. Ён стромка падае ў ваду, паказваючы ў разрэзе тоўшчу бела-ружовага пяску. Рака — уся ў завіхрэннях. У некаторых месцах бачны сляды нядаўніх абвалаў: тонкія латкі дзярніны з кветкамі засталіся вісець на абрыве, нібы стракатыя аўчыны на плоце.

Сонца хілілася на захад, — я паскорыў крок. Спяшаюся. Але куды? Хто мяне чакае?..

Пад нагамі — добра ўтаптаная сцежка. Удалечыні відаць працілеглы бераг Нёмана, прыбраны вечназялёнай хвояй, і паласа вады шырынёй у паўрэчышча. Стаяць над абрывам боязна, глянеш уніз — аж дух займае. Там круціцца ў віры рака, падразае бераг, свідруе дно. Маладыя, а таму і неразумныя бярозкі аказаліся залішне цікаўныя. Яны зірнулі ў бездань і за гэта паплаціліся: больш ужо ім не выпрастацца.

Сцежка нават і не думае набліжацца да берага. Схавалася, кінулася ў роў. Каб прайсці па ім, трэба прыгнуцца. Тут расце калючая ігрушадзічка. Гушчар непралазны. Галлё нізка пераплялося над сцежкай, утвараючы арку. Сыра, пахне цвіллю. Передвячэрняй насцярожанай цішы не парушае і ручэй, што празрыстай стужкай ледзь-ледзь прабіваецца праз маленькія барханчыкі пяску. А на схілах сочыцца халодная крынічная вада.

Тым часам сцежку перасек яшчэ адзін роў. А за ім віднелася вёска Багатыровічы.

Усё больш прыкметна зямлю ахутвалі вячэрнія прыцемкі, і я пачаў непакоіцца: дзе ж пераначаваць. Вырашыў: пастукаю ў першую ж хату.

Праз брамку, што была не зачынена, увайшоў у двор. Ля ганка мужчына, відаць, толькі аднекуль вярнуўшыся, праціраў веласіпед...

— Добры дзень, гаспадар! — прывітаўся я.

Ён павярнуўся, паказваючы хударлявы твар, адказаў на прывітанне. Я адразу пытаюся, ці можна пераначаваць.

— Можна, — сказаў ён, і пачалося тое, да чаго я быў падрыхтаваны: — хто, адкуль, куды і чаго.

Я расказаў і паказаў дакумент. З хаты выглянула гаспадыня. Паміж ёй і гаспадаром адбылася тая размова, якую ўмеюць весці толькі блізкія людзі: без слоў, адnымі вачыма. «Чалавек гэты пераначуе ў нас» — «Разумею, добра». Я адчуў, што ўсё ўладжана, і прыступіў да справы: папрасіў расказаць, што тут памятаюць пра польскую пісьменніцу Элізу Ажэшка, жыццё якой было звязана з гэтай вёскай.

— Тады пойдзем да Эдварда Багатыровіча. Сусед мой, стары чалавек, многа памятае.

І вось мы ў яго двары. Гаспадар корпаўся на градцы лапушыстага тытуню. Няглядзячы на духату, ён быў у кажушку, накінутым на плечы, і ў шапцы-вушанцы. Даведаўшыся, чаго мы прыйшлі, ён сказаў, што нам лепш было б звярнуцца да яго суседа Гераніма Багатыровіча, той, напэўна, больш чаго памятае.

— Але ж, бацька Эдвард, вы больш гадоў пражылі на свеце, чым Геранім, часта бачылі пісьменніцу і каля вашай хаты яна часцей за ўсё любіла сядзець над Нёманам.

— Але, але...

Ясна, стары хоча, каб яго папрасілі. Нарэшце, здаецца. Вядзе нас да хаты, усаджвае на ганку, выносіць сабе зэдлік і садзіцца ў цёмнай глыбіні сенцаў («каб свежы ветрык не прахапіў»).

— Даўно было ўсё гэта. Дзяцінства ўспамінаецца. Летняй парою прыязджала пісьменніца ў госці да пана — маёнтак яго быў на другім канцы нашай вёскі. Цяпер там калгасны двор. Як ёй было з панамі і паненкамі — то невядома, толькі часта яна прыходзіла адтуль у вёску. Часцей за ўсё — у наш канец. Ля яе заўсёды збіралася моладзь. Гэта вось тут, каля рова, дзе стаіць помнік Яну і Цыцыліі... Таварыш з горада бачыў гэты помнік?

Гэта было сказана да мяне, я адмоўна пакруціў галавой.



**Нёман каля вёскі Багатыровічы.**

— Наша вёска славутая гэтым помнікам... Там была лаўка — на двух слупках прыбітая дошка. Сядзе, бывала, пісьменніца на тую лаўку, а вакол яе хлопцы і дзяўчаты — кальцом, а дзяцей колькі... Любіла яна нас, басаногую дзетвару. Заўсёды мы бегалі за ёю чарадой. То гасцінцаў прынясе, па галоўцы пагладзіць... А як цікава расказвала! Ну, і сама любіла слухаць. Асабліва спевы. Ёй падабаліся нашы вясковыя песні, цяпер гавораць — народныя. Упросіць яна, бывала, Ляўковіча — малады хлопец у нас быў, не ўпомню ўжо, што сталася з ім пасля... але ж, упросіць яго, а ён — малады, статны, сапраўдны асілак, завядзе песню — уся вёска слухае.

— А якія песні? — пытаю. — Памятаеце?

— Памятаю, а як жа... — І ён па памяці прачытаў, стараючыся захаваць песенны матыў:

Ты пойдзеш гарою,
А я — далінай.
Расцвіцеш ты ружай,
А я — калінай.

Гэтую песню прыводзіць Э. Ажэшка ў сваім рамане «Над Нёманам», у якім апісана была вёска Багатыровічы і яе жыхары.

Размова зайшла пра кнігі пісьменніцы. Я сказаў, што ў адной бібліятэцы ў Гродна не заўсёды можна ўзяць яе кнігі: на руках. Стары, зноў прыкурваючы патухшую цыгарку, ажывіўся:

— Нядаўна, калі быў на брыгадзе, чуў, як газету чыталі. У Варшаве, пішуць, друкуецца ўсё, што яна напісала, — больш як 50 кніжак. Гэта ж колькі часу трэба, каб перачытаць столькі... А напісаць?.. Многа працавала яна, таму любіла людзей працавітых, шчырых, сумленных. Чыталі, як яна пісала пра нашу вёску? — запытаў стары.

Зразумеўшы, што гутарка ідзе пра раман «Над Нёманам», я сцвярджальна кіўнуў.

— Яе ўсхвалявала паданне, якое жыве сярод нашых вяскоўцаў і перадаецца з пакалення ў пакаленне. Было гэта даўно, год чатырыста-пяцьсот таму назад. Скрозь па Нёману ў той час былі непраходныя пушчы. І тады з'явіўся тут селянін-волат. Хто ён быў, чыйго роду-племені — ніхто не ведаў, бо не гаварыў ён гэтага нікому, а была з ім дзяўчына чароўнай прыгажосці — Цыцылія. Падхапіў ён недзе яе, князеву дачку, — была любоў у іх вечная, і ўзяліся яны за працу... — так з сялянскай грубаватасцю пераказваў ён змест рамана.

Хто знае, каторы раз на сваім вяку пераказваў ён быль-паданне, якое ў бліскучай мастацкай форме расказала свету таленавітая пісьменніца. Можа і яе самую натхніў сваім паданнем такі вось стары. Як яго звалі — ніхто не ведае, а тое, што прозвішча ён меў Багатыровіч, — гэта пэўна, бо ў вёсцы Багатыровічы ўсе носяць гэтае прозвішча...

## 2

...Дарога, што вяла з Багатыровіч, адкрывала шмат новага і цікавага. Па левую руку — шырокая плантацыя цукровых буракоў. Тут было чыстае поле. Направа — невялікая латка канюшыны, на якой пасвіўся статак цялят, а далей — як акінуць вокам — вялікі абшар збажыны.

Месцамі жыта было ўжо зжата і снапы састаўлены ў бабкі.

Ранішняя прахалода хутка змянілася спёкай. Яшчэ не было і дзевяці гадзін, а сонца паліла нясцерпна. На небе ні хмаркі, ля дарогі — ні дрэўца. Глянеш — на ўсе чатыры бакі раўніна гладкая, як стол. Толькі дзенідзе сярод жытнёвага поля адзінока ўзвышаецца ігруша-дзічка ды пры дарозе сям-там нерухома стаяць шэрыя ад пылу кусты глогу і шыпшыны.

Пасля бясхмарнага сухога ліпеня ў жніўні прайшлі дажджы. Хоць і мала іх было, хоць не поўнай мерай насыцілі яны зямлю, ды былі добрай падтрымкай усяму жывому, і прырода ажыла, павесялела.

У гэтую сонечную бязветраную раніцу поле прагла жыцця, купалася ў золаце сонечных праменняў, зззяла радасцю і шчасцем. Было ціха, але колькі розных дзівосных гукаў таілася ў гэтай цішыні...

Падыдзі да жытнёвай сцяны і добра-добра прыслухайся. Ты пачуеш, як ад лёгкіх подыхаў ветру па ўсёй жытнёвай ніве разносіцца шматгалосы шолах, не гучны, а глухі, магутны і несціханы. Ён то аддаляецца, то набліжаецца. Потым чуюцца блізкія высокія і тонкія гукі — звініць! Кожны каласок — званочак, іх несупыннае ціхае дзінькание зліваецца ў нейкую радасную песню; здаецца, ураджай спявае ўрачысты свой гімн.

Знікла непатрэбнае поле ў севазвароце — межы. Іх даўно ўжо няма. Усялякаму пустазеллю межы служылі тымі пазіцыямі, з якіх яно ішло ў наступ супраць культурных раслін за зямлю, ваду і сонечнае святло.

Каменні-валуны... Без іх немагчыма ўявіць мясцовы пейзаж. Па велічыні яны розныя — ад галубінага яечка да вялізных глыб, якіх і трактарам не зрушыш з месца, і раскіданы ўсюды. Такія помнікі пакінулі пасля сябе леднікі.

Камяні — тая стыхія, з якой здаўна змагаецца селянін. Усюды бачны сляды барацьбы. Каменні дзесяткамі год, стагоддзямі збіраліся з пашаў і лугоў і выносіліся на дарогі, на межы. Яшчэ і цяпер на бяскрайнім калгасным полі ўбачыш лапцугі камянюк. Сярод сакавітай зеляніны яны паблісквающь лысымі ілбамі. Сядзеш на камень і падскочыш, як уджалены; так ён напален сонцам.

Уперадзе — тарфяное балота.

Тут пасвяцца статкі кароў. Рэдкі альховы кустарнік сядзіць пры самай зямлі, бо жывёла лічыць за лепшае пажывіцца яго маладымі гаркаватымі парасткамі, чым нясмачнай балотнай травой.

Вялізныя кучы торфу, згорнутыя бульдозерам, далей — штабялі нарэзанага торфу. Ён памагае павышаць урадлівасць палёў і саграваe людзей.

Балота цягнецца амаль што да калгаснага двара. На двары — паўдзесятка вялікіх будынін, іх дзверы адчынены насцеж, на сонцы сушацца бідоны з-пад малака, надзетыя на калы.

«Праўленне калгаса «Кастрычнік», — напісана на шыльдзе першай з краю хаты. На прасценку паміж акон — лозунг: «Убярэм ураджай хутка і без страт».

Над канторскімі сталамі схіліліся дзве дзяўчыны. Адна з іх узялася паказаць дарогу, і мы выйшлі на ганак.

— А з Радзевіч далей куды? — мімаходам спытала яна.

— У Ваўкавыск.

— Дык чаму пехатой? У горад едзе калгасная аўтамашына.

— Не, хачу пехатой.

На гэта яна ветліва адказала:

— Прабачце, я добра дарогу не ведаю, пайду паклічу Мікалая, ён у нас усе дарогі абхадзіў...

Мінуты праз тры яны прыйшлі з высокім хлопцам у клятчатай тэніcцы, густы яго чуб быў прыпудраны залацістай жытняй паловай.

Ён зірнуў у дакумент, распытаў. Потым стаў паказваць дарогу і нагаварыў пра столькі паваротаў, што я бездапаможна паціснуў плячыма. Выручыла дзяўчына:

— Тут проста... Вунь за ўзгоркам бачыце вершаліны дрэў? — паказала яна рукой. — То і ёсць Радзевічы. Ідзіце гэтай дарогай і трымайцеся правай рукі.

Я з удзячнасцю паглядзеў на дзяўчыну, яна адвяла позірк, пачырванела і ціха прамовіла:

— Прабачце, атрымалася так...

За што? Я вельмі нават задаволены. Мне прыемна, што людзі тут асцярожныя. Недалёка ж граніца...

На гэтай урадлівай зямлі толькі зрэдку сустракаюцца лясы. Калі ж удалечыні ўбачыш з-за ўзгорка зялёную палоску — гэта будуць вясковыя прысады, а не лес. Магутныя раскідзістыя дрэвы хаваюць пад сваімі шатамі і хаты, і студні, і ўсю вёску. Вось стаіць пры дарозе ясакар. Ствол у чатыры абхваты, увесь у густым голлі. Зямля вакол на сорак метраў — толькі яго. Араць тут перасталі, бо нішто не родзіць у цяню. А тым часам ясакар выгадаваў немалую сямейку. Каля бацькоўскага пляча дружна ўзняліся сыны, і ў людзей рука не падымаецца рабіць ім шкоду. Плугу зноў прыйшлося адступіць на пятнаццаць метраў. Сыны, праўда, не маюць яшчэ сваіх імён, іх называюць па бацьку, а бацьку клічуць так: Петрусёў ясакар.

Ля старой хаты з новымі вокнамі— груша, якая задумала перагнаць ясакар, — Марынчына груша.

Нашы дзяды і прадзеды садзілі ля хаты дрэвы, што былі ім па душы. Вось тут пасадзілі дубок, напэўна, прыгаварваючы: «І нам быць моцнымі і не баяцца бур і хвароб, як дубу»... А гэты двор абсаджаны ліпамі. Ліпка — гэта лыка садраць, сплесці чуні і зрабіць кораб; калі ж падрасце — пакрыецца густой квеценню, яе раямі аблепяць пчолы, ідзі выкачвай мёд; ды можна, урэшце, і не чакаць мёду ў вуллі, а вось ён — разліты ў паветры, духмяны, пі яго ўсімі грудзьмі.

Калі ў хаце дачка на выданні, чым заменіш ясень, каб зрабіць ёй шафу? А лыжы з чаго змайструеш лепшыя?.. А ў асобе таго чалавека, што перад усімі іншымі пародамі дрэў аддаў перавагу клёну, людзі бачылі шчаслівае спалучэнне таленту музыкі і майстра на ўсе рукі; знаў ён, што без клёну падмётак да ботаў не падаб'еш і берда не зробіш, і гэбліка талковага не атрымаецца. Ды і наогул клёну па цвёрдасці нават сам дуб саступае...

У каго шуміць пад акном беластволая бяроза, той ведае: не знайсці ў нашых лясах дрэва, якое і па прыгажосці зраўнялася б з ёю. Ды і прыдатная яна на ўсё. І калёсы, і посуд, і тапарышча, дзёгаць, вугаль і яшчэ, кажуць, нейкае духмянае віно... Каштаваць яго не даводзілася, а вось напіцца бярозавага кваску — халоднага і рэзкага, што аж шчыпле за язык, — адна асалода.

Той, у каго на падворку расце вярба, саджаць яе, уласна, і не думаў. Прывёз колле для плоту, убіў у зямлю, іх і не прасілі, а яны самі пусцілі карэнні. Выраслі вербы. І якія галасістыя дудкі робяць з іх хлапчукі!..

Мусіць, душа паэта была ў таго чалавека, які саджаў каля сваёй хаты рабіны. Вясной яны — белыя-белыя, а ўвосень, калі голыя дрэвы дрыжаць на золкім ветры, адна рабіна шугае сваім яркім нязгасным полымем, саграваючы наваколле.

Чалавек здаўна вядзе дружбу з лесам. Уступаючы ў жыццё, ён пачынае свой шлях з сасновай калыскі; сасновымі дошкамі закрываецца ад яго свет. Між пачаткам жыцця і канцом увесь час людзі ідуць са сваім спадарожнікам — лесам. Хто адважыцца асцрэчваць, што першай зброяй чалавека была палка, першай прыладай — падважына, першым інжынерным збудаваннем — ствол дрэва, звалены ўпоперак ракі?..

...Над зямлёй, разморанай спёкай, плывуць цяжкія ўдары молата. Цікавую ролю выконвае ў гэтыя дні кузня. У калгаснай канторы самым падрабязным чынам раскажуць вам пра ўборку, прывядуць многа пераканаўчых лічбаў, прыкладаў, але калі хочаце адразу ахапіць усю карціну барацьбы за ўраджай, падыйдзіце да кузні. Кузня ў нашы дні — гэта механічная майстэрня. Там устаноўлены металаапрацоўчыя станкі: гудуць электраматоры. З жытніх і пшанічных палёў, як з поля бою, сюды спяшаюцца пасыльныя: падправіць кранштэйн, раздабыць запасны падшыпнік ці некалькі гаек, прапачыць «палец». А заадно і абмяняцца навінамі...

За ўзгоркам адкрыўся шырокі краявід. Справа ўздоўж невялічкай рачулкі, хутчэй — раўчука, цягнулася вёска, злева ад яе — пабудовы калгаснай сядзібы; паміж іх пайшла ўдалячынь дарога. На просценькім ландшафце кідаюцца ў вочы трансфарматарная падстанцыя і электрычныя лініі, што пабеглі ад яе ў розных напрамках. Гэта і ёсць вёска Радзевічы.

Ускрай вёскі — дзве хаты. І ў іх— уся, можна сказаць, сельская ўлада. У адной хаце — сельскі савет, клуб, бібліятэка і ашчадная каса, у другой — праўленне калгаса «Іскра» і магазін.

Некалькі хлопцаў пад ліпамі вяла перакідваліся валейбольным мячом; другія стоўпіліся ля матацыкла, які не заводзіўся. Але калі ўбачылі, як прыпыніўся новенькі трактар «ДТ-14» з прычэпам, усе дружна згрудзіліся каля яго, абмацваючы, ацэньваючы.

— Сёмы ў нашым калгасе...

— А колькі каштуе?

— З прычэпам — дзевятнаццаць тысяч.

— Мнагавата...

У клубе кінамеханік пісаў аб'яву аб новым кінафільме.

— Народу многа прыходзіць?

— Многа. Поўная зала, — сказаў ён і дадаў: — Вось, два гледачы ўжо тут...

Тыя, пра каго ішла гаворка, стаялі побач — белагаловыя, у кароткіх штоніках, босыя. Яны чакалі той мінуты, калі закончаць пісаць у некалькіх экземплярах аб'яву, каб расклеіць яе па ўсёй вёсцы ды збегаць яшчэ на поле і на фермы і ўсюды сказаць пра кіно... Яны зробяць усё, каб сумленна зарабіць права дармовага ўваходу на

сеанс, а не прабірацца «зайцам» у каго-небудзь пад палой.

— Пра настаўніцу трэба напісаць, пра настаўніцу, — зачасціла пасля прывітання старшыня сельсавета Аляксандра Паўлаўна Улановіч, — гэта ж такую ферму развяла, паглядзець люба. Завуць настаўніцу Алена Васільеўна Шэўчык.

— Трусоў завялі ў школе паўгода назад, — расказвала старшыня, калі мы ішлі да драўлянага хлеўчука. — Іх было толькі восем. А цяпер за дзве сотні пераваліла.

Самой настаўніцы на школьнай ферме мы не засталі. Тут дзяжурылі піянеркі. Памыўшы рукі, яны нахіліліся над сшыткам. Гэта быў журнал дзяжурстваў.

Клеткі — радамі, у два паверхі. На кожнай — таблічка з указаннем імя, пароды, узросту.

Піянеркі расказалі, што трусоў са сваёй фермы яны далі для разводу адной школе і аднаму дзіцячаму дому.

— Вось добры агітатар, — сказала старшыня.

— Хто — агітатар?

— Ферма. Агітуе за трусагадоўлю ў калгасах. Калі даць гэтай справе размах — якія прыбыткі чакаюць людзей?!.

Дарога. Уздоўж яе — хаты. Яны раскіданы далёка адна ад другой — на трыста, чатырыста, пяцьсот метраў. Не вёска, а хутары. Але існуе традыцыя і па традыцыі іх называюць вёскай Насовічы. Вёска парадзела год трыццаць — трыццаць пяць назад, з таго часу, як польскія паны правілі камасацыю. Гэтае слова азначае звычайную хутарызацыю. У дадзеным выпадку пілсудчыкі проста аказаліся паслядоўцамі царскага міністра Сталыпіна. Толькі яны праявілі больш спрыту і жорсткасці, а мэтай кіраваліся адной: раз'яднаць сялян, разагнаць іх па хутарах. Няхай там кожны на латцы сваёй зямлі таўчэцца як знае, агароджаны ад людзей межамі. Затое панам будзе спакойна. Дзе знойдзецца, меркавалі яны, такая сіла, каб магла згуртаваць сялян, пераадолець ваўкаваты настрой хутараніна?

Сёння адна за адной знікаюць з палёў «клеткі камасацыі». Вёска зноў становіцца вёскай. Народ падаўся сюды з хутароў. Бачыш зрубы новых хат, побач з імі — выкладзены падмуркі, а далей — няма яшчэ ні зруба, ні падмурка, ляжыць толькі груда каменя і штабель бярвенняў. Ёсць і новыя хаты, а вакол іх — маладыя сады.

Пакуль не позна, возьмем інтэрв'ю. Ну, хаця б вось ад гэтай счарнелай хаціны, якую саламяная страха прыціснула да самай маці-зямліцы. Гаспадар яе, калгасны трактарыст Іван Кучынскі пабудаваў сабе новы дом — з шлакабетону, высокі, пяцісценны, з шыферным дахам і з шырокімі вокнамі. На сонцы ён так і свеціцца яркай белізной сваіх сцен, і яго можна прыняць за будынак школы ці хатычытальні.

— Як жывецца? — пытаем старую курную хаціну, і яна адказвае вуснамі жанчыны ў гадах, сваёй гаспадыні.

— І не пытайце. Хутарское жыццё — вядомае. Жывёліне ці там куранятам — яно прывольней, ды самім дужа маркотна. Адзін, як воўк, і нідзе нікога. У вёсках — і радыё, і электрычнасць, і школа блізка. Добра, як сусед блізка і пералаз нізка.

— У новую яшчэ не пераходзілі, — дадала жанчына, памаўчаўшы: — Кухня недароблена. Іванка, сынок мой, усё заняты. Ён падаўся па трактарнай справе, колькі год ужо... Нельга, кажа, каб трактар прастойваў. Адкладвае даробкі на восень.

— А старую хату?

— Разбярэм... Здаровае бервяно на хляўчук спатрэбіцца, парахня — на дровы...

Растуць, забудоўваюцца новыя вёскі, зіхацяць на сонцы шыбамі прасторных вокан, усё цяплей апранаюцца шумлівай зелянінай маладых садоў. Вуліцы высноўваюцца лініямі электраперадач. А на фанеры, прыбітай да слупа, убачыш такія аб'явы: «Перасоўная аўтакрама гандлюе па аўторках», «Прыбыццё кінаперасоўкі — па суботах»...

## 3

Я стаяў каля агарожы і дзіваваўся. У гародзе тварылася нешта незвычайнае, — зеляніна пышна разраслася ўздоўж і ўпоперак, завілася адна па адной. Паміж шырокімі, круглымі, вузкімі, лапушыстымі лістамі, калючымі, пахучымі і гладкімі, нешта бялее, чырванее, ружавее, зелянее.

Гэта грады. Усё тут звілося, усё пераплялося. Вузкай градкай абазначан агурэчнік, яго доўгія калівы прашылі наскрозь радочкі морквы, а з другога боку прадзёрлася праз нешырокую латку цыбуля. Нікога з суседзяў не пакінуў у спакоі агурэчнік, але сваёй градкі не мог адстаяць ён ад суседзяў. Над ім высока ўзняліся сцяблінкі маку-самасею і ўкропу.

Для фасолі тычкі аказаліся малыя, яна іх перарасла і пераскочыла на яблынькі, за фасоллю палезлі ўверх агурэчнік і гарох, і вось ужо яблыня — не яблыня, а нешта кудлатае ад густога перапляцення зялёнага лісця; з галін уніз звісае ўсялякая гародніна, дрэва густа абвіла рознакаляровая квецень.

Памідоры — тыя адшыліся ўбок ад сваіх суседзяў, аблюбавалі гарачы сонечны прыпёк. Сярод адкрытых сонцу кустоў, якія густа абвешаны пладамі і таму абапіраюцца на палкі, убачыш бурачнае бацвінне.

Ад таго, мусіць, што месца на зямлі не хапіла, а можа — проста жыве ў яго звычка верхалаза, палезлі на хлевушок доўгія светла-зялёныя сакавітыя плёткі гарбузніку, адзначаючы свой шлях яркімі кветкамі пустацвету і радзей — пузатымі гарбузамі.

А вось месца толькі для махоркі. Нішто не пасягала на яе плошчу. Мусіць таму, што нішто іншае не магло вытрываць густога паху гэтай атруты, якую прызначыў для сябе чалавек, а яшчэ таму, што дзед, не шкадуючы, вырываў з коранем усялякую іншародную расліну, адкідваў убок паўзункі агурэчніку, гарбузніку і інш. Там, дзе пачыналася махорка, канчалася ўлада бабкі Яніны і праходзіла спрэчная зона працілеглых інтарэсаў.

А калі да ўсяго гэтага дадаць, што ў розных напрамках пралеглі рады бобу, сланечніку, кукурузы, бручкі, рэдзькі, радзіскі, можна ўявіць сабе, што тварылася ў гаспадарцы бабкі Яніны. Вось на росную траву яна высыпала прыпол гуркоў.

— Частуйся, сынок, такіх ні на базары, ні ў магазіне не прадаюць.

Гуркі — сапраўды цудоўныя. Зялёныя, хрумсткія, яны ўвабралі ў сябе начную свежасць; не сцёрты нават пупыркі. За другім заходам старая прынесла налітых чырванню памідораў і сказала:

— У нас ядуць іх проста так, без нічога.

Калі хоча хто па-сапраўднаму адчуць смак памідора, яго трэба есці так. Не разразаць нажом, не саліць і не класці на талерку, тым больш не паліваць смятанай і не мяшаць з другой гароднінай. Сарваўшы з куста халодны, наліты, росны памідор, яго трэба асцярожна разламаць... Убачыш ружовыя зіхотныя крышталікі на разломе, і тады еш. Адчуеш ні з чым непараўнаны смак сапраўднага памідора...

Дарога прывяла мяне ў лес. Можа, і прайшоў бы я яго за гадзіну, ды затрымалі непрадбачаныя акалічнасці...

Уперадзе спынілася машына, шафёр з кабіны палез у кузаў. Чаго гэта ён? Гне ляшчыну. У гэтым я ўбачыў добры прыклад для сябе. І вось падаўся ад куста да куста. Нагнеш ляшчыну — арэхі самі просяцца ў рукі. Іх не трэба выглядаць, шаргані пальцамі між лісця — гронкі з трох, чатырох, пяці арэхаў застаюцца ў руках.

А калі арэхаў дастаткова было з'едзена і ўсе кішэні сталі паўнюткія, раптам заўважыў я, што трапіў у малiннік. Зноў рукі не гуляюць. Маліны тут растуць па-суседску са сваімі родзічамі ажынамі. Растуць яны аднолькава калючымі дубцамі, і лісце іх мала чым адрозніваецца, толькі ажыны больш буйныя, калі добра выспеюць — чорныя, а па смаку ім далёка да малін.

Далей у лес — болей ягад. На прагалінах — запозненая суніца, у гушчары — чорныя і чырвоныя парэчкі.

Арэхі і ягады прывялі да таго, што я страціў адчуванне часу, і колькі яшчэ блукаў бы па лесе — невядома, калі б на невялічкай сонечнай палянцы не натрапіў на такое, што абудзіла ўспамін пра грады бабкі Яніны. Тут у загародцы таксама былі грады — чыстыя, добра дагледжаныя, ні травінкі нідзе не ўбачыш.

На градках растуць не гуркі і не цыбуля, а... маладыя дубкі. У раннім дзяцінстве іх лісточкі маюць светлы ружавата-зялёны колер. Дуб заўсёды дуб, нават калі над градкай падняўся на два ці тры вяршкі і яму хапае ямкі ад конскага капыта, каб схавацца ад буры. І клён лёгка пазнаць. А калі над якой градкай задумаешся — прачытай на фанерцы: там і парода, і ўзрост, і хто даглядае, і якая плошча — усё ўказана.

Заўсёды нейкім шостым пачуццём адчуеш, калі на цябе глядзяць. Я азірнуўся і сустрэў насцярожанацікаўны позірк чалавека ў форменнай шапцы, з кукардай ляснога ведамства на аколышку. Левай рукой ён прытрымліваў веласіпед.

Гэта быў ляснік — гаспадар спелага лесу і гэтых маленькіх саджанцаў, усіх ягад, арэхаў, грыбоў. Яго словы — тут закон.

— Увесь гэты народ, — гаворыць ён, паказваючы за плот лесагадавальніка, — паселім на новых плошчах, у асноўным — на пясках. Вырасцім новыя бары і дубровы. А колькі іх ужо шуміць на ветры? Былі тут калісьці два масівы — Боблаўская дуброва і Сідоршчынскае ўрочышча, разарваныя паласой пяскоў. У апошнія гады засадзілі і засеялі лесам 70 гектараў пяскоў. Атрымаўся адзіны масіў, добранькая гаспадарка — 541 гектар.

Сярод асін, грабаў і клёнаў цяпер убачыце ў нашым лесе лістоўніцу сібірскую, бархат амурскі і нават бамбук. Добра прыжываецца ён. За два гады дасягае 3—5-мятровай вышыні. І яшчэ новая парода — валасістаплодная таполя. Ёсць больш двух гектараў

плантацыі, ды другім лесгасам перададзена тысяч пятнаццаць яе чаранкоў. Справа пачалася два гады назад з 20 чаранкоў, прысланых здалёк.

Ляснік падвёў мяне да густых зарасляў. Лісце — як у тапалі, а расце — як лаза, многа дубцоў з аднаго кораня. Гэта і ёсць валасістаплодная таполя. Навасёл.

— Што патрабуе ад лесу народная гаспадарка? — кажа ён. — Больш драўніны. Нашу бярозу мы называем хуткарастучым дрэвам, але ж спее яна прыкладна ў 80 год. А валасістаплодная таполя столькі ж драўніны дае за 20 год. Чатыры абароты супраць аднаго — выгадна. І размнажаецца проста — чаранкамі. З кожнага кусціка іх можна нарэзаць... зараз палічым... на кусце — чатыры-шэсць лазін, з лазіны выйдзе тры-чатыры чаранкі... прыкладна дванаццаць-дваццаць чатыры чаранкі з кожнага куста.

Нам па дарозе. Уладзімір Іванавіч Варапай — так завуць лесніка — ідзе ў мястэчка да доктара і паказвае, з чым: укусіў сляпень. Учора не надаў гэтаму значэння: справа звычайная, а тут вось як павярнулася; усё плячо распухла...

Аднак пешы коннаму не таварыш. Ляснік крыху прайшоўся, потым сеў на веласіпед, і толькі пыл слупком закурыўся з-пад колаў.

А праз нейкі час мне прыйшлося адгадваць загадку. Прыглядаюся да бульбянога поля і ніяк не зразумею, што там робіцца. Між барозен ланцужком ідуць дзеці.

— Няма, не знайшлі! — крычаць яны настаўніцы. — Нават не бачылі, які ён...

— Ды ўжо ж: сумаваць не будзем, калі не знойдзем, — адказвае настаўніца і тлумачыць мне. — Шукаем каларадскага жука. У суседзяў, кажуць, аб'явіўся... Там ужо апырскваюць палі з самалётаў...

Радзіма бульбы і яе шкодніка — адна: Паўночная Амерыка. Што датычыць жука, то яго радзіма вызначаецца больш дакладна — даліна ракі Каларада, ад гэтага ён і названы каларадскім.

Цар Пётр Першы некалі прывёз у Расію мяшок бульбы і строга загадаў графу Шарамецьеву разводзіць гэтае земляное яблыка, як тады называлі бульбу. Ужо ў 1765 годзе паявіўся царскі загад «распарадзіцца адпраўкай ва ўсе губерні земляных яблык на расплод» і прыкладвалася да яго інструкцыя.

Новая культура хутка рассялілася па ўсёй краіне. Надта ж выгаднай аказалася: і жывёле, і сабе есці, да таго ў ёй многа крухмалу. Потым стала вядома, што яна дае ў 4—4,5 раза больш спірту з ураджаю на гектар, чым жыта ці іншая культура.

На ўсю Расію, на ўсю Еўропу стала вядома Беларусь сваім бульбаводствам. Жыта і бульба. Два хлебы, якія мае наш народ. У другіх народаў — адзін хлеб, у нас — два; хоць адзін ды ўродзіць.

І вось напаў на бульбу шкодны жук. На Захадзе даўно ўжо лятае ён хмарамі. Гэты крылаты каларадскі шкоднік знішчае там значную частку ўраджаю. Не пранікае ён у глебу, не грызе клубняў, а садзіцца на зялёнае лісце і паядае яго. Перагрызаецца горла — расліна перастае дыхаць і жаўцее. Там, на Захадзе, кожны дробны ці буйны ўласнік імкнецца сам берагчы свае палеткі. Сіл не хапае, страты — вялікія.

Не так даўно каларадскі жук аб'явіўся ў Польшчы, а цяпер — і тут. Ды не застаў ён людзей знянацку.

Чародкі школьнікаў, што абследуюць палі, — гэта разведка. Калі яна аб'явіць трывогу, у дзеянне будуць прыведзены ўсе сродкі барацьбы, уключаючы «цяжкую артылерыю» — самалёты сельскагаспадарчай авіяцыі, і вораг будзе пагалоўна знішчаны.

З грэбня высокага кургана, як на далоні, відаць Рось. Тут цэлы куст імён, і ўсе — Рось. Рабочы пасёлак — Рось, рэчка — Рось, саўгас — «Рось», дом адпачынку — «Рось». Першым двум імя далі нашы далёкія продкі, што прыйшлі сюды з незапомных часоў з старарускай Кіеўскай дзяржавы і засялілі Нёман і яго прытокі, два другія — нядаўна, ад савецкага чалавека.

Цяперашняя цэнтральная сядзіба саўгаса «Рось» некалі належала графу Патоцкаму. «Да гузіка прышылі новае паліто», — гэтымі словамі тут ахарактарызавалі абстаноўку. Усё, што засталося ад мінулага: некалькі пахілых хлявоў і дом, у якім калісьці жыў графскі ўпраўляючы. Па знешняму выгляду гэтаму графскаму дому, які беляць кожны год і наогул стараюцца трымаць у парадку, далёка да тых выдатных жывёлагадоўчых пабудоў, што ўзведзены за апошнія гады. Радуюць вока і новыя дамы, якія пастаўлены для работнікаў саўгаса, і парк. Паркам тут ганарацца. Ён мог бы ўпрыгожыць нават вялікі горад. Векавыя дрэвы, ценістыя алеі, зялёныя сонечныя палянкі. У невысокіх берагах — рака Рось. Здаецца, вада ў ёй стаіць на месцы, а між тым яна цячэ пад бясконцы птушыны шчэбет. Невялікі ручай пацёку імкнецца да Росі, ён перагароджаны маленькай бетоннай плацінай, і гэтым зроблена ўсё, каб надзяліць яго падабенствам да вялікай воднай артэрыі з вадасховішчам. Бачыш шкляной празрыстасці струмень, што з піскліваым шумам падае ўніз і ў ніжнім б'ефе спрабуе пеніцца і круціць, але хутка ўціхамірваецца... Адным словам, усё, як на сапраўднай рэчцы і сапраўднай плаціне. Сярод парку ёсць альтанка: насыпаны высокі бугор зямлі, на ім — высокія дрэвы, там цень і прахалода, а вось туды зайсці нельга, бо з усіх бакоў альтанка акаймавана шырокім і глыбокім ровам, і ў ім поўна вады. Ёсць перакідны мосцік, але ён на замку. Уваход туды, відаць, адкрываецца не заўсёды, і па розных прыкметах можна было меркаваць, што там зроблена танцавальная пляцоўка. Працоўны дзень яшчэ не скончыўся, і ў парку было мала людзей.

А потым мяне вадзілі па жывёлагадоўчым гарадку, хваліліся пароднасцю і ўдоямі кароў, здаровым, моцным маладняком, механізацыяй ферм. Нічога не скажаш, саўгас — што трэба. Гаспадарка багатая і арганізавана добра, культурна вядзецца. Яе ставяць у прыклад. І ёсць за што.

Я запытаў пра сабекошт прадукцыі. Твары эканаміста саўгаса Анатоля Бірука і галоўнага заатэхніка Валянціна Краско спахмурнелі.

— Хваліцца асабліва нечым, — сказаў галоўны заатэхнік.

— Канешне, сабекошт не ніжэй за планавы, удакладніў эканаміст.

Саўгас «Рось» — жывёлагадоўчая гаспадарка. Іншыя галіны падпарадкаваны адной мэце: даць як мага больш кармоў для ферм, каб дабіцца максімальнай прадуктыўнасці пагалоўя з мінімальнай затратай сіл і сродкаў. Іншымі словамі: больш і танней.

Тут лепей, чым у калгасах, механізавана праца жывёлаводаў, практыкуюцца прагрэсіўныя метады працы. Але і дзесяць год таму назад адна даярка даглядала 10—12 кароў, у лепшым выпадку — 17, і цяпер столькі ж. Доўгі час нешта падобнае было і на свінафермах: увесь свінарнік быў падзелен на клеткі і дагляднчыкі імкнуліся да таго, каб у кожную такую клетку паставіць як мага менш свіней. Лепш за ўсё, лічылі яны, — адну. Можна сказаць, цацкаліся з кожнай свіннёй. Даходзіла да таго, што ледзь не для кожнай сталі рыхтаваць рацыён у залежнасці ад «індывідуальных асаблівасцей». Калі ж вясной гэтага года ў перадавых калгасах і саўгасах адкінулі ўсё гэта прэч, павыкідалі клеткі і ўвялі бесстаночнае свабодна-выгульнае ўтрыманне свіней, — вынік рэзка змяніўся. Калі ў свінарніку пры «клетачным» метадзе ўтрымлівалася 200 свіней, там цяпер 400 і больш галоў. Праца аблегчылася, і для абслугоўвання ферм патрабуецца людзей удвая-ўтрая менш: натуральна, сабекошт свініны знізіўся.



Рака Рось.

А ці не занадта нянек круціцца вакол кожнай каровы? Каровы расстаўлены ў кароўніку так рэдка, што адна другой і хвастом нават не дастане. Сярод даярак і заатэхнікаў у модзе такія словы: «індывідуальныя асаблівасці каровы». І людзі робяць усё, каб прынаравіцца да гэтых «індывідуальных асаблівасцей».

Я спытаў:

— А што, ва ўтрыманні кароў няма новых метадаў?

— У нас — так, няма, — сказаў заатэхнік, — а наогул, ёсць. Перадавыя гаспадаркі поўдня — Кубані і другіх месц — уводзяць на малочнатаварных фермах нешта накшталт таго, што зроблена на свінагадоўчых, — беспрывязнае ўтрыманне. Ніякіх станкоў, ніякіх ланцугоў і падвясных дарог. Наогул, метал з кароўніка выкідваецца. Каровы стаяць на падсцілцы, а гной вывозіцца раз у двватры месяцы. Вывозіцца не на падводах, а заходзіць у кароўнік бульдо-

зер і выграбае гной да сховішча. А яшчэ абсталёўваецца асобная даільная зала, па-новаму арганізавана кармленне і паенне. І вынік добры. Удоі не зніжаюцца, а затраты працы намнога меншыя.

— Значыць, добра?

— Канешне, добра.

— А чаму б не прымяніць гэты вопыт у вас?

— Як тут сказаць, — паціскае плячыма галоўны заатэхнік, — не чуваць, каб хто вакол нас прымяніў яго — ні ў Беларусі, ні ў Прыбалтыцы...

І на кармавую базу скардзяцца ў «Росі». Кукуруза — гэта вельмі добра, сіласу — заваліся, і на зялёную падкормку хапае. Ды кукурузы адной, хоць яна і каралева палёў, мала.

— Залужэнне палёў шматгадовымі травамі нам во як патрэбна, — гаворыць галоўны заатэхнік. — У Прыбалтыцы так і робяць, арганізавалі загонную пашу. А мы сеем на палях аднагадовыя травы, косім і развозім па кароўніках. Гэта дорага.

— Чаму ж не пайсці следам за Прыбалтыкай?

— Насення не хапае, ды і рукі не даходзяць.

— Затое салодкі лубін...

Балючая струнка — салодкі лубін. Гэта тое, чым у свой час славіўся саўгас. Дзякуючы яму, тут дабіваліся рэкордных па рэспубліцы надояў малака.

— Выводзіцца ў нас лубін. Пасеяна ўсяго 41 гектар. А такі каштоўны бялковы корм!..

Неяк міжволі ўзнікае думка: а ці не таму ён і выводзіцца, што людзі пагавораць вось гэтак між сабою, пабядуюць, а ўзяцца за справу чамусьці не адважваюцца. І хочацца запытацца ў іх: «Чаму ж у вас, таварышы, не хапае смеласці пайсці на разумную гаспадарчую рызыку, калі справа ідзе аб укараненні новага, прагрэсіўнага? І яшчэ: чаму вы забываеце, што гаспадарыць — значыць лічыць; улічваць усё, што ўплывае на сабекошт, і пастарацца зрабіць так, каб зменшыць гэтыя выдаткі, каб на стале працоўных *паявілася* дзешавейшае малако, масла, мяса, бульба, гародніна».

## 4

Далей ісці можна, і не пытаючы дарогі: трымай кірунак на высачэзныя трубы, якія выкідваюць клубы дыму. Гэта цэментны завод «Перамога». Па яго цэху ходзіш, як па полі стадыёна. На вышыні трохпавярховага дома змяшчаюцца доўгія-доўгія, у многія дзесяткі метраў, печы абпалу клінкеру, г. зн. паўфабрыката цэменту. У сярэдзіне іх шугае полымя, такое моцнае і яркае, што глядзець на яго нельга.

З аднаго канца печы — нязгаснае полымя, з другога — усё ўліваецца і ўліваецца шлам, папросту кажучы, баўтушка з крэйды і гліны. Шлам спячэцца, пакуль рухаецца па печы, і атрымаюцца неверагоднай цвёрдасці каменьчыкі, так званы клінкер. Каб ён стаў цэментам, яго трэба размалоць. У другім цэху працуюць не менш грандыёзныя цэментныя млыны. Яны настолькі дробна перамолваюць клінкер, што атрымоўваецца пыл — такі ж мяккі, пухкі, як мука, як пудра. Гэта і ёсць цэмент. Адсюль яго павязуць на навабудоўлі, і ён стане целам плаціны гідрастанцыі, падмуркам жывёлагадоўчай фермы, завода ці на яго трывалым растворы паставяць новы дом, палац культуры. Калектыў завода «Перамога» выдае цэменту больш і больш. Цяпер працуюць тры печы, а хутка іх будзе пяць, таму што рэканструкцыя і пасшырэнне завода ўжо праводзяцца. Выпуск цэменту павялічыцца больш чым удвая, узрасце прадукцыйнасць працы.

У вялізных карпусах натуральна чакаеш убачыць многа рабочых, а іх тут зусім мала. Яны наглядаюць за работай агрэгатаў, за тым, як працякае тэхналагічны працэс.

— А што тут было... — расказвае механік Глеб Лукіч Палуйчык. — Завод быў пабудаван яшчэ пры цары, якраз напярэдадні вайны — у 1913 годзе. Потым ён дастаўся запраўілам з Варшавы. А тыя выбівалі з завода і з рабочых усё, што маглі. Усё *рабілася* ўручную. Духата страшэнная, пыл... Нявыгадна, бачыш, ім было займацца механізацыяй, рабочыя рукі каштавалі вельмі танна. Ды і некаму было думаць аб тым. Былі тут адзін інжынер і адзін тэхнік. Мы гаворым цяпер: рацыяналізацыя, механізацыя, аўтаматызацыя... Такіх слоў у той час рабочы і не чуў. Ды і для каго старацца, для каго паляпшаць? Для гаспадароў, каб тужэй набіваць кішэні?.. А інжынер і тэхнік тут з'яўляліся раз у тыдзень, калі што здарыцца...

Жаданне даведацца, колькі ж цяпер працуе на заводзе інжынерна-тэхнічных работнікаў, прывяло мяне да галоўнага інжынера Алега Ставера. Нікуды не заглядваючы, ён сказаў адразу:

—У нас цяпер — 16 інжынераў і 62 тэхнікі... Плюс 39 будучых інжынераў і тэхнікаў — цяпер яны вучацца завочна ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах. Прыплюсуйце яшчэ 80 чалавек — прыйшлі на завод з сярэдняй адукацыяй і рыхтуюцца вучыцца без адрыву ад вытворчасці і яшчэ 29 — займаюцца ў вячэрняй школе...

— Колькі ж будзе інжынерна-тэхнічных работнікаў, скажам, у канцы сямігодкі?

— Справа ідзе да таго, што кожны рабочы будзе мець не ніжэй як сярэднюю адукацыю. Людзям з сярэдняй адукацыяй да інжынера — адзін крок, дзверы інстытутаў адкрыты: трэба толькі жаданне...

Рэчка Рось, шаша і чыгунка. То ў непасрэднай блізасці адна ад другой, то нехта з іх нечакана вільне ў бок, разгоніцца, крута паверне і з разбегу пераскочыць суседку. І ў тым месцы людзі вымушаны будаваць мост ці пераезд.

Хочаш — лічы шпалы, хочаш — глытай на дарозе пыл ад аўтамабіляў.

І зноў кліча, вабіць уперад бясконцая дарога. За спіной засталіся высачэзныя каміны цэментнага завода, недзе ўдалечыні курацца ледзь прыкметныя дымкі іншых заводаў, справа па лясістых узгорках і зялёных далінах пакрочыла высакавольтная электралінія, а злева — грукацяць на рэйках цяжкія вагоны. Індустрыяльны пейзаж...

## 5

—... А сыноў я пагадавала. Кожнага паставіла на свой шлях. Старэйшы — дырэктар школы, сярэдні — прараб, сталіцу нашу—Мінск будуе, малодшы вывучыўся на настаўніка. Стары мой падаўся па бандарнай справе, дома не стыкаецца. Колісь ладная была сямейка, ад клопатаў галава балела і спіну не разагнуць, а дажыла да старасці — апусцела хата. Колькі разоў казала старому: хоць ты будзь ля дому. Дык дзе там! Для вялікай хіміі, кажа, працую. Вялікая хімія... Робіць ён звычайныя бочкі пад шкіпінар там ці пад жывіцу.

Так расказвала пра сваё жыццё Аўгіння Захараўна Жыткевіч — сталага веку жанчына, высокая і хударлявая, не па гадах спрытная ў рухах. У яе хаце мне давялося пераначаваць. Здарылася ўсё так. Вечарам, выйшаўшы з Рудаўкі, праз чвэрць гадзіны я ўжо быў тут, у Вялікай Кракотцы. Адкрылася яна нечакана неяк адразу, у нізіне, куды вёў круты спуск. З другога боку гароды ўпіраліся ў лес, месцамі ён падбіраўся да самых хат і кідаў цень на вуліцу.

Я зайшоў у адну хату і, маючы ўжо такі-сякі вопыт, спачатку папрасіў вады напіцца, а потым і на начлег.

А праз колькі хвілін я ўжо ўваходзіў у вясковую бібліятэку, якая носіць імя Янкі Купалы. Вялікае памяшканне, перагароджанае надвое. У большай зале — чытальня, тут жа паказваюцца кінафільмы, чытаюцца лекцыі і даклады, моладзь наладжвае вечары, калі надвор'е не дазваляе танцаваць на вуліцы.

Кнігасховішча размешчана ў меншым пакоі. На сцелажах — кнігі, на падаконніках — кнігі, на стале, лаўках, на этажэрках — усюды кнігі.

— Кніг многа, — гаворыць загадчык бібліятэкі А. І. Жыткевіч. — Тысячы... Ды яшчэ карыстаемся міжбібліятэчным абанементам. І чытачоў у нас многа. Няма такой хаты, адкуль хто-небудзь не браў бы кніжак.

І прывёў такія лічбы. У трох вёсках — Вялікая і Малая Кракоткі і Рудаўка — 235 двароў. Кнігі ж бяруць 340 чалавек. І з другіх вёсак прыходзяць. Усяго бібліятэка налічвае 720 чытачоў. У аддаленых вёсках працуюць перасоўныя бібліятэчкі.

— А хто і калі заснаваў бібліятэку?

— Гэта доўгая гісторыя... Створана яна даўно, больш трыццаці год назад. Вось што пра гэта піша Валянцін Таўлай.

Ён дастаў з паліцы томік яго выбраных твораў і прачытаў:

— «Нам дакументальна вядома, што ў вёсцы Вялікая Кракотка, Слонімскага раёна, сяляне, арганізаваўшыся ў гуртоК ТБШ (Таварыства беларускай школы), у 1927 годзе заснавалі шляхам ахвяраванняў кніжак і грошай на закуп літаратуры вясковую бібліятэку-чытальню і прысвоілі ёй імя нашага слаўнага песняра Янкі Купалы. На папаўненне кніжнага фонду ішоў даход ад спектакляў, якія часта ладзіліся. Праіснаваўшы каля двух год, бібліятэка-чытальня імя Янкі Купалы ў 1929 годзе была зачынена польскай паліцыяй, а кнігі канфіскаваны».

— Зачынілі, канфіскавалі, забаранілі... — у роздуме сказаў бібліятэкар, — а сялян гэта не спыніла. Моладзь збіралася пад выглядам струннага гуртка. Дух у яго работу ўнёслі камсамольцы. Камсамол, канешне, быў у падполлі. Добра памятаю тыя часы. Збяромся, бывала, пабрынчым для прыліку на балалайках, а потым чытаем забароненыя кніжкі, вывучаем напамяць вершы Купалы, Коласа, байкі Крапівы. Строга было на-

конт гэтага. Як знойдзе паліцыя ў каго з нас тыя вершы — турма. Наладжвалі мы яшчэ вечарынкі. Прыходзіў да нас і Валянцін Таўлай. Часта выступаў. Добра гаварыў... А цяпер мы не нарадуемся той дружбе, якую завялі людзі з добрай, разумнай кніжкай. Жыццё іх ад гэтага становіцца больш прыгожае і цікавае. Добрая кніжка возьме чалавека за руку і вядзе яго праз усё жыццё.

Потым ён спытаў, у каго я начую.

— Ну, вось. З адной гэтай хаты тры браты атрымалі адукацыю. А вось гляньце сюды...

Накульгваючы, ён правёў мяне праз залу і паказаў дыяграму. Лічбы. Але ёсць лічбы, якія здольны гучаць, як цудоўная музыка.

У нарысе, гавораць, не месца для зводак і дыяграм, але ж цяжка ўтрымацца, каб не прывесці вось гэтую дыяграму:

Культурны рост сялян вёсак Вялікая і Малая Кракоткі і Рудаўка (не ўлічаны даныя за 1959 год)

| Атрымалі адукацыю | За 20 год белапольскай акупацыі | За гады Савецкай улады |
|---|---|---|
| На кожных 100 чалавек жыхароў вучылася ў сярэдняй школе | 1 | 27 |
| з іх атрымала сярэднюю адукацыю . . . . . | 0,5 | 12 |
| Атрымалі сярэднюю адукацыю — усяго . . . . . . . . . . . | 11 | 258 |
| Атрымалі няпоўную сярэднюю адукацыю — усяго . . . . . | 19 | 134 |
| Атрымалі адукацыю настаўнікаў | 3 | 35 |
| Атрымалі адукацыю ўрачоў . . | — | 3 |
| Атрымалі адукацыю фельчароў | 1 | 10 |
| Атрымалі адукацыю інжынераў і тэхнікаў . . . . . . . . | — | 9 |
| Атрымалі адукацыю заатэхнікаў | — | 4 |
| Атрымалі адукацыю культасветработнікаў . . . . . . . . | — | 4 |
| Сталі спецыялістамі гандлю . . | — | 10 |
| Навучыліся на трактарыстаў, шафёраў, камбайнераў . . . | — | 18 |
| Навучыліся на электраманцёраў | — | 3 |

Вось яна — паэма новага жыцця, выражаная лічбамі!

Маладая змена расце адукаванай, з шырокім кругаглядам.

Ды ці патрэбны былі старой, аднаасобнай, малазямельнай вёсцы аграном, заатэхнік ці тым больш інжынер? Кожны селянін быў сам сабе аграном, сам сабе заатэхнік, а вышэйшым знаўцам сялянскай «тэхнікі» — плуга ці сячкарні — быў каваль.

Новыя часы — новае жыццё, а новае жыццё — новыя магчымасці, новыя запатрабаванні.

Ярка загарэліся лямпачкі Ільіча, загаманіла радыё — і на вёсцы выраслі спецыялісты па гэтай справе. Дзяржава прыслала трактары, камбайны, аўтамашыны — сяляне даскнала авалодалі імі.

Тыя паўчалавека на кожныя 100 жыхароў, што атрымалі сярэднюю асвету пры панскім ладзе, — з'ўляліся дзецьмі асаднікаў і кулакоў. Селяніну недаступна была асвета. Лепшым вучнем свайго класа ў Слонімскай «прэпарандзе» — настаўніцкай семінарыі — быў Валянцін Таўлай, але ж выключылі яго за... «нядатнасць» да вучобы, а на самай справе—за тое, што хацеў чалавекам быць, званца беларусам, сынам свайго народа. Вось адкуль пайшла такая лічба: 0,5 чалавека.

## 6

Гарачым жнівеньскім днём прыемна апынуцца ў лесе. Ды ці толькі ў спякоту? У любую пару года, у любую пару дня, угледзеўшы ў далёкай далечыні ці зблізку знаёмую зубчатую сцяну, чалавек імкнецца туды, як на сустрэчу са старым сябрам.

Здалёк лес уяўляецца нерухомым, змрочным, загадкавым, а ўвайдзі ў яго — і трапіш, як у вір: тут кіпіць сваё жыццё, поўнае непаўторнай красы.

У лесе няма бачных чалавечаму воку перагародак, гэта адзіны вялікі жывы арганізм, і тым не менш перагародкі існуюць. Хіба трэба даказваць, што ўсё жывое на зямлі можа жыць і развівацца толькі ў адпаведных умовах?

Лес падзелены перагародкамі на кварталы, як кожны дом — на паверхі, а паверхі — на кватэры.

Пройдземся па іх, паглядзім, хто дзе і як жыве.

Верхні паверх лісцянога лесу. Высока ўзнімаюць свае вершаліны, шчыльна змыкаючыся кронамі, дуб, бяроза, ліпа, ясень, клён, асіна, вольха. Цягнуцца да сонца, стараюцца перагнаць адно аднаго.

Паверх ніжэй — густыя зараснікі арэшніку. Ён таксама са змрочнага гушчару імкнецца да святла, кусты выцягнуліся ў тонкія гнуткія галіны, але сіл спаборнічаць з тоўстастволымі ў іх не хапае, і разам з рабінай, вязам, крушынай яны задавальняюцца становішчам падлеску.

Яшчэ ніжэй — кусты: не нагінаючыся, можаш браць маліны, парэчкі.

На самым доле, на першым паверсе, — трава.

Там, угары, усё заліта сонцам, кожны лісточак купаецца ў залацістых праменнях, а да падлеску прабіваюцца толькі рэдкія промні.

Там, угары, разбушуюцца вятры, па пругкіх вершалінах гігантаў будуць хадзіць паветраныя хвалі, а падлесак на дапамогу старэйшым ісці не спяшаецца і на барацьбу стыхій адгукнецца толькі лёгкім шолахам лісця.

І ніякія вятры і буры не парушаюць поўны спакой, што пануе пры самай зямлі. Зірнеш — нагі няма дзе паставіць. Гледзячы на лес, выцягнуліся ў мятровую вышыню трава. А яшчэ тут — падрастаючае патомства тых, хто жыве на верхніх паверхах, — маладыя дубкі, асінкі, ліпкі, клёнікі. Насенне з тых гігантаў знайшло месцейка ў гэткай гусцечы, набралася сіл у маці-зямлі, пусціла карэньчыкі.

Цяжка выжыць, цяжка вырвацца з цёмнай гусцечы на сонца, цяжка прабіць полаг траў, кустарнікаў. Але яны растуць, прабіваюцца...

На ўсіх паверхах лесу кіпіць жыццё. Над зялёным раздоллем у блакітнай вышыні ўбачыш даўгакрылых птушак, у падлеску гаспадараць насельнікі драбнейшыя. Звініць, стракоча, пяе, заліваецца рознае дробнае птаства, пырхае з галінкі на галінку, разгушкваецца, весела валтузіцца ў зеляніне ліствы. А ў вільготным паўзмроку па зямлі без стомы снуюць усякія жучкі, мурашкі, павучкі, не адпачываючы і хвіліны ад сваіх клопатаў.

Лес — гасцінны і шчодры. Ён адкрые перад табой лепшыя грыбныя сцежкі, раскіне абрус-самабор — чырвоны ад суніц, сізавата-чорны ад чарніц, пакладзе пад ногі на ўсю паляну цудоўны дыван, выткаўшы яго з усіх вядомых прыродзе кветак. Каштуй, карыстайся і памятай, што аб табе навокал знаюць усе і знаюць усё. Палахлівая сойка ўскрыкнула першай. Сігнал пачуты. Сарвалася з месца і заверашчала на ўсю моц сарока. Не таму, што напалохалася да смерці. Не, характар у гэтай балаболкі заўсёды аднолькавы: яна любіць разнесці навіну... Вось ляціць яна над лесам, кідаецца з боку ў бок і чуюць птушкі на сваёй птушынай



**Калгасная электрастанцыя на Зяльвянцы.**

мове: там страшэнная небяспека, хавайцеся, уцякайце і дзякуйце, што я, сарока, заўважыла, я ж заўсёды на пасту...

Лес прыціх. Усё замёрла, прытаілася, усё назірае і бачыць цябе як на далоні, заглядае ў вочы і чытае думкі твае, здагадваецца аб намерах. Назіраеш і ты, а нічога не бачыш. Вавёрка махнула рыжанькім хвосцікам, а ён здасца табе звычайным сасновым сучком. Будзеш глядзець на другое дрэва і не заўважыш там вельмі прыгожай птушкі—сокала-пустэльгі. Ён нібы зросся з дрэвам. Не чутно і не відно птушынай драбнаты. Хіба што ненарокам крыкне маленькая берасцянка ды раздзярэ анучу драч, нібы кажучы ў бясстрашшы і здзіўленні: «Чаг-о-о? Ба-я-яц-ца-а?»

Птушкі жывуць па сваіх законах. У тых законах усё распісана: і калі трэба спяваць, і колькі часу, і як спяваць.

Звычайна мала хто чуе сапраўдны птушыны канцэрт. Для гэтага трэба падняцца на досвітку, паспець задоўга да ўсходу сонца заняць выгадную пазіцыю. Добра, калі гэтая пазіцыя будзе непадалёку ад рэчкі ці возера; лес павінен пачынацца метраў за сто ад берага.

Зводны хор лясных спевакоў у самым поўным зборы можна пачуць, як даўно заўважылі фенолагі, толькі ў адным месцы Гродзеншчыны —на рацэ Шчары пры ўпадзенні яе ў Нёман. Там ёсць некалькі астравоў і сярод іх — востраў Заруддзе непадалёку ад вёскі Навасёлкі.

Птушак там — безліч. Пішчаць пеначкі, валасянкі, сініцы. Мілагучна

трашчаць чарацянкі. Але гэтая птушыная драбяза ствярае толькі гукавы фон для асноўных салістаў.

Заліваецца трэллю зяблік. Гэта важны співак. Спеў яго падобны на спеў шчыгла, чыжа, але званчэйшы. Зябліка далёка чутно.

Галоўная скрыпка ў аркестры — салавей. На Заруддзі іх процьма. Перад канцом вясны яны шчоўкаюць, шчоўкаюць, а потым як разыйдуцца, як пачнуць адзін перад другім старацца — заслухаешся.

І такая разыграецца ў птушыным царстве весялосць, што ні адна птушка не змоўчыць. Вось схапіла сваю флейту івалга і звонка зацягнула: фі-у, фі-у, а круцігалоўка крычыць гучна, рэзка і без канца: пі, пі, пі... Не ўседзеў маўклівы, тугі на песні дзяцел, закрычаў рэзка: пі-у, пі-у, і што ні дзяцел, то крычыць па-свойму.

Калі вам вельмі пашанцуе, то пачуеце, як ухне дзесьці ў глухамані пугач. Які ж лес абыйдзецца без яго? Лес без пугача, кажуць, як дзяцінства без казак.

Але казак становіцца ўсё менш, і можа стацца, што нашы дзеці іх не пачуюць зусім. Пугачы амаль усе перабіты. Шкоднік ён — праўда, шкоднік, але ж знішчыць гэтую птушку ўшчэнт — гэта таксама шкодна.

Аднак што гэта? Спевакі завялі кожны сваё. Няма дырыжора... А вось і ён, лёгкі на ўспамін, — шпак... Ён падаў свой голас з суседняй бярозы. Жывучы ля людзей, шпак набраўся цывілізацыі, гэта відаць па яго песнях. Па наваколлю нясецца: «Філімон, чай піць!» «Філімон, чай піць!» Птушкі ў здзіўленні прымоўклі, не дацягнуўшы трэлі да канца: які чай, калі няма антракту?.. А дырыжор стаіць на сваім: «Спірыдон, п'ём чай!», «Спірыдон, п'ём чай!». Гэта значыць — антракт.

Узышло сонца, заззяла ў яго праменнях раса. На бліжняй алешыне з'явілася з тонкім піскам зусім маленькая сінічка, чыркнула дзюбкай аб дрэва раз, другі, нібы кланяючыся: канцэрт, маўляў, закончан. І сапраўды, птушыны гоман паволі заціхае. І што вышэй узнімаецца сонца, то ўсё радзей падаюць свой голас птушкі. Апоўдні яны змаўкаюць зусім. А пад вечар зноў пачынаюць свае песні, толькі не так дружна.

Ліпічанскія лясы служылі надзейнай хатай дзесяткам тысяч савецкіх людзей, калі нахлынула сюды нямецка-фашысцкая навала. Людзі з хатнім скарбам перабіраліся пад ахову адвечнага бору. Выраслі цэлыя вёскі з зямлянак. Тут і цяпер хадзі і добра глядзі пад ногі, каб не праваліцца ў замаскаваную зямлянку.

Нядаўна я праглядаў новы «Атлас БССР». У ім ёсць спецыяльная карта партызанскага руху на Беларусі. На карце месца дыслакацыі партызанскага атрада абазначана кропкай, партызанскай брыгады — пяціканцовай зоркай. У межах гэтай пушчы я налічыў 4 кропкі і 5 зорак.

Далёка прасціралася зона дзеяння тутэйшых партызан: Гродна, Баранавічы, Маладзечна, Ліда і яшчэ далей.

А ў глыбіні пушчы на вялікай паляне знаходзіўся партызанскі аэрадром. Тут садзіліся самалёты з Вялікай зямлі, савецкі народ забяспечваў патрыётаў усім неабходным: зброяй, боепрыпасамі, медыкаментамі і г. д.; самалётамі вывозілі раненых.

Не раз вораг рабіў спробы расправіцца з партызанскім краем, не раз завязваліся жорсткія баі за пераправы на Шчары і Нёмане, але яго сілы адступалі перад мужнасцю і стойкасцю народных мсціўцаў.

Вёска Зачэпічы — калі можна так сказаць — лясная сталіца. Тут размешчана кантора лясніцтва і сюды сходзіцца ўсё, што датычыць вялікага лесу.

Сталіца лесу ў час вайны была партызанскай сталіцай. Тут знаходзілася база партызан. Многія з іх пралілі сваю кроў і аддалі жыццё за вызваленне роднай зямлі ад ярма фашысцкіх захопнікаў. Над іх брацкай магілай пастаўлены помнік. Адліты дзве фігуры: воіна і жанчыны-партызанкі. Яны стаяць у жалобе над прахам тых, хто не дажыў да радасных дзён перамогі.

А Ліпічанская пушча — мясціна гістарычная. Некалі ў яе нетрах каля вогнішчаў збіраліся тыя, каму невыноснымі былі няволя і прыгнёт. Лес надаваў людзям сілу ў змаганні.

Тут збіраліся паўстанцы-сяляне ў атрады Кастуся Каліноўскага — «чырвонага» камісара Гродзенскай губерні і выдаўца падпольнай газеты «Мужыцкая праўда». Адсюль ён вёў у бой сваіх землякоў-хлебаробаў. Пасля гібелі К. Каліноўскага не выпаў з рук народа сцяг барацьбы. Зямляк Каліноўскага і сябар па барацьбе, другі ўдзельнік народнага паўстання — Валерый Врублеўскі падхапіў сцяг свабоды і высока ўзняў, панёс яго далей. Уцёкшы ад шыбеніцы за мяжу, ён стаў спачатку ліхтаршчыкам на вуліцах Парыжа, а потым — праслаўленым генералам Парыжскай Камуны, камандаваў адной з трох яе армій. У 1872 годзе быў уведзен у Генеральны савет Першага Інтэрнацыянала, дзе супрацоўнічаў з К. Марксам і Ф. Энгельсам. Памяць В. Врублеўскага, як указваў У. І. Ленін, «непарыўна звязана з найвялікшым рухам пралетарыята ў XIX стагоддзі».

Калі перагарнуць яшчэ адну старонку гісторыі, мы даведаемся, што прыкладна 250 год таму назад, у часы Паўночнай вайны, у тутэйшых месцах дзейнічалі партызанскія атрады. Яны нападалі на армію шведскага караля Карла XII.

У канторы лесгаса сказалі, што ляснічага няма і не будзе ўвесь дзень: ён паехаў на дзялянкі. Вельмі мне хацелася пагутарыць з ім. Ён жа — бліжэй за ўсіх да лесу, да яго жыцця.

Можаш праблукаць па глухіх лясных дарогах дзень, і толькі зрэдку ўдасца напаткаць чалавека. А яшчэ цяжэй спаткацца з лесаводам. Добра хіба тое, што яго заўсёды пазнаеш. Па ведамствуляснай гаспадаркі ёсць форма адзення, але ў гэтую гарачыню леснікі, аб'ездчыкі, лесатэхнікі і інжынеры звычайна не апранаюць мундзіры, але шапку з «капустай» носяць абавязкова.

І вось з ляснічым мы сустрэліся. Адбылося гэта зусім нечакана, у той час, калі я ўжо страціў надзею на гэтую сустрэчу. Навёў на след матацыкл. Ён стаяў на ляснои сцежцы, у цяньку. Я азірнуўся вакол — у прасветліне паміж дрэў заўважыў дзве чалавечыя постаці. Адзін з двух быў ляснічы — лесаінжынер Дзмітры Уладзіміравіч Стральцоў.

— Прыкідваем з лесніком, як і што рабіць, — сказаў ён, калі мы пазнаёміліся. — Дзялянка гэта прызначана на вырубку.

Пры гэтых словах я міжволі яшчэ раз азірнуўся навокал. Сасна да сасны. Высокія, стромкія, як на падбор усе — у паўтара-два абхваты, без адзінага сучка. Магутны адвечны бор! Мачтавы лес! Адным словам, тое, што лесаводы называюць спелым лесам. Дрэвы тоўстыя, іх многа, а лес праглядваецца далёка, бор пранізан сонцам і ўвесь залаціцца.

У першы момант можа здацца, быццам навокал хаос, быццам кожнае дрэва стаіць само па сабе, як уздумаецца, і няма яму справы да суседніх. Але ўгледзься ўважлівей — і заўважыш той строгі парадак, які ўстаноўлен самой прыродай, і нікому не падуладна яго парушыць. Тут няма прыгнечаных, кволых, ніхто нікому не перашкаджае, тут растуць адны волаты, кроны іх зліліся ў адзін негусты полаг; здаецца, і ўгары пануе такі ж парадак, увесь лес нібы падстрыжаны пад грабянец і ні адна сасна не ўзвышаецца над другімі.

Стаяць тысячы красунь-сосен, прызначаных на валку.

— На валку? — з жалем перапытваю. — Ну, а потым, калі ссякуць?.. Што тады?

— Пасадзім новы лес.

— Уласна кажучы, не адразу на валку, — пасля паўзы працягваў ляснічы. — Спачатку арганізуем падсочку.

Што гэта такое? Давайце ўспомнім усім вядомы прыклад. Адзін вучоны сказаў: выкарыстоўваць на паліва сырую нафту — усё роўна, што паліць печ асігнацыямі. У нафце ёсць многа ўсялякіх рэчываў — вельмі дарагіх і неабходных для чалавека. Калі іх не здабыць, яны згараць разам з нафтай без усялякай карысці.

Тое ж самае і сасновае дрэва. У ім — многа каштоўных хімічных рэчываў. Калі іх здабыць, карысныя якасці дрэва не пагоршацца. Вось перад намі сасна. Дзелавая драўніна і дровы, што атрымаюцца з яе, будуць, скажам, каштаваць дзвесце рублёў. Але ж дрэва, апроч таго, мае ў сабе на такую ж суму каштоўных хімічных рэчываў. Спілаваць дрэва, не атрымаўшы жывіцу, — значыць, выкінуць грошы на вецер.

Здабываюцца хімічныя прадукты шляхам падсочкі дрэў і сухой перагонкі сасновых пнёў, ці асмолу. Яны шырока выкарыстоўваюцца ў многіх



**У Зачэпічах збудаван помнік воінам Савецкай Арміі і партызанам, што загінулі ў Вялікай Айчыннай вайне.**

галінах прамысловасці, у тым ліку электратэхнічнай, гумавай, папяровай, мылаварнай, а таксама ў каляровай металургіі.

У царскай Расіі жывіца не здабывалася. Каніфоль, напрыклад, якая з'яўляецца важнейшым прадуктам перапрацоўкі жывіцы, прывозілася з Францыі. Толькі пры Савецкай уладзе звярнулі ўвагу на тое, каб пагаспадарску выкарыстоўваць багацці лесу. Падлічана, што хімічныя прадукты, здабытыя з сасны шляхам збору жывіцы і сухой перагонкі пнёў, каштуюць столькі ж, колькі сама драўніна. Дзве лічбы прывёў ляснічы:

— У 1926 годзе, калі ўпершыню ў рускіх лясах пачаўся збор жывіцы, за лета здабылі яе толькі 413 кілаграмаў. А ў мінулым годзе лесахімікі адной толькі Гродзенскай вобласці далі краіне гэтай сыравіны больш як 700 тон.

Сонца ўжо амаль у зеніце, а мы ўсё ходзім па лесе. З маленства я знаю беларускія лясы і параўноўваю. Чыста стала ў лесе. Не відаць, каб валяліся сухія галіны, не заўважыш сухастоін, ветравал падабраны. Догляд відаць ва ўсім.

І масівы спелага лесу перамяжаюцца з дзялянкамі, на якіх маладыя пасадкі сасны, елкі падняліся па вышыні да падлеску, і так густа там, што і кроку не ступіш. У іншых месцах закладзены дубровы. Мы бачым, уласна, пакуль што не дубровы, а зараснікі бярэзніку, асінніку, розных кустарнікаў, а ў іх — прасечаныя доўгія вузкія калідоры; ля зямлі распазнаюце маленькія, па калена, дубкі.

— Такі характар у дуба, — расказвае ляснічы. — Да пяці год ён любіць расці ў футры і з пакрытай галавой, гэта значыць пад полагам іншых дрэў. З пяці год ён, па-ранейшаму хутаючыся ў футру, павінен бачыць сонца, а для гэтага сякерай трэба расчысціць дробналессе, і дуб двайной, трайной нормай гадавога прыросту імкліва пацягнецца ўгару, выцягнецца ў жэрдачку, пастараецца перагнаць недаўгавечных суседзяў.

— А што такое трайная норма прыросту?

— Кожнае дрэва мае сваю норму гадавога прыросту. А дуб, як і некаторыя іншыя пароды, мае тую асаблівасць, што ў надта спрыяльных умовах можа за лета падрастаць удвая, утрая вышэй нормы. Мы ўлічваем гэта ў сваёй рабоце і стараемся стварыць кожнаму маладому дубку самыя спрыяльныя ўмовы.

Трэба многа пакласці працы і клопатаў, каб вырасціць адзін дуб. А што гаварыць аб цэлай дуброве? А калі гэта — не адна дуброва, а многа, сотні і сотні гектараў маладых лясоў?

Якімі ж словамі выказаць павагу і ўдзячнасць тым, хто выпеставаў не адно і не дзесяць, не сотню, а многія тысячы дрэў, цэлыя бары і дубровы, і гэтым упрыгожыў зямлю і памножыў народнае багацце.

Не простая гэта справа — вырасціць дрэва.

— А не ўсе берагуць прыроду, — задуменна сказаў ляснічы, — не ўсе цэняць прыгажосць. Больш за ўсіх, бадай, адчуваем гэта мы, лесаводы. Мы жывём у канфлікце, так сказаць, з усім светам: не ўсе ж ідуць у лес з добрымі намерамі. Лес багаты, шчодры: хочаш адпачыць, паласавацца ягадамі, арэхамі, пашукаць грыбоў — калі ласка, толькі карыстайся ўсім гэтым па-гаспадарску. А сюды ідуць і з чорнай задумай. Іншы без вялікай патрэбы зломіць ляшчыну, спілуе сасну, ссячэ малады дубок. Зойдзе ў лес жывёліна — і тая нанясе шкоду: аб'есць вяршынку маладога дубка, прытопча сасонку-аднагодку.

А ёсць яшчэ такія, што наносяць лесу шкоду ад вялікай любві да яго. Паглядзіце, як едуць на экскурсію, на рынак, на нарады: барты аўтамашын «упрыгожаны» вершалінкамі маладых бяроз. Колькі вершалінак — столькі загубленых дрэў. І зноў жа: у святочныя дні ля клубаў, магазінаў, сельсаветаў і іншых устаноў тыя ж зялёныя «ўпрыгожанні» — ссечаныя дрэўцы, толькі не бярозы, а сасёнкі ці елачкі.

Калі ў тых установах працуюць сапраўдныя сябры прыроды, чаму ж не пасадзіць дрэвы? Усе дні, а не толькі па святах, яны радавалі б вока. Дык не, ламаюць гатовае. Уяўляеце, што атрымаецца, калі мы, лесаводы, дадзім паслабку? Лясы пачнуць хутка таяць. А як адаб'ецца гэта на жыцці нашага народа? Катастрафічным зніжэннем урадлівасці глебы, не гаворачы ўжо аб тым, што зямля стане лысай, як бубен, і непрыгожай. Нашы пясчаныя глебы любяць частыя дажджы. Няма лесу — мала дажджоў, не хапае вільгаці. Так можна дайсці і да сыпучых пяскоў.

А што скажуць тады нашы суседзі — украінцы, рускія? Мы ж і іх падвядзём. Калі ў нас тут добрыя лясы, хто адважыцца сказаць, што гэта не ўплывае становуча на клімат, скажам, Данбаса?

Абавязкі лесаводаў вялікія. А правы? Непараўнальна малыя. Вось, скажам, ля ссечанай мачтавай сасны злоўлены самавольны парубшчык. Той сасне цаны няма, а парубшчык



і не зважае. Яго не страшыць тое, што ён заплаціць штраф, які адпавядае кошту сасны па прэйскуранту.

— А не захоча плаціць, — прадаўжае Стральцоў,—цяжка прымусіць. Ляснічаму ў судзе гавораць: давай сведку. Нават калі трое нас, лесаводаў, падпішуць акт на самавольную парубку, становішча не зменіцца: вы, кажуць, зацікаўлены бок, і давайце незацікаўленага сведку. А дзе яго ў лесе ўзяць?..

## 7

Раніцай дарогу распытваць не даводзіцца — ужо набыт вопыт неабходнымі звесткамі запасацца з вечара. І вось з самым незалежным выглядам крочу гэтак рана праз ручаіны: уночы прайшоў дождж.

Што гэта там за дым над лесам?.. Прыглядзеўся. Не, не дым. Пара? Адкуль ёй узяцца? Нешта незвычайнае: уверх узнімаецца гэткі грыб метраў 15—20 у дыяметры, а потым ападае, ахутваючы лес і поле. Калі прыгледзішся — і ў другіх месцах убачыш такія грыбы...

Гадзіны праз паўтары я быў у вёсцы Кайшоўка, а калі падышоў да хаты, дзе размаўлялі мужчыны, аказалася, што тут — праўленне калгаса «Рассвет».

Які ж ты, «Рассвет»? — было першай думкай. — Ці такі, як той, усім вядомы, што ў Кіраўскім раёне?

У пакойчыку, адведзеным пад кабінет старшыні калгаса П. М. Шчарбакова, людзей было нямнога. Заходзяць па адным, па два, па тры, вырашаць справы і выходзяць. Я сядзеў у куточку канапы і назіраў за ўсім тым, што называецца працоўнай раніцай старшыні. Кладаўшчык паклаў на стол квітанцыі на прададзенае дзяржаве зерне, і старшыня стаў падбіваць на лічыльніках, затым сказаў: «Яшчэ трэба адвезці 4 тоны 170 кілаграмаў». Прачытаў нейкую заяву і напісаў у ражку: «Адрамантаваць». Потым сказаў мне:

— Салдатка піша. Удава, муж загінуў на фронце. Просіць адрамантаваць дах. Хто ж пра яе паклапоціцца? На агульным сходзе рашылі дапамагчы. Калгас пабудаваў для сем'яў загінуўшых воінаў 17 хат, з іх 8 — зусім бясплатна, 7—за палавінны кошт і ў растэрміноўку.

Двое механізатараў далажылі, што трактар з рамонту прыгналі, абышоўся гэты рамонцік, як яны сказалі, у 22 тысячы рублёў. Старшыня заварушыўся на крэсле.

— Ну, ці не разбойнік гэты дырэктар РТС? Новы трактар каштуе 26 тысяч рублёў з абсталяваннем для гідрапад'ёму, а рамонт—22 тысячы...

З суседняга калгаса прыехалі прасіць зварыць дэталь. Старшыня даў ім запіску, а мне растлумачыў: абсталявалі электрычную і газавую зварку, і станкі металаапрацоўчыя ёсць. Тэхнікі многа, механічная майстэрня неабходна.

Раздаўся тэлефонны званок. І на ўсю калгасную кантору чуцен быў голас старшыні:

— Баранавічы?! Гэта харчкамбінат? Таварыш Картошкін — прывітанне! Слухай, забяры тоны паўтары гуркоў. Ужо выбраны. Прыязджай на двух машынах. Мы выберам яшчэ тоны паўтары...

Прыйшлі электраманцёры і сталі раіцца, як на ток падвесці высакавольтную электрычную лінію. Можна б і нізкавольтную, ды страты электраэнергіі вялікія будуць. І гутарка пайшла аб 10 слупах для лініі, аб жалезе, ізалятарах, цэменце і аб тым, каб па лініі пусціць ток не пазней, як паслязаўтра перад абедам.

З паўгадзіны раіліся з прадстаўніком Міжкалгасбуда. Гэтая міжкалгасная арганізацыя ўзводзіць будынак калгаснай канторы.

— Будуемся, — кажа старшыня. — Моцна размахнуліся, шырока. У мінулым годзе 600 тысяч рублёў затрацілі на электрыфікацыю калгаса, 500 тысяч — на жывёлагадоўчыя пабудовы, 700 тысяч адпусцілі на будаўніцтва школы, закончым яе хутка. А яшчэ пабудуем клуб, лазню. Прыбыткі дазваляюць. Сёлета, у горшым выпадку, атрымаем 4 мільёны, на працадзень прыпадзе па два кілаграмы зерня, не менш пяці рублёў грашыма, ну і іншае там: гародніна, кармы для жывёлы.

Калі старшыня закончыў гутарку з прадстаўніком дарожнай арганізацыі, падпісаў больш дзесятка папер, прынесеных бухгалтарам, некуды пазваніў, што пад вечар прыедзе, я здагадаўся — наступіла «акно», і спытаў аб тым, што непакоіла мяне ўсю сённяшнюю раніцу:

—Што гэта за дым такі ў вас над лесам?

Ён пабарабаніў пальцамі аб настольнае шкло і ўздыхнуў:

— Стыхійнае наша бедства. Гэта туманы. Яны з'ядаюць ураджай збожжавых: падымаюцца з лясоў цёплымі парнымі начамі і засцілаюць палі ў пару васковай спеласці зерня. На сцяблінах утвараецца іржа, зерне так і не раскрываецца, атрымліваецца сляпы колас.

Гэтым летам мы апярэдзілі туманы, прымянілі раздзельную ўборку. Якраз перад самымі туманамі — за

дзень, за два — зжалі ўсё жыта. Зерне дайшло ў валках. А галоўнае, калгаснікам да спадобы прыйшоўся новы метад... Не ўсе верылі ў яго. Гэта, кажуць, для Кубані... Дзён пяць таму назад хадзіў я ў адной брыгадзе па полі, глядзеў валкі: зерне дайшло. Потым паказваюць калгаснікі клін жыта — гектары на тры. Не паспелі, кажуць, у час дажаць. І што ж — зерне засохла, не даспеўшы... Цяпер у нас — усе за раздзельную ўборку.

— Які ж сабран ураджай?

— Лепш урадзіла азіміна. Жыта—18,7 цэнтнера з гектара. Яравыя — у сярэднім атрымаецца цэнтнераў па 12. Пшанічка азімая добра сябе паказала — 15 цэнтнераў з гакам.

— А якая галіна гаспадаркі — галоўная?

— Арцельную гаспадарку развіваем усебакова: збожжавая гаспадарка, жывёлагадоўля, тэхнічныя культуры, рыбаразвядзенне, наогул імкнемся комплексна выкарыстаць усе магчымасці і рэзервы.

...Памятаюцца гарачыя спрэчкі калгаснікаў маладых сельгасарцелей у першыя гады калектывізацыі. Спачатку перамагалі тыя, хто арыентаваўся на аднабаковае развіццё калгасаў—на збожжавую гаспадарку. Але само жыццё, вопыт перадавікоў паказалі, што найбольш правільны шлях усебаковага, інтэнсіўнага развіцця з ухілам у бок тэхнічных культур і жывёлагадоўлі, падмацаванай трывалай кармавой базай: кукурузай, бульбай, сеянымі травамі.

Прыклад паказалі скідзельскія калгаснікі. Яны сталі добрымі буракаводамі, навучыліся вырошчваць па 300—400 і нават 500 цэнтнераў цукровых буракоў з гектара. За імі пайшлі калгаснікі другіх раёнаў.

Пасевы цукровых буракоў даўно ўжо выйшлі за межы палёў Гродзеншчыны, іх сеюць калгаснікі другіх абласцей Беларусі — Брэсцкай, Мінскай, Гомельскай...

Буракі пераапрацоўваюцца тут жа, у Скідзелі, на цукровым заводзе. Ён пабудаваны ў пасляваенныя гады.

Сямігадовым планам прадугледжана, што ў Беларускай ССР выпрацоўка цукру-пяску ўзрасце ў 5,5—6,1 раза. Тэмпы вялікія, але рэальныя. Уступіў у строй другі цукровы завод — у Гарадзеі, падбіраюцца пляцоўкі для збудавання яшчэ некалькіх.

Гаспадыняй на палі прыйшла кукуруза. У мінулым годзе сярэдні ўраджай па вобласці перавысіў 500 цэнтнераў з гектара. Людзі ўбачылі ў ёй невычэрпную крыніцу каштоўных і танных кармоў.

А лён! Неаглядныя блакітныя разлівы яго запаланілі перш за ўсё палі Навагрудчыны. Слава аб любчанскіх, карэліцкіх ільнаводах — выдатных майстрах беларускага шоўку — разышлася па ўсёй краіне.

Пры белапольскай акупацыі лён у сялян куплялі за бясцэнак французскія капіталісты. У газеце «Тыгоднік рольнічы» ад 1 лютага 1934 года віленскі генерал Жалігоўскі заклікаў не будаваць фабрык. «...у нас павінна панаваць ручная праца. Вось такая павінна быць палітыка ільну ва ўсходніх крэсах... Псіхалогіі вясковай жанчыны адпавядае праца на прасніцы, бо гэта ёсць паэзія старога жыцця, хатні культ і традыцыі пакаленняў».

Не выйшла так, як планавалі паны-генералы. Бо прыйшоў канец іх панаванню.

Я выйшаў з канторы, а праз колькі хвілін пасыпаліся буйныя кроплі дажджу. Воддаль ад дарогі стаяла адзінокая хата. Тут змяшчаўся выканком сельскага Савета. У хаце было двое. За сталом нешта пісала дзяўчына, на лаўцы сядзеў пажылых год мужчына, без шапкі. Яны маўчалі. «Мусіць, гэты дзядзька чакае старшыню», — прымільгнула думка. Каб не маўчаць, кажу: «А калгас... добра забудаваў сядзібу» і ківаю на акно.

— Разбудаваўся моцна, — з ахвотай сказаў мужчына. — А як жа? Моцны калгас. Дваццаць год споўнілася.

І вось што ён расказаў:

— На зямлі, якая належыць цяпер калгасу «Рассвет», раней сядзела шэсць паноў. Яны валодалі 800 гектарамі ворнай зямлі. Столькі ж прыходзілася на 450 сялянскіх гаспадарак — меней двух гектараў на сям'ю. Былі сем'і, што мелі толькі па паўгектара, ні ў кога не было больш пяці гектараў. Каб жыць, працавалі ў паноў, на лесанарыхтоўках.

Калі прыйшла савецкая ўлада, у лютым 1940 года арганізавалі калгас. А потым вайна ўсё паглынула. Аднавілі калгас у 1949 годзе.

— Тады Юльян Сямёнавіч быў старшынёй калгаса, — з тактам уставіла слова дзяўчына.

— Ну, так, з 1949 года я быў старшынёй калгаса шэсць год. Па 1955 год... — сказаў мой субяседнік, — а да вайны быў намеснікам старшыні...

— Прабачце, а цяпер?

— Старшыня нашага сельсавета, — сказала дзяўчына.

Я прасіў яго расказаць падрабязней пра жыццё вёскі, пра яе людзей, пра ўчарашняе і сённяшняе.

— Пачнем хіба з таго часу, як раздзяліў нас Рыжскі дагавор 1921 года, — пачаў ён. — На ўсходзе пайшлі па шляху сацыялізма, на нас жа зноў надзелі панскае ярмо.

Ведаеце, што тады было ў нас? Усё бурліла, гуло, як у патрывожаным вуллі. Усе патрабавалі: «Даёш Саветы!». Здавалася, толькі падай сігнал — і загарыцца паўстанне. І ў такіх абставінах нараджалася Камуністычная партыя Заходняй Беларусі.

Аднойчы восенню 1923 года нашы вясковыя хлопцы Антон Сяргееў і Іосіф Маладзецкі на вяселлі заспявалі:

> Встанет вся пролетария мира
> Против шаек попов и господ.

Пачуў гэта поп і падаў на іх у суд. Там усё было падрыхтавана так, каб нашых хлопцаў пасадзіць. Але адбылося тое, чаго ні суддзя, ні поп не чакалі. Выступіў псаломшчык і засведчыў, што «песні той крамольнай не спявалі». Гэты «ход канём» быў падрыхтаваны: псаломшчыка хлопцы купілі. Суд быў вымушаны апраўдаць іх. Можаце ўявіць, як усе радаваліся,

Калі хлопцы, што ішлі з суда радасныя, асталіся адны, іх дагнала дзяўчына. Ніхто не ведаў, хто яна і адкуль. Параўнялася і без лішніх роспытаў кажа:

— Я адчуваю, што вы, хлопцы, надзейныя. Вы перамаглі папа, за гэта малайцы. Неабходна змагацца супраць папоў і паноў, і мы пераможам. Але нельга так, як вы: стыхійна і ў адзіночку. Трэба арганізоўвацца. Я дам вам адрас людзей у Гарадзеі, дам сакрэтнае слова — пароль. Схадзіце туды, яны з вамі пагутараць. А на першы выпадак вось вам кніжачкі, прачытайце. Яны многа вам раскажуць...

Сталі мы па вечарах чытаць тыя кніжкі, зацікавілі яны нас. Правільна гаварылася там пра гаротную нашу долю, пра тое, што трэба змагацца з эксплуатацыяй і прыгнётам. І ў Гарадзею пайшлі. На канспіратыўнай явачнай кватэры далі яшчэ літаратуры. А праз каторы час у вёсцы арганізавалася ячэйка кампартыі Заходняй Беларусі, а потым такія ж ячэйкі ствараліся па наваколлі. У вёсках Асташына, Лукі, Палужжа, Валокі, Дольная Рута, у Карэлічах. Добра памятаю: у жніўні 1924 года сабраліся мы, усе камуністы навакольных вёсак, на агульны сход і арганізавалі наш партыйны падраён, сакратаром яго выбралі Антона Сяргеева. Таварышы з Гарадзеі дапамаглі нам звязацца з партыйным падполлем у Навагрудку.

Партыйныя ячэйкі раслі хутка. Але пранюхалі аб іх пілсудчыкі. Пайшлі арышты. У нас арыштавалі 24 чалавекі — большасць камуністаў, многа беспартыйных грамадоўскіх актывістаў. Па адным, па два нас вазілі ў турму, а сакратара падраённага камітэта Антона Сяргеева застрэлілі «пры спробе ўцячы». Вядомы паліцэйскі метад.

Тады ж у турме я пазнаёміўся з П. А. Жалезняковічам — цяперашнім сакратаром нашага Карэліцкага райкома партыі.

Мы і ў турмах не здаваліся. Добра памятаю такі выпадак. Турэмныя ўлады не хацелі нам даваць кніжак і паперы, не дазвалялі ні чытаць, ні пісаць. І дрэнна кармілі. Мы, палітычныя, аднадушна аб'явілі галадоўку. Мы сядзелі ў турме, а ведалі, што робіцца на волі. Сяляне соцень вёсак збіраліся пайсці на штурм турмаў і вызваліць усіх зняволеных. Гэта надавала нам сілы. І вось на перагаворах турэмная адміністрацыя сказала прадстаўнікам палітзняволеных: кніжкі, паперу і алоўкі даём, дазваляем чытаць і пісаць, а яшчэ будзе палепшана вам харчаванне.

— Каму гэта: вам? — не зразумелі камуністы.

— Вам, палітзняволеным.

— А ўсім астатнім?

У турмах сядзела многа сем'яў, сагнаных карнымі экспедыцыямі за ўхіленне ад падаткаў, за супрацўленне ўладам.

— Патрабуем, каб усім палепшылі харчаванне, — стаялі на сваім камуністы. — Інакш галадоўку будзем працягваць.

На пяты дзень галадоўкі і гэтае наша патрабаванне было выканана.

А потым — «працэс 24-х». У тыя часы мала судзілі па адным ды па два, а ўсё больш—вялікімі групамі. Строгасць была нечуваная. З турмы да суда нас вазілі групамі, з закаванымі ў кайданы рукамі.

Суд цягнуўся шэсць дзён. Мы не прызнавалі сябе вінаватымі, трымаліся моцна. Нас прыгаварылі ад трох да шасці год кожнага.

Пасля турмы — зноў барацьба.

Пры савецкай уладзе вёска аб'ядналася ў калгас. Далі яму імя Першага мая.

Калі прыйшлі фашысты, мы не скарыліся ім, а пайшлі ў партызаны. Свой атрад назвалі Першамайскім, па імені калгаса...

Дзейнічаў у нас антыфашысцкі камітэт. Мы забяспечвалі партызан зброяй, медыкаментамі, прадуктамі, перадавалі звесткі аб ворагу.

А пасля вайны — зноў арганізаваліся ў калгас. Цяжка было спачатку. Угару мы сталі хутка ісці толькі пасля вераснёўскага Пленума ЦК КПСС. Памятаю, у нас на пасяджэнні праўлення і на агульным сходзе гарача і доўга абмяркоўвалася, як лепш паставіць сваю арцельную гаспадарку.

Выпрацавалі цэлую праграму. І прыехаў да нас з Карэліч першы сакратар райкома партыі І. Ф. Мікуловіч. Разумны мужык, добра разбіраецца ў сельскай гаспадарцы. Дык вось, прыязджае гэта ён да нас, цікавіцца, як будзем ажыццяўляць рашэнні пленума. Мы яго пазнаёмілі са сваімі планамі. Адобрыў. А цяпер давайце, кажа, таварышы, памяркуем наконт ільну. Па праўдзе сказаць, на лён асаблівых надзей калгаснікі не ўскладвалі, і ў нашых планах яму адводзілася другараднае месца. І вось мы сядзім, падлічваем. І атрымоўваюцца лічбы, якім не хочацца верыць: выходзіць, што гектар ільну, калі яго добра дагледзець, дасць 20 тысяч рублёў даходу...

Ну, і ведаеце, што нам даў лён? У 1953 годзе калгас меў агульны грашовы прыбытак менш 400 тысяч рублёў, у 1954—2 мільёны. У пяць разоў больш! Канешне, не толькі ад ільну, але ж у асноўным — ад яго. І па іншых калгасах тое ж было. Так карэліцкія калгасы сталі заваёўваць славу ільнаводчых.

Памаўчалі. Я ўглядаўся ў свайго выпадковага субяседніка. Якой вялікай унутранай сілай валодае гэты невысокі, хударлявы чалавек, жыццё і барацьба якога можа быць прыкладам для многіх. І верыш: многа яшчэ карыснага зробіць ён для сваёй вёскі.

З сельсавета выйшлі разам. Вялікая група хлопцаў і дзяўчат ішла некуды з граблямі і віламі. Спявалі і смяяліся.

— Што ім, маладым, — загаварыў Юльян Сямёнавіч Сыч. — Спявай, смейся, радуйся жыццю...

— Хіба дрэнна? — пытаю.

— Чаму дрэнна? Добра. Мы толькі пад старасць адчулі сапраўднае жыццё. А нашым дзецям дарогі адкрыты ўсюды. Многа маем сваіх настаўнікаў, аграномаў, інжынераў, іншыя ў аспірантуры вучацца... Хто астаўся ў вёсцы — не таўчэцца, як нам даводзілася, на шнурочку зямлі, а — вакол калгасныя прасторы. Людзі тэхнікай узброены. Калгас багаты. Усё добра. Але ж...

— Што «але ж»?..

— Ці не занадта лёгка ўсё гэта ім даецца? Моладзь у спадчыну атрымоўвае ўсё гатовенькае, здабытае намі ў цяжкіх баях і працы. А якую жыццёвую загартоўку атрымоўваюць нашы юнакі і дзяўчаты? Ці не будзе ім здавацца ўсё простым і лёгкім?

Гутарым пра асваенне цаліны, пра вялізнае будаўніцтва, пра тое, што і ў Кайшоўцы моладзь добра ўзялася за выкананне сямігодкі.

— Трэба, каб добрую працоўную загартоўку атрымоўвала моладзь, ёй жа жыць пры камунізме. Мы перадаём ёй эстафету барацьбы за светлую будучыню.

* * *

Калі пачынае цямнець, на небе высыпаюць тысячы зор. Між іх, нерухомых, вачыма мімволі шукаеш тую адну, якая з неверагоднай хуткасцю аблятае Зямлю.

Хутка і пышна развіваецца тое, што пасеяна ленінскай рукой і ўзрошчваецца штодзённымі клопатамі Камуністычнай партыі. Працоўныя заваявалі права свабодна жыць і быць гаспадарамі свайго лёсу; народ вызваліў ад кратаў свае рукі і розум, атрымаў крылы для палёту.

Гісторыкі, водзячы алоўкам па карце, паказваюць граніцы Вялікай Русі, Малой Русі, Белай Русі, Чорнай Русі, Чырвонай Русі. А ўсё разам — адна Русь, адзіная, моцная, вялікая наша Радзіма.

Наша сэрца з маленства ўбірае ў сябе харàство роднай прыроды.

З усіх дубоў да скону дзён найпрыгажэйшы будзе той, што з лесу бліжэй за іншых падступіў да нашай хаты, з усіх лясоў — той лес, дзе ў далёкім маленстве мы ўпершыню напоўнілі конаўку ягадамі.

У першай кнізе, якую многа стагоддзяў таму назад падараваў беларускаму народу верны яго сын — першадрукар Георгі Скарына, ёсць такія высокапатрыятычныя словы:

«Понеже от прирождения звери ходящие в пустыни знают ямы своя, птицы летающие по воздуху ведають гнезда своя, рибы плавающие по морю и в реках чуюць вири своя, пчелы и тым подобна боронять ульев своих, тако ж и люди и где зродилися и ускормлены... к тому месту великую ласку мають».

Кожны з нас па-свойму перажывае сваё шчасце. А калі на сваім шляху напаткаеш няшчасце, калі да цябе падбярэцца вялікае гора, ты шукаеш моцнай апоры. Шукаеш вялікага, вернага друга і заўсёды знаходзіш яго, ён — гэта Радзіма.



## НАШЧАДКІ БАЯВОЙ СЛАВЫ

На другой старонцы вокладкі гэтага нумара «Маладосці» змешчаны фотаздымак, зроблены на ўрачыстасці, прысвечанай расфарміраванню 5-й Корсунскай цяжкай танкавай дывізіі. Лейтэнант Алег Звездзін развітваецца з баявым сцягам дывізіі. Цяпер гэты сцяг знаходзіцца ў Цэнтральным музеі Савецкай Арміі. Расфарміраванне 5-й танкавай — гэта адзін са шматлікіх рэальных крокаў па шляху скарачэння колькасці нашых узброеных сіл, якое праводзіцца Савецкім урадам.

Два ордэны Чырвонага Сцяга, два ордэны Суворава, ордэн Багдана Хмяльніцкага, Аляксандра Неўскага і Чырвонай Зоркі былі заслужанай узнагародай, якую атрымалі часці дывізіі за перамогі ў часе Вялікай Айчыннай вайны. Танкісты прымалі ўдзел у вызваленні больш чым 15 тысяч населеных пунктаў.

І вось, у адзін з сонечных летніх дзён праз Асіповічы апошнім урачыстым маршам прайшлі танкісты. Іх праводзілі з кветкамі святочна апранутыя жыхары Асіповіч і навакольных вёсак. Праводзілі цёплымі словамі:

— Вы сумленна служылі, жадаем вам вялікіх поспехаў і на фронце мірнага жыцця!

Многія дэмабілізаваныя воіны паехалі на новабудоўлі і ў цалінныя саўгасы Сібіры, Далёкага Ўсходу, многія — у родныя мясціны.

— Мы пакідаем рады Савецкай Арміі, якая выхавала нас на прыкладах баявой славы нашых бацькоў і старэйшых братоў, — сказаў на развітальным мітынгу малодшы сержант Уладзімір Кухаленка. — Мы едзем працаваць на будоўлі сямігодкі і абяцаем вам, не шкадуючы сіл, памнажаць магутнасць любімай Радзімы!

Незадоўга да адыходу цягніка да групы маладых салдат падышоў афіцэр Аркадзь Курдычка. У дывізіі ён быў памочнікам начальніка палітаддзела па камсамолу.

— Сфатаграфуемся на памяць, — прапанаваў ён салдатам-камсамольцам. — Запішам адрасы. А пройдзе некаторы час, напішам адзін другому, як хто стаў жыць. Згода?

Здымак на памяць быў зроблены.

На ім злева направа — беларусы Генадзі Маеўскі, Віктар Пашкевіч, афіцэр Аркадзь Курдычка і літовец Йозас Юшкевічус. Яны паабяцалі праз месяц-другі напісаць у рэдакцыю «Маладосці» пра тое, як склаўся іх лёс. А мы тады і раскажам пра гэта чытачам.

*„Маладосць" вядзе рэпартаж*



*„Маладосць“ вядзе рэпартаж*

## З МІНСКА І ЯГО ВАКОЛІЦ

Зычліва ўсміхнулася ясная раніца,
Збудзіўшы заспанае сонца ў сінечы.
Гукаюць сцяжыны — паходныя ранцы
Чапляюцца самі турыстам за плечы.
Такою парою, хвілінай такою
Не ўседзець, вядома, нікому ў пакоі.

↓



Пад дахам галін, што схіліліся нізка,
Гушкае маленькіх гарэзніц калыска.
Не зводзіць з іх позірку татка...

↓



А мама?
Гушкаецца, нібы ў калысцы, таксама.

↓





← Імкнуцца і іншыя к гэткім палётам,
Ды шлях да палёту... закручаны дротам.

Не пуста цяпер і ў тэатры зялёным:
Усе заварожаны танцам натхнёным.

↓



Расчынены насцеж блакітныя далі. →
Ледзь чутна вятрыска над водамі дыша,
Калышучы ціхія светлыя хвалі,
Вясляр нібы казку цудоўную піша.



Для дужых няма цікавей адпачынку,
Чым бегаць за пругкім мячом безупынку.
За дзень нагуляўшыся, лёгкую стому
Прыносіш, як лепшую радасць, дадому.





І сыну і матцы напэўна не радасна:
Сядзець засмучоныя будуць дакуль яны?
Разморany спёкаю... саракаградуснай,
Разлёгся іх бацька, як мех перакулены.

Паляну, што ўся красавала, як кветнік,
Жанчына зрабіла падобнай на сметнік.

І прыкра, і брыдка... І як жа не сорам?..
Хай гэтыя здымкі ім будуць дакорам.



Прыморскаю свежасцю дыхае вецер —
Змяце ён адгэтуль апошняе смецце.
Мы ў сонца набраліся гарту і сілы —
Нясіце дадому нас, дужыя крылы!

Фота А. Дзітлава.
Тэкст Міхася Дроціка.



*Размова аб майстэрстве*

Уладзімір ЮРЭВІЧ

# ПОШУКІ ВОБРАЗА — ПОШУКІ СЛОВА

Пошукі.

Гэта слова азначае дзейнасць, няспынную творчую працу. Іменна такой працай для пісьменніка і з'яўляюцца пошукі слова — таго важнейшага сродку, пры дапамозе якога чалавек фарміруе і замацоўвае абагуленае веданне прадмета ці з'явы, здабытае ў працэсе пазнання рэчаіснасці.

Густаў Флабер, ахоплены верай у тое, што існуе толькі адно слова для таго, каб назваць пэўную рэч, адзін прыметнік, каб яе вызначыць, адзін дзеяслоў, каб зрабіць яе жывой, рухомай, адважваўся на нечалавечую працу ў пошуках для кожнай фразы гэтай назвы, гэтага эпітэта, гэтага дзеяслова.

Пісьменнік мысліць вобразамі, але яны становяцца даступнымі для чытача толькі ўвасобленыя ў словы. Словы і іх спалучэнні, г. зн. мова наогул, і ёсць тая знешняя форма, у якой вобраз знаходзіць адзінае, непаўторнае матэрыялізаванае ўвасабленне. У кожнага чалавека працэс слоўнага афармлення сваіх думак — творчы працэс. Тым больш ён носіць характар творчасці ў пісьменніка, чалавека з павышанай адчувальнасцю слова як інструменту і матэрыялу творчасці. «Фантазіраваць без мовы нельга, — гаварыў А. М. Талстой. — Мова нараджае фантазію».

Лепшыя здабыткі мастацкай літаратуры даюць яскравую карціну таго, як у пошуках слова робіць узлёт творчая думка. Пісьменнік як бы яшчэ і яшчэ раз разглядае кожнае слова, яго паходжанне, яго будову, імкнецца зазірнуць у таямніцы майстэрства народа, які стварыў гэтае слова.

Новае пазнанне слова — гэта не проста тэхнічны прыём (хоць у руках штукара можа быць і ім), а натхнёная плённая творчасць, у працэсе якой для пісьменніка адкрываюцца невычэрпныя магчымасці глыбокага і поўнага раскрыцця сваіх думак. Знаёмячы маладых пісьменнікаў з сваёй творчай лабараторыяй, А. М. Талстой даў ім такі адказ на пытанне — якім чынам у рамане «Пётр I» людзі далёкай эпохі атрымаліся жывымі: «Дакументы давалі мне развіццё рамана, але густавае, зрокавае ўспрыняцце, якое ідзе ад глыбокіх дзіцячых уражанняў, тыя тонкія, ледзь улоўныя рэчы, пра якія цяжка расказаць, давалі прадметнасць таму, што я апісваў. Нацыянальнае мастацтва — іменна ў гэтым, у пахах роднай зямлі, у роднай мове, у якой словы як бы маюць двайны мастацкі сэнс — і сённяшні, і той, увабраны з дзіцячых гадоў, эмацыянальны, у словах, якія на густ, на погляд і на пах — родныя. Яны вось і нараджаюць сапраўднае мастацтва».

Прадметнасць—неабходная якасць вобраза. Мы чытаем, напрыклад, другі раздзел «Новай зямлі» Якуба Коласа і канкрэтна, адчувальна бачым тое «найбольшае свята», якім для дзяцей была «раніца ў нядзельку», калі ў вялікай сялянскай сям'і надаралася «наесціся багата».

Дзень быў святы. Яшчэ ад рання
Блінцы пякліся на сняданне,
І ўжо пры печы з чапялою
Стаяла маці... Пад рукою
Таўкліся дзеці, заміналі,
Або смяяліся, спявалі.
Услон заняў сваё ўжо места,
На ім стаяла дзежка цеста,
І апалонік то і дзела

Па дзежцы боўтаў жвава, смела
І кідаў цеста ў скавародкі.

Для пісьменніка не ўсё роўна, як назваць тую ці іншую рэч або з'яву. Народная прыказка «Назаві хоць гаршком, толькі ў печ не стаўляй» не можа быць на ўзбраенні чалавека, які малюе словам. Калі паэт называе час дзеяння выразам «дзень быў святы», дык нам адразу становіцца ясна, што ў гэты дзень ніхто нічога не збіраецца рабіць. Незвычайнасць такога дня падкрэсліваецца і тым, што «бліны пякліся на сняданне», а разам з тым раскрываецца і стан сям'і, дзе бліны бывалі толькі ў нядзелю. І тое, што маці стаяла пры печы іменна «з чапялою», а не проста грэлася, памагае нам уявіць нястомны клопат сямейнай жанчыны пра адно, каб усе былі накормлены, дагледжаны і ў «святы дзень». Выслоўе «і ўжо пры печы з чапялою» нясе не толькі чыста сэнсавую нагрузку, удакладняе занятак і стан чалавека, але і вельмі трапна характарызуе дбайнасць, клапатлівасць маці.

«Дзежка цеста» — гэта, таксама, не проста назва пасудзіны і таго, што ў ёй. Мог аўтар, напрыклад, не парушыўшы сэнсу, ужыць і слова «міска», але яно ў гэтым кантэксце не было б мастацкі дакладным, не несла б паэтычнай, вобразнай функцыі, не адцяняла б, калі хочаце, нацыянальнага духу вобраза. «Дзежка цеста» — азначае, па-першае, што яно прызначана для вялікай сям'і, а па-другое, указвае на тое, што сям'я гэтая жыве ў Беларусі, багатай лясамі, а значыць і драўляным посудам — тыповай рысай старой беларускай вёскі.

Такім чынам, слова, звычайнае слова з'яўляецца для пісьменніка сродкам фармавання мастацкага вобраза, матэрыялізацыі вобразнай думкі.

Афармленне вобраза не абмяжоўваецца толькі пошукамі слова, яно— больш тонкая справа, якая вымагае ад пісьменніка знайсці ў вобразе тую патрэбную і самую яркую грань, каб выставіць і павярнуць вобраз да чытача іменна гэтай гранню, выбраць такое месца для слова ў сказе, каб ён загучаў з патрэбнай інтанацыяй і выклікаў адпаведныя эмацыянальныя і сэнсавыя асацыяцыі.

Праведзеная нядаўна часопісам «Вопросы литературы» творчая дыскусія па праблеме «Слова і вобраз» не пайшла далёка наперад і не дала пэўнага адказу на пытанне аб сувязях і ўзаемадзеяннях слова і вобраза, аб удзеле ў гэтым узаемадзеянні думкі, як асновы творчасці.

Падводзячы вынікі дыскусіі, рэдакцыя часопіса слушна заўважыла, што «Канкрэтны аналіз вобраза як мастацкай думкі павінен стаць надзённай задачай нашага літаратуразнаўства і крытыкі ў непарыўнай сувязі з аналізам слова як змястоўнай формы вобраза».

Выбраўшы самае каштоўнае зерне з выказаных рознымі аўтарамі меркаванняў, можна прыйсці да аднаго вываду аб сувязі і ўзаемадзеянні думкі, слова і вобраза. Гэты вывад можна афарміць умоўнай трыядзінай формулай: думка — вобраз — слова (для пісьменніка) і слова — вобраз — думка (для чытача).

Сапраўды, невядомая рэч або з'ява набываюць для нас пэўны сэнс, калі мы даведваемся іх назву. Слова, якім выказана назва, нібы вылучае «нешта» з цэлага акіяну рэчаў і з'яў і замацоўвае ў свядомасці гэтае «нешта» словам. Але ж і вядомыя нам рэчы ці з'явы як бы першаадкрываюцца, калі яны становяцца ў творы пісьменніка мастацкімі вобразамі. Замацаваны словам мастацкі вобраз узнікае ў чытача канкрэтна адчувальным прадметам ці з'явай, толькі ўжо нанава адкрытымі.

В. Бялінскі падкрэсліваў шчыльную ўзаемасувязь паміж думкай і словам: «Слова, — пісаў ён, — ёсць покрыва, адзенне, форма, адлюстровак думкі, а думка ёсць сэнс, розум, значэнне слова». Аднак наіўна было б думаць, што ў мове столькі слоў, колькі паняццяў. Калі б было так, дык вельмі ўскладнілася б работа чалавечага мозгу, бо гэта азначала б трымаць у галаве столькі знакаў, сімвалаў, колькі існуе паняццяў. Збяднела б тады і вобразнасць мовы, бо адпала б неабходнасць у параўнаннях, пераасэнсаваннях і іншых выяўленчых сродках.

Словы беларускай мовы, як і іншых высакаразвітых і дасканалых моў, у большасці сваёй шматзначныя. Возьмем, напрыклад, звычайнае слова «пяро». Гэта можа быць і прылада, якой чалавек піша, і покрыва цела птушкі, і форма ліста ў расліны (цыбуля), і ўпрыгожанне на капелюшы, і плаўнік у рыбы, і частка прылады (пяро весла), і вызначэнне пачатку літаратурнай творчасці (проба пяра), і г. д.

Навука і тэхніка, як і іншыя галіны практычнай дзейнасці чалавека, звычайна карыстаюцца дакладнымі словамі, якія маюць адно, пэўнае значэнне і не выклікаюць пабочных асацыяцый. Такія словы становяцца тэрмінамі і заўзята ахоўваюцца ад розных уплываў, што могуць выклікаць расхістванне іх першага значэння.

Мастацкая літаратура, наадварот, дасягае выразнасці і вобразнасці праз выкарыстанне шматзначнасці слова, праз скарыстанне яго ў «прамым» і «пераносным» сэнсе. У мастацкім творы, паводле выразу К. Транёва, «і дакладнасць, і маляўнічасць, і глыбіня мовы, і ўсе яго якасці — усё толькі ад вобраза».

Але вобразнасць мовы — не ў колькасці спецыяльных вобразна-выяўленчых сродкаў (параўнанняў, эпітэтаў, метафар і г. д.). Гэтыя сродкі толькі пасабляюць пісьменніку тыпізаваць жыццёвыя з'явы, ствараць індывідуалізаваныя вобразы адпаведна з аўтарскай задумай. Як правіла, сапраўдны мастак слова карыстаецца звычайнымі словамі і яны ўжо ў творы пад яго ўмелай рукой набываюць спецыфічнасць вобразнай мовы.

Мы пачынаем чытаць апавяданне «Нёманаў дар» і адразу пераконваемся, што Якуб Колас самыя звычайныя словы, якія бытавалі ў сялянскім асяроддзі перад рэвалюцыяй і ў большасці сваёй засталіся ўжыванымі і цяпер, скарыстоўвае для таго, каб вельмі ярка і вобразна, з вялікай сілай узрушэння перадаць асноўную ідэю твора — абурэнне сялянства самавольствам царскіх чыноўнікаў.

Чалавек працы здабывае сабе шчасце, часам волатаўскімі намаганнямі перасільвае прыроду. І як жа ўзрадаваны гэты чалавек, калі сама прырода ідзе яму насустрач. Гэтую радасць і перадае Я. Колас праз характарыстыку Нёмана і таго дара, які ён прынёс земляробам адной вёскі.

«...у апошнія гады Нёман, як бы зжаліўшыся над сялянамі і іх страшэнным сціскам, звярнуў да сяла, зрабіўшы шырокую дугу, і адрэзаў ім раскошную луку. Праўда, тут быў сыпучы пясок, але цяпер пясок гэты стаў борзда пакрывацца скарынкаю, як маладое цеста ў печы, і зелянець смачнаю травою».

Каб падкрэсліць жыццёвую важнасць для сялян атрыманага з нёманавых рук дара, Колас ужывае простае параўнанне — ён суадносіць паміж сабою пясчаную луку, якая пачынала зелянець смачнай травою, з маладым цестам, што пакрываецца ў печы скарынкаю. Удаласць, пераканаўчасць, прадметнасць вобразнага параўнання бясспрэчныя: нёманаў дар — гэта новы кавалак хлеба для паўгалоднай вясковай беднаты. Так слоўнае вызначэнне дару становіцца вобразным, адчувальным.

Але вось на гэту добрую справу, якую зрабіў для сялян Нёман, паквапіўся ўрадавы пасланец — каморнік. Пісьменнік зноў у пошуках вобраза чалавека, якога сяляне сустракаюць нянавісцю. Адсюль і нараджаюцца параўнанні, каб ахарактарызаваць пана, якога «ніхто не чакаў сюды».

Спачатку знешне падкрэсліваецца яго прыналежнасць да багатага роду: «Гэта быў стары пан, якіх цяпер мала дзе сустрэнеш... Усякаму, хто пазіраў на пана, здавалася, што ён не ідзе, а нейк пасоўваецца, як бочка на калёсцах».

А потым ужо даецца абагуленае параўнанне, якое ўскрывае ўсю ўнутраную сутнасць каморніка. Пісьменнік замест уласнага імя або назвы пасады ўжывае выразы «ёмкі павук», «фацэтны пан». Так узнікае перыфраз, які трапна характарызуе асобу, бо падкрэслівае той яе бок, які найбольш важны пры дадзеных акалічнасцях, і нават выяўляе аўтарскія адносіны да яе. У слове «фацэтны» гучыць з'едлівая іронія па адрасу чалавека, які нават сваім выглядам гаворыць, што ён не такі, як усе звычайныя людзі. Іронія тут з'яўляецца сродкам эмацыянальнага раскрыцця адносін пісьменніка да таго, што ён паказвае.

Але ж ідэйная накіраванасць апавядання «Нёманаў дар» не толькі ў тым, каб панасміхацца з ненавіснага людзям чыноўніка, але і выявіць вялікую сілу абурэння сялянскіх мас несправядлівасцямі царскага ладу. Кіруючыся іменна гэтай ідэяй, аўтар і шукае сродкі, каб стварыць вобраз непакорных, грозных людзей мазаля. Варта было сялянам разгадаць намер скарбовага чалавека, як яны пачалі дзейнічаць. Праз трапна знойдзенае параўнанне Я. Колас стварае жывую карціну гэтых дзеянняў:

«Гурт людзей ішоў спакойна, як далёкая хмара, ды ў гэтым спакоі хаваліся бліскавіцы і громы затрыманага гневу. Сяляне спыніліся, акружыўшы каморніка тоўстай сцяной жывых цел».

Каб падкрэсліць разгневаны стан людзей, пісьменнік звяртаецца да разгорнутага параўнання: «Доўга гаманілі і гулі яны пад адкрытым небам, як устрывожаны вулей, размахвалі рукамі, як лес лапамі ў грозную буру». Асаблівасці таго, што адлюстроўвае пісьменнік, характарызуюцца тут разгорнутым параўнаннем шматбакова і эмацыянальна выразна. Але ж для гэтага пісьменніку трэба было добра ведаць і стан устрывожанага вулля, і паводзіны лесу ў час буры. І ён, сын зямлі і лесу, гэта добра ведаў. Усё жыццё Я. Коласа — гэта доўгі ланцуг назіранняў над сабой, над іншымі людзьмі, над рознымі з'явамі і падзеямі ў блізкім наваколлі, у краіне, у свеце. І ўсе гэтыя назіранні пакідалі глыбокі след у сэрцы мастака, каб у патрэбны момант быць рэалізаванымі ў творы.

Адчувальная жывасць карціны і

высокая ўзрушанасць яе дасягаюцца Коласам не пошукамі якіх-небудзь адмысловых слоў, а ўжываннем простага, яркага, праўдзівага параўнання.

Адзіная мэта, з якой павінны ўжывацца параўнанні, гэта, каб невядомае або нябачнае паказаць увачавідкі, каб, не кажучы шмат аб прадмеце ці з'яве, адлюстраваць іх яскрава, запамінальна. І як жа неапраўдана бывае прысутнасць у творах надуманых, выкручастых параўнанняў, нейкіх абстракцый, далёкіх ад жывога жыцця.

*Пошукі трапнага параўнання* лягчэйшыя для таго пісьменніка, які не сузірае жыццё з боку ці звысоку, а жыве ў самай яго гушчы. Калі ў вершы У. Караткевіча «Вячэрнія ветразі» сустракаеш параўнанне «яны абвісаюць, як спеў недапеты», дык адразу відаць, што ўзнікла яно разумовым шляхам, а не як вынік жывых назіранняў. Сузіральная пазіцыя прыводзіць ці да цьмяных абстракцый, ці да сцёртых штампаў, накшталт: «як сумёты, бялеюць сады» (П. Прыходзька), «а на зямлі людскі паток, як мора, не сціхае» (В. Матэвушаў).

Удалы выбар параўнання можна засведчыць *кожны раз*, калі пісьменнік кіруецца ў сваёй працы не мэтай знешняга аздаблення, а задачамі найбольш яркага выяўлення ідэй і думак.

Пошукі пісьменнікамі адзінага слова, самага дакладнага і выразнага, нарадзілі ў мастацкай літаратуры цэлую сістэму вобразных сродкаў, якія вядомы пад назвай тропаў. Узнікаюць тропы як вынік клопату пра шматзначнасць слова, а апошняя, як мы ўжо гаварылі, выяўляецца ў тым, што амаль кожнае слова, акрамя свайго прамога сэнсу, можа мець і пераносны.

Пашыран у народзе такі выраз — «сеў макам». Паводле слоўніка Ул. Даля ў рускай мове гэты выраз азначаў — засядзецца доўга ў дзеўках, г. зн. застацца дзяўчыне незамужняй і цвісці, як мак. Адбыўся, такім чынам, перанос адзнак расліны на чалавека, каб выразней ахарактарызаваць яго стан. У нас на Беларусі гэтаму выразу надалі больш шырокі сэнс — застацца ў ранейшым становішчы, спыніцца ў сваім развіцці. Такім чынам, абодва словы, якія складаюць гэты выраз, ужыты тут у пераносным сэнсе.

Перанясенне значэнняў слоў вядома ў мовазнаўстве як метанімізацыя (перайменаванне). Яно мае месца ў жывой мове народа, каб пашырыць яе пазнавальныя рамкі. Вельмі шырока звяртаюцца да метанімізацыі пісьменнікі, каб ажывіць уяўленне аб рэчы ці з'яве. «Тропы нарадзіла неабходнасць вобразнага выказвання», — так характарызаваў іх значэнне В. Бялінскі.

Турбуючыся пра шматзначнасць слова, пісьменнік павінен мець на ўвазе перш за ўсё аб'ектыўны момант — агульнасць значэння слова для ўсіх, хто валодае пэўнай мовай, а не тую суб'ектыўную псіхалагічную афарбоўку, якую ён можа даць асобе ці з'яве, грунтуючыся толькі на ўласным жыццёвым вопыце. Вось чаму *пісьменнік* не *вольны* надаваць слову новае значэнне, не беручы пад увагу сацыяльны фактар, каб ужытае ім значэнне было зразумела даволі шырокаму колу чытачоў. Замыканне ў суб'ектыўнае, як гэта было сярод сімвалістаў, футурыстаў і цяпер ёсць на Захадзе ў прадстаўнікоў крайніх плыняў буржуазнага мастацтва, прыводзіць да штукарства, а гэта значыць да апынення за дзвярыма літаратуры.

Пісаў жа ў 30-х гадах таленавіты беларускі паэт Ул. Хадыка, гонячыся за знешнім эфектам:

Рваў край на шкуматы
Ліхіх віхур ярчук
І сэрца біцца
Кідаў на шындзёлы...

Наўрад ці зразумеў бы ён гэта і сам сёння. Вобразнасць дзеля вобразнасці — справа бясплённая і да сапраўднай творчасці не мае ніякага дачынення. Пісьменнік звяртаецца да пераноснага сэнсу толькі для таго, каб вытлумачыць з'яву ці прадмет вобразна, г. зн. узрушыць чытача, выклікаць яшчэ больш актыўнае дзеянне яго мозгу і сэрца.

У тым жа апавяданні «Нёманаў дар» Я. Колас, каб стварыць абагулены вобраз жыццедайнай ракі, якой быў для тутэйшых сялян Нёман, звяртаецца да метафары. У метафары, як вядома, падабенства паміж з'явамі або рэчамі надзвычай адчувальнае. Так, Нёман прыпадабняецца да роднага бацькі, які «і карміў, і паіў, і на сваіх плячах кожнага вынасіў, і... вазіў ды яшчэ і на дарогу даваў грошы».

Тут мы маем справу з метафарай, у якой асаблівасць з'яў прыроды, рэчаў і нават разумовых паняццяў прыпадабняецца ўласцівасцям жывой істоты, з так званым увасабленнем, а больш дакладна — з персаніфікацыяй, бо жывая істота выступае ў выглядзе чалавека, роднага бацькі. Ужыўшы персаніфікацыю, Колас зусім свабодна вядзе далей гаворку аб Нёмане, як аб чалавеку, які «задумаў новую штуку».

Некаторыя пісьменнікі пускаюцца ў даволі падрабязнае апісанне знешняга выгляду асобы, не мінаючы ніводнай зморшчынкі на твары, ніводнага рубца на адзенні, але не клапоцяцца пра асноўнае — раскрыццё яе душы. Іншыя ж схопліваюць у знешнім абліччы некалькі самых выразных рысачак, і нам становіцца ясна, чым жыве гэты чалавек, які настрой яго. Пра такіх пісьменнікаў можна, не памыліўшыся, сказаць, што яны сапраўдныя паэты і могуць зрабіць песняй звычайнае апавяданне.

Ці ж не песняй у прозе выглядае апавяданне Янкі Брыля «Галя» аб глыбокіх перажываннях жанчыны, выкліканых смуткам па вельмі рана загубленай маладосці! Каб перадаць складаную гаму пачуццяў гераіні, шчырасць яе смутку па каханым чалавеку, глыбокую ўсхваляванасць, пісьменнік умее знайсці такое слова, у якім, як у крышталі, дакладна і ёміста матэрыялізуецца ўся паўната і яскравасць вобразнай думкі.

Слова ў Я. Брыля заўсёды звязана з канкрэтным зместам і накіравана на тое, каб дакладна вылучыць пэўную рысу з'явы, якую ён адлюстроўвае. Так, для характарыстыкі хутара пісьменнік шукае такія словы, якія падкрэслівалі б самотнае існаванне Галі, адарванай ад сапраўднага жыцця. У самым пачатку апавядання ён малюе хату, што «глядзела на свет, як сам гаспадар, заўсёды зажмураны Данька, стары Хамёнак, бязлобая галава якога нібы ўрасла ў зімовую шапку». Метафара «глядзела (хата) на свет» у спалучэнні з параўнаннем «як сам гаспадар», эпітэтам «заўсёды зажмураны», літотай «бязлобая галава» і параўнаннем «нібы ўрасла ў зімовую шапку» ствараюць адразу яркія вобразы старой хаты, што дажывала свой век, і яе гаспадара, закаснелага ўласніка, які ўжо адышоў у нябыт, «ляжыць на ўзгорку пад хвойкамі і муравой».

Ужытыя Я. Брылём вобразныя сродкі — не самамэта, не пустое імкненне да ўпрыгожанай фразы, а клопат пра адно: «... прымусіць чытача ўспрыймаць свае словы не як паняцці, а як нешта такое, што непасрэдна дзейнічае на пачуццё... вярнуць слову яго першапачатковае эмацыянальнае значэнне» (В. Брусаў). З гэтага клопату і вырастае імкненне шукаць новых спалучэнняў слоў, новых метафар, параўнанняў, эпітэтаў. Пошукі гэтыя ў Я. Брыля заўсёды плённыя, бо ён валодае мастакоўскім бачаннем свету, уменнем адбору і аналізу. Пісьменнік не проста занатоўвае назіранае ў жыцці, а, скарыстоўваючы свой востры зрок, шукае падабенства, аналогій, раскрывае ўнутраную сувязь паміж з'явамі. Вось чаму яго метафары, эпітэты такія яскравыя, нечаканыя. Часам адзін танюсенькі штрышок — і карціна ажывае, становіцца бачнай, нібы раскрытая для агляду знутры.

Такі штрышок недаступны звычайнаму воку, але лёгка заўважаецца зрокам мастака, каб прыадчыніць заслону перад унутраным светам чалавека, перадаць яго настрой і тую навакольную атмасферу, каб афарбаваць карціну ўнутраным сэнсам.

Азначэнне «заўсёды зажмураны» не проста характарызуе твар чалавека, а раскрывае нутро ўласніка, які, як той крот, варушыць зямлю, не зважаючы на ўсё, што робіцца вакол. Пісьменнік, такім чынам, дае магчымасць зазірнуць у душу хутараніна, адчуць, чым ён жыве і як глядзіць на свет, адным словам, жыва ўявіць характар асобы. Так нараджаецца эпітэт — тое адзінае слова (ці выраз), якое дае сціслае і яскравае ўяўленне пра сутнасць рэчы, асобы ці з'явы і пра ацэнку іх аўтарам. Так прыкмечаная ў жыцці дэталь напаўняецца зместам, памагае зазірнуць у свет думак і пачуццяў людзей.

У вуснай народнай творчасці і ў беларускай мастацкай літаратуры на ранніх яе стадыях вельмі пашыраны былі так званыя сталыя эпітэты, якімі адзначаліся самыя агульныя ўласцівасці з'явы або рэчы («неба яснае», «белая бяроза», «ясна сонейка», «свецел месячык», «красна дзеўка»). У наш час сталыя эпітэты сустракаюцца ўсё радзей — у творах пачынаючых пісьменнікаў або тых нядбалых аўтараў, для каторых пошукі слова — лішні клопат. Сапраўдныя мастакі карыстаюцца, як правіла, індывідуалізаванымі эпітэтамі, каб абмаляваць з'яву ў яе непаўторнай своеасаблівасці.

Імкненне Я. Брыля да індывідуалізаваных эпітэтаў вельмі выразна відаць у апавяданні «Галя». Каб падкрэсліць абмежаванасць хутараніна Данькі, яго блізкасць да жывёльнай істоты, пісьменнік характарызуе Данькаву галаву словам «бязлобая».

Кожны раз, калі пісьменнік успамінае пра Хамёнка, ён знаходзіць нейкую новую рысу для характарыстыкі яго скнапнасці, хцівасці, ненасытнасці. «Хамёнак жыў для гумна». Гэты метафарычны выраз са словам «гумно», ужытым у якасці збіральнага вобраза багацця, стварае прадметнае ўяўленне пра мэту жыцця чалавека. Наступны сказ развівае думку і ўдакладняе яе. «Галава пад старым каўпаком і старасвецкая хатка па-

трэбны былі менш, чым гэтае гумно». Злое, горкае, поўнае сарказму насміханне, якое ўжыў у гэтым сказе аўтар, служыць эмацыянальнаму раскрыццю яго адносін да сляпога імкнення Хамёнка разбагацець.

Каб як мага паўней выкрыць уласніцкую натуру Хамёнка, аўтар ужывае далей афарыстычныя выразы, якімі дасягае завяршэння характарыстыкі вобраза: «Гумно павінна заўсёды быць поўнае. Дзеля гэтага трэба мець поле. Больш поля — большае гумно. Менш паспіш — болей заробіш. Не з'ясі, не зносіш — больш застанецца».

Псіхалогія ўласніка раскрыта, такім чынам, гранічна сцісла і разам з тым поўна, дакладна. І толькі пасля гэтага аўтар дае нам магчымасць уявіць больш выразна яго знешняе жывёльнае абліччa. Ён ужывае метафарычнае «прыгроб рукамі валасы» (ніколі не расчэсваўся) і гіпербалічныя эпітэты «чорнымі кіпцюрамі даўно нямытых рук».

Народжаны ў мозгу мастака, як адлюстровак назірання шэрагу прататыпаў, вобраз хцівага ўласніка, чалавека-звера паступова ўрастае ў словы, неабходныя для яго матэрыялізацыі. Знарок ужыта пісьменнікам і прозвішча Хамёнак, у якім увасоблена хамаватая натура ненавісніка да ўсяго жывога. Бясспрэчна, што яно можа стаць назоўным словам для характарыстыкі аслепленых прагай да нажывы, звераватых, хамаватых людзей.

«Якое карэнне, такое і насенне»,— кажуць у народзе. Хамёнкаў сын пазбіраў усе бацькавы кропелькі. «Мікола здаваўся іншым за бацьку толькі раней, да вяселля». Так, адным сказам аўтар выстаўляе яго на паказ. Каб не паўтарацца ў характарыстыцы ўласніцкага нутра, пісьменнік прыводзіць толькі адзін эпізод: партызаны прыходзяць да Міколы па каня, якога той схаваў на гумне.

«Два дні выскубаў ён у тарпе саломы схованку, тры месяцы пакутавала ў цемры раскормленая жарабіца. А тут адзін з гэтых хлопцаў пастукаў, відаць, у вядро і, нібы поп, прамовіў:

— Дзе ты там, грэшная душа? Выходзь на божае святло!»

Для выкрыцця злога намеру — схаваць каня ад людскога вока, ад службы агульнай справе і ўкладае аўтар у вусны партызана саркастычнае, з'едлівае «грэшная душа». Гэты іранічны эпітэт хоць і аднесен да жарабіцы, але ён як нельга лепш выкрывае нутро самога гаспадара, які ўзяў на сябе найбольшы грэх — прытаіўся сам і схаваў каня, каб не дапамагчы людзям у барацьбе з ворагам. А хіба не звярыную натуру Міколы характарызуе сказаны ім праклён па адрасу партызан: «Такая: ліха ім, кабыліца!..»

І да ўсяго гэтага — вонкавая апушчанасць яшчэ маладога чалавека («кудлатая, рыжая барада»), пакуты ад сквапнасці, каб хаця не патраціць лішняй капейкі на сябе («ён доўга скроб тупою брытвай гэтую бараду, — крахтаў, стагнаў перад аблезлым трохкутнікам люстэрка, а ўсё ж такі скроб»). Варта заўважыць, як да месца ўжыты тут метанімічныя эпітэты «тупая брытва» і «аблезлы трохкутнік люстэрка»!

Так таямніцу за таямніцай адкрывае пісьменнік у душы Міколы, рысу за рысай выяўляе на яго знешнім абліччы. Прыведзены прыклад дае нам адчуць, як у выніку ўсебаковага вывучэння своеасаблівасці жыццёвых з'яў нараджаецца трапны, удалы, строга індывідуалізаваны эпітэт, як выяўляе ён свае не толькі апісальныя, але і эмацыянальна-вобразныя магчымасці.

Праз усё апавяданне «Галя» праходзіць яркая мастацкая дэталь — трактар, на якім працуе Сяргей Юрачка, першае сапраўднае Галіна каханне. Вясёлы гул трактара — гэта ўвасабленне новага жыцця, якое прыйшло на заходнебеларускія землі, а для Галі — найвялікшай радасці, што ўзрушвае яе спакутаваную душу, бо там «...сядзіць за рулём той адзіны ва ўсім гэтым свеце, каму ад болю сэрца, ад цяжкай журбы хочацца крыкнуць: «Ся-ро-жа-а» «Ся-рожка-а!!»

Ужыты Я. Брылём прыём рэфрэну— не ад беднасці моўных сродкаў, а ад багацця пачуццяў, якія да болю перапоўнілі маладую яшчэ жанчыну, устрывожылі аўтара. Кожны раз, калі пісьменнік паўтарае адзін і той жа сказ «А трактар гудзе і гудзе...», набягае да Галі новая хваля ўспамінаў і праз іх аўтар паўней абмалёўвае яе вобраз, глыбей зазірае ў яе чыстую душу. Тут мала сказаць проста аб душэўнай трывозе, тут трэба нешта большае, выразнейшае. І яно прыходзіць — аўтар адкрывае ў дзеяслове новыя дынамічныя яго адценні: «А ты крычы, ты ўспамінай, раздзірай сваю душу, дурніца, хоць да крыві...» Але ж крычаць нельга, бо ноч, спіць маленькая дачка. І пісьменнік перадае другі бок характару Галі, яе цярплівасць, вытрыманасць.

«Сядзь і сядзі каля акна. Хочаш— крычы, а хочаш — маўчы, пазірай. Ёсць і яшчэ адно, што табе засталося — заплач.

І Галя выбрала апошняе. Не выбрала — яно прыйшло само. Прыпаўшы тварам да гарачых рук на падаконніку, яна заплакала — горка, наўзрыд. Плакала доўга, як дзіця, калі яго пакрыўдзяць і пакінуць у такой вось чужой і цёмнай хаце. А потым, як дзіця, стамілася ад слёз. Вярнулася стома на вочы, мякка, уладна асела на душу».

Колькі ледзь улоўных нюансаў душэўнага стану перададзена звычайнымі дзеясловамі, стылістычнымі паралелямі: «...выбрала апошняе. Не выбрала — яно прыйшло само» або «стамілася ад слёз. Вярнулася стома на вочы...» Трэба ж вельмі тонка адчуваць слова, каб выказаць такія процілеглыя па напружанасці адценні чалавечага стану: то неабходнасць крычаць так, каб да болю, да крыві раздзіраць сваю душу, то — суніманне гэтага болю плачам. Хвіліннае заспакаенне гэта перададзена дзеясловамі «вярнулася»—«асела», прычым другі дзеяслоў удакладняе першы, асабліва калі браць пад увагу прыслоўі «мякка, уладна», якія выконваюць функцыю акалічнасці пры дзеясловах. У выніку змена настрою чалавека ўспрымаецца чытачом канкрэтна, відочна.

Дзея апавядання адбываецца ўночы — ад заходу сонца да яго ўсходу. Незнарок выбран іменна гэты час, бо ён нібы падкрэслівае трывожны стан душы гераіні. Не такая ўжо доўгая жнівеньская ноч, але як шмат можна перадумаць, перажыць. Марудную ходу часу пісьменнік перадае, скарыстоўваючы вобраз месяца.

Спачатку «поўны, усім задаволены месяц», потым «ціхі, поўны месяц» паўтараецца двойчы, каб адтэрмінаваць час, так патрэбны для выказвання таго, што набалела ў Галі на душы, яшчэ раз «поўны месяц», але ён ужо «высока стаіць над палямі» і, нарэшце, «вялікі, поўны месяц вось-вось пабялее...» Аўтар нібы падганяе ход думак сваёй гераіні, паспяшае выліць усе трывогі і сумненні.

Настала раніца. Усё былое жыццё Галі, як той сон, засталося недзе ў мінулым. «Хутка знікне імгла...» — гаворыць аўтар пра надыход сонечнага дня, і мы адчуваем, як мяняецца настрой у гераіні. Мяняецца ад таго, што яна ўбачыла блізка сваю даўнюю мару. «Сярожа ідзе без шапкі, у сінім расхрыстаным на грудзях камбінезоне — такі самы, якім яна бачыла яго праз акно». Вобраз задаволенага працай чалавека, бадзёрага, жыццерадаснага, робіць перамену ўнутранага стану жанчыны яшчэ больш адчувальнай. І яшчэ адна ступень гэтай пасля трывожнай ночы радасці — малюнак калгаснага прастору: «А пшаніца, якая пшаніца навокал! Густая, чыстая, высокая. Так і трэба». Галя адчувае прыход гэтай усеагульнай радасці: «Мазольная спрытная рука жнеі пайшла па каласах, і пяшчотныя дотыкі іх разбудзілі ў душы пачуцці светлай, харошай палёгкі...»

Праца на карысць калектыву паказана ў Я. Брыля як звышмагутны сродак, які перайначвае чалавека, робіць яго прыгожым знешне і багатым унутрана. Аўтар не сутыкае нас непасрэдна з трактарыстам Сярожам, але праз перажыванні Галі мы ўспрымаем яго вобраз так, нібы ён тут — перад намі «з пшанічным чубам над блакітнымі вясёлымі вачыма», а не дзесьці за кадрам апавядання.

Тое самае можна сказаць і пра Галінага сына Антося. Двойчы толькі ўспамінае пісьменнік пра яго, а мы ж яго бачым увачавідкі. Першы раз аўтар паведамляе, што Антось «пайшоў у поле да малатарні». Другі раз — гаворыць аб ім крыху шырэй: «Каля студні мыецца Галін хлопец Антось. Нацягаў у карыта сцюдзёнай вады, зняў кашулю, і на ўвесь двор чуваць, як ён фыркае ды пакрэхтвае ад задавальнення». Адчуваеш, што так можа мыцца чалавек толькі пасля вялікай, радаснай працы, якая прыносіць адно — асалоду і заслужаны адпачынак. Але мусіць жа не варта было надзвычай тонкі і выразны падтэкст усяго эпізода «каля студні» касаваць такімі «лабавымі» сказамі: «Харошы хлопец, жывы, працавіты. Добра, што цягне яго да людзей, да вучобы, да працы». Гэта само сабой зразумела з той сціслай, але поўнай характарыстыкі Антося, якую даў яму аўтар ранейшымі, з глыбокім падтэкстам фразамі.

Апавяданне «Галя» вельмі выразна раскрывае творчую манеру Я. Брыля, характар яго пошукаў вобраза. Знешнія рухі чалавека ён стараецца перадаць ускосна, праз унутраны стан яго, прымушаючы тым самым чытача сваёй фантазіяй, уяўленнем нібы прадаўжаць творчы працэс пошукаў вобраза, каб прыйсці нарэшце да нечага цэласнага, сінтэзаванага. Вобразам Галі пісьменнік нібы кажа нам: пачуццё, думка, душэўны рух таксама прыводзяць нас да сустрэчы з канкрэтным чалавекам.

Вобразы Я. Брыля, як правіла, узнікаюць у выніку складанай працы над высвятленнем усіх сэнсаў слова і скарыстаннем яго шматзначнасці. Яны выступаюць у выглядзе сплаву двух зрокавых уяўленняў: убачанага цяпер і асацыяванага з убачаным калісьці. Вось чаму ў яго творах мы заўсёды сустрэнем гнуткі эпітэт і выраз-

ную, натуральную метафару.

Прыгадаем хоць бы малюнак спакойнага жніўеньскага вечара, калі пачынаецца дзея апавядання. «На верхавіне старой ліпы за агародам пагасла чырвань на лісці, шпакі ўзняліся з голля і панеслі свой кірмаш у вёску. Пад паветкай за сенцамі, аддаўшы вячэрні ўдой, легла на свежым подсціле карова. У хаце за сталом сядзіць чарнявая Сонечка, на поўны рот запіваючы хлеб сырадоем. Тонкія загарэлыя ножкі яе, як і ва ўсіх пастушкоў, папораны іржышчам. Сонечка памыла іх каля студні халоднай вадой, і ногі садзеюць да самых каленак. Яна то пацірае іх адна аб адну, то проста стрыжэ імі пад высокай лавай».

Гэты малюнак узнік у пару паэтычнага натхнення, і вобразы нібы нарадзіліся адразу матэрыялізаваныя ў слове. Назіраны не аднойчы заход сонца, наведаны калісьці кірмаш аказаліся ў пісьменніка «пад рукой», каб паслужыць метафарай у стварэнні разгорнутай карціны спакойнага жніўеньскага вечара. І ўсё гэта робіцца з адным імкненнем да сціпласці апавядання. Сапраўды ж, можна было пусціцца ў прасторнае апісанне таго, як стомленая за дзень Сонечка вячэрала з вялікім апетытам. Але ж гэта не ўспрыймалася б так выразна, змястоўна, як ужытае аўтарам «на поўны рот запіваючы хлеб сырадоем». Можна было падрабязна апісаць, як махала яна наперамену правай і левай ножкамі ўзад-уперад, каб не так балелі яны «папораныя іржышчам». Але ж у пісьменніка знайшлася ёмістая метанімія «стрыжэ імі», якая ўвасобіла ўсю падрабязнасць зместу з'явы і дакладнасць руху. А такое прыходзіць у пару сапраўднага натхнення, калі напружана працуе мозг і гарыць усё ўнутры ад паўнаты пачуццяў.

Метанімія павінна не толькі выяўляць характэрнае, але і ствараць пэўны настрой. Іменна гэта мае на ўвазе Я. Брыль, калі першы раз прадстаўляе нам сваю гераіню — спраўную, працавітую Галю.

«Жніво. Галіны рукі, загарэлыя да лакцёў, гудуць ад стомы... У памяці бясконцым ланцужком ідуць адзін за адным вузлы перавяслаў, закручаныя спрытнымі пальцамі, адзін за адным кладуцца на пожні цяжкія снапы. У вушах яшчэ цокат жняяркі... абрыўкі песень, смех, шум збажыны і шоргат іржышча...»

Вызначаючы канкрэтны стан чалавека метафарай «рукі... гудуць», дзеянне — увасабленнем: «ланцужком ідуць... вузлы перавяслаў», замяняючы з'яву якім-небудзь адным яе атрыбутам: «у вушах... цокат жняяркі», пісьменнік стварае вялікай сілы ўражання настрой, з якім гераіня прыйшла пасля працы дамоў.

Брылёўскае майстэрства пошукаў вобраза, як бачна з гэтага прыкладу, заключаецца ў правільным адчуванні ім навакольнага свету, у тым, што ён умее бачыць схаванае за звычайным уяўленнем і нанава пазнаваць гэта звычайнае.

У Я. Брыля мова з'яўляецца не толькі сродкам выказвання думкі, але і сродкам яе нараджэння. Варта прасачыць, як пісьменнік перадае кожны крок Галі, кожны яе душэўны парыў, кожнае сказанае ёй слова, і мы прыйдзем да сфармуляванага А. М. Талстым вываду аб тым, што «чалавек, які перагварае свае думкі, свае ідэі, свае пачуцці ў мову, гэта значыць у слоўнае іх афармленне, ён таксама нібы прасякаецца гэтым спосабам выражэння, і момант выражэння сваёй думкі, пачуцця, ідэі — ёсць таксама момант творчасці». Так нараджаецца той шчыры лірызм, тое адзінства адлюстраванага ў творы ўнутранага перажывання героя і аўтарскай усхваляванасці, якім вызначаецца апавяданне «Галя». Пісьменнік паказвае стан сваёй гераіні ў момант найбольшага ўнутранага ўзрушэння, калі ўсе астатнія думкі і пачуцці падпарадкаваны асноўнаму перажыванню.

Праз усё апавяданне праходзіць стройны ланцуг паасобных вобразаў, кожны са сваім зместам, якія зліваюцца нарэшце ў цэльны, моцны, выразны характар жанчыны з светлай марай аб надыходзе сапраўднага шчасця. І таму, што мастак бачыць свайго героя іменна так, ён дасягае паўнаты яго выяўлення ў творы. А ці не аб гэтым пісаў В. Бялінскі: «Асобны чалавек у розныя моманты поўны рознага зместу. Хоць і ўся паўната духу даступная яму, але не раптам, а ў пасобку, у незлічоным мностве розных момантаў».

Метад пазнання гэтага незлічонага мноства розных момантаў жыцця чалавека, метад бачання жыцця ў кожнага пісьменніка свой. Ён вызначаецца светаадчуваннем, эстэтычным густам, жыццёвым вопытам, выбранай пазіцыяй мастака. Адсюль і свой круг рэчаў і з'яў, прыцягнутых для вобразнага адлюстравання. Адсюль і розныя сродкі матэрыялізацыі вобраза ў слове, розныя шляхі «ўрастання» вобраза ў слова. У сувязі з вобразам, у працэсе пошукаў яго, які грунтуецца на ідэйным змесце твора, і выяўляецца эстэтычная функцыя слова.

Ужыванне метафар, эпітэтаў і іншых сродкаў вобразнага адлюстравання ўбачанага павінна ўваходзіць у творчы працэс пісьменніка як нешта звычайнае, непрыкметнае. Сапраўды ж, не задумваемся мы над словам «палатно», калі ўжываем яго для характарыстыкі чыгункі. А між тым — гэта пераноснае значэнне, бо чыгуначная лінія, прыпадабняецца разасланай вельмі доўгай трубцы палатна. У слове «палатно» атрымаўся як бы згустак адзнак (прамая, гладкая, доўгая, аднолькавай шырыні), якія ствараюць новы вобраз чыгункі, бо выяўляюць характэрныя для яе прыкметы.

Параўнанні, метафары, эпітэты, метаніміі — своеасаблівыя элементы вобразнага мыслення. Але яны нічога не азначаюць у адрыве ад іншых элементаў пісьменніцкага стылю, бо ў іх тояцца часам толькі ледзь прыкметныя грані творчай індывідуальнасці.

У вышэйшай ступені дзейснымі могуць быць самыя звычайныя, будзённыя словы. І яны могуць стаць увасабленнем «харawства мовы». У хрэстаматыйным вершы «На рэчцы зімою» Я. Колас карыстаецца самымі простымі словамі, арганізуючы іх ў самыя простыя сказы:

Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку маломy:
Кліча яго рэчка,
Цягнуць санкі з дому.

Перад намі яркі вобраз сельскага хлопчыка, які рвецца на волю, каб даць прастор сваім пачуццям. І гэтая ўнутраная ўзрушанасць хлопца перадаецца простымі, але трапнымі словамі «не сядзіцца», «кліча», «цягнуць». Таму што гэтыя словы не адарваны ад самой сутнасці думкі, яны і ствараюць мастацкі вобраз. Перададзен адразу і стан хлопчыка («не сядзіцца ў хаце») і прычына, якая выклікала гэты стан — хочацца яму пакатацца ў санках па рэчцы. Вось і ўжыў Я. Колас такі просты, даступны дзецям перанос сэнсу слоў «кліча» і «цягнуць» на нежывыя паняцці «рэчка» і «санкі». Яны кожнае на сваім месцы і дарэшты выразныя, вобразныя, гучныя.

У кожнага паэта прыходзіць на памяць ужо вядомыя вобразы, памеры, рыфмы, і трэба мець або вялікую сілу майстэрства, каб надаць ім новы сэнс, новае гучанне, новую нагрузку, або мужнасць адкінуць іх, як ужо зношанае адзенне жыццёвага факта, і шукаць свежае. Калі не стае майстэрства, дык, як правіла, бракуе і мужнасці зрабіць замах на першы пасыл свае памяці. Так, замест паэзіі нас прымушаюць, напрыклад, чытаць зарыфмаванае «інфармацыйнае паведамленне» аб надыходзе чарговай вясны.

На прасторах любімай Айчыны
Апранулася ў квецень вясна.
І ў вянку з кучаравых галінак
Ў люстры рэчак глядзіцца яна.
Між палёў, каля вёсак над краем,
Як сумёты, бялеюць сады.
І на яблынях пышных у маі
Завязаліся з кветак плады.
(П. Прыходзька).

Хай на сумленні паэта застаецца непісьменны выраз «каля вёсак над краем». Не гэта выклікае незадаволенасць, а тое, што, пішучы свой верш у 1960 годзе, ён не знайшоў ніводнай свежай прыкметы вясны. Не знайшоў таму, што пісаў верш без натхнення, без таго стану творчасці, калі ўсё «тхне» жыццём, гарэннем, вялікім дыханнем.

Існуе і яшчэ адна немач, калі паэты ганяюцца за мудрагелістымі слоўцамі і закручанымі выразамі.

Азёры — глыбокія вочы зямлі —
Блакіт у нябёс узялі.
Лясы і дубровы —
зямлі гэтай бровы —
Дугой абагнулі палі.
Тут полымем сінім
шугаюць ільны
Ад Нёманскіх схілаў
да стромаў Дзвіны.
Тут плешчуць у жніўні
бурштынныя ліўні
Даспелай тугой збажыны.

Так паэт Іван Калеснік імкнецца стварыць вобраз роднага беларускага краю. Шмат прыгожых, звонкіх слоў («блакіт», «шугаюць», «плешчуць», «бурштынныя»), але ў ніводным з іх не знойдзеш жывой думкі, сапраўднага пачуцця, яснай мэтанакіраванасці. Сапраўды ж, цяжка ўявіць бровы зямлі, ліўні збажыны. Дарэчы, ліўні хлешчуць, а не плешчуць, ды і лівень можа быць толькі зерня, збожжа. «Збажына» ж — паняцце зборнае, адпаведнае рускаму «хлеба». Вось так за нястрымным патокам слоў знікае сэнсавая дакладнасць і мастацкая вобразнасць. Адно няўдалае параўнанне, адно недакладна ўжытае слова, а ў выніку — разбуран малюнак, зведзена на нішто агульнае ўражанне.

А гэта не дробязь, — гэта — парушэнне асновы мастацтва, калі фальшывая, траскучая метафарычнасць вядзе прамой сцежкай да хадульнасці і аддаляе пісьменніка ад рэалістычнай канкрэтнасці. На гэтай сцежцы можа апынуцца кожны, хто не клапоціцца «ўжываць словы ў іх сапраўдным значэнні, выказваючыся сціпла, гаварыць многае, быць сціслым у шматслоўі і пладавітым у сцісласці» (В. Бялінскі).

Прастата — найкарацейшая адлегласць ад пісьменніка да розуму і пачуццяў чытача, толькі калі гэта прастата з'явілася не ў выніку бяздумнага спрашчэнства, а як плён велізарнай творчай працы мастака.

# *Наша пошта*



## СЛАЎНА ПРАЖЫТАЕ ЖЫЦЦЁ

Гэта было на Палессі ў час Вялікай Айчыннай вайны. З далёкай і роднай Масквы са штаба партызанскага руху па радыё перадалі пра вылет самалёта, які павінен быў прызямліцца ў месцы размяшчэння партызанскага злучэння Каўпака і Сабурава. ЦК ВЛКСМ пасылаў аператыўную прапагандысцкую групу.

На партызанскім аэрадроме, які знаходзіўся недалёка ад вёскі Дубніцкае Лельчыцкага раёна, усё было падрыхтавана да сустрэчы гасцей. Партызаны расклалі невялікія агні — умоўныя сігналы для пасадкі самалёта. З хваляваннем угледаліся яны ў хмарнае красавіцкае неба. І вось раптам пачуўся ледзь улоўны гул. Радасна забіліся сэрцы тых, хто сустракаў пасланцоў Вялікай зямлі.

Цёмны сілуэт самалёта то паяўляўся, то знікаў у хмарах. Відаць, заўважыўшы агні, пілот прасігналіў агенькамі з самалёта, і позіркі ўсіх на зямлі яшчэ з большай увагай накіраваліся ў бяззорнае начное неба.

Зрабіўшы круг над лясной палянай, пілот узяў курс на пасадку. Вышыня была значная, і пілот пайшоў у другі заход, набліжаючыся ўсё больш да зямлі. І тут вось здарылася тое непапраўнае, нечаканае і жахлівае, што назаўсёды засталося ў памяці і сэрцах партызан.

Была нізкая воблачнасць і начная цемра. І пілот наляцеў пры пасадцы на вершаліну старога разгалістага дуба, які рос на краі аэрадрома. У адно імгненне ўзарваўся бензінавы бак. Полымя ахапіла ўвесь самалёт.



Злавесна і пагражальна раўлі маторы. Цяжка гружаны пасажырскі самалёт, як падстрэленая птушка, рухнуў уніз. Усе, хто быў на аэрадроме, кінуліся туды, дзе ён упаў. Але нічога нельга было ўжо зрабіць. Полымя дайшло да боепрыпасаў, яны ўзрываліся, разносячы страшэнны гул па лесе, пырскаючы полымем ва ўсе бакі. Падысці да самалёта не было ніякай магчымасці.

... Так загінулі маладыя патрыёты, пасланцы ленінскага камсамола — член ЦК ВЛКСМ Іван Арцем'евіч Задарожны, карэспандэнт «Камсамольскай праўды» пісьменнік Іван Мікалаевіч Меншыкаў, радыст Уладзімір Васільевіч Ашчэпкаў і тапограф Матрона Антонаўна Тапіха. Пасля вайны ўжо іх астанкі перанеслі ў Лельчыцы, дзе ў цэнтры гарадскога пасёлка стаіць цяпер беласнежны помнік-абеліск з пяцікутнай чырвонай зоркай наверсе, акружаны зелянінай маладых таполяў, клёнаў і акацый, што калышуцца ад лёгкага павеву ветру і як бы шапочуць словы любві і павагі да тых, хто аддаў сваё жыццё за шчасце людзей.

Жыхары Лельчыц і асабліва моладзь свята шануюць памяць аб адважных змагарах. Прыгожыя кветкі на клумбах, вянкі з жывых кветак упрыгожваюць абеліск. У музеі Лельчыцкай школы № 1 арганізаван спецыяльны куток памяці слаўных сыноў камсамола, што загінулі на баявым пасту пры выкананні адказнага задання Радзімы. Найбольш матэрыялаў сабрана аб жыцці і дзейнасці маладога таленавітага пісьменніка Івана Меншыкава, кнігі якога карыстаюцца заслужанай любоўю народа.

З таго часу як даведаўся я пра гісторыю гібелі пісьменніка, не пакідала мяне думка бліжэй пазнаёміцца з творчасцю Меншыкава. Але мары мае заставаліся марамі, бо ў бібліятэках Лельчыц не было ніводнай кнігі пісьменніка. Я звярнуўся ў Саюз пісьменнікаў СССР. Праз тыдзень атрымаў усхваляваны ліст сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў СССР К. Варанкова. У лісце коратка паведамлялася пра творчы шлях Івана Меншыкава, былі названы адрасы яго родных і зроблен пералік яго выдадзеных кніг.

Я напісаў бацьку паэта Мікалаю Пятровічу Меншыкаву ў Чалябінскую вобласць і ў выдавецтва «Маладая гвардыя», дзе неаднаразова выдаваліся кнігі пісьменніка. Ад бацькі я даведаўся, што толькі мой ліст прынёс вестку пра месца пахавання яго сына, да гэтага ўсе спробы даведацца пра гэта былі марныя.

Паступова ў мяне сабраўся матэрыял: кнігі, рукапісы, фатаграфіі, пісьмы бацькоў, успаміны пісьменнікаў Канстанціна Сіманава, Леаніда Жарыкава, Георгія Суфціна, Сяргея Барадзіна, Юрыя Нагібіна, Грыгорыя Яршова і іншых. Усё ясней і ясней прадставаў перада мной воблік слаўнага патрыёта нашай Радзімы.

З Дзяржаўнага архіву літаратуры і мастацтва ў Маскве атрымаў я чатыры фотаздымкі з асабістага архіву пісьменніка, дзе захоўваюцца яго рукапісы рамана «Ноч перад вайной», аповесці «Чалавек шукае шчасце», п'есы «Ліза Чайкіна», апавяданні і вершы, а таксама запісныя кніжкі і лісты пісьменніка да родных, асабістыя дакументы, фатаграфіі.

Карэспандэнт «Камсамольскай праўды», пісьменнік Іван Меншыкаў нарадзіўся ў 1914 годзе ў сяле Айліна Чалябінскай вобласці. Закончыў сямігодку, маскоўскі авіяцыйны тэхнікум і літаратурны інстытут імя А. М. Горкага. Два гады жыў у Нянецкай нацыянальнай акрузе, працаваў там журналістам, ездзіў па стойбішчах аленяводаў, агітуючы іх станавіцца на калектыўны шлях жыцця і весці барацьбу з кулакамі.

Пісьменнік Канстанцін Сіманаў успамінае пра гэты грамадзянскі подзвіг маладога журналіста-пісьменніка: «Я ведаў Меншыкава больш дзесяці год. Мы разам пачыналі пісаць і разам з першымі сваімі творамі прыходзілі ў літаратурную кансультацыю Дзяржлітвыдата. Ужо тады, будучы зусім маладым хлопцам, Меншыкаў вылучаўся сваёй сур'ёзнасцю, добрай звычкай многа думаць і старанна падбіраць словы, якія ён вымаўляў, цвёрдым, нязменным пра-



вілам пісаць толькі пра тое, што ён добра і глыбока ведаў.

... Аднойчы ён прыйшоў да мяне і сказаў, што ён абавязкова хоча пісаць пра Арктыку.

— Ну што ж, трэба паехаць у камандзіроўку,— сказаў я яму.

— Я вось і прыйшоў прасіцца.

— Напэўна, да восені? (Размова была вясною.)

— Не, — усміхнуўся ён. — На два гады.

— Едзеш на два гады?!.

— Так. Падпісаў умову. Буду там два гады працаваць. Усё ж новае: тут за тры месяцы не ўправішся. Шмат пра што даведацца трэба! Я баюся, што яшчэ і двух год не хопіць.

Словы яго ніколі не разыходзіліся са справай, і праз два дні ён паехаў.

Меншыкаў паехаў на Поўнач не наглядаць — паехаў жыць там і працаваць. Ён лічыў, што па-сапраўднаму ведаць людзей і іх жыццё можна толькі тады, калі сам працуеш побач з імі, а не глядзіш на іх працу збоку. Вынік гэтай паездкі вядомы. У трох кнігах, напісаных Меншыкавым пра Поўнач, ёсць шэраг не толькі выдатных апавяданняў, у якіх адчуваецца не адно веданне справы, але і — што галоўнае—вялікае, сапраўднае разуменне псіхалогіі людзей, што жывуць у цяжкіх умовах Крайняй Поўначы».

У выніку паездкі ў тундру з'явілася кніга «Паўночнае сонца», выдадзеная ў 1939 годзе. Пасля яе — зборнікі аповесцей і апавяданняў «Чалавек не жадае паміраць», «Сябры з далёкага стойбішча», «Чалавек шукае шчасце».

Калі чытаеш кнігі Івана Меншыкава, першае, што заўважаеш, гэта шчырую любоў пісьменніка да Радзімы, усхваляванасць харством прыроды суровай Поўначы. Яго пейзажы Запаляр'я настолькі выразныя і непасрэдныя, пазбаўленыя ўсялякай штучнай прыгажосці і экзотыкі, што чытаеш і ўвачавідкі бачыш тундру і тых, хто пракладвае там шляхі новага жыцця, народжанага рэвалюцыяй, загараешся жаданнем пабываць там.

Некалі Джэк Лондан, як і многія буржуазныя пісьменнікі, быў перакананы, што адсталыя народы Поўначы не маюць будучыні, што іх чакае выміранне пры судакрананні з «цывілізаванымі» бізнесменамі-авантурыстамі. Меншыкаў убачыў цудоўную рэчаіснасць і яшчэ больш радаснае заўтра жыхароў тундры.

З самага пачатку Вялікай Айчыннай вайны Іван Меншыкаў працаваў спецыяльным карэспандэнтам «Камсамольскай праўды» і часта ездзіў



**Іван Меншыкаў.**

па краіне. Ім напісана некалькі вялікіх нарысаў пра самаадданую працу нашага народа на справу перамогі над ворагам. «Хоць паездкі яго былі на Усход, — успамінае пісьменнік Сяргей Барадзін,—часам, забегшы да мяне развітацца перад дальняй дарогай, Меншыкаў гаварыў пра сваё неадольнае жаданне ехаць на фронт, на перадавую лінію барацьбы. Франтавы матэрыял цягнуў да сябе Меншыкава, як пісьменніка, а барацьба ў радах арміі — як грамадзяніна. Ён напісаў некалькі франтавых апавяданняў і сабраў іх у невялікую кніжачку «Смертная пераправа». Нават у гэтых апавяданнях, напісаных у спешцы газетнай работы ў кароткія перапынкі паміж доўгімі паездкамі, Меншыкаў вельмі старанна працуе над формай, над мовай, удумліва адносіцца да характараў сваіх герояў, імкнецца глыбей і больш паказаць сапраўднае франтавое жыццё.

21 красавіка 1943 года ён запісвае ў сваім дзённіку: «Настрой цудоўны. Глядзеў у МХАТ «На дне». Сёння-заўтра еду ў нямецкі тыл. Поўнасцю абмундзіраваны і ўзброены. Будзем выпускаць на акупіраванай немцамі Украіне «Камсамольскую праўду». 9-га красавіка быў прыняты ў кандыдаты партыі, і гэта неяк змяніла ва мне нешта, быццам прайшло маё дзяцінства, юнацтва і настала мужнасць. Як многа трэба і можна зрабіць! Здзіўляе, што, ідучы ў невядомасць, я неяк ні на хвіліну не адчуваю сваёй асуджанасці, боязні за сябе. А магчыма ж усё...»

Гэта — апошні запіс у дзённіку пісьменніка.

Не адразу папаў Меншыкаў на месца прызначэння. Некалькі разоў прыйшлося вылятаць яму ў тыл. Першы самалёт, на якім вылецела група пасланцоў камсамола, не знайшоў умоўных сігналаў патаемнага аэрадрома партызан і вярнуўся ў Маскву.

«Па дарозе з аэрадрома,— успамінае Сяргей Барадзін,— Меншыкаў зайшоў да мяне. Ён выпіў халодны чай, не даўшы мне яго падагрэць, і, усміхаючыся, сказаў:

— Ну, ведаеш, скончыліся мірныя паездкі. Цяпер — на захад, да поўнага вызвалення!..

Здаецца, на наступны дзень самалёт, звязаўшыся з партызанскім штабам па радыё, вылецеў зноў, але ці то надвор'е было нялётнае, ці то нейкія іншыя прычыны, і Іван Меншыкаў зноў вярнуўся. На гэты раз мы не бачыліся. Праз некалькі дзён Меншыкаў зноў паляцеў у трэці раз і 28 красавіка 1943 года загінуў пры выкананні спецыяльнага задання ЦК ВЛКСМ і «Камсамольскай праўды». Не суджана было яму даспяваць сваю песню пра тундру і грозную песню пра вайну». Савецкая літаратура страціла таленавітага мастака, хоць уся яго літаратурная дзейнасць налічвае менш дзесяці год. Імя Івана Меншыкава навечна занесена залатымі літарамі на дошку загінуўшых у час Вялікай Айчыннай вайны пісьменнікаў, якая ўстаноўлена ў Маскве ў Саюзе пісьменнікаў СССР.

Усе, хто знаў Івана Мікалаевіча Меншыкава, памятаюць, як усхвалявана адносіўся ён да жыцця, як хацеў зрабіць гэта жыццё для ўсіх людзей лепшым, прыгажэйшым. Працаздольнасць яго была здзіўляючай. Сябры Івана Меншыкава ўспамінаюць пра «яго сапраўды падзвіжніцкія адносіны да працы пісьменніка», успамінаюць аб ім, як аб чалавеку «таленавітым і працавітым».

У Мінску жыве пісьменнік Аляксандр Міронаў, які добра ведаў І. Меншыкава па рабоце ў Арктыцы. Яшчэ да вайны І. Меншыкаў падараваў А. Міронаву кнігу «Паўночнае сонца» з аўтографам. Гэтую кнігу А. Міронаў перадаў цяпер у Лельчыцкі школьны музей.

У Лельчыцкай сярэдняй школе № 1 школьнікі наладжваюць дыспуты аб прачытаных кнігах Івана Меншыкава, чыткі яго твораў у малодшых класах.

Цікавую і патрэбную справу распачалі лельчыцкія школьнікі, ушаноўваючы памяць слаўных сыноў ленінскага камсамола, што загінулі дзеля свабоды нашай Радзімы, дзеля шчаслівага жыцця нашага народа.

**Дзмітры МАСЛАЎ,**
**студэнт Мінскага мастацкага вучылішча.**

*Спорт*

# ЗАЛАТЫ МЕДАЛЬ ГІМНАСТА

Гэта была не першая іх размова. Збіраючыся ў дарогу, Мікалай зноў падзяліўся з Раманам Сямёнавічам сваімі сумненнямі. Заўсёды спакойны, трэнер на гэты раз не здолеў схаваць сваёй незадаволенасці:

— Ды што з табою, Мікола?.. Дрэнна сябе адчуваеш ці баішся?

— Адчуваю сябе выдатна, Раман Сямёнавіч... Але ж самі падумайце: на што я магу разлічваць? Шахлін, Цітоў, Азаран — гэта ж каралі гімнастыкі... Чэмпіёны свету, алімпійскія чэмпіёны! А хто я?

— Чэмпіён Беларусі! Таксама многае значыць.

— Яно то канешне... Але ж пакуль яшчэ ні адзін беларус не падымаўся на п'едэстал гонару на чэмпіянатах краіны.

— Усё гэта праўда, Коля, але не забудзься, што прыйшоў час і беларусам зрабіць заяўку. Шахліна баішся, Цітова? А ты яшчэ не зразумеў, што ўжо дарос да іх? Не бойся нічога, працуй смела, упэўнена і даб'ешся добрага месца. Ты павінен быць у алімпійскай камандзе!..

Сапраўды, у гісторыі развіцця спартыўнай гімнастыкі ў Беларусі мала яркіх старонак. Гэта вельмі складаны і цяжкі від спорту, на дасягненне майстэрства ў ім трэба патраціць многа год упартай працы. Але ж у Савецкім Саюзе гімнастыка знаходзіцца на вельмі вялікай вышыні. У чэмпіянатах свету, на Алімпійскіх гульнях сусветную славу заваявалі гімнасты Масквы, Ленінграда, Кіева, Харкава, Ерэвана... Падрастаюць новыя пакаленні гімнастаў, але зноў гэта—масквічы, ленінградцы, украінцы, армяне...

Калі ў Беларусі паявіўся армейскі гімнаст Віталі Яненка, ва ўсіх нарадзілася надзея, што нарэшце і наша рэспубліка скажа сваё слова ў гімнастыцы. І калі ён заняў у чэмпіянаце краіны сёмае месца, у Мінску ўсе ўзрадаваліся. Яго таварыш па спартыўнаму клубу Раман Ваткін атрымаў шмат карысці ад сяброўства з выдатным майстрам. Поспех Ваткіна здзівіў спартыўную грамадскасць — ён заваяваў дзесятае месца на першынстве СССР. Гэта — другі выпадак, калі ў першую дзесятку мацнейшых краіны трапіў беларускі гімнаст.

Цяпер трэнер па гімнастыцы Раман Сямёнавіч Ваткін добра разумеў пакуты свайго вучня Мікалая Мілігулы. Восем гадоў трэніруе яго Раман Сямёнавіч. У дзіцячую школу спартыўнага клуба БВА Коля прыйшоў хлопчыкам і зусім кволым. Колькі працы паклаў трэнер, каб зрабіць яго дужым, загартаваным, вынослівым!

Першыя перамогі Колі прынеслі пачуццё вялікага задавальнення трэнеру. Коля едзе ў Свярдлоўск на Усесаюзную школьную спартакіяду і заваёўвае там першае месца сярод гімнастаў другога юнацкага разраду. Колькі яму было тады год? Пятнаццаць. Праз год у Ленінградзе ён выходзіць пераможцам на такой жа спартакіядзе ў спаборніцтвах на брусях па першаму юнацкаму разраду. У 1955 годзе Мікалай Мілігула заканчвае дзесяцігодку, паступае ў інстытут фізкультуры, трапляе ў зборную каманду рэспублікі.

Праз год на матчы гімнастаў Беларусі і Прыбалтыкі Мікалай Мілігула ўпершыню выканаў норму майстра спорту. Малады, нявопытны, ён на Спартакіядзе народаў СССР не мог яшчэ дабіцца поспеху. Але ўрок прынёс карысць.

На II Спартакіядзе народаў СССР Мілігула выступаў з вялікім уздымам і заняў 13-е месца. Як кажуць, «нешчаслівая» лічба, але месца гэтае вельмі ганаровае.

На розыгрышы кубкаў краіны Мікалаю ўдалося ўзняцца на два месцы вышэй.

Неўзабаве беларускага гімнаста накіроўваюць у Венгрыю на міжнародны матч пяці краін. Тут ён заваёўвае другое месца, прайграўшы толькі савецкаму гімнасту Лісіцкаму.

1960 год — алімпійскі год. Хто са спартсменаў не імкнецца ў Рым! Але права абараняць гонар савецкай гімнастыкі атрымаюць лепшыя з лепшых. Каб адабраць 12 кандыдатаў у алімпійскую каманду, у Ленінградзе праводзіліся ўсесаюзныя спаборніцтвы і асабістае першынство краіны па асобных снарадах.

Спаборніцтвы ў Ленінградзе прынеслі шмат прыемных нечаканасцей знаўцам гімнастыкі. Моладзь адцясніла старых майстроў, сярод наступаючых быў і мінчанін Мікалай Мілігула.

Высокі, атлетычна складзены, ён спадабаўся гледачам адным сваім спартыўным выглядам. А пачаўшы працаваць, захапіў усіх складанымі эфектнымі практыкаваннямі ў адвольнай праграме. Смелая фантазія і дакладнае выкананне спалучаліся з лёгкасцю рухаў, з прыгажосцю. У вольных практыкаваннях пераважала акрабатыка. Ён — адзіны на чэмпіянаце павялічыў колькасць пераваротаў у заключнай частцы выступлення. Праца на перакладзіне складалася са складаных паваротаў з адпусканнем адной рукі, пералётаў праз перакладзіну... Пасля вялікіх абаротаў назад ён зрабіў сальта, прагнуўшыся з паваротам на 360 градусаў.

Суцэльным трыумфам з'явіліся выступленні Мілігулы на брусях. Яго галоўнымі сапернікамі былі чэмпіён свету на гэтым снарадзе Барыс Шахлін, чэмпіёны свету па прыжках Юры Цітоў і па кольцах Альберт Азаран. За абавязковыя практыкаванні на брусях Мікалай атрымаў ацэнку 9,6 бала. Таксама высока былі ацэнены яго адвольныя камбінацыі. Усяго, такім чынам, 19,2 бала. Гэты вынік аказаўся недасяжным для венцаносцаў гімнастыкі. Азаран і Цітоў набралі па 19,15 бала, а Шахлін—19,1.

Шэсць лепшых былі дапушчаны ў фінал майскага першынства. Мілігула і тут паказаў сваё высокае майстэрства. Спакойна ён узяўся за брусі. У выдатным тэмпе следавалі камбінацыі. Сальта над брусямі... Яшчэ сальта... павароты з адпусканнем абедзвюх рук... І вось завяршальны эфект: стойка на руках, сальта над брусямі з паваротам кругом і саскок.



**Мікалай Мілігула на турніку.**
Фота Д. Церахава.

Ацэнка: 9,75 бала! Перамога? Але чарга яшчэ за Азаранам. Не так лёгка было славутаму Азарану абагнаць мінчаніна. Ён атрымлівае толькі 9,6 бала.

І вось упершыню за ўсю гісторыю савецкай гімнастыкі чэмпіёнам СССР стаў беларускі спартсмен!

Поспехі Мілігулы на гэтым не скончыліся. У апорных прыжках ён заваяваў трэцяе прызавое месца. Двойчы ўзнімаўся Мікалай на п'едэстал гонару, каб атрымаць залаты і бронзавы медалі.

А ў шматбор'і ён заваяваў агульнае 9 месца і месца кандыдата ў алімпійскай камандзе.

Акрамя Мікалая Мілігулы, на першынстве краіны вызначылася і мінчанка Мая Лахцікава. Яна заняла адзінаццатае месца — самы лепшы вынік сярод беларускіх гімнастак за ўсе гады.

У непрыступнай да гэтага часу для беларускіх спартсменаў крэпасці Мілігула першы зрабіў пралом. А там, дзе прайшоў адзін, пройдуць і іншыя.

**І. ЦЫВЕС.**

## *Ці ведаеце вы...*

Дарагія чытачы! З гэтага нумара мы пачынаем весці раздзел «Ці ведаеце вы...» У гэтым раздзеле будуць друкавацца цікавыя звесткі па музыцы, тэатру, выяўленчаму мастацтву, архітэктуры, літаратуры, навуцы і тэхніцы, якія пашыраць вашы веды і агульны кругагляд. Рэдакцыя часопіса ахвотна надрукуе і вашы пісьмы, у якіх вы раскажаце пра цікавыя знойдзеныя вамі факты з гісторыі айчыннай і сусветнай культуры.

— Ці ведаеце вы, што...

...першая опера, у якой увасоблены неўміручы вобраз У. І. Леніна, гэта опера кампазітара Ціхана Хрэннікава «У буру». Напісана яна ў 1939 годзе па раману М. Вірты «Адзіноцтва». У оперы ёсць карціна, у якой паказваецца, як Уладзімір Ільіч прымае ў Крамлі сялян-хадакоў з Тамбоўшчыны.

...Заслаўе мае дачыненне да оперы рускага кампазітара А. Сярова «Рагнеда». Адным з герояў гэтай оперы з'яўляецца сын кіеўскага князя Уладзіміра — Краснае сонейка і яго жонкі Рагнеды — трынаццацігадовы Ізяслаў. Князь за здраду саслаў сваю жонку разам з сынам на ўскраіну Кіеўскага княства — у цяперашняе Заслаўе. У гэтым кутку Беларусі быў пабудаваны замак для Ізяслава. Ад зменага народным вымаўленнем імя малога княжыча і атрымала назву мястэчка Заслаўе, якое існуе амаль тысячу год.

...першы з вядомых партрэтаў Янкі Купалы быў напісаны з натуры мастаком Д. Полазавым у 1921 годзе. Спроба ўвасобіць вобраз паэта ў выяўленчым мастацтве была зроблена яшчэ ў 1912 годзе адным са старэйшых беларускіх мастакоў Н. Міхалапам, які сябраваў з Купалам. Першай скульптурай народнага паэта з'явіўся бюст А. Бразэра (1925 год).

...першым творам Янкі Купалы, пакладзеным на музыку, з'яўляецца верш «А хто там ідзе?». Энергічную, маршавую мелодыю на словы гэтага верша напісаў польскі кампазітар Л. Рагоўскі. Максім Горкі, атрымаўшы ў 1920 годзе гэтую песню, пісаў украінскаму пісьменніку М. Кацюбінскаму: «... у кніжку маю ўкладзены лісток — песня і ноты, штосьці падобнае да «Беларускага гімна», мусіць. Мяне гэтая рэч усхвалявала...»

...на словы Я. Купалы напісана звыш двухсот музычных твораў — песень, рамансаў, кантат, араторый, сімфанічных паэм, опер, і п'ес іншых жанраў. Пісалі гэтыя творы не толькі беларускія, але і многія рускія, літоўскія, украінскія, польскія кампазітары.

...першай выканаўцай ролі Паўлінкі ў аднайменнай камедыі Я. Купалы была Паўліна Мядзёлка — цяпер настаўніца-пенсіянерка і кіраўнік мастацкай самадзейнасці Крывіцкай сярэдняй школы. У 1913 годзе П. Мядзёлка выконвала гэтую ролю не толькі ў Пецярбургу ў спектаклях для рабочых Пуцілаўскага завода, якія ставіліся Беларускім таварыствам студэнтаў, але і ў віленскім музычна-драматычным гуртку.

...выдатная руская драматычная актрыса М. Г. Савіна пачала сваю артыстычную дзейнасць у 1869 годзе ў Мінскім тэатры ў якасці спявачкі хору пад прозвішчам Страмлянава.

...Ленінскую прэмію ў гэтым годзе атрымаў кампазітар Георгі Свірыдаў за «Патэтычную араторыю» для двух салістаў, хору і сімфанічнага аркестра на словы У. Маякоўскага.

...вядомы выраз «Архітэктура — застылая музыка» належыць вялікаму нямецкаму паэту Гётэ і з'яўляецца вольным пераказам слоў старажытнага грэчаскага паэта Сіманіда Кеоскага, які выказаў думку, што «жывапіс — нямая музыка: а паэзія — жывапіс, які гаворыць».

...выраз «Вежа са слановай касці», якім мы карыстаемся, каб ахарактарызаваць творчасць мастака, адарванага ад жыцця, належыць французскаму паэту і крытыку Сент-Бёву. У сваім зборніку «Думкі жніўныя», які выйшаў у свет у 1837 годзе, Сент-Бёў такімі словамі ахарактарызаваў творчы метад Альфрэда дэ Віньі.

...вызначэннем «жоўтая прэса» мы карыстаемся, калі жадаем падкрэсліць імкненне да таннай сенсацыі, ілжывасць, прадажнасць буржуазнага друку. Існуе гэты выраз больш 60 год, і ўзнік ён у Амерыцы з прычыны таго, што былі высмеяны газеты «The World» і «New Jork Journal», якія пачалі спрэчку за права друкаваць малюнак мастака Аўткоулта. На гэтым малюнку паказваўся хлопчык у жоўтай кашулі, які выказваў гумарыстычныя і досыць фрывольныя думкі.

...буйнейшы кампазітар сучаснасці народны артыст СССР Дзмітры Шастаковіч з'яўляецца лаўрэатам Ленінскай прэміі і Міжнароднай прэміі міру, ганаровым членам італьянскай музычнай акадэміі «Санта Чэчылія», ганаровым доктарам Оксфардскага ўніверсітэта, камандорам французскага ордэна мастацтва і літаратуры, уладальнікам фінскай прэміі імя Яна Сібеліуса.

... вялікі рускі пісьменнік А. П. Чэхаў быў не толькі сябрам цудоўнага рускага пейзажыста І. Левітана, але і яго асабістым урачом, які першы паставіў дыягназ аб сардэчнай хваробе мастака.

...выдатны беларускі пісьменнік Максім Багдановіч з'явіўся перакладчыкам на родную мову твораў антычных паэтаў Гарацыя і Авідзія, рускіх — Пушкіна і Майкава, фінскага — Рунеберга, нямецкіх — Шылера, Гейне, Арвера, французскага — Верлена, бельгійскага — Верхарна, сербскага — Святагора.

... Максім Багдановіч быў і першым беларускім музыказнаўцам, аўтарам артыкулаў аб творчасці геніяльнага рускага кампазітара М. П. Мусаргскага, аб выданні музычнага слоўніка Ю. Энгеля, аб дзейнасці часопіса «Музыкальны современник» і іншых. У сваіх артыкулах паэт узнімаў пытанне аб узаемаадносінах зместу і нацыянальнай формы ў мастацтве, аб прызначэнні і мэтах мастацтва, аб рэалізме як творчым метадзе сапраўднага мастака, аб злітнасці паэтычнага слова і мелодыі ў музычным творы.

...аповесць «Тарас Бульба» М. Гогаля дзевяць разоў была ўвасоблена ў творах сусветнай музыкі. Упершыню оперу пад гэтай назвай напісаў у 1880 годзе рускі кампазітар В. Кюнер у Пецярбургу; у 1887 годзе ў Маскве аднайменную оперу стварыў В. Кашпераў; у 1890 годзе з'явілася опера цудоўнага ўкраінскага кампазітара М. Лысенкі; у 1895 годзе італьянскі кампазітар А. Беруці ў Турыне паказаў сваю оперу «Тарас Бульба», а ў 1919 годзе ў Парыжы — французскі кампазітар М. Самюэль-Русо. Балеты па аповесці М. Гогаля стварылі ў 1940 годзе — В. Салаўёў-Сядой і ў 1952 годзе — Р. Гліер. У сімфанічных творах тэма «Тараса Бульбы» атрымала вырашэнне ў незакончанай сімфоніі М. Глінкі (1856) і ў рапсодыі чэшскага кампазітара Л. Яначэка.

... першая ў гісторыі еўрапейскай культуры опера была пастаўлена ў 1594 годзе ў італьянскім горадзе Фларэнцыя і называлася «Дафна». Яе аўтар — спявак і кампазітар Якопа Пэры.

... Першая опера ў Беларусі была напісана толькі ў наш савецкі час, калі беларускі народ упершыню ў сваёй гісторыі атрымаў права будаваць прафесійную нацыянальную культуру. Опера гэта была напісана ў 1922 годзе М. М. Чуркіным у г. Мсціслаўлі і называлася «Вызваленая праца».

... групу рускіх кампазітараў, у якую ўваходзілі М. Балакіраў, М. Мусаргскі, А. Барадзін, М. Рымскі-Корсакаў і Ц. Кюі, назвалі «магучай кучкай» таму, што пасля выканання іх твораў на канцэрце ў гонар славянскіх гасцей, якія прыехалі ў Пецярбург з розных краін свету, выдатны крытык У. Стасаў напісаў у газеце «С.-Пецярбургскія ведамасці» 13 мая 1867 года наступную рэцэнзію: «... Закончым нашы нататкі жаданнем: каб нашы славянскія госці ніколі не забылі сённяшняга канцэрта; каб яны назаўсёды захавалі ўспамін аб тым, колькі паэзіі, пачуцця, таленту і ўмельства ёсць у маленькай, але ўжо магучай кучцы рускіх музыкантаў».

**І. НІСНЕВІЧ.**

# Шахматы

**пад рэдакцыяй майстра спорту**
**А. СУЭЦІНА**

## САМАЯ ПРЫГОЖАЯ ПАРТЫЯ

З таго часу, як існуюць шахматныя чэмпіянаты, стала традыцыяй адзначаць лепшыя творчыя дасягненні — узнагароджваць найбольш прыгожыя партыі турніраў. Што ж характэрна для прыгажэйшай партыі?

Перш за ўсё — партыя павінна быць знешне эфектнай, каб яе прыгажосць змог ацаніць нават малакваліфікаваны шахматыст. Гэтаму эфекту спрыяюць камбінацыі, звязаныя з матэрыяльнымі ахвярамі. Але ахвяра не павінна быць шаблоннай, наадварот, яна абавязкова павінна абапірацца на арыгінальную задуму, якая б узбагачала камбінацыйную творчасць. Камбінацыя, вядома, павінна быць абсалютна правільнай ва ўсіх варыянтах, а не разлічанай на памылку партнёра, як кажуць, на «пастку».

У той жа час камбінацыя павінна быць самым карацейшым (а яшчэ лепш — адзіным!) шляхам да перамогі. Прыгажосць толькі дзеля прыгажосці нічога не варта, таксама, як, напрыклад, затрымка варатаром у футболе лёгкага мяча, які можна было зусім проста злавіць, не робячы розных акрабатычных прыёмаў.

Вось гэтым умовам і адпавядае партыя Спаскі — Бранштэйн, якую выйграў Спаскі. Яна справядліва атрымала прыз за прыгажосць на XXVII першынстве СССР.

Як жа развівалася барацьба ў гэтай партыі? Каралеўскі гамбіт — вельмі рэдкая зброя барацьбы сучасных майстроў. Гэты гамбіт быў разыграны праціўнікамі. Потым цікавая пазіцыйная барацьба ў цэнтры. Здавалася, што чорныя маюць усё, каб зрабіць гульню роўнай, але Спаскі вельмі смела манеўруе, і чорны кароль трапляе ў небяспечную зону.

Крытычная пазіцыя ўзнікае пасля чатырнаццатага ходу чорных 14. ...e3—e2!?



Здавалася, белыя павінны адцягнуць ад атакі свайго ферзя і сыграць 15. Ф : e2, але было сыграна (як гром сярод яснага неба!). 15. Kd6!! (Тут белыя ставяць пад бой яшчэ адну фігуру, але гэта і ёсць выдатная камбінацыя; пагрозы белых на каралеўскім фланзе нельга пазбегнуць.) 15. ...Kf8, 16. K : f7!! (Белы конь робіць «цуды»; цяпер чорныя вымушаны прыняць абедзве ахвяры, але гэта толькі вядзе да развязкі.) 16. ...ef + ф, 17. Л : f1 Cf5 (калі 17. Kp:f7, дык 18. Kg5++Kpg8, 19. Cb3+ і г. д.) 18. Ф : f5 Фce7, 19. Фf4 Cf6, 20. K3e5 Фe7, 21. Cb3 C : e5, 22. K : e5+Kph7, 23, Фe4+, і чорныя здаліся.



Прапануем чытачам самастойна — рашыць задачу. (Белыя пачынаюць і даюць мат у 3 хады).



# Гумар і сатыра




**Знюхаліся.**
Мал. В. Швяцова.




**Але ці далёка заедзе?**



**Следапыт: І хто тут хадзіў?**
Мал. А. Кійранена.

**У ЧАС КАНІКУЛ.**




Мал. Б. Захарава.

## ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**





На кладачцы.

Фотаэцюд І. Бялева.